ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР

САКАВІК
КРАСАВІК
№ 3–4
1933

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ



ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

## УВАГА ЧЫТАЧУ

Перш чым прыступіць да чытаньня часопісу, просьба выправіць наступныя памылкі і скажэньні, дапушчаныя па віне друкарні імя Сталіна:

| Стар. | Які радок | Надрукавана | Трэба |
|---|---|---|---|
| 9 | 19 зьверху | Маркс Адлер | Макс Адлер |
| 11 | 5 зьнізу | асуджана на ўвядзеньне | асуджана на ўвяданьне |
| 14 | 12 зьверху | працягваць | працягвацца |
| 15 | 12 зьнізу | Маркс абгуртаваў | Маркс абгрунтаваў |
| 19 | 2 зьверху | загубленасьці | развубленасьці |
| 25 | 18 зьнізу | асновай на ёй | аснованай на ёй |
| 29 | 14 зьверху | у якасьці | ў якасьць |
| 29 | 16 „ | „устаноўчае разуменьне | „у станоўчае разуменьне |
| 30 | 1 зьнізу | кладаньні | укладаньні |
| 31 | 18 зьверху | капіталізма—рэзэрвовая армія працы; як адбываецца няўхільнае | капіталізьме накіроўваюцца супроць пралетарыяту, ператвараюць. . . |
| 38 | 16 зьнізу | Распрацоўка | Распрацоўкай |
| 41 | 3 зьнізу | рчфармізмам, пераомгу | рэфармізмам, перамогу |
| 43 | 5 зьверху | ліхаманка | ліхаманкава |
| 43 | 3 зьнізу | разьвейваецца | разьвінаецца |
| 46 | 16 зьверху | І. В. Сталін, | і. В. Сталіна |
| 59 | 9 „ | разьбіты | разьвіты |
| 99 | 23 „ | школы і „левым". | школы, так і „левым" |

Зак. № 957.

БЕЛАРУСІ 1933





Карл Маркс нарадзіўся 5-га мая новага стылю ў 1818 г. ў горадзе Трыры (Прырэйнская Прусія). Бацька яго быў адвакат, яўрэй, у 1824 годзе прыняўшы пратэстанцтва. Сям'я была заможная, культурная, але не рэволюцыйная. Скончыўшы гімназію ў Трыры, Маркс паступіў ва ўнівэрсытэт,—спачатку ў Боннэ, потым у Бэрліне, вывучаў юрыдычныя навукі, але больш за ўсё гісторыю і філёзофію. Скончыў курс у 1841 годзе, прадставіўшы ўнівэрсытэцкую дысэртацыю аб філёзофіі Эпікура. У сваіх поглядах Маркс быў яшчэ тады гегельянцам—ідэалістам. У Бэрліне ён належыў да гуртка „левых гегельянцаў" (Бруно, Бауэр і інш.), якія імкнуліся рабіць з філёзофіі Гегеля атэістычныя і рэвалюцыйныя вывады.

Пасьля сканчэньня унівэрсытэту Маркс перасяліўся ў Бонн, разьлічваючы стаць прафэсарам. Але рэакцыйная палітыка ўраду, які ў 1832 г. пазбавіў катэдры Людвіга Фэйербаха і ў 1836 г. зноў адмовіўся пусьціць яго ў унівэрсытэт, а ў 1841 годзе пазбавіў права чытаць лекцыі ў Бонне маладога прафэсара Бруно Бауэра, прымусіла Маркса адмовіцца ад кар'еры вучонага. Разьвіцьцё поглядаў левага гегельянцтва ў Германіі ішло ў гэты час вельмі быстра. Людвіг Фэейрбах, у асаблівасьці з 1836 году, пачынае крытыкаваць тэолёгію і паварачваць да матэрыялізму, які ўпаўне бярэ верх у яго ў 1841 г. („Існасьць хрысьціянства"); у 1843 г. вышлі яго-ж „Асноўныя палажэньні філёзофіі будучага". „Трэба было перажыць вызваленчае дзейства гэтых кніг",—пісаў Энгельс пасьля ўжо аб гэтых працах Фэйербаха. „Мы" (г. зн. левыя гегельянцы, Маркс у тым ліку) „сталі адразу фэйербахіянцамі". У той час рэйнскія радыкальныя буржуа, меўшыя пукты датыканьня з левымі гегельянцамі, заснавалі ў Кёльне апазыцыйную

газэту: „Рэйнскую Газэту" (пачала выходзіць з I-га студзеня 1842 г.). Маркс і Бруно Бауэр былі запрошаны ў якасьці галоўных супрацоўнікаў, а ў кастрычніку 1842 г. Маркс зрабіўся галоўным рэдактарам і перасяліўся з Бонна ў Кёльн. Рэвалюцыйна-дэмакратычная накіраванасьць газэты пры рэдактарстве Маркса станавілася ўсё больш акрэсьленай, а ўрад спачатку падначаліў газэту падвойнай і патройнай цэнзуры, а затым парашыў зусім закрыць яе. 1 студзеня 1843 г. Маркс вымушан быў да гэтага часу пакінуць рэдактарства, але яго ўход ўсё-ж ня выратаваў газэты, і яна была закрыта ў сакавіку 1843 г. З найбольш буйных артыкулаў Маркса ў „Рэйнскай Газэце" Энгельс адзначае... артыкул аб становішчы сялян-вінаробаў у даліне Мазэля. Газэтная работа паказала Марксу, што ён недастаткова знаём з палітычнай эканоміяй, і ён шчыра ўзяўся за яе вывучэньне.

У 1843 г. Маркс ажаніўся ў Крэйцнаху на Джэні фон-Вестфален, падрузе дзіцячых гадоў, з якой ён быў заручаны яшчэ будучы студэнтам. Жонка яго належала да прускай рэакцыйнай дваранскай сям'і. Яе старэйшы брат быў міністрам унутраных спраў у Прусіі ў адну з самых рэакцыйных эпох, 1850—1858 г.г. Увосень 1848 г. Маркс прыехаў у Парыж, каб выдаваць за мяжой, разам з Арнольдам Ругэ (1802—1880 г., левы гегельянец, 1825—30 ў турме. пасьля 1848 г. эмігрант; пасьля 1866—1879 бісмаркіянец), радыкальны часопіс. Вышла толькі першая кніжка гэтага часопісу „Нямецка-францускі штогоднік". Выданьне яго было спынена таму, што ў Германіі вельмі трудна было з распаўсюджаньнем і з з-за разнагалосьсяў з Ругэ. У сваіх артыкулах у гэтым часопісу Маркс выступае ўжо як рэвалюцыянэр, абвяшчаючы „бязьлітасную крытыку ўсяго існуючага" і ў прыватнасьці „крытыку аружжа"; апэлюе да мас і да, пралетарыяту.

У верасьні 1844 г. у Парыж прыехаў на некалькі дзён Фрыдрых Энгельс які стаў ад тых часоў бліжэйшым сябрам Маркса. Яны ўдвох прынялі самы гарачы ўдзел у тагачасным кіпучым жыцьці рэволюцыйных груп Парыжу (асабліваe значэньне мела вучэньне Прудона, з якім Маркс рашуча паквітаўся ў сваім „Убостве філёзофіі", (1847 г.) і выпрацавалі, рэзка змагаючыся з рознымі вучэньнямі дробна-буржуазнага сацыялізму, тэорыю і тактыку рэвалюцыйнага пралетарскага сацыялізма альбо камунізма (марксызм). Гл. збор твораў Маркса гэтай эпохі, 1844—1848 г.г.... У 1845 г. Маркс па настойваньні прускага ўраду, як небясьпечны рэвалюцыянэр, быў выслан з Парыжу. Ён пераехаў у Брусэль. Увесну 1847 г. Маркс і Энгельс далучыліся к патаемнаму прапагандысцкаму вобчаству: „Саюз камуністаў", прынялі выдатнейшы ўдзел на другім зьезьдзе гэтага саюзу (лістапад 1847 г. у Лёндане) і, па яго даручэньні, склалі вышаўшы ў лютым 1848 г. славуты „Маніфэст Камуністычнай Партыі". У гэтым творы з геніяльнай яснасьцю і яркасьцю абмалёвана новае сьветасузіраньне, пасьлядоўны матэрыялізм, ахапляючы і галіну сацыяльнага жыцьця, дыялектыка, як найбольш усебаковае і глыбокае вучэньне аб разьвіцьці, тэорыі клясавай барацьбы і сусьветна-гістарычнай рэвалюцыйнай ролі пралетарыяту, творцы новага, камуністычнага грамадзтва.

Калі выбухнула лютаўская рэвалюцыя 1848 г. Маркс быў выслан з Бэльгіі. Ён прыехаў зноў у Парыж, адтуль, пасьля сакавіцкай рэвалюцыі, у Германію менавіта ў Кёльн. Там выходзіла з 1 чэрвеня 1848 г. па 19 мая 1849 г. „Новая Рэйнская Газэта"; галоўным рэдактарам быў Маркс. Новая тэорыя была бліскуча пацьверджана ходам рэвалюцыйных падзей 1848—1849 г.г., як пацьвярджалі яе потым ужо ўсе пралетарскія і дэмакратычныя рухі ўсіх краін сьвету. Перамогшая контр-рэволюцыя спачатку аддала Маркса пад суд (апраўданы 9 лютага 1849 г.), а потым выслала з Германіі (16 мая 1849 г.). Маркс накіраваўся спачатку ў Парыж, быў выслан і адтуль пасьля дэманстрацыі 13 чэрвеня 1849 г. і выехаў у Лёндан, дзе і жыў да самай сьмерці.

Умовы эмігранцкага жыцьця, асабліва наглядна ўскрытыя перапіскай Маркса з Энгельсам (выдан. у 1912 г.) былі ўскрайне цяжкімі. Нэндза прама душыла Маркса і яго сям'ю, каб ня было пастаяннай самаахвярнай фінансавай падтрымкі Энгельса, Маркс ня толькі ня мог-бы скончыць „Капітала", але і няммінуча загінуў-бы пад гнётам убоства. Апрача таго, пераважаючыя вучэньні і плыні дробнабуржуазнага, наогул непралетарскага сацыялізму вымушалі Маркса па-

стаяпна да бязьлітаснай барацьбы, іншы раз адбіваць самыя шалёныя і дзікія асабістыя нападкі („Herr Vort“). Трымаючыся ў баку ад эміграцкіх гурткоў, Маркс у шэрагу гістарычных работ... распрацоўваў сваю матэрыялістычную тэорыю, аддаючы галоўным чынам сілы на вывучэньне палітычнай экономіі. Гэту навуку Маркс рэвалюцыянізаваў... у сваіх творах „Да крытыкі палітычнай эканоміі“ (1859) і „Капітал“ (т. I 1867).

Эпоха ажыўленьня дэмакратычных рухаў канца 1850 і 1860 гг. зноў заклікала Маркса да практычнай дзейнасьці.

У 1864 годзе (28 верасьня) быў заснаваны ў Лёндане славуты I Інтэрнацыянал, „Міжнароднае Таварыства Рабочых“. Маркс быў душой гэтага вобчаства, аўтарам яго першай „адозвы“ і масы рэзалюцый, заяў, маніфэстаў. Яднаючы рабочы рух розных краін, стараючыся накіраваць у рэчышча супольнай дзейнасьці розныя формы непралетарскага, дамарксыцкага сацыялізму (Мадзіні, Прудон, Бакунін, ангельскі лібэральны трэд-юніёнізм, лясальянскія хістаньні ўправа ў Германіі і т. п.), змагаючыся з творамі ўсіх гэтых сэкт і школ. Маркс выкоўваў адзіную тактыку пралетарскай барацьбы рабочае клясы ў розных краінах, Пасьля падзеньня Парыскай Камуны (1871), якую так глыбока, трапна, бліскуча і дзейсна рэвалюцыйна ацаніў Маркс („Грамадзянская вайна у Францыі 1871“), і пасьля расколу Інтэрнацыяналу бакуністамі, існаваньне яго ў Эўропе стала немагчымым. Маркс правёў пасьля кангрэсу Інтэрнацыянала ў Гаазе (1872) перанясеньне Генэральнага Савету Інтэрнацыянала ў Нью-Ёрк. Першы Інтэрнацыянал скончыў сваю гістарычную ролю, аддаўшы месца эпосе нязьмерна больш буйнага росту рабочага руху ва ўсіх краінах сьвету, менавіта эпосе росту яго ў ш ы р к і, стварэньня м а с а в ы х сацыялістычных рабочых партый на грунце асобных нацыянальных дзяржаў.

Узмоцненая работа ў Інтэрнацыянале і яшчэ больш узмоцненыя тэарэтычныя заняткі канчаткова падарвалі здароўе Маркса. Ён працягваў сваю пераапрацоўку палітычнай эканоміі і скончэньне „Капітала“, зьбіраючы масу новых матар'ялаў і вывучаючы шэраг моў (напрыклад, рускую), але скончыць „Капітал“ не дала яму хвароба.

2 сьнежня 1881 г. памерла яго жонка, 14 сакавіка 1883 г. Маркс ціха заснуў навекі ў сваім крэсьле. Ён пахаваны разам са сваёй жонкай і адданай служанкай, амаль членам сям'і, Галенай Дэмут, на могілках Хайгэйт у Лёндане.

*(У. І. Ленін „Карл Маркс“*
*збор твораў, т. VIII, стар. 5—8).*

# Маркс як заснавальнік навуковага камунізму

14 сакавіка г.г. спаўняецца 50-ці годзьдзе ад таго дню, як «чалавецтва стала ніжэй на цэлую галаву і пры тым самую геніяльную галаву, якую яно мела ў той час» (Энгельс), 50-ці годзьдзе з дню сьмерці заснавальніка навуковага камунізму К. Маркса.

50-я гадавіна са дню сьмерці Маркса супадае з нябывалым абвостраньнем клясавых супярэчнасьцяй і клясавай барацьбы ва ўсім сьвеце. Пераможнае завяршэньне пяцігодкі за чатыры гады, сусьветна-гістарычныя перамогі, што атрыманы ў справе індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і культурнай рэвалюцыі, згуртаваньне мільёнНых мас працоўных Савецкага Саюзу вакол партыі і яе Ленінскага ЦК, на чале з тав. Сталіным, поруч з гэтым шалёнае супраціўленьне рэштак разьбітых, але яшчэ не дабітых паразытычных клясаў,—разгорнутаму соцыялістычнаму наступленьню. Такава абстаноўка, у якой Савецкі Саюз адзначае 50-ю гадавіну са дню сьмерці геніяльнага заснавальніка навуковага камунізму.

Канец адноснай капіталістычнай стабілізацыі, нябачаны ў гісторыі ўсеагульны крызіс капіталізму, з яго саракамільённай арміяй беспрацоўных, з арганізаваным зьнішчэньнем тавараў і разбурэньнем машын, жорсткай навукова-тэхнічнай дэградацыяй і загніваньнем культуры; рэволюцыянізаваньне мас і панічныя пошукі буржуазіяй выхаду з тупіка, у якім яна апынулася; адкрытае абвяшчэньне германскай буржуазіяй грамадзянскай вайны працоўным масам і ўвядзеньне ў бой рэзэрваў фашысцкай дыктатуры—вось чым характырызуецца становішча капіталістычнага сьвету да 50-ці годзьдзя сьмерці Маркса.

Мы знаходзімся напярэдадні рашаючых клясавых боек, напярэдадні другога туру войн і рэволюцый. Упаўне законамерна, што ў гэтых умовах вакол адзначаемай гадавіны Маркса распальваецца жорсткая клясавая барацьба.

Супроць Маркса адчынена выступаюць усе сілы старога сьвету, усе сілы сусьветнай рэакцыі, усе сілы сусьветнай буржуазіі. Звар'яцеўшы попік Мукэрман з ісьціна-хрысьціянскай любоўю абвяшчае, што «марксыст горш ад сіфілітыка», вярхоўны жрэц фашызму Бэнэта Мусоліні выкрывае «сухую і бясплённую дактрыну нямецкага публіцыста, што ўзьведзены ў богі на паўдзікіх берагох Волгі», а гітлераўскія банды выкарчоўваюць марксызм дубінкамі і нажамі. Супроць Маркса ня

так адчынена, але таксама актыўна выступаюць ідэолёгіі соцыял-фашызму, што стаў галоўнай соцыяльнай апорай буржуазіі, соцыял-фашысцкія правадыры і ідэолёгі рознага гатунку і масьці ад крывавага пса Носкэ да «любвеобильного» Отто Баўэра.

За Маркса выступаюць мільёныя масы пралетараў і працоўных Савецкага Саюзу, што пад баявымі сьцягамі марксызма-ленінізма, пад кіраўніцтвам найвялікшага марксыста-ленінца тав. Сталіна, будуюць соцыялізм. За Маркса выступаюць шматмільённыя масы пралетараў, прыгнечаных і каленіяльных рабоў, якія знаходзяцца пад ўціскам капіталістаў, прасьледуюцца паліцыяй і фашыстамі, загнаны ў падпольле, якія рыхтуюцца да новых рашаючых рэволюцыйных боек.

Маркс быў заснавальнікам навуковага камунізму, геніяльным тэорэтыкамі і найвялікшым практыкам клясавай барацьбы і пралетарскай рэволюцыі. Яго тэорыю 10-ці годзьдзямі, скажалі, выпустошвалі, прыстасоўвалі да інтарэсаў буржуазіі рэфармісты і апартуністы II Інтэрнацыяналу.

Гэту тэорыю аднавіў, канкрэтызаваў, разьвіў далей, узьняў на новую ступень У. І. Ленін.

Ленінізм гэта марксызм эпохі імпэрыялізму і пралетарскіх рэволюцый. Без марксызма ня было-б ленінізма. Без ленінізма няма ў наш час сапраўднага марксызма. Марксызм-ленінізм гэта цэльнае і непарыўнае паняцьце, гэта адзінае сьветаразуменьне, адзіная тэорыя, заснавальнікам якой быў Маркс.

Рэнэгаты марксызму сьвядома фальсыфікуюць рэчаіснасьць, калі разглядаюць ленінізм, як нейкую плынь у марксызьме. Адной з праяў гэтай фальсыфікацыі зьяўляецца супроцьстаўленьне—то Марксу—Леніна, то Маркса і Леніна—Сталіну. Гэта прыём таго-ж парадку, які ў свой час ужывалі рэвізіяністы, калі супроцьстаўлялі Маркса Энгельсу. Маркс—Энгельс—Ленін—Сталін гэтак разьвіваўся і ўмацоўваўся рэволюцыйны марксызм.

Ленін бачыў геніяльнасьць Маркса менавіта ў тым, што ён «даў адказы на пытаньні, якія ўжо перадавая мысьль чалавецтва паставіла». «Вучэньне Маркса,—падкрэсьліваў Ленін,—усемагутна таму, што яно верна. Яно поўна і стройна, даючы людзям цэльнае сьветаразуменьне, няпрымірымае ні з якімі забабонамі, ні з якой рэакцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага ўціску» [1])

Цэльнае сьветаразуменьне, заснавальнікам якога быў Маркс—гэта сьветаразуменьне навуковага камунізму. Асноўныя прынцыпы навуковага камунізму былі фармуляваны Марксам разам з Энгельсам роўна 85 год назад у гістарычных словах «Камуністычнага маніфэсту»:

«Калі ў працэсе разьвіцьця будзе зьнішчана рознасьць кляс і ўся вытворчасьць згрупуецца ў руках асацыяваных індывідумаў, грамадзкая ўлада страціць свой палітычны характар. Палітычная ўлада, у уласным сэнсе гэтага слова, ёсьць арганізаваная сіла

---

1) Том XVI, стр. 349.

аднае клясы, маючая на мэце падпарадкаваньне іншай клясы. Калі пралетарыяту ў барацьбе супроць буржуазіі неабходна аб'яднацца, ён як кляса, шляхам рэвалюцыі—становіцца пануючай клясай, і, як пануючая кляса гвалтоўна зьнішчае старыя ўмовы вытворчасьці, разам з апошнімі ён зьнішчае таксама і ўмовы існаваньня антаганізму клясаў, клясы наогул, а тым самым і ўласна клясавае панаваньне...»

Марксызм-ленінізм прадстаўляе сабой адзінае, цэльнае, стройнае сьветаразуменьне рэвалюцыйнага пралетарыяту.

Закладзены Марксам дыялектычны матэрыялізм—філёзофская аснова гэтага сьветаразуменьня. Дыялектычны матэрыялізм гэта філёзофія пралетарыята.

Соцыял-фашызм, які імкнецца і арганізацыйна, і ідэёва раззброіць пролетарыят і ў залежансьці ад акалічнасьцяй часу і месца,—то адчынена адхіляючы Маркса, топератвараючы яго ў звычайнага лібэрала,—сацыял-фашызм усяляк сіліцца даказаць, што Маркс філёзофам ніколі ня быў, што марксава філёзофія гэта шкодная бальшавіцкая выдумка. Заядлы фальсыфікатар марксызму Маркс Адлер піша: «вучэньне аб законамернасьці гісторыі ў якасьці яе ўжываньня, вучэньне аб сутнасьці эканамічных катэгорый і гаспадарчага разьвіцьця—вось чым зьяўляецца марксызм і як гэткі ён правільны... Аднак гэта тэорыя, яе пастаноўка праблем і яе спробы вырашэньня іх, ня маюць нічога агульнага з пытаньнямі сьветаразуменьня... Яна можа быць у аднолькавай ступені добра ўвязана з любым філёзофскім сьветаразуменьнем, у аднолькавай ступені з матэрыялістычным як са сьпірытуялістычным, у аднолькавай ступені з пантэізмам або з атэізмам».

Вось гэта спроба Адлера, якая ім неаднакроць ажыцьцяўляецца, спроба разарваць на часткі марксызм, адарваць яго філёзофскую аснову ад іншых частак сыстэмы, зьяўляецца ў вачох здраднікаў пралетарыяту аднэй з найвялікшых заслуг масьцітага сацыял-фальсыфікатара, 60-ці гадовы юбілей якога з куды большым правам і здавальненьнем чым у сучасны момант юбілей Маркса,—сьвяткаваў месяцы два таму назад сусьветны сацыял-фашызм.

У час гэтага юбілею, малады ды з раньніх, сацыял-фашыст Альфрэд Браўнталь пісаў у „Kampfe“: «Духоўныя айцы сусьветнага сацыялізму былі чым толькі хочаце, але не матэрыялістамі у філёзофскім сэнсе. Перш за ўсіх ад гэтага быў ахованы Маркс, дзякуючы ўсяму свайму духоўнаму паходжаньню, у прыватнасьці ад Гегеля. Ён гэтага паходжаньня ніколі не адмаўляў... З філёзофскім матэрыялізмам, які па-мэтафізычнаму адносіцца да субстанцыі, Маркс ня мае нічога агульнага. Можна нават запэўніць, што марксаву сыстэму... наўрад ці можна зразумець, узяўшы за аснову матэрыялістычную філёзофію». („Mann Kann sogar behaupten, dass des Martxche System voneiner materialisticshen Phiosoplie aus kaum zuhverstchen ist“)



«Маркс ня быў матэрыялістам, Маркс ня быў філёзофам»—адзін перад адным запэўняюць сацыял-фальсыфікатары. Выкрыць гэта запэўненьне няма асаблівай цяжкасьці.

У Маркса няма «спэцыяльных» філёзофскіх работ, няма прац, «спэцыяльна» прысьвечаных распрацоўцы філёзофскіх проблем. І ўсё-ж мы маем усе падставы лічыць Маркса адным з самых геніяльных філёзофскіх вумоў, з самых вялікіх філёзофскіх геніяў, што высунуты гісторыяй чалавецтва. У Маркса няма «спэцыяльных» філёзофскіх работ, але к о ж н а я яго праца захоўвае ў сябе аграмадныя філёзофскія багацьці, у к о ж н а й з іх зьмяшчаюцца мысьлі, што далі магутны штуршок разьвіцьцю філёзофскай мысьлі, к о ж н а я з іх зьяўляецца ўзорам глыбока-філёзофскага падыходу да рэчаў.

Маркс-філёзоф не адлучальны ад Маркса-эканаміста, Маркса-сацыёлёга, Маркса-тэарэтыка стратэгіі і тактыкі клясавай барацьбы, Маркса—змагара і рэволюцыянэра. Погляды яго па ўсіх гэтых галінах шчыльна і непарыўна зьвязаны ў адну цэльную сыстэму, гэта сыстэма непарыўна сплялася з яго практычнай дзейнасьцю.

Марксызм-ленінізм—тэорыя навуковага камунізму. Філёзофская аснова гэтай тэорыі—дыялектычны матэрыялізм.

Маркс быў матэрыялістам ужо ў раньні пэрыяд, прыкладна з 27-28 гадовага ўзросту. Маркс у пачатку быў прыхільнікам Фэйэрбаха, абмежаванасьць і аднабаковасьць якога ён хутка перамог. Разрыў з Гегелем быў для Маркса найвялікшай гістарычнай заслугаю Фэйэрбаха, але гэты разрыў быў зроблены Фэйэрбахам абмежавана і аднабакова. Маркс узьняў матэрыялізм на новую вышыню. «Для Гегеля—гаварыў Маркс—працэс мышленьня, які ён ператвае нават пад імем ідэі ў самастойны суб'ект дэміўрг (тварэц, сазідацель), рэчаіснага... У мяне-ж, «наадварот», ідэальнае ёсьць нішто іншае, як матэрыяльнае, перасаджанае ў чалавечую галаву і перароблепае ў ёй».

Маркс-Энгельс былі нястомнымі барацьбітамі за матэрыялістычную філёзофію, за якую яны няспынна змагаліся на два франты—супроць ідэалізма і ідэалістычных поглядаў Бруно Бауэра, Макса Штырнера, Дзюрынга, Ляссаля з аднаго боку, супроць вульгарнага, спрашчэнскага матэрыялізму Бюхнера, Фогта, Молешотта—з другога боку. «Асноўным недахопам старога», у тым ліку і фэйэрбахаўскага (а тым больш «вульгарнага», Бюхнера,—Фогта—Молешотта) матэрыялізму Маркс і Энгельс лічылі,—па паказаньнях Леніна—1) тое, што гэты матэрыялізм быў «пераважна мэханічным», ня ўлічваючы найноўшага разьвіцьця хэміі, біалёгіі (а ў нашыя дні патрэбна было-б яшчэ дадаць: электрычнай тэорыі матэрыі); 2) тое, што стары матэрыялізм быў нягістарычан, недыялектычан (мэтафізычан у сэнсе антыдыялектыкі), не праводзіў пасьлядоўна і ўсебакова пункту гледжаньня разьвіцьця; 3) тое, што яны «сутнасьць чалавека»

разумелі абстрактна, а не як «злучнасьць» (пэўных канкрэтна-гістарычных) «усіх грамадзкіх адносін» і таму толькі «тлумачылі» сусьвет, тады калі справа ідзе аб перайначаньні» яго, г. зн. не разумелі значэньня «рэволюцыйнай практычнай дзейнасьці».

Маркс крытычна перапрацаваў частку філёзофіі Гегеля—яго дыялкетыку. Дыялектыка ідэалістычная, дадзеная ў яе містыфікаванай форме, была падыходзячай да буржуазіі. Але для яе непадыходзячая дыялектыка сапраўдная, матэрыялістычная, рэвалюцыйная. Гэта дыялектыка ўнушае «буржуазіі і яе дактрынэрам, ідэолёгам толькі злосьць і жах, бо ў станоўчае разуменьне існуючага яна ўключае ў той-жа час разуменьне яго адмаўленьня, яго неабходнай гібелі, кожную зьдзейсьненую форму разглядае ў руху, значыцца таксама з яе праходзячай стараны; бо яна ні перад чым не прыгінаецца і па самой сутнасьці сваёй крытычна і рэволюцыйна» (Маркс).

Маркс з Энгельсам паставілі перад сабою найвялікшую задачу, якую геніяльна вырашылі—задачу «выратаваць сьвядомую дыялектыку і перавесьці яе ў матэрыялістычнае разуменьне прыроды і гісторыі» (Энгельс).

Матэрыялістычная дыялектыка Маркса-Энгельса ня толькі адрозьніваецца ад гегелеўскай дыялектыкі—яна ёй супроць легла. Маркс зьнішчыў ідэалістычнае скажэньне, што характарызавала дыялектыку Гегеля, ён перавярнуў устаноўленыя Гегелем адносіны паміж быцьцём і лёгічнай сыстэмай, паказаў, што «дыялектыка галавы—толькі адлюстраваньне форм руху рэальнага сьвету як прыроды, так і гісторыі» (Энгельс).

У выглядзе матэрыялістычнай дыялектыкі Маркс даў рабочай клясе магутную тэорэтычную зброю пазнаньня прыроды і грамадзтва, войструю зброю барацьбы з клясавымі ворагамі. І таму, гэта ў поўнай меры натуральна, менавіта супроць гэтае зброі накіроўваюць свае ўдары адчыненыя і замаскаваныя ворагі рабочае клясы.

Рэвізіяністы і апартуністы ўсіх масьцей, пачынаючы з нядаўна памёршага патрыярха рэвізіянізму Эдуарда Бэрнштэйна і канчаючы сацыял-фашысцкім эпігонам ад філёзофіі Зігфрыдам Маркам, ўсяляк стараліся сказіць матэрыялістычную дыялектыку, стараліся разарваць матэрыялізм і дыялектыку, абвясьцілі дыялектыку «гегелеўскай пасткай».

«Вось, што напрыклад, піша ў сваёй працы „Diealektik in der Philosophie der Gegenvrart“, Зігфрыд Марк.

«У Маркса мы знаходзім захаваньне гегелеўскай мэтодыкі, яе арыгінальнае і глыбокае перарабленьне і разам з тым пераносеньне яе на такую глебу, дзе яна асуджана на ўвядзеньне альбо адміраньне. Нават у сьвядомасьці самога Маркса простае «какетнічаньне» гегелеўскай тэрміналёгіяй знаходзіцца разам з цэнтральнай важнасьцю дыялектыкі для ўсяго гістарычнага матэрыялізму. У пэрыпэтыях разьвіцьця Маркса справа так і не

дайшла да пабудовы самастойнай мэтадалёгіі, што праэктавалася ім як усеахапляючая дыялектыка. Таму, за марксысцкай дыялектыкай прыходзіцца зьвяртацца да рэзюмуючай інтэрпрэтацыі Энгельса, якая часткова сьвядома канкрэтызуе гэтыя мысьлі, часткова-ж несамавольна апашляе іх. Аднак, на падставе гэтай інтэрпрэтацыі разьвілася вульгарная дыялектыка, якая была кананізавана афіцыйным камунізмам».

Паўстаючы супроць «вульгарнай дыялектыкі» камунізма, панове сацыял-фашысцкія ідэолёгі заклікаюць рабочую клясу ў сапраўдную «гегелеўскую пастку» містыкі ідэалізма, адцягненай спэкуляцыі, імкнуцца замяніць «хітрую (і рэвалюцыйную) дыялектыку простай (і спакойнай) эвалюцыяй» (Ленін).

Марксава дыялектыка ня раз скажалася ўсімі тэарэтыкамі другога Інтэрнацыяналу, не выключаючы і Плеханава. І Плеханаў нізводзіў дыялектыку да сумы прыкладаў і ён адрываў яе ад тэорыі пазнаньня, і ён прытупляў яе рэвалюцыйную вастрыню.

Толькі Ленін аднавіў рэволюцыйную дыялектыку Маркса—Энгельса, ачысьціў яе ад ўсёй апартуністычнай іржы ІІ-га Інтэрнацыяналу, канкрэтызаваў і разьвіў яе далей. «Мэтад Леніна»—гаворыць тав. Сталін,—«зьяўляецца ня толькі аднаўленьнем, але і канкрэтызацыяй і далейшым разьвіцьцём практычнага рэвалюцыйнага мэтаду Маркса, яго матэрыялістычнай дыялектыкі».

«Разьвіцьцё, як-бы паўтараючы пройдзеныя ўжо ступені, але паўтараючае іх інакш, на больш высокай базе («адмаўленьне адмаўленьня»), разьвіцьцё, так сказаць, па спіралі, а не па простай лініі;—разьвіцьцё скачкавітае, катастрафічнае, рэвалюцыйнае;—«перарывы паступовасьці»; ператварэньне колькасьці ў якасьць;—унутраныя імпульсы да разьвіцьця, што даюцца супярэчнасьцю, сутычкай розных сіл і тэндэнцыі, дзейнічаючых на данае цела альбо у межах данай зьявы, альбо ўнутры данага грамадзтва;—узаемазалежнасьць і шчыльнейшая, непарыўная сувязь у с і х бакоў кожнае зьявы (прычым гісторыя адкрывае ўсё новыя і новыя бакі), сувязь, якая дае адзіны законамерны сусьветны працэс руху,—вось такія па характарыстыцы Леніна некаторыя рысы дыялектыкі,—як больш зьмястоўнага (чым звычайнае) вучэньня аб разьвіцьці».

Маркс прадоўжыў і распаўсюдзіў матэрыялізм на грамадзкі працэс. Толькі са зьяўленьнем Маркса, сацыялёгія ператварылася ў навуку, бо ён ўпяршыню паказаў, як, і дзе патрэбна шукаць рухаючыя сілы гістарычнай дзейнасьці людзей, выявіў аб'ектыўную законамернасьць грамадзкіх працэсаў, паказаў, як можна з «натуральна-гістарычнай пунктуальнасьцю» (Ленін) дасьледваць учынкі мас, умовы іх жыцьця і зьмены. Маркс стварыў навуку аб грамадзкім жыцьці.

«Марксызм вызначыў шлях да ўсеахапляючага, усебаковага вывучэньня працэсу ўзьнікненьня, разьвіцьця і занепаду грамадзка-эканамічных фармацый, разглядаючы з л у ч-

насьць усіх супярэчлівых тэндэнцый, зводзячы іх к дакладна вызначаемым умовам жыцьця і вытворства розных кляса ў грамадзтва, пазбаўляючы ад суб'ектывізму і самавольства ў выбары паасобных «пануючых» ідэй альбо ў талкаваньні іх, ускрываючы карэньні ўсіх бяз выключэньня ідэй і ўсіх розных тэндэнцый ў стане матэрыяльных вытворчых сіл. Людзі самі твораць сваю гісторыю, але чым вызначаюцца матывы людзей і менавіта людзкіх мас, чым выклікаюцца сутычкі супярэчлівых людзей і імкненьняў, якава злучнасьць усіх гэтых сутычак усёй масы чалавечых грамадзтваў, якавы аб'ектыўныя ўмовы вытворства матэрыяльнага жыцьця, ствараючыя базу ўсёй гістарычнай дзейнасьці людзей, якавы закон разьвіцьця гэтых умоў,—на ўсё гэта зьвярнуў ўвагу Маркс і вызначыў шлях да навуковага вывучэньня гісторыі, як адзінага, законамернага ўва ўсёй аграмаднай featureзнабаковасьці і супярэчлівасьці працэсу». (Ленін—«Маркс», стар. 21).

Маркс абгрунтаваў гістарычны матэрыялізм як пашыраны на грамадзкую сфэру—з мэтай яе вывучэньня і перайначаньня—дыялектычны матэрыялізм. Гістарычны матэрыялізм наскрозь дзейсная і наскрозь партыйная тэорыя, як наскрозь дзейсны і наскрозь партыйны увесь марксызм. «Філёзофы да гэтых часоў тлумачылі сусьвет, задача-ж у тым, каб зьмяніць яго». «Мы практычныя матэрыялісты, г. зн. камуністы»—гаварылі Маркс і Энгельс,—«наша тэорыя не догма, а кіраўніцтва да дзеяньня»...

На месца соцыялістычных утопій Маркс паставіў баявую, партыйную глыбока-навуковую тэорыю, якая паказвае, як чалавецтва ідзе ад капіталізма,—праз дыктатуру пролетарыята—да камунізму.

Шляхі і законы клясавай барацьбы, якая з жалезнай няўхільнасьцю вядзе да заснаваньня камуністычнага грамадзтва праз дыктатуру пралетарыяту—вось у чым зьмест вучэньня Карла Маркса.

Ускрыўшы ў клясавай барацьбе галоўную спружыну грамадзкага жыцьця, Маркс паказаў і давёў, якая кляса павядзе грамадзтва ад клясавасьці да бяскласавасьці, і якавы шлях, на якім рабочая кляса вырашыць задачу,—шлях рэвалюцыйнай пралетарскай дыктатуры.

5-га сакавіка 1852 году Маркс пісаў ў лісьце да Вэйдэмэйера: «Што тычыцца мяне, то мне не належыць ні тая заслуга, што я адкрыў існаваньне клясаў у сучасным грамадзтве, ні тое, што я адкрыў іх барацьбу паміж сабой. Буржуазныя гісторыкі задоўга да мяне выклалі гістарычнае разьвіцьцё гэтай барацьбы клясаў. Тое, што я зрабіў новага, складалася ў доказе наступнага: 1) што існаваньне клясаў мае сувязь толькі з пэўнымі гістарычнымі

бойкамі, уласьцівымі разьвіцьцю вытворчасьці (historische Entwicklungs-Kämpfe der Production), 2) што клясавая барацьба неабходна вядзе да дыктатуры пралетарыяту, 3) што гэта дыктатура ёсьць толькі пераход да зьнішчэньня ўсялякіх клясаў і да грамадзтва без клясаў».

У сваіх цікавых нататках, што зроблены ім у 1874 г. на кнігу Бакуніна «Дзяржаўнасьць і Анархія», нататках, якія да рэчы сацыял-фашысты 10-годзьдзямі захоўвалі ад пралетарыяту і, якія толькі нядаўна ўбачылі сьвет, Маркс пісаў: «Дыктатура пролетарыяту—гэта к л я с а в а е п а н а в а н ь н е рабочых над перажыткамі старага сьвету, што ім супраціўляюцца. Яно будзе працягваць пакуль ня будуць вырашаны эканамічныя асновы існаваньня клясаў. Гэта значыць, што пакуль існуюць яшчэ іншыя клясы, у асаблівасьці кляса капіталістычная, пакуль пралетарыят з ёю змагаецца... ён павінен ужываць сродкі гвалту, бо гвалт—сродак для кіраваньня; калі ён сам яшчэ застаецца клясай і калі ня зьніклі яшчэ эканамічныя ўмовы, на якіх грунтуецца клясавая барацьба, г. зн. існаваньне клясаў, яны павінны быць гвалтоўна адхілены і пераароблены, працэс іх перарабленьня павінен быць гвалтоўна паскораны».

Дзяржава пераходнага пэрыоду—устанавіў Маркс—ня можа быць ні чым іншым, апрача як рэвалюцыйна дыктатурай пралетарыяту. Гэтая дыктатура прадстаўляе сабою галоўнае ў тэорыі навуковага камунізму—у марксызьме-ленінізьме. Хто не даводзіць прызнаньня клясавай барацьбы да прызнаньня дыктатуры клясаў, той не марксыст, а лібэрал, вучыў Ленін. Хто не даводзіць прызнаньня клясавай барацьбы да прызнаньня дыктатуры пралетарыяту, да прызнаньня магчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне, да прызнаньня генэральнай лініі партыі, той не марксыст, можам і павінны мы сказаць у сучасны момант... Да гэтага нас абавязвае ўвесь багаты вопыт барацьбы з шматлікімі апартуністычнымі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі, ухіламі, што прыкрываюцца маркса-ленінскай фразеалёгіяй, але глыбока-варожы па сваёй сутнасьці марксызму-ленінізму, вопыт барацьбы з контррэвалюцыйным трацкізмам, спалучыўшым прызнаньне дыктатуры пралетарыяту на словах з падкопніцкай работай, накіраванай супроць гэтай дыктатуры на справе.

Дыктатура пралетарыяту—г а л о ў н а е ў марксызьме-ленінізьме; тут па выражэньню тав. Сталіна яго выточны пункт, яго фундамэнт. Зусім законамерна, што менавіта супроць гэтага г а л о ў н а г а вядзецца найбольш жорсткая атака адзінага фронту рэнэгатаў, здраднікаў, фальсыфікатараў марксызму. Ад Носкэ да Вандэрвэльдэ, ад Каўцкага да Адлера—са скуры лезуць яны вон, каб давесьці, што Маркс ніколі ня прызнаваў дыктатуры пралетарыяту, што словы Маркса аб дыктатуры пралетарыяту зьяўляецца «выпадковай фразай», што дыктатура пра-

летарыяту знаходзіцца «у вапіючай супярэчнасьці» са ўсім духам марксавай тэорыі, што, адным словам, Маркс быў не пралетарскім рэвалюцыянэрам, а дэмакратычнай паінькай, што Маркс ніякім чынам ня быў... Марксам.

Расчышчаючы аўгіевы канюшні II Інтэрнацыяналу, Ленін аднавіў і паглыбіў марксаву тэорыю дыктатуры пралетарыяту, ён яе разьвіў у новых абставінах эпохі імпэрыялізму і пралетарскіх рэволюцый. Тое новае, што Ленін унёс у марксаву тэорыю дыктатуры пралетарыяту, было ахарактарызавана тав. Сталіным у яго гутарцы з першай амэрыканскай рабочай дэлегацыяй наступным парадкам:

«Асноўную ідэю дыктатуры пралетарыяту, як палітычнага панаваньня пралетарыяту і як мэтаду нізьвяржэньня ўлады капіталу шляхам гвалту, далі Маркс і Энгельс. Новае ў Леніна заключаецца ў гэтай галіне ў тым, што: а) ён адкрыў Савецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пралетарыяту, выкарыстаўшы для гэтага вопыт Парыскай Камуны і расійскай рэвалюцыі; б) ён раскрыў дужкі ў формуле дыктатуры пралетарыяту пад пунктам гледжаньня праблемы аб саюзьніках пралетарыята, вызначыўшы дыктатуру пралетарыята як асноўную форму клясавага саюзу пралетарыята, які зьяўляецца кіраўніком, з эксплёатуемымі масамі непралетарскіх клясаў (сялянства і інш.), што зьяўляюцца кіруемымі; в) ён падкрэсьліў з асаблівай сілай той факт, што дыктатура пралетарыяту зьяўляецца вышэйшым тыпам дэмакратыі пры клясавым грамадзтве, формай *пралетарскай* дэмакратыі, якая выражае інтарэсы большасьці (эксплёатуемых), у працівагу дэмакратыі *капіталістычнай*, што выражае інтарэсы меншасьці (эксплёататараў)».

Маркс з усёй рашучасьцю паказаў, што посьпехі пралетарскай рэвалюцыі залежаць ад таго, наколькі дыктатура пралетарыяту зможа забясьпечыць кіраваньне сялянствам з боку рабочае клясы. Злучэньне пралетарскай рэвалюцыі з сялянскай вайной высоўвалася Марксам як асноўнае патрабаваньне.

Найважнейшай складанай часткай марксавай тэорыі зьяўляецца палітычная эканомія Маркса.

Маркс абгуртаваў пралетарскую палітычную эканомію, якая рэвалюцыянізавала ўсю эканамічную навуку. Геніяльна прыстасаваўшы да эканамічных зьяў дыялектычны мэтад, Маркс ускрыў закон разьвіцьця гэтых зьяў, тыя ўнутраныя супярэчнасьці, на грунце якіх разьвіваецца зьява. На падставе гэтага закону Маркс у сваёй бясьсмертнай працы давёў, што капіталістычнае грамадзтва нямінуча павінна будзе ператварыцца ў грамадзтва соцыялістычнае. «Капітал» Маркса быў сьмяротным прысудам, які пралетарыят вуснамі геніяльнага заснавальніка навуковага камунізму абвясьціў капіталістычнай сыстэме.

Утапічны сацыялізм ня йшоў далей канстатаваньня таго факту, што капіталізм эксплёатуе масы і заклікае да замены

капіталістычнага ладу іншым. Маркс адкрыў гістарычныя законы ўзьнікнавеньня, разьвіцьця і пагібелі капіталізму, адкрыў закон дадатковай вартасьці, гэту цэнтральную заруку пралетарскай палітычнай эканоміі.

«Было даведзена, што прысваеньне неаплачанай працы ёсьць асноўная форма капіталістычнага спосабу вытворчасьці і ўласьцівай яму эксплёатацыі рабочых; што нават у тым выпадку, калі капіталіст закупляе рабочую сілу па поўнай вартасьці, якую яна ў якасьці тавару, мае на рынку, ён—усё-ж выцягвае з яе вартасьць большую ад тэй, што ён заплаціў за яе, і што гэта дадатковая вартасьць урэшце і ўтварае тую суму вартасьцяй, з якіх накапляецца ў руках заможных клясаў пастаянна ўзрастаючая маса капіталаў. Такім парадкам было высьветлена паходжаньне капіталістычнага спосабу вытворчасьці, таксама як і вытворчасьці самога капіталу». (Ф. Энгельс «Разьвіцьцё сацыялізма ад утопіі да навукі» стар. 35).

Зрабіўшы геніяльны аналіз тых супярэчнасьцяй, якімі характарызуецца капіталістычная гаспадарка, Маркс паказаў нямінучасьць пэрыядычных крызісаў, што карэняцца ў самой прыродзе капіталізма; адкрыў усеагульны закон капіталістычнага накапленьня, паказаў, як на адным з полюсаў грамадзтва акамулюецца ўбоства, на другім—багацьце, як пры капіталізьме ажыцьцяўляецца абсалютнае зьбядненьне пралетарыяту. Няма, бадай, апрача пытаньня аб дыктатуры пралетарыяту, яшчэ аднаго пункта ў марксавай тэорыі, якое ў такой-бы ступені зьняважылася, фальсіфікавалася, скажалася на ўсякія манэры, выклікала шалёную злосьць буржуазных ідэолёгаў, усіх тэарэтыкаў рэвізіянізму і апартунізму, усіх Бэрнштэйнаў і Гільфердынгаў, як закон абсалютнага зьбядненьня.

Марксам была даведзена нямінучасьць канцэнтрацыі і цэнтралізацыі капіталу, размываньне прамежных пластоў і павялічэньне бяздоньня, што адлучае капіталістых ад рабочых. Марксам было паказана, як у рэзультаце канцэнтрацыі і цэнтралізацыі на зьмену свабоднай капіталістычнай канкурэнцыі прыходзіць капіталістычная манаполія. На гэтай падставе і ў поўнай адпаведнасьці з гэтымі паказальнікамі Маркса Ленін стварыў і разьвіў сваю тэорыю аб імпэрыялізьме, як навейшай фазе капіталізму, што знайшла сабе бліскучае і ўсебаковае пацьверджаньне ва ўсёй капіталістычнай рэчаіснасьці апошніх 10-ці годзьдзяў. І ў гэтай галіне Марксавай тэорыі Ленін адкрыў новы этап, узьняў яе на новую вышыню і тым выратаваў рэвалюцыйную марксысцкую тэорыю ад тэарэтыкаў «аўтаматычнага краху» капіталізму, ад герояў «звыш-імпэрыялізма», ад сьпявакоў «арганізаванага капіталізма», ад усёй апартуністычнай гвардыі ІІ-га Інтэрнацыяналу.

Сучасны яшчэ нябачаны ў гісторыі капіталістычны крызіс даў новае сьведчаньне геніяльнай ленінскай тэорыі аб імпэрыялізьме навочна паказаў цану сацыял-фашысцкім і апартуністыч-

ным тэорыйкам, давёў, што, як выразіўся Сталін «для таго, каб зьнішчыць крызіс, трэба зьнішчыць капіталізм». У працах Сталіна, прысьвечаных сучаснаму крызісу, тэорыя аб крызісах Маркса—Энгельса—Леніна знайшло сваю конкрэтызацыю, далейшае разьвіцьцё і паглыбленую распрацоўку.

Маркс спалучаў у сабе геніяльнага тэорэтыка і змагара, вучонага і рэвалюцыянэра, які аб'яднаў рэвалюцыйную тэорыю з рэвалюцыйнай практыкай.

Тэорыя навуковага камунізму не захоўвалася ім у цішыні габінэту, ён яе абгрунтоўваў і разьвіваў як актыўны ўдзельнік і правадыр клясавай барацьбы пралетарыяту, як заснавальнік, ідэолёг міжнароднай камуністычнай партыі.

Маркс быў заснавальнікам той першай ў гісторыі міжнароднай арганізацыі рабочых, якая паставіла сваёй задачай барацьбу за ажыцьцяўленьне пралетарскай дыктатуры.

Узьнікшы ў 1846 годзе пад кіраўніцтвам Маркса «Саюз камуністаў» быў першай міжнароднай пралетарскай партыяй, якая абвясьціла, што яе мэтай зьяўляецца «нізьвярҗэньне буржуазіі, панаваньне пралетарыяту, зьнішчэньне старога, заснаванага на антаганізьме клясаў буржуазнага грамадзтва і ўтварэньне новага грамадзтва без клясаў і без прыватнай уласнасьці». Камуністычным маніфэстам Маркс і Энгельс далі сьвету баявы кліч «Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!», які ўжо 85 год захапляе міжнародную рабочую армію на барацьбу з эксплёататарамі.

Камуністычны маніфэст» — першая партыйная праграма рабочай клясы. У Маніфэсьце Маркс разгарнуў сваю тэорыю аб партыі—авангардзе клясы, што знайшла далейшае разьвіцьцё ў тэорыі аб партыі Леніна і Сталіна.

«Камуністы на практыцы—гаварылася ў Маніфэсьце—прадстаўляюць сабой самую рашучую, заўсёды штурхаючую наперад частку рабочых партый ўсіх краін, а ў тэарэтычных адносінах яны маюць перад астатняй масай пралетарыята тую перавагу, што разумеюць умовы, ход і агульныя рэзультаты рабочага руху. Бліжэйшая мэта камуністаў тая-ж што і іншых рабочых партый: арганізацыя рабочай клясы, нізьвярҗэньне панаваньня буржуазіі, заваяваньне пралетарыятам палітычнай ўлады».

У рэвалюцыі 1848—49 г. Маркс вёў пасьлядоўную, настойлівую, непахісную барацьбу з крахаборніцкай, апартуністычнай тактыкай Стэфана Борна, з героямі левай «фразы» тыпу Вэйтлінга, выкрываў здрадніцтва лібэральнай буржуазіі баязьлівасьць і палавінчатасьць дробнай буржуазіі, даводзячы, што «ёсьць толькі адзін сродак скараціць, спрасьціць, сканцэнтраваць гладзейскія прадсьмяротныя сутаргі старога грамадзтва і крывавыя мукі нараджэньня новага грамадзтва. Гэта сродак—рэвалюцыйны тэрарызм».

Наперакор усім хітрыкам меншавікоў, у супроцьлегласьць усім патугам трацкістаў даказаць адваротнае, Маркс ужо ў гэту





эпоху геніяльна паставіў пытаньне аб перарастаньні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную.

Ленін ужо ў 1905 годзе выкрыў шулерніцкія прыёмы апартуністаў, адмаўляючых гэты факт у інтарэсах апраўданьня сваёй апартуністычнай анты-марксыцкай тактыкі.

Маркс ведаў, што пралетарыят тады толькі ажыцьцявіць свае задачы, тады выканае сваю гістарычную місію, калі ў авангардзе яго будзе моцная, баявая мэтаімкнёная партыя. Разгорнутая Леніным і Сталіным Марксава тэорыя аб партыі знайшла сваё ажыцьцяўленьне ў вядучай партыі Камуністычнага Інтэрнацыяналу, у славутай і гэраічнай УсеКП(б).

У поўнай адпаведнасьці з паказаньнямі Маркса, тав. Сталін гаворыць:

1) «Дыктатура пралетарыяту можа быць ажыцьцяўлена толькі праз партыю, як яе накіроўваючую сілу;

2) дыктатура пралетарыяту можа быць поўнай толькі ў тым выпадку, калі ёю кіруе адна партыя, партыя камуністаў, якая ня падзяляе і не павінна падзяляць кіраўніцтва з іншымі партыямі;

3) без жалезнай дысцыпліны ў партыі ня могуць быць ажыцьцяўлены задачы дыктатуры пралетарыяту па падаўленьню экспляататараў і перабудове клясавага грамадзтва ў грамадзтва сацыялістычнае».

Маркс быў адным з заснавальнікаў і выдатнейшым тэорэтыкам I Інтэрнацыяналу. Слаўная гісторыя I-га Інтэрнацыяналу непарыўна зьвязана з імёнамі Маркса—Энгельса. Калі I Інтэрнацыянал распаўся, Энгельс пісаў: «Наступны Інтэрнацыянал будзе цалкам камуністычным».

II Інтэрнацыянал не аказаўся гэтым камуністычным міжнародным аб'яднаньнем пралетарыяту. II-гі Інтэрнацыянал здрадзіў сьцягу марксызму, затаптаў яго ў балота апартунізму. Барацьбу клясаў ён падмяніў грамадзкім мірам, пралетарскую дыктатуру буржуазнай дэмократыяй, рэвалюцыю—рэформай, інтэрнацыяналізмам—сацыял-патрыятызмам, дыялектычна матэрыялістычную філёзофію—эклектычнай пахлёбкай з кантыянцтва нео-гегельянцтва, вульгарнага матэрыялізму, адзінства рэвалюцыйнай тэорыі і практыкі—іх разрывам. Ленін ўзьняў затаптаны ў рэвізіяніцкае балота сьцяг навуковага камунізма, сьцяг I-га Інтэрнацыяналу і арганізаваў прадсказаны Энгельсам «цалкам камуністычны Інтэрнцыянал».

«Калі III Інтэрнацыянал глядзіць у бок нізьвяржэньня капіталізму і ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыята, то II Інтэрнацыянал, наадварот, паглядае у бок захаваньня капіталізму і разбурэньня ўсяго таго, што неабходна для ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту. Барацьба паміж двума інтэрнацыяналамі зьяўляецца ідэёвым адлюстраваньнем барацьбы паміж староньнікамі капіталізма і староньнікамі сацыялізма». («Пытаньні ленінізма» І. Сталін).

У шалёнай гістэрыцы, якая зьяўляецца лепшым доказам яе загубленасьці перад тварам эканамічнага краху і ўзрастаючага рэвалюцыйнага ўздыму мас, спрабуе буржуазія палітыкай жалеза і крыві задушыць рабочую клясу.

Тэрорам, разгромам рабочых арганізацый, задушэньнем пралетарскага друку, оргіямі гітлераўскіх банд, фізычным зьнішчэньнем лепшых людзей рабочай клясы імкнецца буржуазія «выкарчаваць марксызм». Адольф Гітлер, гэты даволі запырсканы ўжо пралетарскай крывёю «шут на троне», у бясьсільным шалёнстве супроць ідэолёгіі рэвалюцыйнага пралетарыяту пагражае «задушыць», «растаптаць», «скрамсаць» марксызм. Гітлераўскія малайцы адзначаюць Марксаву гадавіну захопам доміку ў Трыры, у якім нарадзіўся заснавальнік навуковага камунізму і ўзьняцьцем над ім свайго сьцягу—сьцягу крывавай антыпралетарскай, антыкамуністычнай рэакцыі. Але выкарчаваць марксызм, значыць зьнішчыць пралетарыят, ідэалёгіяй якога зьяўляецца рэвалюцыйны марксызм. Ніякай сыстэмай правакацыі і цкаваньня, ніякімі оргіямі жалеза і крыві ня змогуць гэтага дамагчыся разьюшаныя банды фашызму. Адзіны фронт пралетарыята зламае дыктатуру буржуазіі, нанясе сьмяротны ўдар яе апошнім рэзэрвам, і прыдзе час, і над трырскім домікам будзе ўзьняты чырвоны з сярпом і молатам сьцяг сацыялістычнай рэвалюцыі і той, хто над домікам Маркса ўсталяваў фашыскі сьцяг, будзе трымаць адказ перад усегерманскай ЧЭК'а!

Сьвяткуючы Марксаву гадавіну, мы абавязаны выкрыць палітычнае шулерства тых паноў, якія гадамі здраджваючы і прадаючы справу Маркса, гатовы—для таго, каб заваяваць аўтарытэт мас—абвясьціць сябе вучнямі, прадаўжальнікамі і насьледнікамі Маркса. Некалькі год таму назад Савецкі ўрад зьвярнуўся з прапановай перавесьці прах Маркса з Лёндану, дзе ён захоўваецца на Хайгэйцкіх магілках, у Маскву на Чырвоную плошчу, у асяродак сацыялістычнай рэвалюцыі, ажыцьцяўляючай ідэі Маркса.

І тады пан Жан Лёнг, адзін з правадыроў францускай сацыялістычнай партыі, наклаў свае вэта на перавозку астанкаў Маркса ў СССР, наклаў вэта па праву ўнука, які зьяўляецца законным насьледнікам «ўсяго, што належала Марксу», у тым ліку і яго астанкаў. Гэта быў сакрушальны, з пункту гледжаньня буржуазнага права аргумэнт...

Гэта адзіны довад які мог прадставіць у асобе пана Лёнгэ на спадчыну Маркса II Інтэрнацыянал, што апляплены вялікай здрадай пралетарыяту і інтэрнацыяналізму ў гады імпэрыялістычнай вайны, дапамсжнік інтэрвэнтаў супроць краіны пралетарскай дыктатуры, прыхільнік цэргібеляў і гржэзінскіх—катаў германскага пралетарыяту, асінавае гняздо тэарэтычнага рэвізіянізму, апартунізму, сацыял-фашызму. У гэтыя дні будуць жангляраваць імем Маркса і трацкісты. Перадавы атрад контр-рэвалю-

цыйнай буржуазіі мае такое-ж права выступаць у ролі «насьледнікаў» Маркса, як і II Інтэрнацыянал».

Сапраўдным і адзіным насьледнікам Маркса зьяўляецца створаны Леніным і кіруемы Сталіным III Комуністычны Інтэрнацыянал.

Пад сьцягамі, пад лёзунгамі, пад кіраўніцтвам Камінтэрна зьбіраюцца у свой «апошні, рашучы бой» мільёны пралетараў і каленіяльных рабоў.

Пад сьцягамі, пад лёзунгамі, пад кіраўніцтвам Камінтэрна, яго вядучай сэкцыі УсеКП(б) з яе ленінскім ЦК, пераможна закончылі 1-ую пяцігодку пралетары Савецкага Саюзу, пабудавалі фундамэнт сацыялістычнай эканомікі, ламаюць сабатаж разьбітых, але недабітых яшчэ паразытычных клясаў, прыступілі да 2-й пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяськлясава сацыялістычнага грамадзтва.

Да 30-й гадавіны сьмерці Маркса, Ленін пісаў: «Пасьля зьяўленьня марксызму кожная з трох эпох сусьветнай гісторыі прынесла яму новае засьведчаньне і новыя трыумфы. Але яшчэ большы трыумф прынясе марксызму як вучэньню пролетарыята надыходзячая гістарычная эпоха».

Геніяльнае прадбачаньне Леніна цалкам апраўдала сябе. Да 50-й гадавіны з дню сьмерці Маркса, марксызм спраўляе найвялікшы гістарычны трыумф ператварэньня шэрагу яго ідэй у рэчаіснасьць, у краіне пралетарскай дыктатуры, што пераможна закончыла 15 год свайго існаваньня.

Баявы сьцяг Камінтэрна—сьцяг Маркса—Леніна, сьцяг марксызма-ленінізма. У моцных руках Сталіна ён паказвае мільёнам шлях да барацьбы і перамогі.

Ажыцьцяўляць заветы Маркса, пратэндаваць на ганаровае званьне марксыста можа толькі той, хто змагаецца пад гэтым сьцягам.

Дык згуртуем-жа шчыльней шэрагі ў паўвяковую гадавіну з дню сьмерці вялікага настаўніка і правадыра вакол гэтага сьцягу, для таго, каб ён пераможна ўзьняўся і там, дзе пануюць яшчэ драпежнікі, эксплёататары, дзе стогнуць яшчэ нашы браты па клясе.

Больш упарта, больш настойліва вывучаць тэорыю марксызму-ленінізму!

За справу Маркса, за справу Леніна, за сусьветны Камунізм!—

---

# Карл Маркс

**(Да 50-цігодзьдзя з дню сьмерці)**

1. 14-га сакавіка 1933 года спаўняецца паўвеку з дню сьмерці вялікага заснавальніка навуковага камунізму, настаўніка і правадыра міжнароднага пралетарыяту,—К. Маркса (1818-1883).

Яшчэ пры жыцьці Маркса і Энгельса іх рэвалюцыйнае вучэньне атрымала рашучую перамогу над ўсімі разнавіднасьцямі дамарксаўскага сацыялізму. Ужо тады перадавыя рабочыя ўсіх краін бачылі ў Марксе свайго прызнанага настаўніка і правадыра. Ужо тады імя Маркса было для буржуазіі ўсяго сьвету ненавісным сымбалем камуністычнай рэвалюцыі.

З той пары буржуазная навука нязьлічона раз спрабавала «абвергнуць» марксызм, каб ідэёва разброіць пралетарыят, каб ператварыць яго ў палітычны дадатак буржуазіі. Пануючыя клясы нязьлічоную колькасьць разоў спрабавалі «забараніць» марксызм, каб сілай затрымаць рост рэвалюцыйнай клясавай сьвядомасьці пралетараў. Наперакор вучоным лёкаям буржуазіі і напеаркор яе турэмшчыкам, кожная новая ступень клясавай барацьбы прыносіла марксызму новыя пацьверджаньні, новыя перамогі. Сьцяг Маркса стаў сьцягам мільёнаў, што ідуць у бой за рэвалюцыйнае нізьвяржэньне капіталізма, за пралетарскую дыктатуру, за перамогу камунізма ва ўсім сьвеце.

2. «Дыялектыка гісторыі такава, што тэорытычная перамога марксызма прымушае ворагаў яго пераапранацца марксыстамі» (Ленін).[1]). Апартуністы ўсіх відаў і адценьняў прабавалі сказіць вучэньне Маркса, каб дастасаваць яго да патрэб буржуазіі. Яны ставілі за мэту падмяніць баявую тэорыю пралетарскай рэвалюцыі здрадніцкай пропаведзьдзю «мірнага» ўрастаньня ў сацыялізм шляхам буржуазнай «дэмакратыі». Абапіраючыся на рабочую арыстакратыю, падкупленую і разложаную імпэрыялістычнай буржуазіяй, апартуністы дамагліся фактычна панаваньня ў даваенным II Інтэрнацыянале.

Але эпоха імпэрыялізма несла з сабой не «сацыяльны мір», які прапаведвалі здраднікі, а небывалае абвастрэньне клясавых

1) Ленін. Зб. твораў, т. XVI, стар. 332

супярэчаньняў ва ўсім буржуазным сьвеце. Асяродкам сусьветнага рэвалюцыйнага руху стала Расія, таму што тут быў завязаны вузел усіх імпэрыялістычных супярэчаньняў. Авангардам сусьветнае рабочае клясы стаў рускі пралетарыят, кіруемы партыяй бальшавікоў на чале з геніяльным прадаўжальнікам справы Маркса і Энгельса—Ленін ым. «Ленінізм ня толькі адрадзіў марксызм, але ён зрабіў яшчэ крок наперад, разьвіўшы марксызм далей у новых умовах капіталізма і клясавай барацьбы пралетарыяту» (Сталін)[1].

Так склаўся ленінізм-марксызм эпохі імпэрыялізма і пралетарскай рэвалюцыі. Па-за ленінізмам няма і ня можа быць у нашу эпоху сапраўднага марксызму.

3. Роўна 20 год таму назад, у сувязі з 30-ці годзьдзем з дню сьмерці Маркса, Ленін прадсказаў вялікі гістарычны трыумф, які прынясе марксызму надыходзячая гістарычная эпоха.

Гэта прадсказаньне збываецца на нашых вачох. Устанавіўшы ў кастрычніку 1917 году ўладу Саветаў у гераічнай барацьбе супроць рускіх капіталістаў, абшарнікаў, кулакоў, супроць інтэрвэнтаў, супроць II Інтэрнацыяналу, адкрыта перайшоўшага на бок контр-рэвалюцыйнай буржуазіі; ва ўпартай барацьбе супроць агентаў клясавага ворага, апартуністаў правага і «левага» толку,—партыя бальшавікоў пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна адстаяла і ўмацавала пралетарскую дыктатуру і пабудавала фундамэнт сацыялістычнага грамадзтва. СССР — ажыцьцяўленьне справы Маркса. Перамога 1-й пяцігодкі — найвялікшы сусьветна-гістарычны трыумф марксызма.

І па тэй бок савецкіх межаў справа Маркса мацнее і перамагае. Нябачаны эканамічны крызіс патрасае ўстоі капіталістычнага грамадзтва. Буржуазны сьвет на парозе новага тура рэвалюцый і войн. Створаны Леніным Камуністычны Інтэрнацыянал вядзе мільёныя масы рабочых, працоўных, каленіяльных рабоў на новы штурм капіталізму.

## Галоўнае ў марксызьме—вучэньне аб дыктатуры пралетарыята

4. Маркс і Энгельс выпрацавалі аснову сваей рэвалюцыйнай тэорыі ў 40-х г.г. мінулага стагодзьдзя. Ужо тады яны заявілі, што справа рабочае клясы—ня толькі зразумець і растлумачыць сьвет, але і перайначыць яго. Марксызм—непарыўнае адзінства рэвалюцыйнай тэорыі і рэвалюцыйнай практыкі. Геніяльна абагульніўшы, крытычна перапрацаваўшы ўвесь гістарычны вопыт прыгнечаных клясаў, Маркс даў пралетарыяту непернагражную

[1]) Сталін. Пытаньні ленінізму, выд. 9, стар. 6.

зброю ў барацьбе супроць яе клясавых ворагаў, у барацьбе за ўстанаўленьне сваёй дыктатуры, за перамогу сацыялізму.

Вучэньне Маркса «узьнікла як простае і непасрэднае прадоўжаньне вучэньня найвялікшых прадстаўнікоў філёзофіі, палітычнай эканоміі і сацыялізму. Вучэньне Маркса ўсемагутна, таму што яно праўдзіва. Яно поўна і стройна, даючы людзям цэльнае сьветасузіраньне, няпрымірымае ні з якімі забабонамі, ні з якой абаронай буржуазнага ўціску. Яно ёсьць законны ўспрыемнік лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX стагодзьдзі ў асобе нямецкай філёзофіі, ангельскай палітычнай эканоміі, французскага сацыялізма» (Ленін)[1].

Яшчэ задоўга да Маркса зьявіліся людзі, што марылі аб такім ладзе, дзе ня было-б эксплёатацыі і ўціску. Але толькі Маркс ператварыў сацыялізм з лятуценьняў гэтых адзінак—утапістаў у навуку. Маркс упяршыню адкрыў і дасьледваў закон руху капіталістычнага грамадзтва; ён давёў, што капіталістычнае разьвіцьцё няўхільна вядзе да пралетарскай рэвалюцыі. Маркс навукова давёў, што «паміж капіталістычным і камуністычным грамадзтвам ляжыць пэрыяд рэвалюцыйнага ператварэньня першага ў другое. Гэтаму пэрыяду адпавядае, і палітычны пераходны пэрыяд, і дзяржава гэтага пэрыяду ня можа быць ні чым іншым, апрача як РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ДЫКТАТУРАЙ ПРАЛЕТАРЫЯТА»[2].

5. Галоўнае ў марксызьме—вучэньне аб дыктатуры пралетарыяту. «Што тычыцца мяне,—пісаў Маркс у 1852 г.,—то мне не належыць ні тая заслуга, што я адкрыў існаваньне клясаў у сучасным грамадзтве, ні тое, што я адкрыў іх барацьбу між сабою... тое, што я зрабіў новага, складалася ў доказе наступнага: 1) што існаваньне клясаў мае сувязь толькі з пэўнымі гістарычнымі бойкамі, уласьцівымі разьвіцьцю вытворчасьці, 2) што клясавая барацьба неабходна вядзе да дыктатуры пралетарыята, 3) што гэта дыктатура сама састаўляе толькі пераход да зьнішчэньня ўсялякіх клясаў і да грамадзтва бяз клясаў...»[3].

Вучэньне Маркса аб дыктатуры пралетарыята непарыўную мае сувязь з яго вучэньнем аб пралетарскай рэвалюцыі. Маркс давёў, што апрача пралетарскай рэвалюцыі няма другога шляху да дыктатуры рабочае клясы. «Мірнае» разьвіцьцё да сацыялізму немагчыма, таму што буржуазія не аддасьць бяз барацьбы сваю палітычную і эканамічную ўладу. Неабходна пераможнае ўзброенае паўстаньне, нямінуча грамадзянская вайна, каб пралетарыят, што кіруецца камуніс-

1) Ленін. Зб. твораў, т. XVI, стар. 349.
2) Маркс. Крытыка Гоцкай праграмы. 1932 стар. 43.
3) Маркс. Ліст да Вэйдэмэйера ад 5 сакавіка 1852 г. (гл. Маркс і Энгельс. Лісты, пад рэд. Адарацкага, стар. 68.)

тычнай партыяй, узначальваючы рэволюцыйныя масы працоўных і прыгнечаных, сілай нязрынуў палітычнае панаваньне буржуазіі і ўстанавіў сваю дыктатуру.

Заваяваньне ўлады пралетарыятам не азначае, што дзяржаўны апарат проста пераходзіць з рук буржуазіі ў рукі рабочых. Маркс сьцьвярджаў, што бюрократычна-ваенная машына буржуазнае дзяржавы павінна быць разьбіта, зламана рэвалюцыяй і заменена пралетарскай дзяржавай.

На працягу дзесяткаў год Маркс абгрунтоўваў, разьвіваў, абараняў супроць рэфармістаў і анархістаў сваё вучэньне аб пралетарскай дыктатуры і дыктатуры пралетарыяту. Ён падвяргаў бязьлітаснай крытыцы ілюзіі «сацыял-філёнтропаў» аб тым, што пануючы пралетарыят ня будзе нібыта мець патрэбы ва ўжываньні рэвалюцыйнага гвалту. Дыктатура патрэбна пралетарыяту для таго, каб падаўляць супраціўленьне эксплёататараў, каб ліквідаваць эканамічныя асновы існаваньня клясаў.

«Гэта значыць,—пісаў Маркс,—што пакуль існуюць яшчэ іншыя клясы, у асаблівасьці кляса капіталістычная, пакуль пралетарыят з ёй змагаецца (бо калі ён прыходзіць да ўлады не зьнікаюць яшчэ яго ворагі, не зьнікае стары грамадзкі лад), ён павінен ужываць сродкі гвалту, бо гвалт—сродак для кіраваньня; калі ён сам яшчэ застаецца кляcай і калі ня зьніклі яшчэ эканамічныя ўмовы, на якіх грунтуецца клясавая барацьба, г. зн. існаваньне клясаў, яны павінны быць гвалтоўна зьнішчаны і перароблены, працэс іх пераробленьня павінен быць гвалтоўна паскораны» [1]).

6. Эпоха, калі жыў і змагаўся Маркс, была (да пачатку 70-х г.г.) эпохай завяршэньня буржуазных рэвалюцый. Але ўжо чартыскі рух у Ангельшчыне 40-х г.г. і паўстаньне парыскіх рабочых у чэрвені 1848 году былі магутнымі спробамі пралетарыяту пахістаць асновы капіталістычнага ладу; Парыская Камуна 1871 г. адкрыла новую гістарычную эпоху, калі галоўныя краіны Захаду пакончылі з буржуазнымі рэвалюцыямі, эпоху падрыхтоўкі да новых вялікіх боек за пралетарскую дыктатуру.

Маркс абгрунтаваў тэарытычна і паказаў на справе, якава павінна быць стратэгія і тактыка рабочае клясы ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Маркс і Энгельс з усёй сілай падкрэсьлівалі значэньне пытаньня аб саюзьніках пралетарыята ў гэтай барацьбе—аб сялянстве і нацыянальна-рэвалюцыйным руху. Крытыкуючы нерашучасьць, палавінчатасьць, непасьлядоўнасьць усіх кірункаў буржуазнай дэмакратыі, Маркс давёў, што справа пралетарыята—узначаліць народнае паўстаньне супроць прыгоньнікаў—абшарнікаў, давесьці да канца буржуазна-дэмакратычны пераварот, бязьлітасна, па-

[1]) Маркс. „Бакунін. Дзяржаўнасьць і анархія“ (гл. Летапісы марксызма, вып. II, стар. 93).

плебэйску расправіцца з рэшткамі фэадалізму і тым самым расчысьціць глебу для далейшай барацьбы супроць буржуазіі, адкрыць шлях для сацыялістычнай рэвалюцыі. «Маркс і Энгельс далі асноўныя наброскі ідэі гегемоніі пралетарыята» (Сталін) [1]).

«У той час, як дэмакратычныя дробныя буржуа, — пісаў Маркс,—хочуць... найбольш быстра закончыць рэвалюцыю, нашы інтарэсы і нашы задачы заключаюцца ў тым, каб зрабіць рэвалюцыю няспыннай да тых часоў, пакуль усё больш ці менш маёмасныя клясы ня будуць пазбаўлены ад панаваньня, пакуль пралетарыят не заваюе дзяржаўнай улады, пакуль асацыяцыі пралетараў ня толькі ў аднэй краіне, але і ва ўсіх пануючых краінах сьвету не разаўюцца настолькі, што канкурэнцыя паміж пралетарамі гэтых краін спыніцца, і пакуль, прынамсі, рашаючыя вытворчыя сілы ня будуць сканцэнтраваны ў руках пралетараў» [2]).

Іншымі словамі, Маркс прапанаваў выкарыстаць да дна рэвалюцыйную энэргію найшырэйшых народных мас, каб, дамогшыся перамогі над усімі эксплёататарамі, устанавіць дыктатуру пралетарыята.

7. Маркс упяршыню паказаў аграмадную ролю працоўнага сялянства, як найважнейшага саюзьніка пралетарыята на ўсіх этапах яго рэволюцыйнай барацьбы. «Я ўсё яшчэ пераконваюся,—пісаў Маркс у 1851 годзе Энгельсу,—што пераробка сельскай гаспадаркі і асновай на ёй уласьніцкай мерзасьці павінна стаць альфай і омэгай будучага перавароту» [3]). «Уся справа ў Германіі будзе залежыць,—пісаў Маркс ў 1856 г.,—ад магчымасьці падтрымаць пралетарскую рэвалюцыю якім-небудзь другім выданьнем сялянскай вайны» [4]).

Маркс геніяльна ўскрыў двуісную прыроду селяніна, у якім змагаюцца працоўны і ўласьнік, «развага» і «забабоны», «будучыня» і «мінулае». Маркс навукова давёў нямінучасьць расплставаньня сялянства ва ўмовах капіталізму, вылучэньня эксплёататарскай верхавінкі вёскі—сялянскай буржуазіі, і растучага зьбядненьня эксплёатуемых мас, для якіх капіталізм—вампір, «высасваючы кроў, сэрца і мозаг галавы» [5]). «Сяляне таму знаходзяць сабе натуральнага саюзьніка і правадыра ў гарадзкім пралетарыяце, які заклікаты нізрынуць буржуазны лад» [6]) (Маркс).

Маркс і Энгельс вызначылі шляхі прыцягненьня гэтых асноўных мас сялянства на бок пралетарскай рэвалюцыі. Пралетарыят «павінен у якасьці ўраду прымаць меры, дзякуючы якім селянін непасрэдна па-

1) Сталін. Пытаньні ленінізму выд. 9, стар. 265.
2) Маркс і Энгельс. Зб. твораў, т. VIII, стар, 483.
3) Маркс і Энгельс. Зб. твораў, т. XXI, стар. 249.
4) Маркс і Энгельс. Зб. твораў, т. XXII, стар. 139.
5) Маркс і Энгельс. Зб. твораў, т. VIII стар. 409.
6) Маркс і Энгельс. Там-жа.

лепшае сваё становішча і сам пераходзіць на бок рэвалюцыі; аднак гэта такія мерапрыемствы, якія ў аснове палягчаюць пераход ад прыватнай уласнасьці на зямлю да ўласнасьці грамадзкай, так што селянін эканамічна сам даходзіць да гэтага» (Маркс) [1]).

З бліскучай яскравасьцю Маркс і Энгельс прадсказалі гіганцкую ролю буйнага сацыялістычнага земляробства і калектыўных форм гаспадаркі пры пераходзе ад капіталізма да сацыялізму. «Што пры пераходзе да камуністычнай гаспадаркі,—пісаў Энгельс, нам прыдзецца ў шырокіх памерах ужываць у якасьці прамежнага зьвяна каапэрацыйную вытворчасьць, у гэтым Маркс і я ніколі ня сумняваліся. Справа павінна быць пастаўлена так, каб грамадзтва—значыцца, у першыя часы дзяржава—утрымала за сабой уласнасьць на сродкі вытворчасьці і такім парадкам прыватныя інтарэсы каапэрацыйнага таварыства не маглі-б узяць верх над інтарэсамі ўсяго грамадзтва ў цэлым» [2]). «Справа ідзе аб перадачы—спачатку на арэндных пачатках—буйных маёнткаў самастойным каапэрацыйным таварыствам, якія вядуць гаспадарку пад кіраўніцтвам дзяржавы і пры тэй умове, што дзяржава застаецца ўласьнікам зямлі. Гэта мерапрыемства мае тую большую перавагу, што будучы па сутнасьці практычна ажыцьцявімым, яно ня можа быць пушчана ў ход ні аднэй партыяй, апрача нашай...» [3]).

8. Маркс вызначыў асновы рэвалюцыйна-пралетарскай палітыкі ў нацыянальна-каленіяльным пытаньні.

На прыкладзе Ірляндыі, што зьняволена ангельскімі капіталістамі, Польшчы, якая стагнала пад бізуном царскай Расіі, на прыкладзе Італіі і Вэнгрыі, Кітаю і Індыі, Маркс і Энгельс далі клясычныя ўзоры пасьлядоўна-рэвалюцыйнага інтэрнацыяналізму. Маркс гаварыў, што ня можа быць вольным народ, прыгнятаючы іншыя народы. Разглядаючы нацыянальна-каленіяльнае пытаньне, як падпарадкаванае інтарэсам пралетарскай рэвалюцыі, Маркс і Энгельс надавалі аграмаднае значэньне нацыянальна-рэвалюцыйнаму руху. Яны бязьлітасна змагаліся супроць нацыяналізма і шавінізма ў шэрагах рабочае клясы, супроць неразуменьня пралетарыятам вялікадзяржаўных нацый, яго сацыялістычных абавязкаў у адносінах да прыгнечаных народаў.

9. Маркс і Энгельс геніяльна прадбачылі шлях разьвіцьця ад капіталізму да камунізма. «Уся тэорыя Маркса,—пісаў Ленін,—ёсьць прымяненьне тэорыі разьвіцьця—у яе найбольш пасьлядоўнай поўнай, прадуманай і багатай зьмес-

---

1) Маркс. „Бакунін:“ „Дзяржаўнасьць і анархія“ (гл. Летапісы марксызма, вып. II, стар. 93).

2) Энгельс. Ліст Бебелю ад 20 студзеня 1886 г. (гл. арх. Маркса і Энгельса, т. I (VI) стар. 329.

3) Энгельс. т. I стар. 328.

там форме—да сучаснага капіталізму». Натуральна, што для Маркса паўстала пытаньне аб прыстасаваньні гэтай тэорыі і да прадбудучага краху, краху капіталізма і да будучага разьвіцьця будучага камунізма[1]).

Маркс вызначаў асноўныя фазы гэтага «будучага разьвіцьця». У першай фазе камуністычнага грамадзтва, якое называецца звычайна сацыялізмам, пануе прынцып: за аднолькавую колькасьць працы—аднолькавую колькасьць прадуктаў. «Мы маем тут справу,—пісаў Маркс,—не з такім камуністычным грамадзтвам, якое разьвілося на сваёй уласнай аснове, а з такім, якое толькі што выходзіць якраз з капіталістычнага грамадзтва і якое таму ва ўсіх адносінах, у эканамічным, маральным і разумовым, носіць яшчэ адбітак старога грамадзтва, з нетраў якога яно вышла»[2]). Маркс ня сумняваўся, што ў гэты пэрыяд пролетарская дыктатура павінна будзе весьці рашучую і бязьлітасную барацьбу з рэштками эксплёататарскіх клясаў. Маркс і Энгельс неаднократна пісалі аб тым, што гэты пэрыяд будзе сур'ёзнай школай для самой перамогшай клясы. «Рэвалюцыя неабходна ня толькі таму, што ніякімі іншым способам нельга зрынуць пануючую клясу, але і таму, што скідаючая кляса толькі ў рэвалюцыі можа пазбавіцца ад усяго старога паскудзтва і стаць здольнай стварыць новае грамадзтва» (Маркс і Энгельс)[3]).

10. «На вышэйшай фазе камуністычнага грамадзтва,—гаварыў Маркс,—пасьля таго, як зьнікне зьнявальняючае чалавека падпарадкаваньне яго падзелу працы; калі зьнікне разам з гэтым супроцьлегласьць разумовае і фізычнае працы; калі праца перастане быць толькі сродкам для жыцьця, а стане самай першай патрэбнасьцю жыцьця, калі разам з усебаковым разьвіцьцём індывідуума вырастуць і прадукцыйныя сілы і ўсе крыніцы грамадзкага багацьця паліюцца поўным патокам,—толькі тады можна будзе зусім перамагчы вузкі гарызонт буржуазнага права, і грамадзтва зможа напісаць на сваім сьцягу: «Кожны па здольнасьцях, кожнаму па патрэбнасьцях»[4]).

Але гэтая вышэйшая фаза камунізму можа быць дасягнута толькі пасьля таго, калі будзе канчаткова пераможана супраціўленьне «тунеядцаў, барычоў, машэньнікаў і ім падобных» «ахоўнікаў традыцый капіталізма»[5]). «Неабходнасьць» трымацца нескладаных, асноўных правіл ўсялякага чалавечага сужыцьця вельмі хутка стане прывычкай. І тады будуць адкрыты наўсьцяж дзьверы да пераходу ад першай фазы комуні-

[1]) Ленін. Зб. твораў, т. XXI, стар. 427—428.
[2]) Маркс. Крытыка Гоцкай програмы. 1932 г. стар. 28.
[3]) Маркс. і Энгельс. Зб. твораў т. IV, стар. 60.
[4]) Маркс, Крытыка Гоцкай праграмы 1932 г. стар. 28.
[5]) Ленін. Збор твораў, т. XXI, стар. 441

стычнага грамадзтва да вышэйшай яго фазы, а разам з тым да поўнага адміраньня дзяржавы[1]) (Ленін).

11. Вучэньне аб дыктатуры пралетарыята аб пераходзе ад капіталізма да камунізма, складае рэвалюцыйную сутнасьць марксызма. Менавіта таму рэнегаты марксызма абралі гэта вучэньне галоўным прадметам сваёй фальсыфікатарскай дзейнасьці. Імкнучыся намаляваць Маркса буржуазным лібэралам, яны заявілі, што самы тэрмін «дыктатура пралетарыята» зьяўляецца ў Маркса «выпадковым слоўцам» (Каўцкі). У барацьбе з рэнэгатамі і фальсыфікатарамі Ленін разьвіў марксава вучэньне аб пралетарскай дыктатуры і ўзьняў яго на вышэйшую ступень. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна бальшавіцкая партыя ператварыла гэта вучэньне ў жыцьцё.

## Філёзофія марксызма—дыялектычны матэрыялізм

12. Дыялектычны матэрыялізм зьяўляецца філёзофскай асновай марксызма. Дыялектычны матэрыялізм—філёзофія рэвалюцыйнага пралетарыяту, вострая зброя ў барацьбе за дыктатуру рабочае клясы, за пабудаваньне камунізма.

Пачынаючы з 1844-45 г.г. Маркс і Энгельс самым рашучым чынам адстойвалі матэрыялізм, вядучы няпрымірымую барацьбу супроць ідэалізма і ўсялякіх уступак яму (Баўэр, Штырнэр, Прудон, Ляссаль, Дзюрынг і інш.). Абнажыўшы клясавую сутнасьць буржуазных філёзофскіх сыстэм Маркс даказаў, што ідэалізм заўсёды так ці інакш мае сувязь з рэлігіяй. Матэрыялізм Маркса ёсьць ваяўнічы атэізм. Марксызм узбраяе пралетарыят у яго барацьбе супроць рэлігіі, ускрываючы гістарычныя ўмовы ўзьнікнаваньня рэлігіі, яе клясавыя карэньні і сацыяльна-эканамічныя прадпасылкі яе зьнішчэньня. Усе сучасныя рэлігіі марксызм разглядае як зброю ў руках эксплёататарскіх мас. «Рэлігія—опіум для народа»(Маркс)[2]).

13. Маркс перасіліў асноўныя недахопы старога матэрыялізму (француські матэрыялізм XVIII стагодзьдзя, філёзофія Фэйербаха), яго мэханістычнасьць, негістарычнасьць, абстрактнасьць, сузэрцальнасьць; ён узбагаціў матэрыялізм дыялектыкай—найвялікшым набыцьцём нямецкай клясычнай філёзофіі. Але Маркс ня проста пераняў у Гегеля дыялектыку, а карэнным чынам перапрацаваў яе, «паставіў яе з галавы на ногі» (Энгельс[3]). Дыялектыка Гегеля—ідэалістычная дыялектыка; марксаав дыялектыка ёсьць матэрыялістычная дыялектыка.

Матэрыялістычная дыялектыка — рашаючае ў марксызьме. «Прыстасаваньне матэрыялістычнай дыялектыкі да

[1]) Ленін, Збор твараў, т. XXI стар. 441.
[2]) Маркс і Энгельс Зб. твораў, т. I стар. 399.
[3]) Энгельс, Людзіг Фэйербах, 1932 г. стар. 41.

перааапрацоўкі ўсей палітычнай эканоміі, з заснаваньня яе,—да гісторыі, да прыродазнаўства, да філёзофіі, да палітыкі і тактыкі рабочае клясы,—вось што больш за ўсё цікавіць Маркса і Энгельса, вось у чым яны ўносяць найбольш істотнае і найбольш новае, вось у чым іх геніяльны крок наперад у гісторыі рэвалюцыйнай мысьлі» (Ленін) [1]).

Дыялектыка—самае ўсебаковае, самае зьмястоўнае, самае глыбокае вучэньне аб разьвіцьці. Дыялектычнае разуменьне разьвіцьця карэнным парадкам адрозьніваецца ад вульгарнай ідэі эвалюцыі. Паводле Маркса, разьвіцьцё як-бы паўтарае ўжо пройдзеныя ступені, але паўтарае іх на больш высокай базе («адмаўленьне адмаўленьня»); яно ідзе праз «перарывы паступовасьці», ператварэньня колькасьці ў якасьці; разьвіцьцё супярэчліва, скачкавіта, рэвалюцыйна.

Матэрыялістычная дыялектыка «устаноўчае разуменьне існуючага ўключае ў той-жа час разуменьне яго адмаўленьня, яго неабходнай гібелі; кожную зьдзейсьненую форму яна разглядае ў руху, значыцца, таксама і з яе пераходзячай стараны, бо яна не перад чым не прыгінаецца і па самой сутнасьці сваёй крытычна і рэволюцыйна» (Маркс) [2]).

14. Маркс пасьлядоўна пашырыў матэрыялізм на галіну грамадзкіх зьяў. Маркс давёў, што рэальнай асновай грамадзтва зьяўляеца яго эканамічная структура.

«Спосаб вытворчасьці матэрыяльнага жыцьця,—пісаў Маркс,— абумоўляе сацыяльны, палітычны і духоўны працэсы жыцьця наогул. Не сьвядомасьць людзей вызначае іх быцьцё, а, наадварот, іх грамадзкае быцьцё вызначае іх сьвядомасьць» [3]). «Са зьмяненьнем эканамічнай асновы больш альбо менш быстра адбываецца пераварот ва ўсёй грамадзкай надбудове» [4]).

Аднак, як паказаў Маркс, грамадзкая сьвядомасьць застаецца ад грамадзкага быцьця («сава Мінэрвы вылятае ўначы»). Перажыткі старога грамадзтва ў сьвядомасьці людзей не зьнікаюць аўтаматычна разам з зьнішчэньнем старога грамадзкага ладу. Гэтыя перажыткі становяцца сілай супраціўленьня новаму грамадзтву і могуць быць пераможаны толькі ва ўпартай барацьбе.

Абстрактным буржуазным вучэньнем аб «грамадзтве наогул» Маркс супрацьпаставіў навуку аб гістарычна-канкрэтных грамадзка-эканамічных фармацыях, іх узьнікненьні, разьвіцьці і пагібелі. Барацьба клясаў, якая дасягае вышэйшай ступені ў рэвалюцыі, зьяўляецца, па Марксу, рухаючай сілай усёй чалавечай гісторыі пасьля распаду першабытнай абшчыны. Гістарычны матэрыялізм Маркса ўскрыў усе супярэчнасьці,

---

1) Ленін. Збор твораў, т. XXVII, стар. 30.
2) Маркс. „Капітал“ т. I 1931 г., стар. XXIII.
3) Маркс. Да крытыкі палітычнай эканоміі 1933 г. стар. 42.
4) Маркс. Там-жа стар. 43.

усе формы антаганізма і эксплёатацыі ў капіталістычным грамадзтве; ён даказаў пераходзячы характар капіталізма і немінучасьць сацыялістычнай рэвалюцыі.

15. Дыялектычны матэрыялізм Маркса непарыўна спалучае ў сабе строгую навуковасьць з пралетарскай рэвалюцыйнасьцю. Маркс і Энгельс ад пачатку і да канца былі клясавымі і значыць—партыйнымі ў філёзофіі. Сацыял-дэмакратыя, здрадзіўшы пралетарскай рэвалюцыі, адкінула дыялектычны матэрыялізм. Стаўшы галоўнай сацыяльнай апорай буржуазіі, яна зьяўляецца таксама і перадавым атрадам ваяўнічага антымарксызму. Сацыял-дэмакратыя абвяшчае філёзофію марксызма «устарэўшай», замяняе яе адкідамі рэакцыйных ідэалістычных сыстэм (нэо-кантыянцтва, махізм, нэо-гегелянцтва і інш.). Сацыял-дэмакраты ўсяляк выпустошваюць і фальсыфікуюць рэвалюцыйную дыялектыку Маркса, замяняючы яе вульгарным эвалюцыянізмам, мэханіцызмам і сафістыкай. У барацьбе супроць ідэалізма і папоўшчыны, супроць мэханістычнага матэрыялізма, у барацьбе на два франты з філёзофскім рэвізіянізмам ўсіх масьцей Ленін узьняў на новую ступень дыялектычны матэрыялізм Маркса.

Матэрыялістычная дыялектыка Маркса і Леніна зьяўляецца вастрэйшай зброяй УсеКП(б) і Камінтэрна ў барацьбе за пралетарскую дыктатуру, за сацыялізм.

## Эканамічнае вучэньне Маркса

16. Эканамічнае вучэньне Маркса зьяўляецца «найбольш глыбокім, усебаковым і дэталёвым пацьверджаньнем і прымяненьнем тэорыі Маркса» (Ленін) [1].

Галоўная праца ў жыцьці Маркса—яго геніяльны твор «Капітал», «З тых часоў, калі на зямлі існуюць капіталісты, і рабочыя,—пісаў Энгельс,—ня было яшчэ ніводнай кнігі, якая мела-б такое значэньне для рабочых» [2]).

Маркс ускрыў сутнасьць капіталізма як гістарычна праходзячай грамадзкай формы, адкрыў закон руху капіталізма, закон яго ўзьнікнавеньня, разьвіцьця і пагібелі. Маркс паказаў пралетарыяту яго гістарычную місію— зьнішчэньне капіталістычнай эксплёатацыі і ўсякай эксплёатацыі наогул.

Маркс адкрыў асноўны закон таварна-капіталістычнае вытворчасьці—закон вартасьці. У «Капітале» Маркс пачаў свой аналіз капіталізма з яго прасьцейшай «клетачкі»—тавару. Маркс даказаў, што ўсе супярэчнасьці капіталізму ў зародкавай форме заключаны ўжо ў гэтай прасьцейшай «клетачцы» буржуазнага грамадзтва. У далейшым кладаньні Маркс паказаў

[1]) Ленін. Зб. твораў, т. XXIII, стар. 15.
[2]) Энгельс. Аб „Капітале" Маркс 1933 г. стар. I.

разьвіцьцё гэтых супярэчаньняў і разьвіцьцё капіталізма ў цэлым. Марксава тэорыя вартасьці раскрыла таямніцу тварнага фэтышызму, «містыцызм тварнага сьвету», што захоўваў сапраўдныя адносіны паміж людзьмі ў капіталістычным грамадзтве.

17. Краевугольным каменем эканамічнай тэорыі Маркса зьяўляецца вучэньне аб дадатковай вартасьці. Вучэньне аб дадатковай вартасьці і яе формах (адноснай і абсалютнай) ускрывае прыроду капіталістычнай эксплёатацыі. Яно паказвае ўсю глібіню супярэчаньняў паміж рабочай кляcай і буржуазіяй, асноўнага супярэчаньня буржуазнага ладу, якое, нямінуча абвастраючыся, вядзе гэты лад да пагібелі і да замены яго сацыялістычным ладам.

Адкрыўшы ўсеагульны закон капіталістычнага накапленьня, Маркс паказаў, як накапленьне капіталу вядзе да таго, што на адным полюсе згрупоўваецца ўсё большае багацьце, а на другім—усё большае ўбоства; як усе мэтады падвышэньня грамадзкай прадукцыйнай сілы працы пры капіталізма—рэзэрвовая армія працы; як адбываецца няўхільнае увесь час рабочага ў рабочы час, выкідаюць яго жонку і дзяцей пад калясьніцу капітала; як узьнікае нямінучы спадарожнік капіталізма—рэзэрвная армія працы; як адбываецца няўхільнае ва ўмовах капіталізма абсалютнае зьбядненьне пралетарыяту.

Марксаў аналіз накапленьня капіталу паказаў нямінучасьць канцэнтрацыі і цэнтралізацыі капіталу, нямінучасьць размываньня прамежных груп—дробных самастойных вытворцаў, нямінучасьць паглыбленьня бяздоньня паміж буржуазіяй і пралетарыятам. Ускрыўшы сутнасьць зямельнай рэнты (абсалютнай і дыфэрэнцыяльнай) і ўласьціўасьць працэсу разьвіцьця капіталізма ў земляробстве, Маркс давёў, што пры капіталізьме «эксплёатацыя сялян адрозьніваецца ад эксплёатацыі прамысловага пралетарыята толькі па форме», што капіталістычны спосаб вытворчасьці нясумяшчальны з сапраўды рацыянальнай апрацоўкай зямлі, што адставаньне сельскай гаспадаркі і паглыбленьне супярэчаньняў паміж горадам і вёскай зьяўляецца нямінучым спадарожнікам капіталізма.

18. Маркс упяршыню даў аналіз ўзнаўленьня (воспроизводства—рэд.) грамадзкага капітала, ўзятага цалкам. Маркс давёў нямінучасьць пэрыядычных крызісаў пры капіталізьме і паказаў, што крызісы карэняцца ў самой сыстэме капіталізма, што ў аснове крызісаў ляжыць супярэчаньне паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватнакапіталістычнай формай прысваеньня. Гэта супярэчнасьць праяўляецца ў анархіі вытворчасьці, асабліва ярка выступаючай у час крызісу. Крызісы прадстаўляюць сабой «рэальнае спалучэньне і гвалтоўнае выраўніваньне ўсіх супярэчаньняў буржуазнай эканомікі» (Маркс)[1]. Крызісы

[1]) Маркс Тэорыя дадатковай вартасьці, т. II, ч. 2, 1933 г. стр. 186.

выразна сьведчаць аб тым, што «буржуазныя адносіны аказваюцца вельмі вузкімі каб умясьціць створанае імі багацьце» [1]).

Увесь гістарычны ход разьвіцьця капіталізма аж да сучаснага, грандыёзнага па маштабу і размаху крызісу, які разгортваецца на базе ўсеагульнага крызісу капіталізма, поўнасьцю падцьвердзіў прароцкія словы Маркса аб гістарычнай тэндэнцыі капіталістычнага накапленьня: «Поруч з пастаянным зьмяншэньнем ліку магнатаў капітала... расьце маса жабрацтва, гнёту, зьняволеньня, выраджэньня і эксплёатацыі, але разам з тым расьце і абурэньне рабочае клясы, якая няспынна павялічаецца, вышкалена, аб'яднана і арганізавана самым мэханізмам капіталістычнага працэсу вытворчасьці. Манаполія капіталу становіцца кайданамі таго спосабу вытворчасьці, які разам з ёй і дзякуючы ёй дасягнуў росквіту. Цэнтралізацыя сродкаў вытворчасьці і абагульненьня працы дасягаюць узроўню, пры якім яны становяцца нясумяшчальнымі з іх капіталістычнай абалонкай. Апошняя разрываецца. Б'е час капіталістычнай прыватнай уласнасьці. Экспрапрыятараў экспрапрыіруюць» [2]).

19. У нашу эпоху, эпоху загніваючага і паміраючага капіталізма, час капіталістычнай уласнасьці прабіў; экспрапрыятары ўжо экспрапрыяваны на 1/6 частцы зямлі. Капіталізм, выканаўшы сваю гістарычную місію, ператварыўся ў кайданы для далейшага разьвіцьця. Банкруцтва капіталізма выступае асабліва выразна ў сьвятле найвялікшых посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва СССР, якія навочна дэманструюць перавагі сацыялістычнай плянавай сыстэмы гаспадаркі перад анархіяй капіталістычнай вытворчасьці.

Банкруцтва капіталізма ня ў сілах замаўчаць зараз нават самі апалёгэты капітала, у тым ліку сацыял-дэмакраты, якія сьцьвярджаюць на ўсе лады пра неабходнасьць «спалучыць» плянавасьць з капіталізмам. Няма такога зьвяна ў марксавым эканамічным вучэньні, якое сацыял-дэмакраты не спрабавалі-б абвясьціць «устарэўшым», сказіць і апашліць у імя абароны капіталізма. Спробы ІІ-га Інтэрнацыяналу «абвергнуць» вучэньне Маркса аб немінучай пагібелі буржуазнага грамадзтва знаходзяць сваё выражэньне ў здрадніцкай тэорыі «арганізаванага капіталізма» і ўрастаньні ў сацыялістычнае грамадзтва праз дзяржкапіталізм.

У барацьбе з простымі і скрытымі апалёгэтамі капіталізма Ленін—разьвіў эканамічную тэорыю Маркса і ўзбагаціў яе вучэньнем аб імпэрыялізьме, як вышэйшай і апошняй стадыі капіталізму. Эканамічная тэорыя Маркса і Леніна зьяўляецца непа-

---

[1]) Маркс і Энгельс. Маніфэст Камуністычнай Партыі 1933 г. стар. 21.
[2]) Маркс. „Капітал" т. I, 1932 г. стар. 613.

хіснай навуковай асновай стратэгіі і тактыкі пралетарыята, што нізрынуў панаваньне капітала і стварае новае, сацыялістычнае грамадзтва.

## Маркс—заснавальнік і правадыр міжнароднай камуністычнай партыі

20. «Маркс быў перш за ўсё — рэвалюцыянэр... Яго стыхіяй была барацьба» (Энгельс)[1]). Маркс ня толькі ўпяршыню даў навуковую аснову міжнароднаму рабочаму руху, але і быў яго першым правадыром і арганізатарам.

З 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя Маркс і Энгельс вялі ўпартую барацьбу за стварэньне і ўмацаваньне камуністычнай партыі—авангарда пралетарыята, узброенага рэвалюцыйнай тэорыяй, уладаючага стратэгіяй і тактыкай клясавай барацьбы.

Маркс быў арганізатарам і правадыром першай пралетарскай партыі—«Саюза Камуністаў». У «Маніфэсьце Камуністычнай Партыі» (1848) Маркс і Энгельс абвясьцілі, што пралетарыят ня можа дамагчыся свайго вызваленьня бяз кіраўніцтва партыі—«самай рашучай заўсёды пабуджаючай да руху наперад часткі» рабочае клясы, якая ясьней і глыбей ад другіх бачыць «умовы, ход і агульныя рэзультаты пралетарскага руху, якая імкнецца да «заваяваньня пралетарыятам палітычнай улады» і да «ліквідацыі прыватнай уласнасьці». «Ніколі яшчэ ні адна тактычная праграма,—пісаў у 1885 г. Энгельс аб «Маніфэсьце»,—неапраўдвалася ў такой меры, як гэта. Высунутая напярэдадні рэвалюцыі, яна вытрымала іспыт гэтай рэвалюцыі; з тых часоў кожны, раз, калі якая-небудзь рабочая партыя адступала ад яе ў сваёй дзейнасьці, яна расплачвалася за кожнае адступленьне. І цяпер, амаль пасьля 40 год, яна служыць кіруючай ніцьцю для ўсіх рашучых сьвядомых рабочых партый Эўропы ад Мадрыда да Пецярбурга»[2]).

21. У пэрыяд германскай рэвалюцыі 1848 г. тактыка Маркса была адзіна правільнай рэвалюцыйна пралетарскай тактыкай. «Новую Рэйнскую Газэту», галоўным рэдактарам якой быў Маркс, Ленін называў «Лепшым неперавышаным органам рэвалюцыйнага пралетарыяту»[3]). Ва ўмовах тагачаснай дробна-буржуазнай Германіі Маркс падтрымліваў ускрайне левае крыло рэвалюцыйнай дэмакратыі, бічуючы на старонках «Новай Рэйнскай Газэты» палавінчатасьць і «парлямэнцкі крэтынізм»

---

1) Энгельс. Прамова на магіле Маркса (гл. „14 сакавіка 1883 г.“), 1933г. стар. 8).

2) Энгельс. Маркс і „Новая Рэйнская Газэта“, 1933 г. стар. 22.

3) Ленін. Зб. Твораў, т. XXIII, стар. 35.

буржуазных дэмакратаў, выступаючы за плебэйскую расправу з абшарнікамі і манархіяй. У той-жа час Маркс адстойваў асобныя задачы пралетарыята, які не абмяжоўваецца буржуазнай рэвалюцыяй, які імкнецца «у в я н ч а ц ь справу рэвалюцыі пралетарскай дзяржаўнай уладай, сьпіхаючы крок за крокам з вышынь улады адну фракцыю буржуазіі за другой» (Сталін) [1]. У шэрагах рабочага руху 1848—1850 г.г. Маркс змагаўся на два франты— супроць тых, хто абмяжоўваўся эканамічнымі патрабаваньнямі і стаяў у баку ад палітычнага руху пралетарыята (Борн) і супроць героя «лева»-апартуністычнай фразы (фракцыя Вільліха і Шаппэра). У пэрыяд зьлейшай рэакцыі 50-г.г. Маркс працягваў бязупынную барацьбу за асновы пралетарскай партыі.

22. Маркс быў арганізатарам і правадыром І-га Інтэрнацыяналу, які «заклаў фундамант міжнароднай арганізацыі рабочых для падрыхтоўкі іх рэвалюцыйнага наступу на капітал» (Ленін) [2]. У барацьбе з сэктанцкімі і варожымі марксызму плынямі (прудансізм, бакунізм, ляссальянцтва, трэд-юніёнізм) Маркс дамагаўся гегемоніі навуковага камунізму ў міжнародным рабочым руху, накіроўваючы розныя патокі гэтага руху ў агульнае рэчышча І Інтэрнацыянала. Маркс і Энгельс дамагліся гэтага дзякуючы сваёй гнуткай тактыцы, свайму ўменьню змагацца за масы, уздымаць рабочы рух на больш высокую ступень, пасьлядоўна і няпрымірыма абараняць свае прынцыпы.

Самай слаўнай старонкай у гісторыі І Інтэрнацыяналу была Парыская Камуна. Маркс кіраваў выступленьнямі І-га Інтэрнацыяналу ў абарону Камуны, дапамагаў Камуне парадамі, і ўказаньнямі; Маркс быў «удзельнікам масавай барацьбы» Камуны (Ленін) [3]. Ускрываючы памылкі камунараў, якія ня зусім пасьлядоўна змагаліся з буржуазіяй і не адважыліся разьбіць да канца ваенна-бюракратычную машыну, Маркс у той-жа час з уздымам пісаў аб гістарычнай ініцыятыве мас, што з усёй аддана-сьцю змагаліся за пралетарскую рэвалюцыю, узбагацілі сваім вопытам тэорыю і практыку сусьветнага пралетарыяту. На аснове сусьветна-гістарычнага вопыту Парыскай Камуны Маркс разьвіў і паглыбіў сваю тэорыю дзяржавы. Маркс раскрыў «тайну Камуны», давёўшы, што па-сваёй сутнасьці яна была дыктатурай рабочае клясы.

У пачатку пэрыяда 1848—1871 г.г. вучэньне Маркса было толькі адной з плыняй сацыялізму. Узбагачаны гіганцкім вопытам эпохі І Інтэрнацыяналу і Камуны, марксызм адтрымаў перамогу ў міжнародным рабочым руху.

[1]) Сталін. Пытаньні ленінізма, вып. 9, стар. 26.
[2]) Ленін. Зб. твораў, т. XXIV, стар. 247.
[3]) Ленін. Зб. твораў, т. X, стар. 365.

23. Эпоха, што наступіла з пачатку 70-гг., была эпохай параўнальна-мірнага разьвіцьця, зьбіраньня сіл рабочае клясы, фармаваньня пралетарскіх партый у асобных краінах, падрыхтоўкі да надыходзячых бояк за пралетарскую дыктатуру. У гэту эпоху, як у эпоху І Інтэрнацыянала, Маркс і Энгельс працягвалі кіраваць пралетарскім рухам усіх важнейшых капіталістычных краін. «З навуковага пункту гледжаньня,—пісаў Ленін аб гэтым кіраўніцтве,—мы наглядаем тут узорчык матэрыялістычнай дыялектыкі, уменьня высунуць на першы плян і падкрэсьліць розныя пункты, розныя бакі пытаньня ў прыстасаваньні да канкрэтных асаблівасьцяй тых альбо іншых палітычных і эканамічных умоў» [1]. У сацыялістычных партыях англа-саксонкіх краін Маркс і Энгельс асабліва рэзка бічавалі сэктанцтва, адарванасьць сацыялістычных партый ад рабочага руху. У германскай сацыял-дэмакратыі яны больш за ўсё змагаліся супроць апартуністычнага зьніжэньня задач пралетарскай партыі. Маркс і Энгельс далі клясычныя ўзоры барацьбы на два франты: супроць ляссальянцкага апартунізма, супроць рэфармістаў і «сацыял філёнтропаў» (Гэхбэрг, Бэрнштэйн, Блёс і інш.), з аднаго боку і супроць герояў рэвалюцыйнай фразы, сэктанцкіх і анархісцкіх элемэнтаў (Мост, Гассэльман), з другога. Падтрымліваючы і накіроўваючы кіраўнікоў германскай рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі, Бэбеля і В. Лібкнэхта, Маркс і Энгельс не раз бічавалі іх апартуністычныя памылкі.

24. Бліжэйшым саратнікам і сябрам Маркса быў Фрыдрых Энгельс (1820—1895 г.г.). «Імёны Маркса і Энгельса справядліва становяцца побач, як імёны заснавальнікаў сучаснага сацыялізма» (Ленін) [2].

Пасьля сьмерці Маркса, Энгельс на працягу 12 год кіраваў міжнародным рабочым рухам. Ён працягваў барацьбу на два франты—супроць рэфармізма (поссыбілісты, Фольмар) і дробнабуржуазнай рэвалюцыйнасьці («Маладыя», Домэла Ньювэнгуйс). Ужо тады Энгельс ускрываў апартуністычныя тэндэнцыі ў лідэраў германскай сацыял-дэмакратыі. Пасьля сьмерці Энгельса, у эпоху імпэрыялізма, апартунізм акрэп і паступова захапіў панаваньне ў ІІ Інтэрнацыянале. ІІ Інтэрнацыянал адыйшоў ад марксызма. «Паміж Марксам і Энгельсам, з аднаго боку і Леніным—з другога, ляжыць цэлая паласа панаваньня апартунізма ІІ Інтэрнацыянала» (Сталін) [3]. Змаганьне Маркса і Энгельса за сусьветную пралетарскую партыю працягнуў Ленін. Ён стварыў «партыю новага тыпу», ён арганізаваў Камуністычны Інтэрнацыянал, ён павёў рабочую клясу па шляху Маркса і Энгельса да перамогі дыктатуры пралетарыята.

---

[1]) Ленін. Зб. твораў, т. XXI, стар. 166.
[2]) Ленін. Зб. твораў, т. XXII стар. 34.
[3]) Сталін. Пытаньні ленінізму, выд. 9, стар, 11.

## Ленінізм—марксызм эпохі імпэрыялізма і пралетарскай рэвалюцыі

25. На рубяжы XIX і XX стагодзьдзяў капіталізм уступіў у вышэйшую стадыю свайго разьвіцьця—імпэрыялізм: «Імпэрыялізм даводзіць супярэчаньні капіталізма да апошняй рысы, да ўскрайніх меж, за якімі пачынаецца рэвалюцыя» (Сталін)[1].

Расія была вузлавым пунктам супярэчнасьцяй імпэрыялізма, дзе інтарэсы царызму сплятаіся з інтарэсамі міжнароднага капітала, тэй краіны, дзе «ўздымалася найвялікшая народная рэвалюцыя, на чале якой стаяў найрэвалюцыйнейшы ў сьвеце пралетарыят, які меў у сваім распараджэньні такога сур'ёзнага саюзьніка, як рэвалюцыйнае сялянства Расіі... Вось чаму Расія стала ачагом ленінізма, а правадыр рускіх камуністаў Ленін, яго тварцом» (Сталін)[2].

Ленінізм вырас і акрэп у барацьбе з апартунізмам і яго разнавіднасьцю—цэнтрызмам. «Бальшавізм існуе,—пісаў Ленін,—як плынь палітычнай мысьлі і як палітычная партыя з 1903 году»[3]. Бальшавізм узьнік «на самай моцнай базе тэорыі марксызма», ён усасаў у сябе і крытычна пераапрацаваў вопыт усяго міжнароднага рабочага руху, усёй клясавай барацьбы пралетарыяту. Ленін аднавіў рэвалюцыйны зьмест марксызму і разьвіў яго далей, прыстасаваўшы да ўмоў эпохі імпэрыялізма і пралетарскай рэвалюцыі.

26. Тав. Сталін у шэрагу сваіх работ даў клясычную характарыстыку таго новага, што ўнёс Ленін у скарбніцу марксызма. У сваёй гутарцы з першай амэрыканскай рабочай дэлегацыяй, тав. Сталін з выключнай яскравасьцю сфармуляваў галоўнае з таго, што «даў Ленін у сваіх працах, канкрэтызуючы і разьвіваючы далей вучэньне Маркса прыстасоўна да новых умоў барацьбы пралетарыяту ў пэрыяд імпэрыялізма» (Сталін)[4].

а) Ленін ускрыў асаблівасьці імпэрыялізму, як апошняй манапалістычнай стадыі капіталізму. «Заслуга Леніна і стала быць, новае ў Леніна заключаецца тут у тым, што ён, абапіраючыся на асноўныя палажэньні «Капітала», даў абаснаваны марксыцкі аналіз імпэрыялізму, як апошняй фазы капіталізма, ускрыўшы яго язвы і ўмовы яго нямінучай гібелі» (Сталін)[5].

б) Ленін аднавіў, разьвіў і распрацаваў галоўнае ў марксызьме—вучэньне аб дыктатуры пралетарыяту. «Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што: 1) ён адкрыў

---

1) Сталін. Пытаньні ленінізму, выд. 9, стар. 7.
2) Сталін. Пытаньні Ленінізма, выд. 9, стар. 9—10.
3) Ленін. Зб. твораў, т. XXV, стар. 175—176.
4) Сталін. Пытаньні ленінізма, выд. 9, стар. 267.
5) Сталін. Там-жа, стар. 264.

Савецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пралетарыята, выкарыстаўшы для гэтага вопыт Парыскай Камуны і рускай рэвалюцыі; 2) ён раскрыў дужкі ў формуле дыктатуры пралетарыята пад кутом гледжаньня праблемы аб саюзьніках пралетарыяту, вызначыўшы дыктатуру пралетарыяту як асобную форму клясавага саюзу пралетарыята, які зьяўляецца кіраўніком, з эксплёатуемымі масамі непралетарскіх клясаў (сялянства і інш.), што зьяўляюцца кіруемымі; 3) ён падкрэсьліў з асаблівай сілай той факт, што дыктатура пралетарыяту зьяўляецца вышэйшым тыпам дэмакратыі пры клясавым грамадстве, формай пралетарскай дэмакратыі, выражаючай інтарэсы большасьці (эксплёатуемых),—у працівагу дэмакратыі капіталістычнай, выражаючай інтарэсы меншасьці (эксплёататараў)» (Сталін) [1].

в) Ленін распрацаваў пытаньне аб формах і спосабах сацыялістычнага будаўніцтва, ў пэрыяд дыктатуры пралетарыяту. На аснове закону нераўнамернага разьвіцьця капіталізма, Ленін даказаў магчымасьць пабудовы поўнага сацыялістычнага грамадзтва ў аднэй асобна ўзятай краіне, абкружанай імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Ленін вызначыў шляхі эканамічнай палітыкі, па якіх пралетарыят, спалучыўшы сацыялістычную індустрыю з сельскай гаспадаркай, вядзе краіну да сацыялізму. Ленін «намеціў канкрэтныя шляхі паступовага падводу і ўцягненьня асноўных мас сялянства ў рэчышча сацыялістычнага будаўніцтва праз каапэрацыю, якая прадстаўляе ў руках пралетарскай дыктатуры найвялікшы сродак перапрацоўкі дробнага сялянства і перавыхаваньня асноўных мас сялянства ў духу сацыялізма» (Сталін) [2].

г) Ленін разьвіў геніяльныя мысьлі Маркса і Энгельса аб гегемоніі пралетарыята. «Новае ў Леніна заключаецца тут ў тым, што ён разьвіў далей і разгарнуў гэтыя наброскі ў стройную сыстэму гегемоніі пралетарыята, у стройную сыстэму кіраўніцтва пралетарыята працоўнымі масамі гораду і вёскі ня толькі ў справе нізьвяржэньня царызму і капіталізма, але і ў справе сацыялістычнага будаўніцтва пры дыктатуры пралетарыята» (Сталін) [3].

д) Ленін распрацаваў нацыянальна-каленіяльнае пытаньне, як пытаньне аб рэзэрвах пралетарскай рэвалюцыі. «Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што: 1) ён сабраў гэтыя ідэі ў адну (ідэі Маркса) стройную сыстэму поглядаў аб нацыянальна-каленіяльных рэвалюцыях у эпоху імпэрыялізма; зьвязаў нацыянальна-каленіяльнае пытаньне з пытаньнем аб зьвяржэньні капіталізму; 3) абвясьціў нацыянальна-каленіяльнае пытаньне састаўной часткай агульнага пытаньня аб міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі» (Сталін) [4].

[1]) Сталін. Пытаньні ленінізма, выд. 9, стар. 264.
[2]) Сталін. Пытаньні ленінізма, выд. 9, стар. 265.
[3]) Сталін Там-жа. стар. 265.
[4]) Сталін, Там-жа стар. 266.



с) Ленін разьвіў наброскі Маркса і Энгельса аб партыі ў стройнае вучэньне аб партыі. «Новае ў Леніна ў гэтай галіне заключаецца ў тым, што ён разьвіў далей гэтыя наброскі прыстасоўна да новых умоў барацьбы пралетарыяту ў пэрыяд імпэрыялізму, паказаўшы, што: 1) партыя ёсьць вышэйшая форма клясавай арганізацыі пралетарыяту ў параўнаньні з іншымі формамі арганізацыі пралетарыяту (прафсаюзы, каапэрацыя, дзяржаўная арганізацыя), работу якіх закліканa яна абагульняць і накіроўваць; 2) дыктатура пралетарыяту можа быць зьдзейсьнена толькі праз партыю як яе накіроўваючую сілу; 3) дыктатура пралетарыяту можа быць поўнай толькі ў тым выпадку, калі ёю кіруе адна партыя, партыя камуністаў, якая не падзяляе і не павінна падзяляць кіраўніцтва з іншымі партыямі; 4) бяз жалезнай дысцыпліны ў партыі ня могуць быць зьдзейсьнены задачы дыктатуры пралетарыяту па падаўленьні эксплёататараў і перабудове клясавага грамадзтва ў грамадзтва соцыялістычнае» (Сталін) [1].

27. «Ніхто іншы, як Ленін, узяўся за выкананьне сур'ёзнейшай задачы абагульненьня па матэрыялістычнай філёзофіі найбольш важнага з таго, што дадзена навукай за пэрыяд ад Энгельса да Леніна, і ўсебаковай крытыкі анты-матэрыялістычных плыняй сярод марксыстаў. Энгельс гаворыць, што «матэрыялізму даводзіцца прымаць новы від, новы выгляд з кожным новым вялікім адкрыцьцём», Вядома, што гэту задачу выканаў для свайго часу ніхто іншы, як Ленін» (Сталін) [2].

Леніным былі глыбока распрацаваны яго важнейшыя катэгорыі матэрыялістычнай дыялектыкі. Цэнтральнае месца ў філёзофскіх работах Леніна займае распрацоўка вучэньня аб барацьбе супроцьлегласьцяй, як рухаючым прынцыпе разьвіцьця, як «ядры дыялектыкі».

Распрацоўка марксыцкага вучэньня аб сацыяльна-эканамічных фармацыях, аб рэвалюцыі, аб дзяржаве, аб дыктатуры пралетарыяту, аб пераходзе ад капіталізма да сацыялізма Ленін узьняў на новую ступень гістарычны матэрыялізм. Ва ўсіх галінах тэорыі Ленін пасьлядоўна і няпрымірыма праводзіў прынцып партыйнасьці.

Ленін распрацаваў усе бакі рэвалюцыйнай тэорыі Маркса, узьняўшы яе на вышэйшую ступень.

28. Тэорыю марксызма-ленінізма канкрэтызуе і разьвівае саратнік і вучань Леніна, лепшы прадаўжальнік яго справы—Сталін.

Сталін разьвіў марксыцка-ленінскае вучэньне аб пралетарскай дыктатуры, распрацаваў пытаньне аб формах клясавай барацьбы пралетарыяту на розных этапах сацыялістычнага будаўніцтва, аб шляхох зьнішчэньня капіталістычных эле-

---

[1]) Сталін. Пытаньні ленінізма, выд. 9, стар. 266—267.
[2]) Там-жа, стар. 17.

мэнтаў і клясаў наогул. Сталін канкрэтызаваў марксыцка-ленінскае вучэньне аб пераходным пэрыядзе ад капіталізму да камунізма. Сталін разьвіў вучэньне Леніна аб магчымасьці пабудовы сацыялізма ў нашай краіне. Сталін разгарнуў на гэтай аснове генэральны плян наступу сацыялізма па ўсім фронце, канкрэтызаваў мэтады, формы і шляхі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Сталін разьвіў ленінскае вучэньне аб індустрыялізацыі, як умове перамогі сацыялізму ў нашай краіне. Сталін унёс каштоўнейшы ўклад у марксыцка-ленінскую тэорыю, распрацаваўшы пытаньне аб канкрэтных шляхох сацыялістычнай перапробкі сялянства пад кіраўніцтвам пралетарыяту, пытаньне аб вытворчай змычцы, умовах і мэтадах калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Сталін разьвіў марксыцка-ленінскую тэорыю у нацыянальна-каленіяльным пытаньні, як частку агульнага пытаньня аб міжнароднай рэвалюцыі.

Сталін разьвіў вучэньне Леніна аб партыі і яе ролі ў сыстэме пралетарскай дыктатуры, бліскуча распрацаваў стратэгію і тактыку пралетарскай партыі. Сталін разьвіў ленінскі аналіз сацыяльных і ідэёвых карэньняў апартунізма, ускрыўшы асаблівасьці яго праяў на розных этапах клясавай барацьбы.

На аснове ленінскага вучэньня, аб імпэрыялізьме, Сталін даў чоткі аналіз барацьбы двух сыстэм ва ўмовах усеагульнага крызісу капіталізма і нарастаючай міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі.

З ленінскай цьвёрдасьцю і няпрымірымасьцю Сталін кіруе барацьбой на два франты супроць усялякіх праяў апартунізму ўнутры партыі і Камінтэрна, супроць трацкізму, стаўшага потым контр-рэвалюцыйным, і супроць правага апартунізму, параджэньня контр-рэвалюцыйнага кулацкага супраціўленьня непераможнаму пралетарыяту. Як тэарэтык і правадыр партыі і Камінтэрну, Сталін дае ўсёй сваей дзейнасьцю бліскучыя ўзоры спалучэньня рэвалюцыйнай тэорыі—і практыкі і ўзбагачае рэвалюцыйны мэтад марксызма-ленінізма—матэрыялістычную дыялектыку. Імя Сталіна знаходзіцца ў шэрагу вялікіх імён тэарэтыкаў і правадыроў сусьветнага пралетарыяту—Маркса—Энгельса і Леніна.

## СССР—трыумф марксызма-ленінізма

29. Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі адкрыла новую эпоху ў сусьветнай гісторыі. Вялікі лёзунг Маркса—дыктатура пралетарыята—ператорваны ў жыцьцё ў СССР.

«Гісторыя народаў ведае не мала рэвалюцый. Яны адрозьніваюцца ад Кастрычніцкай рэвалюцыі тым, што ўсе яны былі аднабаковымі рэвалюцыямі. Зьмянялася адна форма эксплёатацыі працоўных іншай формай эксплёатацыі, але сама эксплёатацыя заставалася. Зьмяніліся адны эксплёататары і прыгнятальнікі іншымі эксплёататарамі і прыгнятальнікамі, але самі эксплёататары і прыгнятальнікі заставаліся. Толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла сабе мэтай—зьнішчыць усякую эксплёатацыю і ліквідаваць усіх і ўсялякіх эксплёататараў і прыгнятальнікаў» (Сталін) [1].

Дыктатура пралетарыята ў СССР ажыцьцявіла ў сабе вялікія ідэі Маркса, Энгельса і Леніна. Кіруемыя партыяй бальшавікоў, Саветы зламалі супраціўленьне нязрынутых і экспрапрыяваных пралетарскай рэвалюцыяй абшарнікаў і капіталістаў, згуртавалі вакол пралетарыята шырокія масы працоўных, ліквідавалі каленіяльную залежнасьць і нацыянальную няроўнасьць, стварылі магутную Чырвоную армію, якая стаіць на варце сацыялістычнай рэвалюцыі, і разгарнулі пераможнае сацыялістычнае наступленьне па ўсім фронце.

30. Узброеная вучэньнем Маркса і Леніна рабочая кляса СССР завяршыла пабудову эканамічнага фундаманту сацыялістычнага грамадзтва. Перамога І-й пяцігодкі за чатыры гады ператварыла раней адсталую краіну ў магутную краіну растучага сацыялізму; з аграрнай краіны зрабіла яе магутнай індустрыяльнай краінай. Сацыялістычныя формы сельскай гаспадаркі—саўгасы і калгасы—сталі пануючымі формамі на вёсцы; краіна дробнай і драбнейшай сялянскай гаспадаркі ператварылася ў краіну буйнейшай у сьвеце сельскагаспадарчай вытворчасьці; кулацтва канчаткова і беспаваротна разгромлена, сялянскія масы вызвалены ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі. Ліквідуюцца асновы супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай. Ствараецца моцная база бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Разьвіцьцё народнай гаспадаркі СССР нябачанымі ў гісторыі тэмпамі, уцягненьне мільёнаў працоўных у кіраўніцтва дзяржавай, канчатковая ліквідацыя беспрацоўя, цьвёрдая ўпэўненасьць кожнага працоўнага ў заўтрашнім дні, новыя сацыялістычныя адносіны да працы, рост дабрабыту працоўнага насельніцтва гораду і вёскі, росквіт нацыянальных па форме, сацыялістычных па зьмесьце культур, разьняволеньне жанчыны,—усё гэта паказвае, што сацыялізм з праграмнага патрабаваньня, якое абвясьцілі Маркс і Энгельс, ператвараецца ў жывую рэчаіснасьць.

Нявычарпальная ініцыятыва і энтузіязм мільёных мас рабочых і калгасьнікаў; правільная марксыцка-ленінская палітыка пралетарскай дзяржавы, што кіруецца бальшавіцкай партыяй;

[1] **Сталін. Прамова на І усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў.**

аграмадныя перавагі плянавай сацыялістычнай сыстэмы гаспадаркі,—вось асноўныя сілы, якія забясьпечылі гістарычную перамогу сацыялізма ў СССР.

31. СССР зьяўляецца аплотам сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Перамога сацыялізма ў СССР зьяўляецца гістарычным пацьверджаньнем марксызма-ленінізма; яна ўпэўняе самыя шырокія масы працоўных усяго сьвету, што рабочая кляса можа ня толькі нізрынуць буржуазію, разбурыць яе дзяржаўную машыну і ўстанавіць сваю дыктатуру, але што яна можа разьвіваць прадукцыйныя сілы ў такім маштабе, такімі тэмпамі, якія зусім недаступны капіталістычнаму грамадзтву.

Тав. Сталін, робячы падсумаваньне вынікаў І-й пяцігодкі, сказаў: «Гісторыя паказала, што пяцігодка зьяўляецца не прыватнай справай Савецкага Саюзу, а справай усяго міжнароднага пралетарыяту» [1]).

Барацьба за другую пяцігодку, заклікаuую ажыцьцявіць вялікі завет Маркса — пабудову бяскляsavaga сацыялістычнага грамадзтва—зьяўляецца рашаючым вучасткам сусьветнага пралетарскага фронту.

## Камінтэрн—сусьветная партыя марксызма-ленінізма

32. «Наступны Інтэрнацыянал»,—пісаў Энгельс,—пасьля таго як сышоў з гістарычнай арэны І Інтэрнацыянал,—«будзе цалкам камуністычным» [2]). II Інтэрнацыянал (1889—1914) не апраўдаў гэтых надзей. Быў час, калі ён садзейнічаў росту марксызма ўшыркі, калі пад яго сьцягам расьлі магутныя сацыялістычныя прафэсыйныя, каапэрацыйныя арганізацыі рабочае клясы. Пасьля сьмерці Энгельса ў эпоху імпэрыялізма, кіраўніцтва II Інтэрнацыяналам паступова перайшло ў рукі апартуністаў, буржуазных агентаў унутры рабочага руху. Сусьветная вайна выявіла поўнае банкруцтва II Інтэрнацыяналу. Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі канчаткова адкінула рэнэгатаў марксызма ў лягер контр-рэвалюцыйнай буржуазіі. «Кастрычніцкая рэвалюцыя нарадзілася і акрэпла пад сьцягам марксызму, пад сьцягам ідэі дыктатуры пралетарыяту, пад сьцягам ленінізму, які ёсьць марксызм эпохі імпэрыялізму і пралетарскіх рэвалюцый. Яна знамянуе, таму перамогу марксызма над рэфармізмам, пераомгу ленінізма над сацыял-дэмакратызмам перамогу III Інтэрнацыяналу над II Інтэрнацыналам» (Сталін) [3]).

---

[1]) Сталін. Вынікі І-й пяцігодкі, 1933 г. стар. 3.

[2]) Энгельс. Ліст Зоргэ ад 12 (і 17) верасьня 1874 г. (гл. Маркс і Энгельс, лісты, пад рэд Адарацкага, стар. 273).

[3]) Сталін. Аб Кастрычніцкай рэволюцыі, 1932 г. стар. 134.

Партыя бальшавікоў з дню свайго заснаваньня вяла на міжнароднай арэне няпрымірымую барацьбу супроць апартунізма і цэнтрызма. Пасьля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсіх галоўных капіталістычных краінах складваюцца камуністычныя партыі. У 1919 г. пад кіраўніцтвам Леніна заснаваны Трэці Камуністычны Інтэрнацыянал, заклікаvarаны давесьці справу Маркса да канчатковай перамогі ва ўсім сьвеце. «Бальшавізм стварыў ідэёвыя і тактычныя асновы III Інтэрнацыяналу, сапраўды пралетарскага і камуністычнага, які ўлічвае і заваяваньне мірнай эпохі і вопыт распачаўшайся эпохі і рэвалюцыі»[1]. «Сусьветна-гістарычнае значэньне III Камуністычнага Інтэрнацыяналу заключаецца ў тым, што ён пачаў ператвараць у жыцьцё найвялікшы лёзунг Маркса, лёзунг, які падсумаваў векавое разьвіцьцё сацыялізму і рабочага руху, лёзунг, які выражаецца паняцьцем: дыктатура пралетарыяту» (Ленін)[2].

Камінтэрн вёў і вядзе непаслабную і няпрымірымую барацьбу за сапраўдны марксызм, за бальшавізацыю сваіх сэкцый, барацьбу на два франты супроць правых і «левых» скажэньняў марксызма, ленінізма. Камінтэрн узброіў рабочых усяго сьвету марксыцкаленінскай праграмай, якая «навукова фармулюе карэнныя праблемы камуністычнага руху, вызначае асноўныя шляхі вырашэньня гэтых праблем і стварае, такім парадкам, для сэкцыі Камінтэрна тую яснасьць мэт і сродкаў, без якой немагчымы ўпэўнены рух наперад» (Сталін)[3].

33. Першая хваля пралетарскіх паўстаньняў і рэвалюцый толькі ў Расіі ўвянчалася перамогай рабочай клясы. Страшэнная здрада II Інтэрнацыянала адтэрмінавала гібель буржуазіі. Наступіў пэрыяд частковай стабілізацыі капіталізма.

Сацыял-дэмакраты на ўсе лады узьвяшчалі новую «эру» буржуазнага росквіту. Яны ашуквалі пралетарыят легендай аб «арганізаваным капіталізьме». Правым аказаўся Сталін, правымі аказаліся камуністы, якія ў сьвятле вучэньня Маркса і Леніна прадсказалі блізкі канец капіталістычнай стабілізацыі, працягваючы энэргічна рыхтаваць масы да немінучага новага туру рэвалюцый і войн. Цяпер мы знаходзімся ў прадзьвер'і гэтых баёў. Капіталістычнай стабілізацыі прышоў канец. Капіталізм не знаходзіць выхаду з ціскоў усеагульнага крызісу. Нарастае новы рэвалюцыйны ўздым. Чым глыбей і шырэй крызіс капіталізму, тым мацней гучыць ва ўсім сьвеце імя Маркса, геніяльна прадсказаўшага гібель капіталізму і панаваньне камуністычнай рэвалюцыі.

Вось чаму буржуазія і яе сацыял-дэмакратычная агентура ва ўсіх краінах абвясьцілі вайну не на жыцьцё, а на

[1] Ленін. Зб. твораў, т. XXIII, стар. 385.
[2] Ленін. Зб. твораў, т. XXIV, стар. 248.
[3] Сталін. Пытаньні ленінізма, выд. 9, стар. 337.

сьмерць рэвалюцыйнаму марксызму. Рост фашызма—адказ буржуазіі на разьвіцьцё і ўмацаваньне кампартыі. Гэты рост адбівае бязьсільле буржуазіі, якая ня здольна ранейшымі шляхамі ўтрымліваць сваё панаваньне. Пад лёзунгам барацьбы супроць марксызма-ленінізма фашызм ліхаманка мабілізуе свае банды ва ўсіх краінах Эўропы і Амэрыкі. У імя зьнішчэньня СССР, які ажыцьцяўляе вялікія заветы Маркса, рыхтуюць імпэрыялісты ўсіх краін новую інтэрвэнцыю, супроць першай краіны пралетарскай дыктатуры.

Самую ганебную ролю у гэтай барацьбе супроць марксызма, грае сацыял-дэмакратыя. Маркс і Энгельс прадсказалі перамарэньне рэфармізма ў паліцэйскі сацыялізм. Маркс і Энгельс прадбачылі, што ў момант рэвалюцыі, менавіта пад сьцягам дэмакратыі згуртуюцца зьлейшыя ворагі пралетарыяту, што ў гэты момант «ускрайняя буржуазная партыя», прыкрываючыся балбатнёй аб дэмакратыі, «акажацца на пэўны час апошнім якарам ратунку для ўсяе буржуазнае і нават фэадальнае гаспадаркі» (Энгельс)[1]. Такім якарам ратунку капіталістаў і выступае сучасны II Інтэрнацыянал, Інтэрнацыянал рэнегатаў марксызма, галоўная сацыяльная апора буржуазнай дыктатуры. Але імя Маркса карыстаецца гіганцкім аўтарытэтам у масах рабочых, у тым ліку і ў масах сацыял-дэмакратычных рабочых. Вось чаму рэнегаты ўсіх адценьняў, Каўцкія, Брандлеры, Троцкія і К°, прагцягваюць іменаваць сябе «марксыстамі», вось чаму яны скажаюць вучэньне Маркса, каб захаваць ад рабочых сваю здраду справе пралетарыяту.

34. Няма ніводнае краіны ў сьвеце, дзе-б камуністы не вялі гераічнай барацьбы за справу Маркса. Прыцягваючы ў шэрагі рэвалюцыйнага адзінага фронту ўсіх рабочых і працоўных, упарта дамагаючыся заваяваньня большасьці рабочае клясы на бок пралетарскай рэвалюцыі; мабілізуючы масы супроць падрыхтоўкі новых імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцыі; бязьлітасна выкрываючы здраднікаў і рэнегатаў; падымаючы рабочых ад частковых патрабаваньняў да барацьбы за агульныя і карэнныя інтарэсы пралетарыяту—камуністы, і толькі камуністы, зьяўляюцца пасьлядоўнымі барацьбітамі за справу Маркса, справу пралетарскай дыктатуры.

Адзіным наступнікам Маркса, непахісна верным слаўным традыцыям І Інтэрнацыяналу, зьяўляецца Камуністычны Інтэрнацыянал.

Марксызм-ленінізм стаў рашаючым фактарам у сусьветнай гісторыі. Сьцяг Маркса разьвейваецца над пралетарскімі кварталамі эўропейскіх сталіц, над пылаючымі гарадамі і сёламі Кітая. Гэты сьцяг высока трымаюць эўропейскія, і перш за ўсё, гер-

[1]) Энгельс. Ліст Бэбелю ад 11 сьнежня 1884 г. (гл. архіў Маркса і Энгельса, т. I (VI) стар. 291).

манскія рабочыя, што вядуць гераічнаю барацьбу супроць фашызму і стаяць на парозе рашучых баёў. Стачкі ва ўсіх краінах сьвету, галодныя паходы беспрацоўных, паўстаньні ў флётах Ангельшчыны і Галяндыі, упартая барацьба гішпанскіх рабочых і сялян, рух мільёнаў прыгнечаных Кітаю, Інда-Кітаю, Інданэзіі,— усё гэта набліжае новыя перамогі пралетарскай рэвалюцыі, новыя трыумфы мрксызму.

35. 50-ці годзьдзе з дню сьмерці Маркса рабочыя і калгасьнікі СССР адзначаюць новым уздымам рабочае працы на фабрыках, заводах, сацыялістычных палёх, новымі перамогамі на фронце 2-й пяцігодкі, фронце барацьбы за бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва. Гэта 50-цігодзьдзе Камінтэрн адзначае новай мабілізацыяй сіл для барацьбы супроць фашызма і сацыялдэмакратызму, за адзінства рэвалюцыйных рабочых, за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю. Кожнаму сьвядомаму пралетару ў капіталістычных краінах, кожнаму працоўнаму Захаду і Ўсходу, кожнаму рабочаму і кальгасьніку СССР павінна быць ясна, што сьцяг, пад якім змагаюцца бальшавікі ўсяго сьвету—гэта ёсьць стары баявы сьцяг Маркса.

У дзень 50-й гадавіны з дню сьмерці вялікага настаўніка і правадыра мы павінны ўзьняць і разгарнуць шырэй гэты слаўны сьцяг, сьцяг Маркса і Энгельса, Леніна і Сталіна, сьцяг дыктатуры пралетарыяту, сьцяг камуністычнай рэвалюцыі!

*Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК УсеКП(б).*

---

*Акад. С. Я. Вольфсон*

# Карл Маркс аб сацыялістычным перавыхаваньні мас

**(Да пяцідзесяцігодзьдзя з дню сьмерці)**

Праблема сацыялістычнага перавыхаваньня мас, перапрабкі ў працэсе рэвалюцыі іх псыхалёгіі і ідэалёгіі, стварэньня «новага чалавека» была высунута партыяй як адна з важных задач, што стаялі перад пралетарыятам ужо адразу пасьля Кастрычніка.

У. І. Ленін бязупынна прыкоўваў увагу перамогшага пралетарыята да гэтай задачы, да задачы культурнай рэвалюцыі, «пераплаўляючай» масы. Ленін не пакідаў паказваць краіне «ўсю цяжкасьць работы ў справе перавыхаваньня мас, у справе арганізацыі і абучэньня, у справе пашырэньня ведаў, у справе барацьбы з тэй спадчынай цемры і некультурнасьці, дзікунства і адзічаласьці, якая нам дасталася» [1]).

Ён не стамляўся паказваць, што пасьля рэвалюцыі «стары Абломаў застаўся і патрэбна яшчэ доўга яго мыць, чысьціць, трапаць і драць, каб які-небудзь вышаў сэнс» [2]). Ён не стамляўся даводзіць, што дробна-буржуазная стыхія доўгі яшчэ час будзе уплываць на пралетарыят, будзе разлагаць яго, будзе падтрымліваць у ім перажыткі індывідуалізма і ўласнасьці. Разам з тым, Уладзімір Ільліч паказваў шляхі перамаганьня гэтых перажыткаў капіталізма, паказваў, як у працэсе рэвалюцыйнай практыкі пралетарыят будзе «перарабляць» самога сябе, будзе перарабляць і перавыхоўваць працоўныя масы, будзе разгортваць культурную рэвалюцыю, будзе будаваць пралетарскую сацыялістычную культуру.

Пралетарыят Савецкай дзяржавы, кіруемы Ленінскай партыяй і найвялікшым прадаўжальнікам справы Леніна тав. Сталіным, дамогся ўжо сусьветна-гістарычных посьпехаў у сацыя-

[1]) У. І. Ленін. Збор. твораў, том XVI, стар. 188.
[2]) Там-жа, том XVIII, ч. II, стар. 14.

лістычным перавыхаваньні мас, у стварэньні новага сацыялістычнага чалавека.

Пераможна і беспаваротна ўмацаваўшыся на сацыялістычным шляху, Савецкі Саюз паставіў перад сабой задачу, высунутую гістарычнай пастановай XVII Партканфэрэнцыі—«Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю і перамаганьне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва»...

У жорсткай клясавай барацьбе з рэшткамі разьбітых, але недабітых яшчэ паразітычных клясаў, пад выпрабаваным баявым кіраўніцтвам ленінскага ЦК і правадыра сусьветнай рэвалюцыі І. В. Сталін, вырашае Савецкі пралетарыят гэту задачу, якая адчыняе новую эру чалавечай гісторыі. Вось чаму для нас маюць глыбокі тэарытычны і практычны інтарэс мысьлі заснавальніка навуковага камунізма адносна перамаганьня перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, адносна сацыялістычнага перавыхаваньня мас.

Капіталізм ня толькі ўціскае эксплёатуемыя масы, ён іх і атручвае ідэалёгіяй пануючай клясы. Пануючыя ідэі кожнай данай эпохі—ідэі пануючай клясы. Буржуазія не абмяжоўваецца тым, што яна ўсёй сыстэмай эксплёатацыі фізычна калечыць рабочую клясу і працоўныя масы,—яна стараецца іх скалечыць і духоўна. Гэта заснавальнікі навуковага камунізму з дастатковай вычэрпальнай паўнатой паказалі ў «Камуністычным маніфэсьце», у «Нямецкай ідэалёгіі», у «Крытыцы Готскай праграмы», у падрыхтоўчых працах для «Сьвятога сямейства», у «Анты-Дзюрынгу», у «Капітале», у іншых клясычных работах марксызма.

Калі пралетарыят і становіцца «клясай для сябе», ідэалёгія эксплёататараў усё-ж працягвае яшчэ уплываць на пралетарыят, не кажучы ўжо аб іншых працоўных. Атрута буржуазнай культуры яшчэ атручвае іх. Толькі ў баях з эксплёататарамі, у вялікай гістарычнай сутычцы з буржуазіяй, пралетарыят, зьмяняючы варожы яму грамадзкі лад, разам з тым зьмяняецца сам. «Вы павінны перажыць 15, 20, 50 год грамадзянскай вайны і міжнародных боек ня толькі для таго, каб зьмяніць пануючыя адносіны, але, каб і самім зьмяніцца, стаць здольнымі да палітычнага панаваньня». Так, зьвяртаючыся да рабочых, пісаў Маркс «У разаблачэньнях аб Кельнскім працэсе камуністаў».

Адна з найвялікшых фальсыфікацый, якую прарабіў меншавізм у дачыненьні да марксызма, выразілася ў «клясычным», нашчэнт разьбітым Леніным тэзісе аб тым, што толькі дасягнуўшы пэўнага культурнага ўзроўню масы могуць зьдзейсьніць сацыялістычную рэвалюцыю.

Ленін выкрыў усю контр-рэвалюцыйнасьць гэтага меншавіцкага тэзісу, што не перашкаджае, зразумела, тэарытычным збраяносцам ІІ Інтэрнацыяналу, усім гэтым Каўцкім, Баўэрам, Адлерам па сягоняшні дзень працягваць самую бязутрымную фальсыфікацыю поглядаў Маркса і па гэтым пытаньні.

Ленін, агаляючы апартуністычныя фальсыфікацыі, аднаўляў і разьвіваў мысьлі заснавальніка навуковага камунізма, адносна таго, што рэвалюцыя перарабляе, перавыхоўвае саміх рэвалюцыянэраў, што ў працэсе самой рэвалюцыі перагартоўваюцца творчыя яе масы, што толькі ў яе полымі яны ачысьцяцца ад тэй духоўнай спадчыны эксплёататарскага грамадзтва, якое атручвае масы яшчэ доўга пасьля таго, як нязрынута ўлада капіталістаў.

У «Крытыцы Гоцкай праграмы» Маркс з асаблівай сілай падкрэсьліў, што нараджаючаеся камуністычнае грамадзтва выходзіць з нетраў эксплёататарскага капіталістычнага грамадзтва, пакрытым ва ўсіх адносінах—эканамічных, маральных, разумовых—радзімымі плямамі старога грамадзтва».

Такім парадкам, калі рэвалюцыя ўжо зьдзейсьнілася, калі ўжо створаны новыя ўмовы быцьця, радзімыя плямы капіталістычнай эканомікі, капіталістычнай маралі, капіталістычнай ідэалёгіі, пакрываюць сабой яшчэ новае грамадзтва. Гэтыя плямы яшчэ ня зусім зьнікаюць нават у першую фазу камунізма.

Духоўны арамат капіталістычнага грамадзтва працягвае адчувацца яшчэ доўга пасьля таго, як гэта грамадзтва ўжо разбурана. Невыпадкова гаварыў У. І. Ленін праз 6 год пасьля Кастрычніка «аб тэй паўазіяцкай бескультурнасьці, з якой мы ня выбраліся да гэтых часоў і ня можам выбрацца без сур'ёзных намаганьняў»[1]). (Старонка з дзёньніка). Геніяльны правадыр нашай рэвалюцыі не пераставаў зазначаць, што ў савецкай рэчаіснасьці захаваліся яшчэ шкурніцтва і рвацтва, эгаістычныя і дробна-ўласьніцкія інстынкты, цяганіна і бюрократызм, рэлігійнасьць і п'янка, нядбайнасьць і абломаўшчына, палавая распусьнасьць і мяшчанства, крывадушнасьць і іншыя элемэнты буржуазнай псыхалёгіі, буржуазнай ідэалёгіі, што пакінуты масам у спадчыну ад капіталістычнага ладу.

Тыя-ж элемэнты антыкамуністычных паводзін, якія праяўляюцца ў савецкім быце бязупынна выяўляў і бічаваў І. В. Сталін. У сваім дакладзе на студзеньскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК, тав. Сталін паказаў, як выкарыстоўваюцца ўсе гэтыя элемэнты клясавымі ворагамі пралетарыяту, падкрэсьліў, што пастаўленыя ў новыя ўмовы сацыялістычнага быцьця масы, нярэдка яшчэ даволі доўгі час знаходзяцца ва ўладзе старое капі-

[1]) У. І. Ленін. Збор твораў, том XVIII, стар. 106.

талістычнай сьвядомасьці. «Вы, як марксысты,—гаварыў ён,— павінны ведаць, што сьвядомасьць людзей адстае ў сваім разьвіцьці ад фактычнага іх становішча. Калгасьнікі па становішчы ўжо не аднаасобнікі, а калектывісты, але сьвядомасьць пакуль у іх яшчэ старая, прыватна-ўласьніцкая».

«Традыцыя ўсіх адмёршых пакаленьняў як кашмар цягацее над мозгам жывучых. І якраз у той час, калі людзі стараюцца, як відаць радыкальна перарабіць сябе і акаляючы іх сьвет, стараюцца стварыць нешта, ніколі яшчэ не існуючае,—якраз у такія эпохі рэвалюцыйных крызісаў яны заклапочана выклікаюць на дапамогу сабе духоў мінулага»... [1]).

Так было з усімі рэвалюцыямі мінулага, калі ўлада перахадзіла з рук аднэй меншасьці ў рукі другой.

Зусім інакш з сацыялістычнай рэвалюцыяй, пры якой уладу заваёўвае эксплёатуемая большасьць. Гэта рэвалюцыя, каб «знайсьці свой сапраўдны зьмест, павінна прадаставіць мёртвым хаваць сваіх пакойнікаў» [2]).

У працэсе самой рэвалюцыі «зьнікаюць плямы» буржуазнай спадчыны. Толькі рэвалюцыя загартаваным жалезам можа выпаліць гэту спадчыну эксплёататарскага панаваньня: «... рэвалюцыя неабходна ня толькі таму, што нельга ніякім іншым спосабам зрынуць пануючай клясы, але і таму, што скідаючая кляса можа толькі ў рэвалюцыі ачысьціцца ад ўсяго паскудзтва старога і стаць здольнай ствараць новае грамадзтва» [2]).

Ніколі яшчэ ў гісторыі чалавецтва ні адна рэвалюцыя так рашуча і так глыбока не парывала з тымі ідэямі, якія панавалі ў грамадзтве да яе, як гэта робіць камуністычная рэвалюцыя. Ужо ў «Маніфэсьце» Маркс—Энгельс зазначалі, што «камуністычная рэвалюцыя ёсьць самы радыкальны разрыў з існуючымі адносінамі; нядзіўна, што яна самым радыкальным парадкам парывае з традыцыйнымі ідэямі». Той карэнны разрыў, які камуністычная рэвалюцыя робіць з ідэалёгіяй мінулага, абумоўлены карэнным пераваротам, які гэтая рэвалюцыя стварае ў маёмасных адносінах. Камуністычная рэвалюцыя не абмяжоўваецца перастаноўкай клясавых сіл, як гэта было пры ўсіх раней-шых рэвалюцыях. Яна ажыцьцяўляе гэту перастаноўку для таго, каб узначаліўшы грамадзтва, апошняй з клясаў, якая прыходзіць да ўлады рабочай, але праз дыктатуру гэтае клясы, прывесьці чалавецтва да бясклясавага грамадзтва. У «Нямецкай ідэалёгіі» Маркс і Энгельс зазначаюць, што «пры ўсіх мінулых рэвалюцыях заставаўся заўсёды некранутым род дзейнасьці,— справа ішла заўсёды толькі аб якімсьці іншым разьмеркаваньні

[1]) Маркс. 18-ае брумера Луі-Банапарта.
[2]) Маркс і Энгельс. „Нямецкая ідэалёгія“ (архіў Маркса—Энгельса том I, стар. 227).

гэтай дзейнасьці, аб новым разьмеркаваньні працы паміж іншымі асобамі, між тым, як камуністычная рэвалюцыя накіроўваецца наогул супроць ранейшага роду дзейнасьці і пазбаўляе працу і панаваньне ўсіх клясаў разам з самымі клясамі, таму, што яна зьдзейсьняецца тэй клясай, якая ў грамадзтве не прызнаецца ўжо зусім клясай, ня лічыцца клясай і зьяўляецца выражэньнем разлажэньня ўсіх клясаў, нацыянальнасьцей і г. д. у цяперашнім грамадзтве»[1]). Маркс і Энгельс зусім акрэсьлена зазначаюць і той факт, што масавае зьмяненьне людзей, што пераробка мас ажыцьцяўляецца ў працэсе рэвалюцыйнай практыкі, што гэта практыка, карэнным чынам зьмяняючы ўмовы працы, нараджаючы новую працоўную абстаноўку, разам з тым нараджае і новую, камуністычную сьвядомасьць. Вырашэньне гэтай задачы ў асноўным падае на пераходны пэрыяд, у час якога па вядомаму выразу Маркса ня можа быць іншай дзяржавы, апрача рэвалюцыйнай дыктатуры пралетарыята. Пралетарская дыктатура, робячы «дэспатычныя утаржэньні» у вобласьць панаваньня буржуазіі, зьнішчаючы эканамічную ўладу эксплёататараў, разбураючы крыніцы эксплёатацыі чалавека чалавекам, зьмяняе ўмовы працы. Гэта ажыцьцяўляемая сацыялістычнай рэвалюцыяй зьмена ўмоў працы, зьяўляецца асноўным і выращаючым фактарам усяго ідэалёгічнага перарабленьня грамадзтва. Па меры гэтай зьмены новае грамадзтва ачышчаецца ад бруду старога грамадзтва і па меры яго нараджаецца новы сацыялістычны чалавек.

> «Толькі на вышэйшай стадыі камуністычнага грамадзтва, пасьля таго, як зьнікне халопская іерархія індывідаў пры разьмеркаваньні працы, а з ёю і супярэчаньне паміж разумовай і фізычнай працай; пасьля таго, як самая праца стане першай жыцьцёвай патрэбнасьцю, а ня толькі сродкам для жыцьця, пасьля таго, як разам з усебаковым разьвіцьцём пэрсанальнасьці вырастуць і прадукцыйныя сілы і ўсе крыніцы грамадзкага багацьця збытачна пацякуць,—толькі тады вузкі буржуазна прававі кругагляд будзе зусім пакінуты і грамадзтва напіша на сваім штандары: «Ад кожнага па яго здольнасьцях, кожнаму па яго патрэбнасьцях» (Карл Маркс «Крытыка Гоцкай праграмы»).

Такім парадкам, па зусім дакладнаму паказаньню Маркса, значны пэрыяд пасьля таго, як адбудзецца сацыялістычная рэвалюцыя, будзе захоўвацца яшчэ «вузкі буржуазна прававы кругагляд». Будзе захоўвацца яшчэ да пэўнага часу падзел працы фізычнай і разумовай, праца будзе зьяўляцца сродкам існаваньня.

[1]) Маркс і Энгельс. „Нямецкая ідэалёгія" (архіў Маркса—Энгельса, том I, стар. 226).

У сваім канспэкце Марксавай «Крытыкі Гоцкай праграмы» У. І. Ленін пісаў:

«Ітак, тут ясна, яскрава, дакладна адрозьніваюцца дзьве фазы камуністычнага грамадзтва ніжэйшая («Першая»)—разьмеркаваньне прадметаў спажываньня «прапарцыянальна» колькасьці працы, дастаўленай кожным грамадзтву. Няроўнасьць разьмеркаваньня яшчэ моцна. Вузкі буржуазны гарызонт права не ўпаўне яшчэ перавышаны. Гэта N B»!!

З (паўбуржуазным) правам яўна не ўпаўне яшчэ зьнікае (паўбуржуазная) дзяржава. Гэта Nota Bene!!

Таксама форма прымусу «не працуе, так і не атрымае і есьці».

«Вышэйшая»—«кожны па здольнасьцях, кожнаму па патрэбнасьцях. Калі гэта магчыма? Калі—1) зьнікне супроцьлегласьць разумовае і фізычнае працы; 2) праца зробіцца п е р ш а п а ч а т к о в а й  ж ы ц ь ц ё в а й  п а т р э б н а с ь ц ю (N B: прывычка працаваць стане нормай, без прымусу»); 3) вытворчыя сілы высока разаўюцца і г. д. Яўна, што п о ў н а е адміраньне дзяржавы магчыма толькі на гэтай вышэйшай ступені. Гэта N B. «Работа стала патрэбнасьцю, няма ніякага прымусу»[1]).

Ітак, у ніжэйшай фазе камунізму яшчэ патрэбен для арганізацыі працоўнага працэсу пэўны элемэнт прымусу. Працоўная дысцыпліна яшчэ мае патрэбу ў стымуляваньні яе звонку. Толькі паступова вырабляецца ў працоўных, у першую чаргу ў пралетарыята, камуністычныя адносіны да працы. Выпрацоўка гэта прадстаўляе сабой даволі доўгі працэс, які пачынаецца ад зьвяржэньня ўлады эксплёататараў і запаўняе сабой увесь пераходны пэрыяд. Ужо зьнішчэньне ўлады эксплёататараў адчыняе шырокія мажлівасьці для новай арганізацыі працы, для выпрацоўкі новых адносін да працы і новай працоўнай дысцыпліны.

Пасьля пераходу ўлады да рабочых, найбольш перадавыя, авангардныя пласты пралетарыяту паказваюць узоры новай працоўнай дысцыпліны, дысцыпліны сьвядомых работнікаў, якія ня ведаюць над сабой ніякага ярма, і якія праяўляюць у сваёй працы вялікую самаадданасьць, бескарыснасьць, калектывізм, самадысцыплінаванасьць. У першых камуністычных суботніках, што сыгралі гістарычную ролю і праявіліся такога роду ўзоры «расткоў новага», як казаў Ільліч. Але поруч з гэтымі «расткамі новага» ў пераходны ад капіталізму да сацыялізму пэрыяд захоўваецца яшчэ ў адносінах мас да працы дастакова старога хламу з яго спрадвечнымі прывычкамі, недысцыплінаванасьцю, рвацтвам, дробна-буржуазным эгаізмам. Гэты хлам ліквідуецца ў працэсе ўсё ўзмацняючайся новай арганізацыі працы. Яго ліквідацыі садзейнічаюць узоры камуністычных адносін да працы, агітацыя і прапаганда гэтых адносін. Поруч з мэтадамі

[1]) 14-ты ленінскі зборнік, стар. 272.

перакананьня асабліва важную ролю на даным этапе граюць яшчэ мэтады прымусу. Там, дзе дыктатура пралетарыяту ня можа пераканаць, яна павінна прымусіць.

Ленін падкрэсьліваў, што пераходны пэрыяд патрабуе «з аднаго боку, каб былі закладзены асновы сацыялістычнай арганізацыі спаборніцтва, а з другога боку, патрабуе ўжываньня прымусу так, каб лёзунг дыктатуры пралетарыяту не апаганьваўся практыкай кіселявіднага стану пралетарскай ўлады» [1]).

Разгортваючыся і ўмацоўваючыся, сацыялістычная рэвалюцыя перасільвае захаваныя ў эканоміцы, у працы рудымэнты папярэдніх грамадзкіх фармацый. Разам з тым, зьнішчаюцца, зьнікаюць і іх ідэалёгічныя рудымэнты—новыя ўмовы працы нараджаюць новую камуністычную сьвядомасьць вытворцаў, ажыцьцяўляецца сацыялістычная пераробка мас.

Пры капіталізьме праца чалавека зьяўляецца па вядомаму выразу Энгельса не «сродкам вызваленьня», а «сродкам зьняволеньня». У чым-жа зьнявольніцкая роля працы пры капіталізьме? Маркс аб гэтым гаворыць падрабязна, усебакова і вычарпальна. Напомню толькі некаторыя яго адпаведныя паказаньні. Капіталізм ператварае рабочага ў дадатак машыны. «Падзел працы робіць гэту рабочую сілу аднабаковай, ператвараючы яе ў зусім частковае майстэрства кіраваць асобным капіталістычным прыладзьдзем». Выкарыстаньне машын, падзел працы не аблягчае цяжкасьці працы, а павялічае яе «фабрычны дэспатызм, пры якім «бізун» наглядчыка за рабочым замяняюцца штрафной кніжкай назіральніка». Капіталістычная эксплёатацыя жанчын і дзяцей нізводзіць іх да фізычнага і маральнага калецтва.

Дыктатура пралетарыяту пакладае канец такому грамадзкаму ладу, пры якім праца зьяўляецца «сродкам зьняволеньня». Сацыялістычная рэвалюцыя зьнішчае грамадзтва, ў якім «вольны час аднае клясы ствараецца праз ператварэньне ўсяго жыцьця мас у рабочы час» («Капітал» том I, разьдзел 15). Яна спыняе такія вытворчыя адносіны, пры якіх над чалавекам пануе прадукт яго ўласных рук, як у рэлігіі над чалавекам пануе прадукт яго ўласнай галавы». («Капітал», том I, разьдзел 23).

Але, зразумела, гэта ніколькі не азначае, што яна вызваляе чалавека ад працы, ад неабходнасьці працаваць. Маркс зазначае, што гэта неабходнасьць уласьціва ўсім грамадзка-эканамічным фармацыям, «як дзікун, каб задаволіць свае патрэбнасьці, каб захаваць і вытвараць сваё жыцьцё, павінен змагацца з прыродай, так павінен змагацца і цывілізаваны, і ён павінен рабіць гэта ва ўсіх грамадзкіх формах і пры ўсіх магчымых спосабах вытворчасьці» («Капітал», том III, частка II).

[1]) У. І. Ленін. Збор. твораў, том XXII, стар. 455.

«Іншы раз кажуць: калі сацыялізм, дык нашто яшчэ працаваць,—сказаў тав. Сталін на зьезьдзе калгасьнікаў ударнікаў. «Працавалі раней, працуем цяпер—ці не пара пакінуць працаваць? Такія разважаньні ў корані няправільны, таварышы.

Гэта філёзофія лодыраў, а не чэсных працаўнікоў. Сацыялізм зусім не адмаўляе працы. Наадварот сацыялізм будуецца на працы. Сацыялізм і праца неадлучальны адно ад другога».

У чым-жа заключаецца аграмадная прынцыповая, якасная розьніца паміж тым, як змагаецца з прыродай, як працуе чалавек пры капіталізьме і як гэты працэс ажыцьцяўляецца ў сацыялістычным грамадзтве? Маркс адказвае такім парадкам:

«Свабода ў гэтай галіне можа заключацца толькі ў тым, што сацыялізаваны чалавек, асацыяваныя вытворцы рацыянальна рэгулююць гэты свой абмен матэрыі з прыродай, ставяць яго пад свой агульны контроль, замест таго, каб наадварот ён, як сьляпая сіла, панаваў над імі, у тым, што яны ствараюць з найменшай затратай сілы і пры ўмовах найбольш дастойных і адэкватных іх чалавечай прыродзе» (там-жа).

Тут яшчэ ў наяўнасьці работа па патрэбе і рашаючую ролю адыгрывае зьнешняя мэтазгоднасьць. Але для таго, каб надыйшла тая свабода, пры якой разьвіцьцё чалавечай сілы са сродку ператварыцца ў самамэту, неабходзен пераход да сацыялістычнай формы арганізацыі грамадзкага жыцьця, калі праца будзе пастаўлена пад грамадзкі кантроль, калі перастане панаваць стыхія капіталізму, на зьмену якой прыдзе сацыялістычны плян. У якасьці асноўнай умовы для ўступленьня ў гэта сапраўднае «царства свабоды» Маркс высоўвае скарачэньне рабочага дня. Гэта нясумненна мае сувязь з прыведзеным ужо вышэй паказаньнем Маркса, што пры капіталізьме «вольны час аднае клясы ствараецца праз ператварэньне ўсяго жыцьця мас у рабочы час». Сацыялістычнае грамадзтва зьнішчае ўмовы, пры якіх адна кляса можа быць паразітам, а ўся маса вымушана бязупынна працаваць. Тым самым робіцца рашаючы крок у «царства свабоды».

Пры капіталізьме нерацыянальна бяссэнсоўна растрачваюцца вялізарныя працоўныя сілы. Гэта бескарысная страта працоўнай энэргі нямінуча ў грамадзтве анархічнай канкурэнцыі эксплёататараў. Ад яе будзе вызвалена грамадзтва сацыялістычнага пляну. Тым самым забясьпечваюцца важнейшыя прадпасылкі вызваленьня асобы, стварэньня новага чалавека...

Камунізм, які для Маркса быў не абстрактным ідэалам, а рэальным рухам, зьнішчаючым эксплёататарскае грамадзтва, пакладзе канец таму падзелу працы, што пануе ў гэтым грамадзтве. Камунізм разьбівае жалезны кругагляд прафэсійнай дзейнасьці, у які капіталізм замыкае чалавечую асобу. Калі праца перастае быць сродкам да існаваньня, калі яна перастае вызначацца зьнешняй мэтазгоднасьцю, тады зьнікае і тая вузкая спэ-

цыялізацыя, што ствараецца капіталізмам, тады зьнікае яе традыцыйны падзел на фізычную і разумовую: «... У камуністычным-жа грамадзтве, дзе кожнаму індывідуму не адведзена выключнае кола дзейнасьці і кожны можа разьвівацца ў любой галіне працы, грамадзтва рэгулюе ўсю вытворчасьць і менавіта таму стварае для мяне магчымасьць сёньня рабіць адно, а заўтра другое, раніцой паляваць, пасьля абеду лавіць рыбу, увечары займацца жывёлагадоўляй, альбо крытыкаваць яду, як маёй душы заўгодна—прычым я не зраблюся ад гэтага паляўнічым, рыбаловам, пастухом, альбо крытыкам»[1]).

Адна з найвялікшых задач, вырашэньне якіх стаіць перад камунізмам, заключаецца ў тым, каб «частковага рабочага, звычайнага носьбіта вядомай частковай грамадзкай функцыі, замяніць усебаковаразьвітым індывідумам, для якога розныя грамадзкія функцыі прадстаўляюць зьмяняючыя адзін другога спосабы жыцьцядзейнасьці» (Капітал», том І, разьдзел 13).

Гэта задача здаецца ўтапічнай, фантастычнай тым, уяўленьне якіх ня выходзіць за межы «вядомых» катэгорый капіталістычнага грамадзтва. Для тых людзей, якія атручаны буржуазнай ідэалёгіяй, зьнішчэньне таго спэцыфічнага падзелу працы, які створаны капіталізмам, разбурэньне традыцыйнага адрозьніваньня паміж фізычнай і разумовай працай, зьяўляецца чымсьці «супроцьнатуральным» і неажыцьцявімым. Адно аб чым гэта сьведчыць,—гэта пра абмяжаванасьць такіх мазгоў, для якіх «натуральным» і «законамерным» зьяўляецца ўсё тое, што падтрымлівае ўладу эксплёатататараў.

У палеміцы з Дзюрынгам Энгельс недарэмна пісаў:

«п. Дзюрынгу, які ўнасьледваў вобраз мышленьня адукаваных клясаў павінна, канешне, здавацца дзіўным, што прыдзе час, калі ня будзе ні возчыкаў ні архітэктараў па прафэсіі, што чалавек, які распараджаўся на працягу аднае, другое гадзіны, як архітэктар, будзе потым кіраваць канём у якасьці возчыка, покуль не зьявіцца зноў неабходнасьць у яго дзейнасьці як архітэктара. Добрым-бы быў сацыялізм, які-б увекавечыў пасаду возчыка як спэцыяльную прафэсію!..»

Сацыялізм да канца разбурае асьветляемы і ахоўваемы капіталізмам падзел працы, якіператварае «аднаго ў селяніна, другога ў шаўца, трэцяга ў фабрычнага рабочага, чацьвертага ў спэкулянта біржы»[2]).

Аднэй з самых буйных праяў, што аддзяляюць фізычную працу ад разумовай, матар'яльнае ад фізычнага, Маркс лічыў адлучэньне гораду ад вёскі. Гэта адлучэньне, якое было першым падзелам працы, па яго паказаньнях, зрабіла адбітак на ўсю навейшую гісторыю, бо па меры таго, як зьмяніліся толькі адны

---

[1]) „Нямецкая ідэалёгія" (Архіў Маркса—Энгельса, том I, стар. 223).
[2]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том V, стар. 478.

гэтыя адносіны гораду да вёскі, зьмянілася ўсё грамадзтва» («Убоства філёзофіі»).

Распыленьне земляробскага насельніцтва ў вёсках і канцэнтрацыя прамысловага насельніцтва ў гарадох зьявіцца аднэй з важнейшых перашкод, якая стане на шляху ажыцьцяўленьня камунізма. Будаўніцтва камунізма зьнішчыць гэтыя перашкоды. Злучэньне гораду з вёскай зьявіцца адным з важнейшых вынікаў зьнішчэньня прыватнай уласнасьці.

Супярэчнасьці паміж горадам і вёскай Маркс і Энгельс разглядалі як «грубейшае выражэньне факту падпарадкаваньня індывідуму падзелу працы і пэўнай, прымусова навязваемай яму дзейнасьці, падпарадкаваньня, што ператварае аднаго чалавека ў абмежаваную гарадзкую жывёлу, другога—ў абмежаваную вясковую жывёлу, штодзённа наноў параджаючага супярэчнасьці інтарэсаў абодвых» [1]).

Адлучэньне гораду ад вёскі ажыцьцяўлялася яшчэ да нараджэньня прамысловага капіталізма, але апошні па словах Маркса «замацаваў перамогу гораду над вёскай». Горад з прамысловым капіталізмам ператварыўся ў асяродак эканамічнай магутнасьці, у ім сканцэнтраваўся капітал, ён увассаў у сябе прылады вытворчасьці, ён стаў арэнай узьнікненьня новых патрэбнасьцяй і месцам іх задавальненьня. Вёска-ж аказалася ізаляванай, аказалася асуджанай на самазамыканьне, толькі ў слабой ступені аказалася ўцягнутай у рэчышча тэхнічнага прагрэсу, што капіталізм прынёс гораду.

Камунізм запоўніць бяздоньня, што вырыў капіталізм паміж горадам і вёскай. Гэта зьяўляецца аднэй з прадпасылак рэалізацыі камунізмам самога сябе: зьнішчэньне супярэчнасьцяй паміж горадам і вёскай Маркс недарэмна высоўваў, як «адну з першых умоў калектыўнасьці». Але ён сур'ёзна папяраджаў ад таго, каб лічыць гэту ўмову ажыцьцявімай на другі дзень пасьля падзеньня капіталізма, ставіць яе ў залежнасьць ад аднэй толькі волі перамогшага пралетарыяту. Маркс з асаблівай сілай падкрэсьліваў, што рэалізацыя гэтай умовы «у сваю чаргу залежыць ад масы матар'яльных прадпасылак і якія як кожны бачыць адразу-ж ня могуць быць ажыцьцявімы толькі аднэй воляй» [2]). «Гэтыя ўмовы павінны яшчэ быць разьвіты»,—тут-жа дадаваў Маркс.

Такім парадкам заснавальнік навуковага камунізму лічыў, што сацыялістычная рэвалюцыя ў якасьці аднэй з сваіх важнейшых задач павінна будзе паставіць зьнішчэньне супярэчнасьці паміж горадам і вёскай, якое калечыць, прытупляе чалавечую асобу, якое не дае ёй зрабіцца дастаткова шматграннай і ролнастайнай, пры якім толькі і магчымы «ідэётызм вясковага жыцьця». Але сацыялістычная рэвалюцыя, перш чым

[1]) Маркс—Энгельс. Архіў т. I, стар. 234.
[2]) Маркс—Энгельс. Архіў т. I, стар. 234.

вырашыць гэту важнейшую задачу, павінна будзе падрыхтаваць усё неабходнае для гэтае ўмовы, стварыць той эканамічны базіс, на якім стане магчымым гэты грандыёзны гістарычны пераварот. Гэты пераварот зробіцца магчымым толькі пры камунізьме, толькі тады, калі вытворчыя сілы камуністычнага грамадзтва дасягнуць такога ўзроўню, пры якім можна будзе разьмяркоўваць прадукты па патрэбнасьцях кожнага члена грамадзтва.

Гэты пераварот яшчэ нельга стварыць у стадыі сацыялізму, адносна якой праграма Камінтэрна ў поўнай адпаведнасьці з паказаньнямі Маркса і гаворыць: «Падзел працы, г. зн. замацаваньне пэўных працоўных функцый за пэўнымі групамі асоб яшчэ ня зжыта і ў прыватнасьці яшчэ ня зьнішчана ў асноўным супроцьлегласьць паміж разумовай і фізычнай працай»...

Маркс зазначае, што ў стадыі сацыялізму будуць падрыхтоўвацца ўмовы, неабходныя для таго, каб зьнікла супроцьлегласьць паміж разумовай і фізычнай працай. Падрыхтоўка ўмоў, аб якіх гаворыць Маркс, заключаецца ў наабходным для гэтага перавароту росьце вытворчых сіл,—у перамаганьні рэштак капіталізма ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей.

Гэтыя перажыткі капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, будучы не ахоўваемы і не падтрымліваемы ніякай грамадзкай сілай, «зьнікаюць па меры таго, як вызваленае ад кайданоў капіталістычнага ладу чалавецтва, хуткім тэмпам падначальвае сабе сілы прыроды, перавыхоўвае самога сябе ў духу камунізма і пераходзіць ад сацыялізму да поўнага камунізма». (З праграмы Камінтэрна).

Капіталістычная сыстэма падзелу працы ўціскае і прытупляе асобу чалавека, робячы супроцьлеглай фізычную і разумовую працу, падзяляючы горад і вёску. Яна тым самым як бы разрывае чалавека на часткі, чалавек ператвараецца ў селяніна альбо ў горажаніна, і той і другі не зьяўляюцца поўнацэннымі асобамі. Ажыцьцяўляемы капіталізмам падзел працы нямінуча вядзе да «здрабненьня чалавека» (Энгельс). Гэта здрабненьне ствараецца прытупляючым уплывам вёскі на яе жыхароў, ператварэньне рабочага ў «аўтоматычнае кола, што выконвае адну частковую работу» (Маркс), духоўным апусташэньнем, разумовай абмяжаванасьцю і паразытызмам пануючых клясаў. Капіталістычны падзел працы калечыць усю грамадзкую арганізацыю цалкам і разам з тым кожнага яе члена. Ён прыдушае як калектыў, аддадзены ва ўладу грамадзкай анархіі, так і асобу, што зьнявольваецца прытупляюча-аднолькавай, паднявольнай працай і становіцца «частковым індывідумам».

Сацыялізм павінен зьмяніць гэтага скалечанага, частковага індывідума, індывідумам упаўне разьвітым, для якога розныя грамадзкія функцыі зьяўляюцца зьмяняючымі адна другую формамі дзейнасьці. (Маркс). Зьнішчаючы прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, разбураючы ўсе крыніцы эксплёатацыі

чалавека чалавекам, ствараючы новыя формы працы, будуючы бясклясавае грамадзтва, сацыялістычная рэвалюцыя перавыхоўвае масы. У яе процэсе зьнікаюць «радзімыя плямы» капіталістычнай ідэалёгіі, нараджаецца новы чалавек—носьбіт камуністычнай сьвядомасьці, той чалавек, над якім ня будзе цягацець улада сусьветнага рынка з пашыраемай ім на людзей «усебаковай залежнасьцю». Сацыялістычная рэвалюцыя зробіць гэту залежнасьць падпарадкаванай, падкантрольнай чалавецтву. Гэта прывядзе да таго, што асоба стане вольнай, шматграннай і разнастайнай, бо «сапраўды духоўнае багацьце індывідуму залежыць ад багацьця яго сапраўдных адносін». (Рэпліка Маркса ў «Нямецкай ідэалёгіі»). Зьнішчэньне прыватнай уласнасьці вызваляе чалавечыя пачуцьці і ўласьцівасьці ад таго ўціску, якому іх падпарадкуе эксплёататарскае грамадзтва., што стварыла культ уласнасьці, культ авалодваньня, унівэрсальнага і ўсё сабе падпарадкуючага пачуцьця ўласьніка «прыватная ўласнасьць зрабіла нас настолькі тупымі і аднабаковымі, што які-небудзь прадмет зьяўляецца нашым толькі тады, калі мы валодаем, г. зн., калі існуе для нас выключна, калі ім мы непасрэдна ўладаем, ядзім яго, п'ём, носім на сваім целе, жывём у ім і г. д., калі мы, кажучы карацей, спажываем яго» [1]).

Камунізм пакладае канец гэтаму прытупляючаму культу уласнасьці. Тым самым ён па бліскучаму выразу Маркса «ачалавечвае пачуцьцё чалавека», стварае «адпаведны чалавечы сэнс для ўразуменьня ўсяго багацьця сутнасьці чалавека і прыроды». Тады адбываецца, як любіў выражацца Маркс,—«зварот чалавека да самога сабе», адбываецца «зьнішчэньне чалавечага самаадчужэньня». Гэты «самазварот» ёсьць раней і перш за ўсё рэзультат эканамічнай рэвалюцыі, ёсьць рэзультат рэвалюцыйнай перабудовы грамадзкай эканомікі, сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, зьнішчэньня буржуазнай уласнасьці, зьмяненьня форм працы. Гэта зьяўляецца па Марксу рашаючым фактарам сацыялістычнага перавыхаваньня мас. «Рабочая сям'я, дзяржава, праца, мараль, навука, мастацтва і г. д.»,—гаварыў Маркс,—у падрыхтоўчых працах для «Сьвятога сямейства»—«гэта толькі асобная форма вытворчасьці, што падпарадкуецца яе ўсеагульнаму закону. Таму станоўчае зьнішчэньне прыватнай уласнасьці—гэтага элемэнту жыцьця чалавечай рэчаіснасьці—як прысваеньня чалавечага жыцьця, ёсьць станоўчае зьнішчэньне, зьняцьце ўсялякага адчужэньня, г. зн. зварот чалавека ад рэлігіі, сям'і, дзяржавы і г. д. да свайго чалавечага, г. зн. грамадзкага быцьця» [2]).

«Самазварот» чалавека адбудзецца ня ў выніку якіх-небудзь ідэалёгічных зрухаў у грамадзе, а зьявіцца вынікам рэвалюцыйнай перабудовы эканамічнага жыцьця—экспрапрыяцыі экспра-

[1]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том III, стар. 633.
[2]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том III, стар. 622—623.

прыятарау, зьнішчэньне прыватнай уласнасьці, сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі: «... гэтага можна дамагчыся толькі шляхам практычнага ажыцьцяўленьня камунізма. Для таго, каб зьнішчыць тэарэтычную думку аб прыватнай уласнасьці, для гэтага дастаткова тэарэтычнага (gedachte) камунізма, але, каб зьнішчыць сапраўдную прыватную ўласнасьць для гэтага неабходна сапраўднае камуністычнае дзеяньне». (Маркс).

Новы грамадзкі лад, які наступіць пасьля зьнішчэньня прыватнай ўласнасьці, пераробіць людзей, ён створыць тых новых людзей, якія будуць неабходны для сацыялістычнай вытворчасьці. «Грамадзкае кіраваньне вытворчасьцю ня можа ажыцьцяўляцца людзьмі накшталт цяперашніх, з якіх кожны падпарадкаваны аднэй якой-небудзь галіне вытворчасьці, прыкованы да яе, эксплёатуецца ёю, дзе кожны разьвівае толькі адзін бок сваіх здольнасьцяй за кошт усіх іншых і ведае толькі адну галіну альбо частку якой-небудзь галіны ўсяе вытворчасьці» [1]). «Новая вытворчасьць будзе мець патрэбу ў зусім новых людзях і іх створыць».

Аднак, было-б памылковым думаць, што Маркс разглядаў сацыялістычнае перавыхаваньне мас, як нейкі пасыўны рэфлекс, што ажыцьцяўляецца сацыялістычнай рэволюцыяй эканамічнай перабудовы грамадзтва. Думка аб тым, што «пераробка» мас будзе ажыцьцяўляцца «аўтаматычна», па меры будаўніцтва сацыялізму была ня толькі чужой, але і варожай Марксу. Заснавальнік навуковага камунізма заўсёды падкрэсьліваў, што гэта пераробка патрабуе складанай і актыўнай работы з боку рабочае клясы, ажыцьцяўляючай поўнасьцю сваёй дыктатурай і сацыялістычную рэвалюцыю.

Зьвернемся для прыкладу да рэлігіі.

Рэлігія зьяўляецца па сутнасьці адным з галоўнейшых элемэнтаў капіталізма ў сьвядомасьці людзей. Перамаганьне гэтых элемэнтаў, уключае само сабой, і ліквідацыю рэлігійнасьці.

Маркс з вялікай сілай зазначае, што пакуль існуе капіталізм у эканоміцы, будзе існаваць і рэлігійнасьць у сьвядомасьці людзей. У «Капітале», ён, напрыклад, гаворыць, што «рэлігійнае атабражэньне сапраўднага сьвету можа наогул зьнікнуць толькі тады, калі адносіны практычнага штодзённага жыцьця людзей будуць праяўляцца ў разумных сувязях іх паміж сабой і прыродай».

Гэтыя разумныя сувязі нясе з сабой, іх стварае сацыялізм. Вось чаму толькі ў сацыялістычным грамадзтве зьнікне ўсякая глеба, на якой можа вырастаць атрутнае зельле рэлігіі. «Рэлігія сама па сабе пазбаўлена зьместу і жыве ня небам і зямлёй, і са зьнішчэньнем тэй скажонай рэальнасьці, тэорыяй якой яна зьяўляецца, яна гіне сама сабой», пісаў Маркс у адным з лістоў да Ругэ.

---

[1]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том V, стар. 478.

Такiм парадкам зьнiшчэньне капiталiстычнага ладу, пагiбель капiталiстычнай эканомiкi зьяўляецца па Марксу найвялiкшым i рашаючым фактарам сацыялiстычнага перавыхаваньня мас у накiрунку бязбожжа, ў накiрунку выпрацоўкi ў iх атэiстычнага сьветаразуменьня. Рэлiгiя, гэта агульная тэорыя эксплёататарскага клясавага грамадзтва, яго, як выражаўся Маркс, «энцыклёпэдычная зводка, яго лёгiка ў папулярнай форме, яго спiрытуялiстычнае спавяданьне, яго маральная санкцыя»—зьнiкне разам са зьнiкнавеньнем гэтага грамадзтва. Усыпляючы чалавечыя пачуцьцi, прынiжаючы чалавечую асобу, прытупляючы чалавечую актыўнасьць, рэлiгiйная iдэя ў эксплёататарскiм грамадзтве мае глыбокiя клясавыя карэньнi. Сацыялiстычная рэвалюцыя падсякае гэтыя карэньнi. У працэсе сацыялiстычнага будаўнiцтва перамагаецца рэлiгiйнасьць мас. Будаўнiцтва сацыялiзму пазбаўляе рэлiгiю харчуючых яе крынiц. Кожны пасьпяховы крок, калi пралетарская дзяржава робiць на сацыялiстычным шляху, наблiжае момант канчатковай гiбелi рэлiгii. I таму ў поўнай адпаведнасьцi з паказаньнямi Маркса, Ц. С. Саюзу Ваяўнiчых Бязбожнiкаў, абвяшчае, што «барацьба з рэлiгiяй—гэта барацьба за сацыялiзм». Патрэбна, аднак, са ўсёй рашучасьцю зазначыць, што ўсе выказваньнi Маркса адносна рэлiгii i яе адмiраньне з сацыялiзмам нi ў якiм разе не дазволяць рабiць апартунiстычнага вываду адносна «самаадмiраньня» рэлiгii, адносна яе лiквiдацыi «самацёкам» па меры росту сацыялiзма. Наадварот, Маркс патрабаваў у мэтах сацыялiстычнага перавыхаваньня мас актыўнай атэiстычнай барацьбы, пралетарскай антырэлiгiйнай прапаганды.

У першую фазу камунiзма, калi толькi што народжаная сацыялiстычнае грамадзтва носiць на сабе яшчэ «радзiмыя плямы» капiталiстычнай эканомiкi, у грамадзкiм быцьцi яшчэ захоўваюцца некаторыя элемэнты, што садзейнiчаюць захаваньню рэлiгiйнасьцi, тармозяць зьнiшчэньне рэлiгii i гiбель iдэi бога, гэтага «комплексу» iдэй, народжаных тупой прыдушанасьцю чалавека i вонкавай прыродай, i клясавым ўцiскам» (Ленiн). Адным з самых галоўных момантаў у складаным працэсе сацыялiстычнага перавыхаваньня мас i зьяўляецца па Марксу актыўная барацьба з жывучасьцю рэлiгiйнай iдэi, што наглядаецца яшчэ значны пэрыяд пасьля пераходу ўлады да рабочай клясы.

Выкрываць гэтую iдэю, ускрываць перад масамi сацыяльныя карэньнi рэлiгii, яе клясавую ролю, яе нязьменнае служэньне эксплёататарам,—значыць перамагаць адзiн з найважнейшых элемэнтаў капiталiзма ў сьвядомасьцi людзей. Рэлiгiя—адзiн з найбольш жывучых перажыткаў капiталiзма ў iдэалёгii мас, што ўжо ўступiлi ў сацыялiзм. За гэты перажытак лiхаманкава хватаюцца рэшткi варожых сацыялiзму, разьбiтых, але яшчэ не дабiтых клясаў. Ва ўладзе гэтага перажытку аказваюцца найбольш адсталыя пласты працоўных, сярод якiх «шмат сэпаратыстычных старых дробна-буржуазных прывычак i навыкаў, i яшчэ мае

месца стары лёзунг «кожны за сябе, адзін бог за ўсіх» (Ленін). Вось чаму патрабаваньне актыўнай антырэлігійнай работы выстаўляецца Марксам, як адна з найважнейшых задач сацыялістычнага перавыхаваньня мас, якая ня можа быць не накіраванай на канчатковае зьнішчэньне рэлігіі, гэтага адно з самых агідных забабонаў мінуўшчыны...

Марксавы ўстаноўкі адносна рэлігіі, яе жывучасьці ў пераходны пэрыяд і неабходнасьці актыўнай барацьбы з ёю ў мэтах сацыялістычнага перавыхаваньня мас, былі разьбіты У. І. Леніным, які падняў іх на новую ступень на падставе вывучэньня ролі рэлігіі ў эпоху імпэрыялізма і пралетарскіх рэвалюцый. Толькі з тэарытычных вышынь гэтага новага ленінскага этапу ваяўнічага атэізму, мы можам правільна рэалізаваць тыя паказаньні, што даны Марксам наконт перамаганьня рэштак рэлігійнасьці, як аб адным з найважнейшых актаў сацыялістычнага перавыхаваньня мас.

Зазначаючы на тое, што пераход ўлады да рабочай клясы будзе мець сваім вынікам зьнішчэньне ўсялякай эксплёатацыі чалавека чалавекам, «Камуністычны маніфэст» падкрэсьлівае, што заваяваньне ўлады пралетарыятам зазначае канец нацыянальнаму прыгнечаньню, якое практыкуе і культывуе буржуазія. «У такой-жа ступень, у якой зьнішчана будзе эксплёатацыя аднаго індывідума другім, зьнішчаецца і эксплёатацыя аднэй нацыі другой».

Маркс высоўвае барацьбу са ўсімі праявамі нацыянальнага прыгнечаньня і нацыянальнай няроўнасьці, як адну з найважнейшых задач, што стаяць перад рабочай клясы. «Толькі адкідаючы ўсе дзікія і неразумныя нацыянальныя забабоны, толькі згуртоўваючы ў адзін саюз рабочых ўсіх нацый, можа рабочая кляса стаць сілай, даць адпор капіталу і дамагчыся сур'ёзнага палепшаньня жыцьця».

Узяўшы ўладу, рабочая кляса пакладзе канец усім відам нацыянальнага прыгнечаньня, нацыянальных прывілеяў, нацыянальнай варожасьці, нацыянальных забабонаў.

Культура, якую ствараe перамогшы пралетарыят, зьяўляецца па сваім зьмесьце і н т э р н а ц ы я н а л ь н а й с а ц ы я л і с т ы ч н а й к у л ь т у р а й. Але гэта ствараемая пралетарыятам інтэрнацыянальная сацыялістычная культура разьвіваецца ў пэрыяд пралетарскай дыктатуры і будаўніцтва сацыялізму ў нацыянальнай форме. Той, хто прыкрываючыся лёзунгам інтэрнацыяналізма паўстае супроць нацыянальнай формы сацыялістычнай культуры, той фактычна абараняе абшарніцка-буржуазную культуру, панаваўшай вялікадзяржаўнай нацыянальнасьці.

Аб тым, як тонка ўмеў Маркс адрозьніваць сапраўдны інтэрнацыяналізм, ад вялікадзяржаўніцкай спэкуляцыі інтэрнацыялізмам, прыкрываючай на справе прывілеяванае становішча

пэўнай нацыі, сьведчыць яго вядомы ліст да Энгельса ад 20 чэрвеня 1866 году.

У гэтым лісьце Маркс пісаў: «Учора былі спрэчкі ў Савеце Інтэрнацыяналу аб цяперашняй вайне... Спрэчкі зьявіліся, як і чакалі, да пытаньня аб «нацыянальнасьцях» і аб нашых адносінах да яго... Прадстаўнікі «маладой Францыі» (не рабочыя) высоўвалі той пункт гледжаньня, што кожная нацыянальнасьць і самая нацыя—устарэлыя забабоны... Ангельцы вельмі сьмяяліся, калі я пачаў сваю прамову з таго, што наш сябра Ляфарг і іншыя, што адмяняюць нацыянальнасьці, зьвяртаюцца да нас пафранцуску, г. зн. на мове, незразумелай для $^{9}/_{10}$ сходу. Далей я намякнуў, што Ляфарг, сам таго не сазнаючы, пад адмаўленьнем нацыянальнасьці, разумее, здаецца іх паглынаньне ўзорнай францускай нацыяй».

З гэтых радкоў відаць, што пралетарскі інтэрнацыяналізм Маркса нічога агульнага ня мае з тым мнімым інтэрнацыяналізмам, які нізводзіцца да паглынаньня аднэй «узорнай нацыяй» іншых не «узорных». нацый. Марксава разуменьне інтэрнацыянальнай культуры, як на гэта неаднократна зазначалі Ленін і Сталін, не дазваляе лічыць гэту культуру безнацыянальнай. Пралетарскі інтэрнацыяналізм патрабуе зьнішчэньня ўсялякіх элемэнтаў панаваньня, падпарадкаваньня, няроўнасьці паміж нацыямі. «Інтэрнацыянальнае супрацоўніцтва магчыма толькі паміж роўнымі», заўважае Маркс. (Ліст да Каўцкага ад 7 лютага 1882 г.[1]).

Нацыянальнае пытаньне, як зазначыў Маркс, грае падпарадкаваную ў адносінах да барацьбы пралетарыяту ролю. Але яго недаацэнкай Маркс ніколі не грашыў. «Ад ігнараваньня нацыянальных рухаў яго тэорыя далёка як неба ад зямлі»,—гаворыць Ленін аб Марксе. У сваіх выступленьнях, маючых сувуязь з сучасным і нацыянальным рухам (польскім пытаньні, па ірляндзкім пытаньні, чэскім і іншых) Маркс—Энгельс далі ўзоры сацыялістычнага інтэрнацыянальнага разуменьня гэтага руху. У гэтых выступленьнях мы маем клясычныя ўзоры зрываньня масак з тых, хто імкнецца ў клясавых мэтах эксплёататараў прыкрыцца фальшыва-нацыянальным сьцягам, хто ўздымае фальшыва-нацыянальны сьцяг для таго, каб палепшыць справу эксплёататараў і драпежнікаў, хто імкнецца скарыстаць фальшыва-нацыянальны сьцяг,—для таго, каб дапамагчы рэакцыйным рухам, як, напр. руху панславістаў.

У поўнай адпаведнасьці з гэтым разуменьнем, падвергнуўшы гэта пытаньне сыстэматычнай глыбокай і ўсебаковай распрацоўцы Ленін і Сталін паказалі, якой павінна быць пралетарская нацыянальная палітыка, як пры панаваньні буржуазіі, так і пасьля заваяваньня ўлады рабочай клясай.

Яны давялі, што ў капіталістычнай дзяржаве лёзунг нацыянальнай культуры, рэакцыйны, што ён адурманьвае масу, што

[1]) Архіў Маркса—Энгельса, том I (VI), стар. 190.

яна культывуе нацыянальную адмежаванасьць, нацыянальныя забабоны, нацыянальную варожасьць, што ён садзейнічае ўмацаваньню ўлады эксплёататараў.

У той-жа час яны давялі, што пры пралетарскай дыктатуры сацыялістычная па сваім зьмесьце культура павінна мець нацыянальную форму, што менавіта такая—сацыялістычная па зьмесьце, нацыянальная па форме культура—умацоўвае дыктатуру пралетарыята, садзейнічае разьвіцьцю ў масах інтэрнацыялізма, выхаваньню іх ў інтэрнацыянальным духу.

Марксызм-ленінізм такім парадкам патрабуюць як аднэй з найважнейшых прадпасылак пераробкі мас пры дыктатуры пралетарыята і іх сацыялістычнага перавыхаваньня, разьвіцьця сацыялістычных па зьмесьце, нацыянальных па форме культур. Гэта разьвіцьцё забясьпечвае ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасьці нацый, што прыгняталіся буржуазіяй пануючай нацыі. Гэта разьвіцьцё забясьпечвае прыцягненьне гэтых адсталых нацый да сацыялістычнага буданіцтва. Гэта разьвіцьцё актывізуе мільённыя масы працоўных, выяўляе закладзеныя ў іх, але прыдушаныя вякамі ўціску магчымасьці. «Росквіт нацыянальных па форме і сацыялістычных па зьмесьце культур ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту ў адной краіне для злучэньня іх у адну агульную сацыялістычную (і па форме і па зьмесьце) культуру з аднэй агульнай мовай, калі пралетарыят пераможа ва ўсім сьвеце і сацыялізм увойдзе ў быт,—у гэтым менавіта і заключаецца дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры» (Сталін).

Ленінская нацыянальная палітыка, барацьба партыі на два франты—з прадстаўляючым галоўную небясьпеку вялікадзяржаўным шавінізмам і мясцовымі шавінізмамі, зьяўляецца найвялікшым фактарам сацыялістычнага выхаваньня мас ў духу таго пралетарскага інтэрнацыяналізму, надзвычайныя ўзоры якога дадзены Марксам, які тэарытычна паглыблена абгрунтаваны і распрацаваны Ленінам і Сталіным, які пераможна рэалізуецца ў генэральнай лініі нашай партыі.

Асабліва важную ролю ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня мас Карл Маркс надаваў школе. Сыстэма выхаваньня, ажыцьцяўляемая пры капіталізьме, калечыць чалавечую асобу, імкнецца вымуштраваць з яе паслухмянага раба альбо-ж, у меншасьці выпадкаў, падрыхтаваць яе для лепшага выкананьня функцый эксплёататара. Але ўжо ў капіталістычным грамадзтве нараджаюцца элемэнты палітэхнічнага выхаваньня. На базе буйнай прамысловасьці пачынае ўзьнікаць палітэхнічная школа, ў якой абучэньне спалучаецца з вытворчай працай. Капіталізм вымушан прыбягаць да палітэхнічнай падрыхтоўкі рабочага, паколькі разнастайная падрыхтоўка яго становіцца, як гаварыў Маркс, пытаньнем жыцьця і сьмерці для буйнай індустрыі. «Ператвораны ў дроб індывідум, звычайны носьбіт частковай гра-

мадзкай функцыі павінен быць заменены цалкам (усебакова) разьвітым індывідумам, для якога розныя грамадзкія функцыі зьяўляюцца зьмяняючымі адна другую формамі прыстасаваньня яго дзейнасьці». («Капітал», том I, разьдзел 13).

Палітэхнічнае выхаваньне робіць рэвалюцыянізуючы ўплыў на чалавечую асобу, што скалечана капіталістычным падзелам працы. Але само сабой зразумела, што капіталізм гэтага выхаваньня як сьлед разгарнуць ня можа і ў гэтым не зацікаўлен,— капіталізму патрэбна школа муштры, школа зуброжкі, школа, у якой фабрыкуецца гарматнае мяса капіталістычнай эксплёатацыі, школа, якая ідэалёгічным атручваньнем мазгоў падрастаючага пакаленьня замацоўвае ўладу эксплёататараў.

Толькі пераход ўлады да рабочае клясы стварае магчымасьць шырокага разгортваньня палітэхнічнай школы. «Калі фабрычнае законадаўства, вырванае з цяжкасьцю ў капітала»,—гаворыць Маркс,—«злучыла элемэнтарнае абучэньне з фабрычнай работай, дык не падлягае ніякаму сумненьню, што нямінучае заваяваньне рабочай клясай палітычнага панаваньня, заваюе ў школях да рабочых месца тэарэтычнаму і практычнаму абучэньню тэхналёгіі». («Капітал», том I, разд. 13).

У пэрыяд пралетарскай дыктатуры палітэхнічная школа, як зазначыў Маркс, павінна быць клясавай, пралетарскай школай, якая зьмяняе сабой і замяняе клясавую школу буржуазіі. У поўнай адпаведнасьці з паказаньнямі Маркса наконт гэтага § 12 праграмы УсеКП(б) устанаўляе, што «у пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, г. зн. у пэрыяд падрыхтоўкі умоў, робячых магчымым поўнае ажыцьцяўленьне камунізма, школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў камунізма наогул, але і праваднікам ідэёвага, арганізаванага ўплыву пралетарыяту на поўпралетарскія і непралетарскія пласты працоўных мас ў мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм».

Толькі ажыцьцяўленьне камунізма зробіць магчымым існаваньне бясклясавай палітэхнічнай школы. Пакуль існуюць клясы, пакуль не пабудавана бясклясавае грамадзтва, палітэхнічная школа павінна быць клясавай школай, школай барацьбы за пралетарскую культуру, адным з важнейшых фактараў камуністычнага перараджэньня грамадзтва.

Чаму Маркс надаваў ў справе сацыялістычнай перапробкі чалавека выключае вялікае значэньне палітэхнічнай школе?

Таму, што бачыў у ёй ажыцьцяўленьне таго выхаваньня, якое «злучыць вытворчую працу з абучэньнем і гімнастыкай, прычым гэта будзе ня толькі мэтадам падвышэньня грамадзкай вытворчасьці, але і адзіным мэтадам усебакова разьвітых людзей». («Капітал», том I, разд. 13).

Капіталістычны падзел працы—пра гэта ўжо гаварылі—калечыць чалавечую асобу, ператварае яе ў «частковага індывідума». Сацыялізм робіць гэтую асобу усебакова разьвітай,

не «частковым», а цэльным гарманічным індывідумам. Найвялікшую ролю ў справе гэтае перарабкі асобы Маркс надаваў палітэхнічнай школе, якая разгортвае такую сыстэму камуністычнага выхаваньня, якую, як мы ўжо зазначалі, Маркс лічыў «адзіным мэтадам стварэньня ўсебакова разьвітых людзей».

З палітэхнічнай школы камуністычнага грамадзтва будзе выходзіць новы чалавек, усебакова разьвіты, сацыялістычна перароблены. Гэта грамадзтва Маркс, як і Ленін ня мысьліў сабе «без злучэньня абучэньне з вытворчай працай маладога пакаленьня: ні абучэньне і адукацыя без вытворчае працы, ні вытворчая праца без раўналеглага абучэньня і адукацыі не маглі-б быць пастаўлены на тую вышыню, якая патрабуецца сучасным узроўнем тэхнікі і станам ведаў» [1]).

Погляды Маркса на палітэхнічную школу і яе ролю ў справе перавыхаваньня мас яскрава выказаны ў складзенай Марксам рэзалюцыі І Кангрэсу І Інтэрнацыянала, які адбыўся ў 1866 г. У гэтым славутым дакумэнце Маркс паказаў, што пад адукацыяй трэба разумець: 1) разумовую адукацыю, 2) фізычнае разьвіцьцё такое, якое даюць гімнастычныя школы і вайсковыя практыкаваньні, 3) палітэхнічнае выхаваньне, якое знаёміць з агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсіх вытворчых працэсаў і ў той-жа час дае дзіцёнку і падлетку практычныя навыкі ў абыходжаньні з элемэнтарнымі інструмантамі ўсіх прадпрыемстваў».

Маркс ў рэзалюцыі зазначае, што пры сацыялізьме будуць створаны такія ўмовы, пры якіх «ўсе дзеці бяз розьніцы, пачынаючы ад 9-ці гадовага ўзросту, павінны прымаць ўдзел ў вытворчай працы; таксама ніхто з дарослых ня можа быць выключан з агульнага закону прыроды, паводле якога чалавек павінен працаваць, каб есьці, і прытым працаваць ня толькі галавой, але і рукамі».

Сацыялістычная арганізацыя вытворчасьці, як аб гэтым Энгельс падрабязна гаварыў яшчэ ў «Прынцыпах камунізма», патрабуе новых людзей. Гэтыя людзі павінны рэзка адрозьнівацца ад тых, што выхаваны капіталізмам, кожны з якіх прыкаваны да аднэй вузкай галіны вытворчасьці і бездапаможны па-за ёй, у якога гіпэртрафавана адна здольнасьць за кошт атрафаваньня ўсіх іншых. Тая сыстэма палітэхнічнага выхаваньня, якую зьдзейсьніць сацыялізм, будзе ствараць новы тып чалавека, што ня ведае калечлівых рэзультатаў капіталістычнага падзелу працы. «Выхаваньне дазволіць маладым людзям хутка знаёміцца з ўсёй сыстэмай вытворчасьці, яно дазволіць ім па-чарзе пераходзіць ад аднэй галіны вытворчасьці да іншай ў залежнасьці ад патрэбы грамадзтва альбо іх уласных схільнасьцяй. Такім па-

---

[1]) Ленін. Збор твораў том II, стар. 298.

радкам, выхаваньне вызваліць іх ад тэй аднабаковасьці, да якой вымушае ў цяперашні момант кожнага сучасны падзел працы» [1].

Надаючы такую выдатную ролю школе ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня чалавека, Маркс поруч з патрабаваньнем палітэхнізма, якое ён высоўвае як асноўнае, падкрэсьліваў і асаблівае значэньне школы ў справе перамаганьня вузкага эгаістычнага гарызонту, які замыкае асобу пры капіталізьме. Воўчая эгаістычная мараль, абмежаваны індывідуалізм, культ сваёй асобы, мяшчанская самаўлюбёнасьць буржуазіі пазбаўляюцца сваіх харчовых крыніц разам з падзеньнем ўлады капіталістаў, з пераходам яе ў рукі рабочае клясы. Але перажыткі ідэалёгіі пануючай і нязрынутай клясы яшчэ доўга адчуваюцца. У працэсе новых форм працы, новых сацыялістычных ўзаемаадносін працоўных зьнікаюць гэтыя «радзімыя плямы». Не малую ролю ў справе перамаганьня індывідуальных перажыткаў павінна адыграць школа, якая ажыцьцяўляе сапраўднае калектыўнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Школа зьяўляецца найвялікшым фактарам калектывізму. Яна павінна будаваць усю сваю работу, выходзячы з таго, што «толькі ў калектыўнасьці» атрымае індывідум сродкі, якія даюць яму магчымасьць усебаковага разьвіцьця задаткаў, значыцца толькі ў калектыўнасьці магчыма асабовая свабода» [2]).

Мысьлі Маркса аб палітэхнічный школе і яе ролі ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня мас, як і ў іншых галінах знайшлі сваё далейшае разьвіцьцё і паглыбленьне ў выказваньнях аб школе У. І. Леніна.

Уладзімір Ільліч паказаў, што палітэхнізацыя школы павінна ажыцьцяўляцца ў непарыўнай сувязі з сыстэматычным і апытальным засваеньнем навук, бо «камуністам можна стаць толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць ведамі ўсіх тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва». Ленінская дырэктыва аб канкрэтнай рэалізацыі палітэхнізму ў школе высоўвае патрабаваньне: 1) унікаць раньняй спэцыялізацыі, 2) пашырыць ва ўсіх прафтэхшколах агульна-адукацыйныя прадметы, 3) зрабіць шэраг ўжо дасгупных крокаў да палітэхнічнай адукацыі.

Ленін пісаў: «Нам патрэбны сталяры, сьлесары, зараз-жа, бязумоўна. Усе павінны стаць сталярамі, сьлесарамі і, апрача таго, з такім-та дадаткам агульна-адукацыйнага і палітэхнічнага мінімума».

Характарызуючы задачы, што стаяць перад савецкай школай Ленін гаварыў, што гэтыя задачы заключаюцца ў тым, каб «даць упаўне ведаючага сваю справу, ўпаўне здольнага стаць майстрам і замяніць практычна падрыхтаванага да гэтага столяра, плотніка, сьлесара і г. д. з тым, аднак, каб гэты рамесьнік

---

[1]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том V, стар. 478.
[2]) Маркс—Энгельс. Архіў т. І, стар. 149.

меў шырокую агульную асьвету, быў камуністам... меў палітэхнічны кругавід і зачаткі, асновы палітэхнічнай адукацыі»...

Ленінскае вучэньне аб адзінстве тэорыі і практыкі шмат чым узбагаціла марксаву тэорыю палітэхнічнай школы, узьняло на больш высокую ступень ідэі марксызма аб палітэхнічнай школе, як адным з найважнейшых фактараў у агульнай справе «барацьбы за ўмацаваньне і завяршэньне камунізма... Распрацоўваючы і паглыбляючы Марксава вучэньне аб школе, Ленін у той-жа час паказаў, што «мы можам будаваць камунізм толькі з тэй сумай ведаў, арганізацый і ўстаноў, пры тым запасе чалавечых сіл і сродкаў, якія засталіся нам ад старога грамадзтва. Толькі перарабляючы карэнным чынам справу навучаньня, арганізацыю і выхаваньне моладзі, мы зможам дасягнуць таго, каб у выніку патуг маладога пакаленьня было-б створана грамадзтва, не падобнае на старое, г. зн. камуністычнае грамадзтва».

Маркс лічыў, што камунізм зьнішчыць прыватную ўласнасьць, зьнішчыць «чалавечае самаадчужэньне», што ён спыніць рэлігійнае, дзяржаўнае, сямейнае і іншае адчужэньне чалавечай асобы, ён запэўняў, што такім парадкам камунізм прынясе «зварот чалавека з рэлігіі, сям'і, дзяржавы і г. д. да свайго чалавечага, г. зн. грамадзкага быцьця» [1]).

Адносячы сям'ю, поруч з рэлігіяй і дзяржавай, да тых галін, з якіх чалавек павінен з камунізмам зьвярнуцца для таго, каб зьнішчыць самаадчужэньне, г. зн. для таго, каб стаць гарманічнай ўсебакова разьвітай і вольнай асобай, Маркс не двухсэнсова зазначаў, што сям'я зьяўляецца адным з тых інстытутаў клясавага грамадзтва, якія калечаць чалавечую асобу. Значыцца, пры сацыялізьме, які вызваляе гэту асобу ад ўсіх тых кайданоў, што яе скалечыла клясавае грамадзтва, гэты інстытут адамрэ. І зусім недарэмна Энгельс, паставіўшы у «Прынцыпах камунізма» пытаньне, «які ўплыў акажа камуністычны лад на сям'ю,—адказваў: «Адносіны палоў стануць прыватнай справай, калі будзе кранацца толькі зацікаўленых асоб і ў якую грамадзтва ня можа ўмешвацца. Гэта магчыма, дзякуючы зьнішчэньню прыватнай ўласнасьці і выхаваньню дзяцей на грамадзкія сродкі, з прычыны чаго абедзьве асновы сучаснага шлюбу зьнішчаюцца, а менавіта залежнасьць жаны ад мужа і дзяцей ад бацькоў, узьнікаючы з прычыны прыватнай ўласнасьці».

Падобная-ж думка была ў Маркса. У апытальніку, які ён складаў па даручэньні «лендансккай групы» «Нямецкага рабочага т-ва самаадукацыі», Маркс гаварыў: «Мы будзем умешвацца ў прыватныя адносіны паміж мужчынай і жанчынай толькі пастолькі, пакольк і яны будуць парушаць новы грамадзкі лад».

Але адміраньне сям'і магчыма толькі пры камунізьме. У пераходны пэрыяд, у сацыялістычным грамадзтве, г. зн. у першую камуністычную фазу сям'я яшчэ будзе захоўвацца, будзе несьці

[1]) Маркс і Энгельс. Збор твораў, том V, стар. 623.

грамадзка-карысныя функцыі. У чым-жа павінна выразіцца сацыялістычнае перавыхаваньне мас ў сфэры сямейна-шлюбных адносін?

Сацыялістычнае перавыхаваньне—гэта ачышчэньне мас у працэсе рэвалюцыйнай практыкі ад пакінутага на іх яшчэ бруду старога грамадзтва. У галіне сямейна-шлюбных адносін гэтага бруду накапілася больш чым ў многіх іншых. Заснавальнікі навуковага камунізму не адзін раз выяўлялі яго. Досыць будзе прыпамятаваць палкія радкі «Камуністычнага маніфэста», прысьвечаныя буржуазнай сям'і, у якой жанчына зьяўляецца звычайнай прыладай вытворчасьці, што нараджае афіцыйную і неафіцыйную прастытуцыю... Ачыстка сямейна-шлюбных адносін ад гэтага паскудзтва, якое абляпіла іх у эксплёататарскім грамадзтве, зьяўляецца аднэй з найважнейшых задач ў галіне сацыялістычнага перавыхаваньня мас.

Недарэмна Уладзімір Ільліч Ленін падкрэсьліваў, што ў працэсе нашага сацыялістычнага будаўніцтва «стануць значнымі пытаньні адносін палоў, пытаньні шлюбу і сям'і». «У галіне шлюбу і палавых адносін набліжаецца рэвалюцыя, сугучная пралетарскай» [1]), зазначаў ён.

Сацыялістычнае перавыхаваньне чалавека патрабуе, паводле Маркса, карэннога разрыву з эксплёататарскім поглядам на жанчыну, які захаваўся яшчэ доўга пасьля падзеньня ўлады буржуазіі. У падрыхтоўчых працах для «Сьвятога сямейства» Маркс і Энгельс пісалі: «У дачыненьні да жанчыны, як да здабычы і аб'екту, што служыць для здавальненьня грамадзкай пахаці, выражана бясконцая дэградацыя чалавека, калі ён існуе сам для сябе, бо таямніца адносін паміж чалавекам і чалавекам нарадзіць сваё нядвухсэнсовае, рашучае, адкрытае, наяўнае выражэньне ў адносінах паміж мужчынай і жанчынай і ў падыходзе да гэтага натуральнага, непасрэднага родавага дачыненьня. Непасрэднае, натуральнае неабходнае дачыненьне чалавека да чалавека—гэта дачыненьне мужчыны да жанчыны. У гэтым натуральным родавым дачыненьні, дачыненьне чалавека да прыроды ёсьць непасрэдным чынам яго дачыненьне да чалавека, падобнае таму, як яго дачыненьне да чалавеку ёсьць непасрэдным чынам яго дачыненьне да прыроды, яго ўласная, прыродная асаблівасьць. Значыцца ў гэтых адносінах праяўляецца ў пачуцьцёвым, наглядна-практычным выглядзе тое, наколькі стала для чалавека прыродай чалавечая сутнасьць альбо наколькі прырода стала чалавечай сутнасьцю чалавека. Таму на падставе гэтых адносін можна наогул судзіць аб ступені разьвіцьця чалавека». (Маркс—Энгельс, збор твораў, том 5, стар. 62).

Такое вялізарнае значэньне надавалі заснавальнікі навуковага камунізму адносінам да жанчыны. Зусім зразумела таму, што барацьба з эксплёататарскімі адносінамі да жанчыны, з ра-

1) Клара Цэткін. „Аб Леніне", стар. 15, 18.

баўласьніцкім падыходам да яе, мела ў іх вачох аграмаднае значэньне. Гэтай барацьбы патрабуе, як аднаго з сваіх важнейшых момантаў, сацыялістычнае перавыхаваньне чалавека. Чалавек, які падыходзіць да жанчыны «як быдла», ня можа быць «новым чалавекам» сацыялістычнага грамадзтва — ён працягвае заставацца пакрытым брудам грамадзтва эксплёататараў і драпежнікў.

Для таго, каб пазбавіцца ад гэтага бруду, шлюб павінен перастаць быць справай куплі, продажу, якім ён зьяўляецца пры капіталізьме. Павінна быць забясьпечана як прававая, так і фактычная роўнасьць палоў. Адносіны паміж паламі павінны будавацца на глыбокім унутраным пачуцьці і ўзаемнай прыхільнасьці. Павінны быць выкарчаваны крыніцы прастытуцыі. Вось да чаго нізводзяцца паказаньні Маркса адносна сацыялістычнага перавыхаваньня чалавека ў дачыненьні сямейна-шлюбных адносін, г. зн. у аднэй з галін, над якой асабліва моцна вітаюць традыцыі адмершых пакаленьняў,—традыцыі «капіталістычнага сьвінства», як іншы раз выражаўся Энгельс.

Мы вышэй паспрабавалі ахарактарызаваць схэматычным парадкам выказваньні Маркса адносна перараробкі мас у працэсе рэвалюцыі, адносна іх сацыялістычнага перавыхаваньня. Ужо з гэтай схэматычнай характарыстыкі відаць, як геніяльны гэтыя выказваньні, якія тэарытычныя багацьці і практычна-каштоўныя паказаньні ў іх закладзены. Гэтыя выказваньні, як і аналёгічныя выказваньні Фрыдрыха Энгельса знайшлі сваю далейшую распрацоўку ў вялікіх прадаўжальнікаў справы заснавальнікаў навуковага камунізму—ў працах Леніна і Сталіна. Усе гэтыя выказваньні разам ўзятыя, знаходзяцца ў адным бліскучым адзінстве, ўтвараюць спалучэньне поглядаў марксызма-ленінізма па вялікай тэарытычнай і практычнай праблеме—сацыялістычнага перавыхаваньня мас.

Першая ў сьвеце краіна пралетарскай дыктатуры, дамаглася найвялікшых посьпехаў у справе вырашэньня гэтай праблемы. Яна ператварыла ў рэчаіснасьць ужо многія з геніяльных паказаньняў Маркса аб «перароробцы» чалавечага матар'ялу сацыялістычнай рэвалюцыяй. Мы бачылі, што Маркс надаваў рашаючую ролю ў гэтых адносінах новым формам працы. Гэтыя формы перасталі быць ўжо ідэяй, яны рэалізуюцца ў савецкім сацыялістычным будаўніцтве. У нас мільёны людзей ахоплены новымі сацыялістычнымі формамі і мэтадамі працы,—ударніцтвам і сацспаборніцтвам. 15 год пралетарскай дыктатуры і новыя вытворчыя адносіны карэнным парадкам перарабілі адносіны мас да працы, узьнікла новая, разумная, сьвядомая сацыялістычная працоўная дысцыпліна. Праца, якая зьнявольвае і калечыць у капіталістычных дзяржавах чалавечую асобу, у Савецкім Саюзе стала крыніцай энтузіязма мільённых мас, абкружана найвялікшым арэолам гонару і пашаны. Яна ператварылася «з зазорнага

і цяжкага ярма, якім яна лічылася раней, у справу гонару, справу славы, у справу мужнасьці і геройства» (Сталін). Першая пяцігодка стварыла новы тып чалавека-ўдарніка, энтузіяста сацыялістычнай будоўлі, героя бальшавіцкіх тэмпаў. Сацыялістычная праца ўдарніка ля рэек Турксібу, ля домнаў Магнітагорску, ля грэбляў Днепрабуду, ля варштатаў Сталінградзкага трактарнага паказала нябачаныя яшчэ сусьветам узоры працоўнага пафасу і творчага энтузіязму.

У поўнай адпаведнасьці з выказваньнямі Маркса, Ленін паказаў, што ў разьвіцьці сацыялістычнай працоўнай дысцыпліны, ў новых сацыялістычных формах працы заключаецца найважнейшы фактар перапробкі працоўных мас, карэннай зьмены іх псыхолёгіі, перамаганьня іх старых, унасьледаваных ад капіталізма прывычак, выпрацоўкі сярод іх таварыскага калектывізму, працоўнага энтузіязму, самаадданасьці, беражлівых адносін да сацыялістычнай уласнасьці. Вось чаму нашы фабрыкі і заводы зьяўляюцца сапраўднымі кузьнямі, дзе перагартоўваюцца, перарабляюцца масы. Уздымаючыся ад больш простых да складаных форм сацыялістычнага спаборніцтва, ўсё шырэй і глыбей разгортваючы іх, пралетары Савецкага Саюзу стварылі новага чалавека-ударніка.

Поруч з ўдарнікамі ад варштату, пяцігодка стварыла і ўдарнікаў сацыялістычных палёў. На Ўсесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў быў паказаны сусьвету іх твар.

Выключнае значэньне ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня мас маюць новыя формы арганізацыі працы, ахапляючыя шматмільённыя масы калгаснага сялянства.

У праграмнай прамове тав. Сталіна «Аб працы ў вёсцы» з геніяльнай прастатой і вычэрпальнай усебаковасьцю было паказана, як ў працэсе калектывізацыі павінна ажыцьцяўляцца перапробка мас.

Перадавыя атрады калгаснага сялянства паказалі на Ўсесаюзным зьезьдзе, што ў іх ёсьць разуменьне таго, як патрэбна змагацца за гэтае ажыцьцяўленьне. У выступленьнях соценьдэлегатаў, у адозьве зьезду да ўсіх сялян-калгасьнікаў СССР было даведзена гэтае разуменьне.

...«перад ўсёй рабочай клясай ад імя дзесяткаў тысяч ўдарнікаў-калгасьнікаў, ад імя ўсіх чэсных калгасьнікаў даем урачыстае абяцаньне па-бальшавіцку, па-рабочаму ўзяцца за наладжваньне парадку ў калгасах, за ўстанаўленьне такой-жа цьвёрдай працоўнай дысцыпліны, якую устанавілі нашы таварышы рабочыя ў сябе на фабрыках і заводах»,—сказалі ўдарнікі сацыялістычных палёў.

Гэтыя ўдарнікі абвясьцілі барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць прывычкам дробнага ўласьніка, рабскім тэмпам працы, лодырніцтву, жульніцтву, драпежніцтву сацыялістычнай уласнасьці.

Так, у агні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, пад кіраўніцтвам партыі, пад штандарамі ленінізма, пад баявым кіраўніцтвам Сталіна, загартоўваюцца масы, так яны вызваляюцца ад ўсяго бруду старога грамадзтва, становяцца актыўнымі і сьвядомымі будаўнікамі сацыялізму.

Так на нашых сацыялістычных фабрыках і палёх ажыцьцяўляюцца геніяльныя паказаньні Маркса, наконт таго, што ў працэсе сацыялістычнай рэвалюцыі і ствараемых ёю новых форм працы, будуць перарабляцца, перавыхоўвацца масы, будзе вырастаць новы чалавек.

Мы бачылі, якую аграмадную ролю Маркс надае справе сацыялістычнага перавыхаваньня мас палітэхнічнай школай. У Савецкім Саюзе ўпяршыню разгорнута працоўная палітэхнічная школа Маркса—Леніна, якая ахапляе па ўсім СССР прыкладна 20 мільёнаў дзяцей. У яе клясах і майстэрнях ажыцьцяўляецца абгрунтаванае Марксам спалучэньне вучобы з вытворчай працай, вырошчваецца пакаленьне ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Мы бачылі, якое значэньне надаваў Маркс перамаганьню рэлігійных перажыткаў у справе камуністычнага перарабленьня чалавека. У Саюзе ССР атэістычны рух набыў аграмадны размах. У шэрагах саюзу ваяўнічых бязбожнікаў налічваецца 5,5 мільёнаў сяброў, арганізаваных у 65 тысяч ячэек. У нас маецца 2 мільёны юных бязбожнікаў. Разгорнута вялізарная навукова-дасьледчая і агітмасавая антырэлігійная праца.

Сям'я, ў якой захавалася так шмат выкрытага Марксам буржуазнага бруду і двудушша, у Савецкім Саюзе падвергалася аздараўленчаму працэсу. Сямейна-шлюбныя адносіны перасталі быць справай куплі-продажу. Выкарчавана да канца агідная сямейная права капіталізму. Зьдзейсьнена роўнасьць жанчыны з мужчынай. У грандыёзных маштабах разгорнута сацыяльнае выхаваньне дзіцяці і г. д.

Такім парадкам, у рэзультаце 15 год пралетарскай дыктатуры ў Савецкім Саюзе праведзены ў жыцьцё многія з геніяльных паказаньняў Карла Маркса адносна сацыялістычнага перавыхаваньня мас, адносна стварэньня новага тыпу чалавека.

Савецкая краіна, пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і найвялікшага байца за марксызм тав. Сталіна ў гэтай галіне, як і ў шэрагу іншых, зрабіла многія ідэі Маркса рэчаіснасьцю; ня трэба, зразумела, гаварыць аб тым, што працэс сацыялістычнага перавыхаваньня мас, ня глядзячы на тое многае, чаго ўжо СССР дамогся ў гэтай галіне, яшчэ далёк у нас ад свайго завяршэньня. Мы толькі ўступілі ў сацыялізм—першую фазу камунізма. У гэтай фазе грамадзтва яшчэ не складаецца з новых сацыялістычных людзей. На ім яшчэ захоўваецца шмат «радзімых плям» мінулага. На гэта неаднакраць зазначалі Маркс і Ленін.

Грандыёзныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, што дасягнуты Савецкім Саюзам к канцу першай пяцігодкі, дазволілі паставіць нам чарговую задачу—перамаганьня рэштак капіталізма ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей,ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва ў сьвядомых будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Вырашэньне гэтай задачы— да гэтага зводзяцца паказаньні заснавальнікаў навуковага камунізму—Маркса і Энгельса і іх прадаўжальнікаў—Леніна і Сталіна—патрабуе: ліквідацыі рэштак разьбітых, але не дабітых яшчэ варожых клясаў, што пакінуты нам капіталізмам; масавай пераробкі эканомікі, быту і псыхолёгіі бядняцка-серадняцкага сялянства, масавай пераробкі чалавечага матэрыялу «сапсаванага вякамі і тысячагодзьдзямі рабства, прыгоньніцтва, капіталізма, дробнага распыленага гаспадараньня, вайной усіх проці ўсіх з-за мясьцінкі на рынку, з-за больш высокай цаны на прадукты, альбо за працу» (Ленін), сацыялістычнага перавыхаваньня самога пралетарыяту—перамаганьня, захаваных яшчэ нават у асяродзьдзі рабочых капіталістычных перажыткаў ў сьвядомасьці.

У сваёй прамове на Ўсесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў тав. Молатаў гаварыў: «Канешне добра, што сяляне-калгасьнікі сталі будаўнікамі сацыялізма, але многія з іх яшчэ і цяпер больш падобны на дробных уласьнікаў, чым на сапраўдных будаўнікоў калгасаў. Старыя прывычкі дробнага ўласьніка, якому чужды турботы аб грамадзкай уласнасьці, гэтыя старыя прывычкі жывучы. Ад таго, што запішашся ў калгас, яшчэ не станеш адразу сапраўдным будаўніком сацыялізму. Для таго, **каб стаць будаўніком сацыялізму**, патрэбна працаваць у калгасе ня горш, чым на ўласнай гаспадарцы, патрэбна хварэць душой за калгасную маёмасьць, патрэбна заўсёды клапаціцца аб тым, каб і іншыя калгасьнікі і калгасьніцы выконвалі свае абавязкі, сачылі за працоўнай дысцыплінай і рашуча вычышчалі з калгасаў кулакоў і шкоднікаў».

Усё гэта патрабуе пільнай і настойлівай работы па ўмацаваньні дыктатуры пралетарыяту, якая зьяўляецца найвялікшым фактарам сацыялістычнага перавыхаваньня мас, што ажыцьцяўляецца ў працэсе жорсткай клясавай барацьбы.

У «Дзіцячай хваробе лявізны ў камунізьме» У. І. Ленін гаварыў: «Зьнішчыць клясы—значыць ня толькі прагнаць абшарнікаў і капіталістаў—гэта мы параўнальна лёгка зрабілі,—гэта значыць таксама зьнішчаць дробных таваравытворцаў, а іх нельга прагнаць, іх нельга прыдушыць, з імі патрэбна ўжыцца, іх можна (і павінны) перарабіць, перавыхаваць толькі вельмі маруднай, павольнай, асьцярожнай арганізатарскай работай. Яны акаляюць пралетарыят з усіх бакоў дробна-буржуазнай стыхіяй, прапітваюць яго ёю, псуюць яго ёю, выклікаюць пастаянна ўнутры пралетарыята рэцыдывы дробна-буржуазнай бесхарактарнасьці, раз-

дробленасьці, індывідуалізма, пераходаў ад захапленьняў да ныцьця. Патрэбна суровейшая цэнтралізацыя і дысцыпліна ўнутры палітычнай партыі пралетарыяту, каб гэтаму супроцьстаяць, каб арганізатарскую ролю пралетарыята, (а гэта яго галоўная роля) праводзіць правільна, пасьпяхова і пераможна. Дыктатура пралетарыята ёсьць барацьба крывавая і бяскроўная, гвалтоўная і мірная, вайсковая і гаспадарчая, пэдагагічная і адміністратарская супроць сіл і традыцыі старога грамадзтва. Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў,—самая страшэнная сіла».

Ленін таксама гаварыў, што «Дыктатура пралетарыята»—гэта абучэньне аднэй клясай—пралетарыятам ўсіх працоўных».

Калі пралетарыят грае кіруючую ролю ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня працоўных, дык асабліва значна ў гэтых адносінах роля галоўнай часткі рабочай клясы, яго авангарду—камуністычнай партыі.

Ужо ва ўмовах капіталізму, пры дыктатуры буржуазіі партыя пралетарыяту, вядучая самаахвярную барацьбу з прыгнятальнікамі, зьяўляецца найвялікшым фактарам рэвалюцыянізаваньня сьвядомасьці мас». «Упяршыню ў гісторыі»,—пісаў Энгельс Каўцкаму 8-га лістапада 1884 г.—«моцна згуртаваная рабочая партыя выступае як сапраўдная палітычная сіла, што разьвілася і вырасла ва ўмовах самых жорсткіх прасьледваньняў, няўтрымна заваёўваючы адну пазыцыю за другой. Сіла, вольная ад ўсялякага філістэрства і шавінізма ў самой філістэрскай і ап'янёнай перамогамі краіне Эўропы, сіла, існаваньне і рост якой таксама незразумелы і патаемны для ўрадаў і старых пануючых клясаў, як лявіна хрысьціянства была патаемнай і незразумелай для ўлад загінуўшага Рыма,—гэта сіла таксама ўпэўнена і няўтрымна працерабляе сабе шлях, як у свой час хрысьціянства, настолькі ўпэўнена, што ўжо цяпер можна з матэматычнай пунктуальнасьцю вылічыць раўнаньне яе ўзрастаючай хуткасьці і тым самым вызначыць тэрмін яе канчатковай перамогі» [1]).

Пасьля перамогі, аб якой гаварыў Энгельс, роля партыі ў справе рэвалюцыянізаваньня сьвядомасьці мас і іх перавыхаваньня, яшчэ ў шмат разоў узрастае. Усесаюзная Камуністычная Партыя, якая кіруе ўсім сацыялістычным будаўніцтвам, якая арганізуе і захапляе масы, зьяўляецца найвялікшым фактарам культурнай рэвалюцыі, яе ідэолёгам і арганізатарам на ўсіх бяз выключэньня вучастках сацыялістычнага перавыхаваньня мас. У шэрагах бальшавіцкай партыі сабрана ўсё, што ёсьць лепшага, ідэёвага, перадавога, мужнага, самаахвярнага, гераічнага ў асяродзьдзі рабочае клясы. У партыі сканцэнтравана ў высокай ступені воля пралетарыяту да стварэньня камуністычнага грамадзтва, яго ненавісьць да эксплёататараў, яго рашучасьць змагацца і перамагаць. У яе жалезна-дысцыплінаваных шэрагах выгартоў-

[1]) Маркс—Энгельс. Архіў, т. I (VI), стар. 283.

ваюцца новыя людзі, складаецца новы тып сацыялістычнага чалавека.

Партыя сочыць за абсалютнай чыстатой і стойкасьцю сваіх шэрагаў. У лісьце, які напісан у верасьні 1879 г. Бэбелю, Лібкнэхту, Бракке і інш. Маркс і Энгельс зазначалі: «Калі да пралетарскага руху далучаюцца прадстаўнікі іншых клясаў, дык перш за ўсё ад іх патрэбна, каб яны не прыносілі з сабой рэштак буржуазных, дробна-буржуазных і т. п. забабонаў, а безагаворачна засвоілі пралетарскае сьветаразуменьне» [1]).

Наглядаючы за чыстатой сваіх шэрагаў, партыя пэрыядычна наладжвае генэральную праверку іх, што мае выключнае выхаваўчае значэньне ня толькі для членаў партыі, але і для шырокіх мас пралетарыята і працоўных.

Ажыцьцяўляючы чыстку, партыя пакідае ў сваіх шэрагах тых, хто адносіцца па-сацыялістычнаму да працы, хто сьвядома самадысцыплінаваны, хто змагаецца за генэральную лінію партыі, хто гатоў і здолен аддаць веды, сілы і жыцьцё для сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Яна выкідае з сваіх шэрагаў тых, хто двурушнічае, хто клапоціцца аб сваіх асабістых інтарэсах больш, чым аб інтарэсах клясы, хто здраджвае справе сацыялістычнай рэвалюцыі, хто перарадзіўся, хто знаходзіцца ў палоне антыпралетарскай ідэалёгіі, хто ня скінуў з сябе бруду старога грамадзтва, над кім вітаюць «традыцыі адмёршых пакаленьняў».

Усё гэта робіць выключна вялікі ўплыў на сьвядомасьць мас, што атрымліваюць наглядны прыклад таго, як патрэбна змагацца, як змагаецца партыя за тое, каб толькі лепшыя, толькі перадавыя аказаліся вартымі называцца байцамі ўдарнай брыгады міжнароднай рэвалюцыі.

У вучэньні Маркса няма ніводнай галіны, якая-б не падлягала з боку ворагаў рабочае клясы—сацыял-фашыстаў, апартуністаў, рэфармістаў, фальсыфікацыі і скажэньню. Непазбавілася гэтага лёсу і вучэньне Маркса ў той галіне, на якой мы спыняемся ў гэтым артыкуле.

У пачатку артыкулу я ўжо зазначаў на ўвесь сэнс контр-рэвалюцыйнага меншавіцкага тэзісу аб тым, што пэўны культурны ўзровень зьяўляецца той абавязковай прадпасылкай, пры наяўнасьці якой пралетарыят зможа толькі пачаць рэвалюцыю. У гэтым тэзісе было простае і даволі адкрытае скажэньне тэорыі Маркса, які, як мы бачылі, заўсёды лічыў, што пралетарыят культурна перарабляецца і перавыхоўваецца ў самым працэсе рэвалюцыйнай практыкі. За гэты тэзіс, найбольш чотка фармуляваны ў свой час Сухановым да гэтага часу вельмі энэргічна чапляюцца такія стаўпы II-га Інтэрнацыяналу, як Кунаў, Каўцкі, Вандэрвельдэ, ім не перастаюць апэраваць рэнэгаты тыпу Анджэлікі Балабанавай

[1]) Архіў Маркса—Энгельса, том I (VI), стар. 154.

і Корша. У блізкіх суадносінах з гэтым тэзісам знаходзіцца і багданаўская варыяцыя меншавіцкіх поглядаў на культурную рэвалюцыю. Культурная рэвалюцыя ў разуменьні Багданава гэта выключна ідэалёгічны, духоўны працэс. Пралетарская культура (да рэчы зьмест, які Багданаў укладае ў паняцьцё пралетарскай культуры, пазбаўляе яе ўсяго пралетарскага) паводле Багданава, нараджаецца не ў працэсе рэвалюцыйнай практыкі, не ў працэсе клясавай барацьбы, а выводзіцца лябараторным шляхам у адпаведных інкубатарах тыпу Пралеткульту. Па-Багданаву, пралетарская культура можа скласьціся і пры панаваньні буржуазіі. Пад вялікім ўплывам Багданава склаліся і погляды на культурную рэвалюцыю тав. Бухарына, якія носяць на сабе адбітак ідэалёгізму і асьветніцтва.

Адным з найбольш вядомых узораў контррэвалюцыйнага фальсыфікатарства марксызму ў пытаньнях культурнай рэвалюцыі (у поўнай супярэчнасьці з вучэньнем Маркса), зьяўляюцца погляды Троцкага ў поўнай адпаведнасьці са сваім адмаўленьнем магчымасьці пабудовы сацыялізму ў адной краіне—адмаўляючым магчымасьць стварэньня пралетарскай культуры.

Скажэньні, якім падлягалі погляды Маркса на культурную рэвалюцыю, настолькі шматлікі, што іх разгляд мог-бы скласьці тэму спэцыяльнай працы. Я абмяжуюся таму толькі паказаньнем на некаторыя з іх, што зьяўляюцца найбольш тыповымі.

Меншавіствуючы ідэалізм культываваў па-за клясавае, абстрактнае разуменьне культуры, якое базуецца на тым, што «гісторыя культуры, ёсьць гісторыя перарабленьня прыроды і ў сувязі з ёй самога чалавека» (Дэборын), даводзіў, што не існуе клясавых культур, а ёсьць культуры грамадзкіх фармацый (Луппол), запэўняў, не клясавы агульна-чалавечы характар сацыялістычнай культуры (Баброўнікаў).

У дакладзе, які зроблены ў 1924 годзе і накіраваны супроць трацкісцкага адмаўленьня пралетарскай культуры (апублікаваным у зборніку «За марксызм») я няправільна падзяліў культуру пралетарскую і культуру сацыялістычную. Я лічыў, што ўвесь пераходны пэрыяд аж да перамогі сацыялізма ў сусьветным маштабе (а ў вылічэньні дзейнасьці гэтага пэрыяду я салідарызаваўся з т. Майскім, я лічыў, што ад гэтай перамогі нас адлучаюць яшчэ шмат дзесяцігодзьдзяў) будзе панаваць культура пралетарская, якая толькі са сканчэньнем пераходнага пэрыяду перарасьце ў сацыялістычную. Прыкладна, такі-ж падзел і нават супроцьстаўленьне пралетарскай культуры,—культуры сацыялістычнай можна знайсьці ў многіх дакумэнтах РАПП і яе тэарэтыкаў, асабліва т. Авербаха.

У рэчаіснасьці маркса-ленінскае вучэньне аб культурнай рэвалюцыі ўстанаўляе, што ствараемая на працягу пераходнага пэрыяду клясавая пралетарская культура з сацыялістычным зьместам, зьяўляецца пралетарскай сацыялістычнай культурай.

У пастановах XVII Партканфэрэнцыі, Студзеньскага Пленуму ЦК і ЦКК, у выступленьнях на ім тав. Сталіна дана разгорнутая праграма дзеяньняў, што стаяць у першым годзе другой пяцігодкі перад партыяй, перад рабочай клясай, перад ўсімі працоўнымі краіны. Дзейнічаць у напрамку ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў значыць будаваць сацыялізм, значыць ажыцьцяўляць культурную рэвалюцыю.

Барацьба за рэалізацыю гэтых дырэктыў зьяўляецца лепшым выкананьнем заветаў Маркса аб сацыялістычным перавыхаваньні мас. Сацыялістычнае перавыхаваньне мас заключаецца ў перамаганьні «самай страшэннай сілы», прывычкі мільёнаў у сацыялістычнымператварэньні чалавека. Аб тым, як дасягаецца гэта ператварэньне, 86 год назад Карл Маркс напісаў геніяльныя словы:

«І для масавага вытварэньня гэтай сацыялістычнай съвядомасьці, і для перамогі справы патрэбна масавае перайначаньне людзей. Яго можна дасягнуць толькі ў практычным руху—у рэвалюцыі» («Нямецкая ідэалёгія»).

15-ці гадовы ленінскі шлях нашай рэвалюцыі быў генэральнай гістарычнай праверкай геніяльных слоў Маркса. Гэта праверка падцьвердзіла іх глыбокую правільнасьць. Яна паказала, што «толькі ў сацыялізьме пачнецца быстры, праўдзівы, сапраўдны, масавы, пры ўдзеле большасьці насельніцтва... рух наперад ва ўсіх галінах грамадзкага і асабовага жыцьця» (Ленін).

---

**УЗМАЦНІЦЬ КЛЯСАВУЮ ПІЛЬНАСЬЦЬ І НЯПРЫМІРЫМАСЬЦЬ У БАРАЦЬБЕ**

**ЗА ПРАВІЛЬНАЕ АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕ ЛЕНІНСКАЙ НАЦПАЛІТЫКІ**

**ПЕРАБУДАВАЦЬ** УСЮ ПРАЦУ **НКА** І ЯГО ОРГАНАЎ У АДПАВЕДНАСЬЦІ З ДЫРЭКТЫВАМІ **ПАРТЫІ І ЎРАДУ**

# Вышэй сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму

У «Правде» ня раз друкаваліся матар'ялы, якія сьведчаць аб актывізацыі разгромленых і выбітых з эканамічнай каляіны мясцовых буржуазна-кулацкіх нацыяналісцкіх рэштак і аб грубейшых скажэньнях ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Заслугоўвае асаблівай увагі ліст ЦК КП(б)Б і СНК БССР («Правда» ад 4 сакавіка) «Аб памылках партыйных і савецкіх арганізацый Беларусі у нацыянальным пытаньні». У гэтым лісьце яны прызнаюць, што многія кіруючыя партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі «не вядуць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям». І гэта ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні і перасьцярогі з боку ЦК УсеКП(б).

Савецкі саюз самая шматнацыянальная краіна ў сьвеце і разам з тым самая «дасканалая арганізацыя супрацоўніцтва народаў» (СТАЛІН).

«Мы праціўнікі нацыянальнай варожасьці, нацыянальнай рознасьці, нацыянальнай абасобленасьці.

Мы міжнароднікі... інтэрнацыяналісты...» Гэты лёзунг Леніна напісала на сваім сьцягу наша партыя. Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла крыж на каленізатарскай, русыфікатарскай палітыцы царскага ўраду і высунула на сцэну раней забытыя народнасьці, прабудзіла іх да новага жыцьця, да новага разьвіцьця на сацыялістычнай аснове. Пазнаёмцеся бліжэй з вынікамі першай пяцігодкі і вы зьдзівіцеся радыкальнай зьменай аблічча ўсіх народаў, аб'яднаных у Савецкі саюз. У нацыянальных рэспубліках і абласьцях краіны няўхільна мацнее савецкая дзяржаўнасьць. З кожным годам вырастаюць ачагі сацыялістычнай індустрыі, калектывізуецца сельская гаспадарка, ліквідуюцца фэадальна-байскія, кулацкія элемэнты, выкарчоўваюцца самыя глыбокія карэньні эксплёатацыі. Павялічваецца сетка школ газэт і тэатраў на мясцовых мовах. Растуць уласныя пралетар-

скія кадры, што яшчэ больш цэмэнтуе апору пралетарскай дыктатуры ў былых калёніях расійскай буржуазіі.

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы народы савецкага саюзу—Татарыя, Башкірыя, Казакстан, Кіргізія, Дагестан і г. д.—здолелі перайсьці ад розных форм гаспадаркі і патрыярхальна-родавога быту непасрэдна да сацыялістычнага будаўніцтва, мінаючы капіталістычны шлях разьвіцьця.

Поўнасьцю забясьпечана магчымасьць свабоднага разьвіцьця і паасобным нацыянальным меншасьцям, якія падпадалі пры панаваньні капіталістаў і памешчыкаў нячуваным ганеньням.

Які найвялікшы кантраст са становішчам шматмільённых мас працоўных Кітаю, Інданэзіі, Марока, Альжыру, Конга і г. д., якія знаходзяцца пад цяжкім прэсам уціску з боку імпэрыялістычных драпежнікаў Эўропы, Амэрыкі і ўласнай буржуазіі.

Уступленьне СССР у другую пяцігодку сацыялістычнага будаўніцтва азначае яшчэ большы гаспадарчы і культурны уздым і росквіт нацыянальных рэспублік і абласьцей нашай вялікай краіны.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што у нацыянальным пытаньні выключна шкодна пакладацца на самацёк. Посьпехі далейшага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі будуць тым больш значнымі, калі кожная партыйная арганізацыя, кожны камуніст глыбока ўсьвядоміць тое новае, што ёсьць зараз у клясавай барацьбе унутры краіны, калі яшчэ з большай пасьлядоўнасьцю і непрымірымасьцю будуць змагацца за лінію партыі ў нацыянальным пытаньні супроць ўсіх і усякіх ад яе адхіленьняў. Узмацненьне магутнасьці Савецкага саюзу сустракае заўзятае супраціўленьне разьбітых контррэвалюцыйных, буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных груп, няўхільна атрымліваючы свой адбітак і ўнутры партыі. Клясавы вораг і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва пацярпеўшы рашучае паражэньне ў адкрытых баёх, прабуе зараз іншымі спосабамі, іншымі сродкамі накіраваць супроць нас свае апошнія сілы, распачлівую злосьць і нянавісьць. Ад мэтадаў непрыкрытай барацьбы ён перайшоў да мэтадаў барацьбы завуаляванай, не атрымліваючы у радзе выпадкаў рашучага адпору з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Гэтым, перш за ўсё, і тлумачыцца тое, што за апошні час у радзе раёнаў, у прыватнасьці Беларусі, Украіны, а таксама Сярэдняй Азіі і Казакстану, далёка не адзіныя выпадкі пранікненьня шавіністаў на паасобныя вучасткі сацыялістычнага будаўніцтва, у асобныя зьвеньні савецкага і прафсаюзнага апарату, асабліва у зямельныя органы і культурна-асьветныя ўстановы, а таксама у школы, ВНУ і нават у рады партыі і камсамолу.

Гэтым у сваю чаргу тлумачыцца і тое, што у радзе мясцовых-жа рэспублік ажывіліся ўхілісты ў бок вяліка-дзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму.

Сутнасьць ухілу да вялікарускага шавінізму, як ня раз указваў т. СТАЛІН, заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя рознасьці мовы, культуры, быту, разьвянчаць палітыку партыі па нацыяналізацыі апарату, прэсы, школы і іншых арганізацый і тым самым падарваць прынцып нацыянальнага раўнапраўя і падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласьцей. Іменна ў гэтым кірунку і арудуюць зараз вялікарускія шавіністы і іх агенты унутры партыі.

«Палітыка» вялікадзяржаўных ухілістаў зьяўляецца капітулянцкай перад труднасьцямі нацыянальна-культурнага будаўніцтва і накіравана яна, таксама як і «тэорыя» аб аслабленьні клясавай барацьбы, аб «плаўным ходзе разьвіцьця і аб адміраньні пралетарскай дзяржавы, да падрыву савецкай улады. Вялікадзяржаўны ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай у нацыянальным пытаньні нашай партыі, бо ён у сваю чаргу стварае спрыяючую глебу для распальваньня нацыяналістычных пачуцьцяў сярод мас і тым самым узмацняе пазыцыі мясцовых буржуазна-кулацкіх і байскіх элемэнтаў і іх суўдзельнікаў унутры партыі. У выніку гэтага часамі ўхіл да мясцовага нацыяналізму набывае на паасобных вучастках і ў паасобных раёнах асаблівую надзеннасьць. У тэтым мы ўпэўніваемся зараз на прыкладзе тэй-жа Беларусі, а таксама Украіны і раду іншых нацыянальных рэспублік.

Як вядома—на гэта таксама ня раз указваў тав. СТАЛІН—сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, адыйсьці ад агульнага патоку сацыялістычнага будаўніцтва, ня бачыць таго, што збліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой. Іменна ў гэтым кірунку і дзейнічае зараз ахвосьце разгромленых буржуазна-кулацкіх, нацдэмаўскіх і пятлюраўскіх банд і іх агенты ўнутры партыі, часта карыстаючыся клясавай сьлепатой мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Невыпадкова таму, што ў радзе раёнаў Беларусі, Украіны, Сярэдняй Азіі і Казакстану контр-рэвалюцыйныя нацыяналістычныя элемэнты і іх агенты прабавалі скарыстаць усе сродкі, у тым ліку школьныя катэдры, старонкі мясцовых часопісяй, падмосткі нацыянальных тэатраў для арганізацыі контр-рэвалюцыйнага сабатажу мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Побач з гэтым яны пры простым папушчэньні некаторых мясцовых партыйных і савецкіх работнікаў імкнуцца проціпастаўляць інтарэсы асобных рэспублік інтарэсам усёй краіны, усяляк ігнараваць нацыянальныя мовы і нават прасьледваць за ўжываньне гэтых моваў. У Беларусі напрыклад аднаго настаўніка Сьцяпура толькі за тое, што ён гутарыў з жонкай дома на расійскай мове, ухілісты да мясцовага нацыяналізму, падагра-

ваныя нацдэмамі, ашальмавалі і абвінавацілі ў вялікарускім шавінізьме. Ці патрэбен яшчэ больш яркі прыклад беззаконнасьці і грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Кожны сумленны камуніст, кожны сьвядомы рабочы і калгасьнік даскапала ведаюць, што наша партыя і савецкая ўлада аказваюць усялякае падтрыманьне будаўніцтву сацыялістычнай нацыянальнай культуры, ставячы ў галаву вугла палітыку «зблізкэньня пралетарыяў і поўпралетараў розных нацыянальнасьцяй для супольнай рэвалюцыйнай барацьбы...» (З праграмы ЎсеКП(б). Усякі іншы пункт гледжаньня зьяўляецца выгодным толькі нашым клясавым ворагам.

Ня можа быць сумненьня ў тым, што ўхілісты да мясцовага нацыяналізму, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, па сутнасьці справы абараняюць у сучасны пэрыяд клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва, апошнія пазыцыі разгромленых, выбітых з эканамічнай каляіны буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, граючы на руку міжнародным імпэрыялістам, на руку інтэрвэнтам. Контр-рэвалюцыйная дзейнасьць усякага роду шавіністаў і ўхілістаў у нацыянальным пытаньні палягчаецца а ў радзе выпадкаў аказваецца магчымай, перш за ўсё, у выніку невыстарчальнай рэвалюцыйнай пільнасьці, а часамі і грубых памылак мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Сапраўды, хіба не аб гэтым сьведчаць нядаўна апублікаваныя ў «Праўдзе» матар'ялы аб вылазках і дзеяньнях антысавецкіх эсэраўскіх, нацдэмаўскіх і бундаўскіх элемэнтаў у некаторых раёнах Беларусі і ў Сярэдняй Азіі? Усе факты, выкладзеныя ў гэтых матар'ялах, сьведчаць, што мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі не зразумелі новай тактыкі, новых манэўраў рэштак разьбітага кулацтва і аказаліся ў палоне ў мясцовых нацыяналістычных элемэнтаў і ўхілістаў да іх. І хіба, нарэшце, не аб гэтым-жа сьведчаць абураючыя факты грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі на Украіне. І тут у радзе раёнаў у рэзультаце прытупленьня клясавай пільнасьці, неразуменьня новых манэўраў рэштак разьбітых клясаў, недаацэнкі непарыўнай сувязі нацыянальнага пытаньня з сялянскім, атрымалася значнае аслабленьне барацьбы супроць ухілаў у нацыянальным пытаньні. У некаторых раёнах нацыянальная палітыка партыі праводзілася мэханічна, бяз уліку канкрэтных асаблівасьцяй, без неабходнай выхаваўчай работы і неабходнага кантролю, без аддаваньня належнай ўвагі справе падрыхтоўкі бальшавіцкіх кадраў. Усё гэта бязумоўна грала на руку буржуазна-кулацкім, пятлюраўскім элемэнтам, палягчаючы ім магчымасьць пралазіць у савецкі апарат, калгасы і г. д.

І тут дзе-ні-дзе была практыка пазбаўленьня нацыянальных меншасьцяй права карыстацца роднай мовай. А з боку паасобных кіруючых украінскіх работнікаў узмоцнена прапагандава-

лася шавіністычная ідэя аб абавязковай украінізацыі паасобных раёнаў СССР.

Гэта, вядома, таксама не магло ня граць на руку кулацкім і пятлюраўскім элемэнтам, якія акапаліся ў нова-украінізаваных раёнах па-за межамі УССР і вялі там разбуральную работу.

Клясавы вораг заўзята супраціўляецца пераможнаму будаўніцтву сацыялізму, накіроўваючы сваю зброю і супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Задача партыйных арганізацый, асабліва Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Казакстану і інш. нацыянальных рэспублік і абласьцей, а таксама мясцовага друку—заключаюцца ў тым, каб сваечасовым выкрыцьцём новай тактыкі і падкопаў клясавых ворагаў зрываць з іх маску і паказваць масам сапраўднае контр-рэвалюцыйнае аблічча буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, ухілістаў і прымірэнцаў да іх. Неабходна ўзмацніць практычнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі, забясьпечыць вытрыманымі кадрамі ўсе вучасткі нацыянальна-культурнага будаўніцтва, шырока разгарнуць інтэрнацыянальнае выхаваньне мас.

Заваюем новыя вышыні нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу культуры народаў Савецкага саюзу.

Вышэй сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму.

*(Перадавая „Праўды").*

## Пастанова Бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б у сувязі з артыкулам „Пад фальшыва-нацыянальным сьцягам у „Праўде" ад 3 лютага г. г., зацьверджаная аб'яднаным пленумам ЦК і ЦКК

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК поўнасьцю ўхваляе і зацьвярджае наступную пастанову бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК ад 17 лютага:

1. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што ЦО—«Праўда» ад 3 лютага 1933 г. у артыкуле «Пад фальшыва-нацыянальным сьцягам» зусім правільна, па-бальшавіцку выкрыла і сыгналізавала перад партыяй і савецкай грамадзкасьцю аб актывізацыі контр-рэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў у БССР, якія выступаюць і вядуць антысавецкую, шкодніцкую работу, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, і тым дапамагла камуністычнай партыі Беларусі падагуліць і зрабіць неабходныя вывады аб становішчы ў нацыянальна-культурным будаўніцтве і на ідэалёгічным фронце, мабілізуючы ўсю КП(б)Б на хутчэйшую перабудову ўсёй работы ў адпаведнасьці з задачамі сучаснага пэрыяду сацыялістычнага будаўніцтва.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што ўсе факты, паведамленьня ў «Правде» ад 3 лютага 1933 г. аб антысавецкіх нацыянал-дэмакратычных і трацкісцкіх выступленьнях у Наркамземе, Менбудканторы, Беларускай Акадэміі Навук, Упаўнаркамсаўгасаў, аб засьмечанасьці клясава-чужымі, палітычна неправеранымі элемэнтамі органаў Наркамасьветы (ДВБ, кіраўніцтва ВНУ і г. д.), прасочваньне клясава-варожых вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмакратычных уплываў у друк—сапраўды мелі і маюць месца ў БССР.

2. Гэтыя клясава-варожыя вылазкі і дзеяньні антысавецкіх эсэраўскіх, нацыянал-дэмакратычных і бундаўскіх элемэнтаў, якія часта выступаюць пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, маглі мець месца ў БССР, галоўным чынам таму, што ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні і перасьцярогі з боку ЦК УсеКП(б) партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі не зрабілі для сябе сапраўды бальшавіцкіх вывадаў з урокаў нацдэмаўшчыны, прышчэпаўшчыны,—разьбітых, але яшчэ недабітых у БССР, і якія актывізуюцца за апошні час.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК адзначаюць, што партыйныя і савецкія арганізацыі БССР не ўлічылі новай абстаноўкі, новых умоў, новай тактыкі і манэўраў клясавага ворага, буржуазных нацыяналістаў на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР. З боку раду як цэнтральных, так і раённых арганізацый мелі месца факты мэханічнага, па-сутнасьці няправільнага правядзеньня беларусізацыі, без уліку канкрэтных асаблівасьцяй кожнага раёну, складу насельніцтва, ігнараваньне культурных інтарэсаў і запатрабаваньняў у радзе гарадоў і раёнаў, значных мас нацыянальных меншасьцяй (мэханічны перавод у радзе раёнаў школ нацыянальных меншасьцяй на беларускую мову, зрыў ДВБ выданьняў літаратуры для нацыянальных меншасьцяй, зрыў Наркамасьветы справы падрыхтоўкі пэдагагічных кадраў і г. д.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК падкрэсьліваюць, што толькі пры ўмове рашучай барацьбы на два франты—як з ухілам да вялікадзяржаўнага шавінізму—галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і з ухілам да мясцовага нацыяналізму,—КП(б)Б забясьпечыць правільнае ажыцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі.

Партыйныя і савецкія арганізацыі БССР яшчэ па-бальшавіцку не перабудаваліся ў бок конкрэтнага, апэрацыйнага кіраўніцтва і дакладнага бальшавіцкага выкананьня партыйных дырэктыў, не разгарнулі яшчэ сапраўды бальшавіцкай самакрытыкі, ня гледзячы на асобы, ня вытруцілі саноўна-панскіх мэтадаў кіраўніцтва і славесную дэклярацыйнасьць, не разгарнулі яшчэ бальшавіцкай барацьбы з буржуазнымі перараджэнцкімі, нацыянал-апартуністычнымі і гніла-лібэральнымі элемэнтамі, якія пралезьлі ў партыю.

3. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што клясава-варажыя вылазкі, меўшыя месца на ідэалёгічным фронце (у пэрыядычным друку, у мастацкай літаратуры, у асобных выступленьнях і г. д.), адзначаныя ў «Правде», а таксама «Зьвязьдзе» і дадаткова выкрытыя за апошні пэрыяд факты контр-рэвалюцыйных, апартуністычных і нацыяналістычных па сваім характару скажэньняў на ідэалёгічным фронце, ня гледзячы на цэлы рад прынятых мер з боку ЦК, гавораць аб тым, што яшчэ да гэтага часу няма з боку ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый і паасобных камуністаў неабходнай рэвалюцыйнай пільнасьці і не праведзены адпаведныя палітычныя і практычныя мерапрыемствы як па зьнішчэньні, так і недапушчэньні ў далейшым падобных вылазак клясавага ворага.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б падкрэсьліваюць, што з боку партыйных і савецкіх арганізацый яшчэ няма дастатковага адпору і выкрыцьця клясава-варожых уплываў, што з боку партарганізацыі няма яшчэ уменьня мабілізаваць сілы бальшавікоў Беларусі супроць чужых, гніла-лібэральных, перараджэнцкіх элемэнтаў, якія пралезьлі ў партыю і прыкрываюць сваю антысавецкую работу фальшыва-нацыянальным сьцягам.

Факты, адзначаныя ў «Правде», лішні раз падцьвярджаюць неабходнасьць самай упартай, сапраўднай бальшавіцкай барацьбы ня толькі кожнай партыйнай і савецкай арганізацыі, але і кожнага камуніста і камсамольца ў паасобку, з фактамі праяўленьня клясава-варожых уплываў, асабліва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве і на ідэалёгічным фронце.

Толькі шляхам такой рашучай бальшавіцкай барацьбы за ленінскую лінію партыі ў пытаньнях нацыянальна-культурнага будаўніцтва КП(б)Б даб'ецца ліквідацыі спроб контр-рэвалюцыйных буржуазна-нацыяналістычных элемэнтаў выкарыстаць наш друк, школу, культурныя установы ў сваіх антысавецкіх мэтах.

4. Для забясьпечаньня сапраўды канкрэтнага, апэрацыйнага кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам, павышэньня пэрсанальнай адказнасьці партыйцаў-кіраўнікоў за даручаную ім справу, ачышчэньня ад клясава-варожых і чужых элемэнтаў, якія пралазяць у органы Наркамасьветы, Беларускай Акадэм. Навук і інш. культурныя і навуковыя ўстановы, бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б лічаць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

І. Прапанаваць культпропу ЦК:

а) у пяцідзённы тэрмін умацаваць кваліфікаванымі, праверанымі работнікамі сэктары навукі і мастацтва культпропу ЦК, устанавіўшы строгую пэрсанальную адказнасьць работнікаў культпропу за даручаную ім работу;

б) арганізаваць дакладны і сыстэматычны кантроль за станам выкладаньня ў ВНУ, ВТНУ, школах, тэхнікумах—мар-

ксызму-ленінізму, сацыяльна-эканамічных дысцыплін, гісторыі партыі, шляхам дасканалага вывучэньня настаўніцкіх кадраў, праграм, лекцый, вучэбных заданьняў;

в) арганізаваць дакладны і сыстэматычны кантроль з боку культпропу над выпускаемай кнігай і журнальнай прадукцыяй, ужываючы і укараняючы мэтад папярэдніх рэдактарскіх палітрэцэнзій;

г) устанавіць строгую пэрсанальную адказнасьць аўтара, рэдактара і выдаўца за выпускаемую работу;

д) пэрыядычна практыкаваць тэматычныя нарады палітрэдактуры, асноўнай задачай якіх павінна быць сваечасовае выкрыцьцё клясава-варожых вылазак, сыгналізаваньне і пастаноўка перад ЦК партыі актуальных пытаньняў стану навуковага—ідэалёгічнага фронту БССР.

II. Па лініі Наркамасьветы, паміма ўжо прынятых і праведзеных асобных мер, лічыць неабходным:

а) у бліжэйшыя 5—7 дзён закончыць праверку складу работнікаў Наркамасьветы. Культпропу ЦК разам з Наркамасьветы распрацаваць рад мер па узмацненьні органаў Наркамасьветы, асабліва Дзярж. Выдавецтва Беларусі, Галоўліту, Галоўмастацтва, школьнага сэктару, аддзелу кадраў—партыйна праверанымі работнікамі;

б) указаць тт. Платуну, Бялугу, Вальфсону, што тыя буйныя ідэалёгічна-палітычныя прарывы і клясава-варажыя вылазкі, якія мелі і яшчэ маюць месца на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР сьведчаць аб тым, што ў органах Наркамасьветы замест канкрэтнага кіраўніцтва, бальшавіцкай праверкі выкананьне партыйных дырэктыў, квітнеюць саноўна-панскія мэтады «кіраўніцтва», верхаглядзтва, адсутнасьць усякага кантролю і элемэнты гнілога лібэралізму, прытупленьне рэвалюцыйнай пільнасьці ў адносінах клясава-варажых вылазак і элемэнтаў, якія вядуць сваю работу пад прыкрыцьцём фальшыва-нацыянальнага сьцягу.

5. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК адзначаюць, што ня гледзячы на рад прынятых у свой час пастаноў у сувязі з буйнымі ідэалёгічнымі прарывамі ў Інстытуце Гісторыі партыі (меўшыя месца факты ідэалізацыі «Бунду», няправільная трактоўка «перарастаньня» ў работах т. Поташа, палітычныя скажэньні ў прадмове да 5-га тому збораў твору Леніна і г. д.,) да гэтага часу ў рабоце Інстытуту недасягнут неабходны перелом (нерэагаваньне інстытуту на справы Гесэна і Кернажыцкага; гніла-лібэральныя адносіны з боку кіраўніцтва інстытуту (Саевіч) і бюро партыйнай ячэйкі да скажэньняў, дапушчаных у рэцэнзіі Гесэна, да справы Іванова; наяўнасьць групаўшчыны сярод навуковых працаўнікоў інстытуту; вельмі слабае разгортваньне творчай станоўчай работы, нездавальняючы падбор кадраў і г. д.).

Пацьвердзіць пастанову сэкратарыяту ЦК аб правядзеньні ўсебаковай праверкі стану работ і кадраў на гістарычным фронце ў БССР і прапанаваць сэкратарыяту ЦК, на падставе вынікаў праверкі, распрацаваць і правесьці рад мер па умацаваньні кадраў гісторыкаў надзейнымі, праверанымі бальшавіцкімі кадрамі.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК КП(б)Б адзначаюць, што Беларуская Акадэмія Навук, побач са значнай работай у справе стварэньня сапраўднай савецкай Акадэміі, якая была раней апорай нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў і ўключэньнем Акадэміі ў сацыялістычнае будаўніцтва—мае рад буйных ідэалёгічных прарываў і сур'ёзных недахопаў у практыцы сваёй работы і кіраўніцтве. У працах раду інстытутаў Акадэміі (гісторыі, эканоміі, філёзофіі, літаратуры і мовы) былі дапушчаны буйнейшыя ідэалёгічныя зрывы: працягваньне контр-рэвалюцыйных трацкісцкіх, бундаўскіх, замаскаваных нацдэмаўскіх і праваапартуністычных установак і памылак у працах Рыўліна, Гесэна, Кернажыцкага, Арцюньянца, Чарняўскага.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК адзначаюць таксама, недапушчальнасьць выданьня Акадэміяй Навук палітычна шкоднай (наяўнасьць трацкісцкіх і праваапартуністычных фармулёвак), блытанай і зусім няпісьменнай кнігі Карніенка. Інстытутам літаратуры было праяўлена прытупленьне клясавай пільнасьці ў мастацкай літаратуры і крытыцы. У агра-глебавым інстытуце ня быў дан рашучы адпор абароне рэакцыйных ідэй ў апрацоўцы глебы вузкімі палоскамі.

У сувязі з узрастаючай роляй Акадэміі Навук у сацыялістычным будаўніцтве БССР і ў мэтах далейшага павышэньня рэвалюцыйнай пільнасьці і якасьці работы Акадэміі, бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК лічаць неабходным прапанаваць фракцыі прэзыдыуму Акадэміі:

а) неадкладна жорстка, па-бальшавіцку раскрытыкаваць тыя прарывы і памылкі, якія мелі месца у рабоце інстытутаў Акадэміі, разгарнуўшы ў Акадэміі сапраўдную бальшавіцкую самакрытыку недахопаў работы і прарываў як у інстытутах, так і ў рабоце самога кіраўніцтва Акадэміі;

б) па-бальшавіцку ўзяцца за падбор ідэалёгічна вытрыманых, палітычна-правераных на рабоце, падрыхтаваных работнікаў, адначасова ачышчаючы Акадэмію ад чужых, клясава-варожых, нацдэмаўскіх, эсэраўскіх, вялікадзяржаўных, чыноўна-калёнізатарскіх і перараджэнцкіх элемэнтаў. Савецкім-жа спэцыялістам, адданым справе сацыялістычнага будаўніцтва, якія дапусьцілі ў сваіх работах паасобныя памылкі і зрывы, забясьпечыць побач з разгортваньнем таварыскай крытыкі іх памылак і выпраўленьнем гэтых памылак, дапамогу і кіраўніцтва ў іх далейшай рабоце;

в) асабліва дакладна праверыць кніжную і журнальную прадукцыю за 1931-32-33 г.г. з тым, каб адкінуць палітычна-шкодную, клясава-варожую кніжную і журнальную прадукцыю і ў далейшым так узмацніць партыйнымі праверанымі кадрамі склад палітрэдактуры, каб узмацніць штодзенны кантроль за прадукцыяй, якая выдаецца, і дабіцца сапраўднай марксысцка-ленінскай крытыкі навуковай літаратуры. Палітычны кантроль, кіраўніцтва выпускам кніжна-журнальнай прадукцыі павінны праводзіцца з улікам уменьня клясавага ворага манэўраваць, маскавацца у сваіх спробах выкарыстоўваньня навукова-ідэалёгічнага фронту ў варожых партыі і савецкай уладзе мэтах. Аб ходзе праверкі заслухоўваць паведамленьні прэзыдыуму БАН на бюро ЦК;

г) узмацніць работу па плянаваньні навукова - дасьледчай работы ў БССР, а таксама канкрэтна разгледзець плян падрыхтоўкі навуковых работнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэньне якасьці ведаў і падрыхтоўку навуковых кадраў па спэцыяльнасьцях, асабліва неабходных для навуковай работы ва ўмовах БССР.

7. Адзначыць невыстарчальнае асьвятленьне і пастаноўку на старонках газэт пытаньняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва, асабліва ў газэце «РАБОЧИЙ» і «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ». Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК адзначаюць невыстарчальнае асьвятленьне «ЗЬВЯЗДОЙ» пытаньняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Бюро-ЦК і прэзыдыум ЦКК зварочваюць ўвагу на неабходнасьць сваечасовага выкрыцьця з боку газэт фактаў клясава-воражых вылазак.

Прапанаваць рэдактарам газэт т.т. Брагінскаму, Шастакову, Хэйфэцу, а таксама рэдактарам гарадзкіх і раённых газэт (у асаблівасьці Гомелю, Віцебску, Менску, Воршы, Бабруйску, Горак, Магілёва) сыстэматычна асьвятляць і ставіць на старонках газэт пытаньні нацыянальна-культурнага будаўніцтва, выкрываючы і наносячы бязьлітасны ўдар па антысавецкіх элемэнтах, якія часта выступаюць пад прыкрыцьцём фальшыва-нацыянальнага сьцягу, а таксама асьвятляючы вялікі станоўчы вопыт культурнага будаўніцтва, прароблены БССР.

8. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК ухваляюць пастанову фракцыі аргкому саюзу пісьменьнікаў ад 28/I-33 г. аб клясава-варожых вылазках на фронце беларускай савецкай літаратуры і аднachасова ўказваюць на зусім невыстарчальныя тэмпы перабудовы літаратурных арганізацый БССР у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б), ад 23/IV-32 г., на слабае і вельмі невыстарчальнае разгортваньне пытаньняў творчага парадку, на наяўнасьць нязжытых яшчэ элемэнтаў групоўшчыны, вельмі слабае разгортваньне самакрытыкі ў пісьменьніцкіх арганізацыях, пры слабым

і не даволі ўважлівым і чулым падыходзе да маладых узрастаючых пісьменьніцкіх кадраў, невыстарчальнай дапамозе ім як у частцы матар'яльна-бытавога і культурнага абслугоўваньня, так і ў частцы дапамогі ў іх творчым росьце.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК асабліва адзначаюць невыстарчальнасьць праведзенай фракцыяй аргкому саюзу пісьменьнікаў работы па выяўленьні і выкрыцьці клясава-варожых, нацыянал-дэмакратычных і вялікадзяржаўніцкіх элемэнтаў, якія ёсьць яшчэ ў пісьменьніцкіх арганізацыях БССР.

Выяўленыя і ўскрытыя факты працягваньня і прасочваньня ў савецкую літаратуру клясава-варожых уплываў сьведчаць аб тым, што буржуазна-кулацкая, нацыянал-дэмакратычная агентура ў нашай мастацкай літаратуры ў БССР яшчэ поўнасьцю ня выкрыта і не разгромлена да канца. Бязьлітасная барацьба з імі, выкрыцьцё і ізаляцыя іх ад пісьменьніцкіх мас—павінны зьявіцца баявой задачай аргкому саюзу пісьменьнікаў.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК указваюць фракцыі аргкому саюзу пісьменьнікаў на неабходнасьць значнага ўзмацненьня ідэйна-выхаваўчай работы сярод пісьменьнікаў, поўную ліквідацыю элемэнтаў адміністраваньня, ліквідацыю групоўшчыны, а таксама на неабходнасьць разгортваньня творчай работы, сканцэнтраваньня ўвагі на рабоце з ударнікамі, закліканымі у літаратуру, дабіваючыся ідэйнага росту мастацкай літаратуры БССР у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі партыі і рабочай клясы.

9. Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК падкрэсьліваюць неабходнасьць рашучай і карэннай перабудовы мэтадаў кіраўніцтва ўсім фронтам нацыянальна-культурнага будаўніцтва, як з боку цэнтральных савецкіх навуковых устаноў (СНК, ЦВК БССР, Наркамасьветы, Акадэмія Навук, ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ і інш.), так і з боку гарадзкіх і раённых камітэтаў партыі, партыйных ячэек, бязьлітаснага вытручваньня з практыкі работы і кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам БССР саноўна-панскіх мэтадаў кіраўніцтва, бюрократычнага верхаглядзтва, чыноўніцкай благадушнасьці, неабходнасьць узмацненьня канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва і патрабуюць самага строгага падыходу да ацэнкі кожнага паасобнага кіруючага работніка.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК указваюць, што сапраўды бальшавіцкая ацэнка кожнага работніка павінна выходзіць з практычных рэзультатаў яго работы, яго рэвалюцыйнай пільнасьці, якія зьяўляюцца праверкай яго адданасьці і здольнасьці змагацца за правядзеньне на справе генэральнай лініі партыі.

Бюро ЦК і прэзыдыум ЦКК указваюць, што пры падборы кіруючых кадраў па ўсіх галінах работы, у тым ліку і па лініі нацыянальна-культурнага будаўніцтва, неабходна рашуча пакончыць з мэханічным падыходам да падбору і перастаноўкі лю-

дзей, незалежна ад іх бальшавіцкіх якасьцяй, узмацніўшы вылучэньне і замацаваньне на кіруючай рабоце новых узросшых бальшавіцка-праверaных на практычнай рабоце работнікаў, аказваючы ім актыўную дапамогу ў павышэньні іх дзелавой кваліфікацыі і далейшага росту іх палітычнага ўзроўню.

Паставіць пытаньні стану ідэалёгічнага фронту і нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР, на чарговым пленуме ЦК КП(б)Б.

## Рэзалюцыя пленуму ЦК і Менскага Гаркому КП(б)Б

### Па пастанове ЦК УсеКП(б) ад 2 сакавіка 1933 г.

# па пытаньні аб правядзеньні нацыянальнай палітыкі ЎсеКП(б) у Беларусі.

I

Аб'яднаны пленум ЦК і Менскага гаркому КП(б)Б сумесна з менскім партактывам прызнае, што факты, апублікаваныя ў «Праўде» (ліст настаўніка тав. Сьцяпура, контр-рэвалюцыйныя нацдэмаўскія вылазкі на літаратурным фронце, факты засьмечанасьці апарату Наркамасьветы нацыяналістычнымі, перараджэнскімі элемэнтамі), а таксама дадаткова выкрытыя і выкрываемыя факты ізвращчэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі ў Беларусі—з ўсёй відавочнасьцю сьведчаць, што беларускія партыйныя, савецкія, прафэсыянальныя і камсамольскія арганізацыі не вядуць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям.

У асаблівасьці нецярпімы меўшыя месца факты прамой забароны карыстаньня рускай мовай у звароце да дзяржаўных або іншых органаў Беларусі і факты прасьледваньня за рускую гаворку нават у прыватнай абстаноўцы.

Выходзячы з таго, што апублікаваныя ў «Праўде» факты ізвращчэньня нацыянальнай палітыкі ЎсеКП(б) у Беларусіі выкрыты паміма партыйнага і савецкага кіраўніцтва і ў радзе выпадкаў рэагаваньне на выкрываемыя факты было не своечасовым,—аб'яднаны пленум ЦК і Менскага ГК КП(б)Б прызнае кіраўніцтва практыкай правядзеньня нацыянальнай палітыкі партыі на радзе вучасткаў (беларусізацыя), як з боку бюро ЦК, так і ўсяго ЦК у цэлым—нездавальняючым.

Аб'яднаны пленум лічыць, што гэта ацэнка ў поўнай меры адносіцца да работы як Менскага гаркому, так і ўсіх гарадзкіх і раённых камітэтаў партыі, камсамолу, савецкіх і прафэсыянальных арганізацый як у цэнтры, так і на мясцох.

Пленум адзначае, што своечасовае і правільнае умяшацельства ЦК УсеКП(б), а таксама сыгналы з боку «Праўды» дапа-

маглі партыйным і савецкім арганізацыям Беларусі узяцца за спраўленьне дапушчаных памылак і мабілізаваць іх пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і СНК БССР на хуткае выпраўленьне дапушчаных памылак, на бальшавіцкую барацьбу за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму і на рашучую барацьбу супроць буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных тэндэнцый.

II

Беларусь ператварылася з раней адсталай у эканамічных і культурных адносінах краіны у адну з перадавых рэспублік Савецкага Саюзу. Брацкая дапамога з боку Савецкага саюзу і гераічны энтузіязм працоўных пад кіраўніцтвам КП(б)Б ў справе будаўніцтва сацыялізму ў Беларусі забясьпечылі працоўным Беларусі вялізарныя тэмпы росту гаспадаркі, якія перавышаюць агульна-саюзныя і стварылі ўмовы пад'ёму (торжества) нацыянальнай культуры, што асабліва ярка відаць з наступнага:

а) сярэдні штогадовы прырост прамысловай прадукцыі па БССР за пяцігодку складае 49 проц. пры сярэднім прырасьце прамысловай прадукцыі СССР ў 22 проц. Удзельная вага прамысловасьці БССР у агульна-саюзнай прамысловасьці вырасла да цяперашняга часу больш чым у два разы ў параўнаньні з 1913 г. Рабочая кляса ў БССР за гэты-ж прамежак часу вырасла ў чатыры разы. Валавая прадукцыя вырасла на 620 проц.

б) Ня меньш яркія посьпехі дасягнуты ў галіне сельскай гаспадаркі: рост саўгасаў—з 164 у 1924 г. да 429 у 1932 г., рост калгасаў—з 380 у 1924 г. да 8.909 у 1932 г., лік трактараў—з 22 да 2.822. Значны рост пасеўнай плошчы збожжавых культур—з 2.389, 4 тыс. га ў 1916 г. да 3.983 тыс. га у 1932 г. і асабліва значны рост плошчы тэхнічных культур за гэты-ж пэрыяд—з 109,1 тыс. га да 317,4 тыс. га.

в) За гады рэвалюцыі гіганцкі вырасла колькасьць школ і лік вучнёўства ў іх. Беларусь, якая мела да рэвалюцыі толькі 24 проц. пісьменных, стала краінай суцэльнай пісьменнасьці. Таксама вырасла кніжная прадукцыя, тыраж газэт, створаны буйнейшыя навукова-дасьледчыя цэнтры, рад ВНУ, ВТНУ і г. д.

Пленум лічыць, што работа партыйных і савецкіх арганізацый Беларусі па выкананьні важнейшых гаспадарчых задач (сяўба, загатоўкі, барацьба за прамфінплян і далейшае капітальнае будаўніцтва) павінна праводзіцца на аснове бальшавіцкай узмоцненай барацьбы ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый супроць усякіх буржуазна - нацыяналістычных, перараджэнскіх кулацкіх элемэнтаў, улічваючы, што брацкая дапамога Савецкага саюзу забясьпечвае і ў далейшым бальшавіцкія тэмпы палітычнага, гаспадарчага і культурнага разьвіцьця Беларусі і што прыгранічнае знаходжаньне яе абавязвае ўсю КП(б)Б да прыкладнай работы як у галіне агульна сацыялістычнага будаўніцтва, так і правядзеньня нацыянальнай палітыкі партыі.

III

Ізвращчэньні ленінскай нацыянальнай палітыкі ЎсеКП(б) ў Беларусі, прарывы на вучастку літаратуры, мастацтва і навукі сьведчаць таксама аб тым, што пры значным агульным росьце пралетарскіх нацыянальных кадраў партыйныя і савецкія арганізацыі яшчэ недастаткова разгарнулі работу па бальшавіцкім іх выхаваньні, па прасоўваньні і вылучэньні падросшых праверавых кадраў на кіруючую работу ў асаблівасьці для забесьпячэньня бальшавіцкага кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам.

Адсутнасьць у большасьці праграм ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў адпаведных указаньняў па пытаньнях барацьбы з контр-рэвалюцыйнай нацдэмаўшчынай, прышчэпаўшчынай, рэшткі якіх працягваюць весьці барацьбу супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады,—гавораць аб адсутнасьці неабходнай рэвалюцыйнай пільнасьці, самазаспакаеньні, у асаблівасьці з боку навуковых і навучальных партыйных арганізацый і аб няўменьні разаблачаць новыя манэўры актывізуючагася клясавага ворага і яго агентуры, няўменьні даваць яму на справе своечасовы і сакрушальны адпор.

Гэтыя памылкі асабліва нецярпімы, калі ўлічыць што партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі абавязаны былі зрабіць ўсе неабходныя вывады з прошлых урокаў нацдэмаўшчыны—прышчэпаўшчыны.

З усякімі ізвращчэньнямі практыкі правядзеньня беларусізацыі (забарона карыстацца рускай мовай у звароце да дзяржаўных і іншых устаноў, прасьледваньне за рускую гаворку нават у прыватнай абстаноўцы і г. д.), яе мэханічным правядзеньнем партыйныя і савецкія арганізацыі павінны весьці рашучую бальшавіцкую барацьбу.

Пленум ЦК і Менскага ГК патрабуе ад ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый сапраўды бальшавіцкага кіраўніцтва правядзеньнем справы беларусізацыі, улічваючы, што аднэй з умоў далейшай пасьпяховай барацьбы з беларускім буржуазна-кулацкім нацыяналізмам зьяўляецца і надалей рашучае і неаслабнае правядзеньне справы беларусізацыі.

Пленум таксама абавязвае ўсе партыйныя і савецкія арганізацыі весьці адкрытую бальшавіцкую барацьбу супроць праяўленьняў шавінізму сярод нацменшасьцяй (яўрэйскай, польскай і г. д.).

Адначасова пленум патрабуе неаслабна праводзіць указаньні тав. СТАЛІНА аб неабходнасьці весьці барацьбу на два фронты супроць ухілаў у партыі па нацыянальным пытаньні—супроць ухілу ў бок вялікарускага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, і супроць ухілаў у бок мясцовага шавінізму.

Замест дэклярацыйнасьці, агульных рэзолюцый па пытаньнях правядзеньня нацыянальнай палітыкі партыі пленум патра-

бue ад усіх партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый, штодзённай канкрэтнай і апэрацыйнай работы ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі партыі, кладучы ў аснову ўсёй гэтай работы палітыку «зблiжэньня пралетараў і поўпралетараў розных нацыянальнасьцяй для сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы» (з праграмы ЎсеКП(б).

У мэтах хутчэйшага выпраўленьня ізвращчэньняў і памылак, якія былі дапушчаны радам партыйных і савецкіх арганізацый ў Беларусі пленум лічыць неабходным:

1) Ухваляючы ўсе пастановы, прынятыя бюро ЦК КП(б)Б у сувязі з ізвращчэньнямі нацпалітыкі ЎсеКП(б) у Беларусі—прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б шырока прапрацаваць пастанову пленуму ЦК, ліст т.т. ГІКАЛО, і ГАЛАДЗЕДА ў «Праўду» ад 4/III—1933 г. і ўсе пастановы ЦК КП(б)Б па гэтым пытаньні, прысьвяціўшы прапрацоўцы гэтага пытаньня ня толькі партдні, але праводзячы яе па ўсёй сетцы партасьветы, на спэцыяльных сходах актыву, адкрытых партыйных і камсамольскіх сходах, ячэйках і г. д.—з тым, каб ўся КП(б)Б і кожны камуніст у паасобку зразумелі сутнасьць ізвращчэньняў і памылак у ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі, каб сапраўды завастрыць бальшавіцкую пільнасьць, непрымірымасьць да нацыяналістычных кулацкіх вылазак.

2) Даручыць бюро ЦК КП(б)Б:

а ) У дадатак да ўжо прынятых мер па праверцы кадраў правесьці далейшую работу па ачыстцы усіх зьвеньняў савецкіх, гаспадарчых і культурных установ і арганізацый ад перараджэнскіх, гнілых, антысавецкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, замяняючы іх праверанымі работнікамі. Адначасова пленум папярэджвае, што пры гэтай праверцы не павінны быць дапушчаны перагібы ў адносінах тых работнікаў (савецкіх, гаспадарчых, культурных, і іншых), якія добрасумленна праводзяць у сваёй рабоце палітыку савецкай улады і партыі і дапусьцілі толькі асобныя памылкі, імі ўсьвядомленыя і на справе выпраўляемыя.

б) Надаючы выключна важнае значэньне рабоце па падрыхтоўцы, вылучэньні і падборы бальшавіцкіх нацыянальных кадраў, у асаблівасьці для кіраўніцтва вучасткам нацыянальна-культурнага будаўніцтва, намеціць рад далейшых канкрэтных мерапрыемстваў, у прыватнасьці, стварыць дадатковую сетку курсаў для рабочых па палітычнай і тэхнічнай падрыхтоўцы іх на кіруючую работу, праверыць ужо існуючую сетку курсаў і навучальных ўстаноў з пункту гледжаньня ажыцьцяўленьня там бальшавіцкага кіраўніцтва, неадкладнага падбору правераных работнікаў на рад асабліва важных палітычных вучасткаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва і г. д.

Пленум, таксама даручае бюро ЦК фракцыі прэзыдыуму ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ і наркоматам, а таксама усім ГК і РК і РВК

у бліжэйшы-ж час праверыць стан работы па прасоўваньні і вылучэньні рабочых з карэнных нацыянальнасьцяй, у асаблівасьці беларусоў на адказныя работы, забясьпечыўшы пераломy гэтай справе.

в) Распрацаваць рад мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць выпуск у бліжэйшы час матар'ялаў па гісторыі КП(б)Б, гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, у прыватнасьці брашурамі па асобных пытаньнях, вылучыўшы для гэтай работы рад работнікаў і забясьпечыўшы апошнім адпаведныя ўмовы для работы.

г) Факты простых контр-рэвалюцыйных, кулацкіх, рэваншысцкіх і нацыяналістычных вылазак у літаратуру, мастацтва, навуку і г. д. гавораць аб невыстарчальнай пільнасьці і кіраўніцтве гэтымі вучасткамі з боку таксама і паасобных зьвеньняў партыйнага апарату, непасрэдна наглядаючых і кіруючых гэтай работай. Узмацніць гэтыя вучасткі, у першую чаргу—культпропы адпаведнымі моцнымі бальшавіцкімі праверанымі работнікамі.

д) Намеціць рад практычных мерапрыемстваў па ўзмацненьні асьвятленьня пытаньняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР у пэрыядычным друку, дабіваючыся больш сыстэматычнага і поўнага асьвятленьня гэтых пытаньняў як у цэнтры, так і на мясцох. Асабліва пленум падкрэсьлівае неабходнасьць рэдакцыям газэт разгарнуць барацьбу супроць патураньня буржуазна-кулацкім, нацыяналістычным тэндэнцыям у правядзеньні нацыянальнай палітыкі партыі ў Беларусі з боку раду партыйных і савецкіх арганізацый, а таксама барацьбу за асновы інтэрнацыяналізму.

е) Распрацаваць і правесьці ў бліжэйшы-ж час рад канкрэтных мерапрыемстваў па рашучай перабудове і ўзьняцьці на больш высокую ступень работы сярод працоўных нацменшасьцяй, маючы на ўвазе, што гэта работа павінна ісьці па лініі ўзмацненьня бальшавіцкага кіраўніцтва ўсімі вучасткамі работы сярод нацменшасьцяй.

3. У мэтах найбольш поўнага разаблачэньня мінулага і цяперашняга нацдэмаўшчыны—прышчэпаўшчыны, эсэраўшчыны, бундызму і г. д. у Беларусі і ў мэтах узбраеньня растучых кадраў бальшавіцка-распрацаваным матар'ялам, пленум даручае інстытуту гісторыі партыі, інстытуту гісторыі БАН, ДВБ, Наркамасьветы забясьпечыць выпуск раду праверанных, бальшавіцка-вытрыманых матар'ялаў, дакумэнтаў і кніг па гэтых пытаньнях з тым, каб першыя-ж дакуманты і матар'ялы пачалі выходзіць у сьвет у бліжэйшыя-ж два месяцы. Культпропу ЦК прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы. Адначасова прыняць тэрміновыя меры для выпраўленьня апублікаваных у «большой советской энциклопедии» раду артыкулаў нацдэмаўскага парадку.

4. Пленум даручае фракцыі прэзыдыуму Акадэміі Навук асабліва сур'ёзна заняцца ў бліжэйшы час пытаньнямі беларускай мовы, забясьпечыўшы правільную бальшавіцкую распрацоўку і сваечасовы выпуск матар'ялаў па гэтым пытаньні, распрацоўку тэрміналёгіі мовы, слоўніка і г. д.

5. У мэтах павышэньня працаздольнасьці савецкіх і гаспадарчых арганізацый, пленум даручае бюро ЦК, прэзыдыуму ЦКК і СНК у дадатак да правадзімых ужо мерапрыемстваў (скарачэньне штатаў, устанаўленьне адказнасьці ў апаратах, правільная расстаноўка людзей і г. д.)—распрацаваць і правесьці спэцыяльныя мерапрыемствы, прадугледжваючыя большую апэрацыйнасьць і гібкасьць работы апаратаў, не дапускаць раздуваньня штатаў, патрабаваць ад кіраўнікоў устаноў і гаспадарчых арганізацый веданьня людзей у апараце, пэрсанальнага падбору работнікаў з боку кіраўнікоў, тым самым папярэджваючы пранікненьне туды чужых—буржуазна-нацыяналістычных, перараджэнскіх, антысавецкіх элемэнтаў і г. д.

6. Для ўзьняцьця на больш высокую ступень марксысцка-ленінскай вучобы ўсіх членаў і кандыдатаў партыі і камсамолу, пленум даручае бюро ЦК, усім ГК і РК КП(б)Б праверыць стан работы па марксыцка-ленінскім выхаваньні ў партыйных і камсамольскіх арганізацыях, устанавіўшы штодзенны кантроль і апэрацыйнае кіраўніцтва гэтай важнейшай работы.

Пленум папярэджвае ГК і РК КП(б)Б, што зрыў марксыцка-ленінскай вучобы будзе разглядацца ЦК, як зрыў важнейшых дырэктыў партыі.

* * *

Пленум ЦК і Менскага ГК КП(б)Б з усёй сілай падкрэсьлівае недапушчальнасьць якога-б там ні было самацёку у правядзеньні нацыянальнай палітыкі партыі. Усе члены партыі павінны памятаць, што посьпехі далейшага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі знаходзяцца ў прамой залежнасьці ад таго, наколькі кожная партыйная арганізацыя, кожны камуніст усьвядомяць тое новае, што ёсьць зараз у клясавай барацьбе ўнутры краіны, наколькі яны здолеюць з яшчэ большай непрымірымасьцю і пасьлядоўнасьцю змагацца за прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму ў правядзеньні нацыянальнага пытаньня.

Усе партыйныя, камсамольскія, савецкія і прафэсыянальныя арганізацыі павінны ясна разумець, што гэта барацьба ў БССР, як прыгранічнай рэспубліцы, дзе бальшавіцкае правядзеньне нацыянальнай палітыкі зьяўляецца ня толькі аднэй з важнейшых умоў пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму ўнутры краіны, але і магутнейшым фактарам узьдзеяньня на рэвалюцыйны рух за рубяжом—набывае асабліва важнае значэньне.

Іменна таму асабліва нецярпімы тыя памылкі і ізвращчэньні, якія былі дапушчаны савецкімі і партыйнымі арганізацыямі ў Беларусі ў справе правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Іменна таму з асаблівай сілай павінна быць разгорнута барацьба за хутчэйшую ліквідацыю ўсіх дапушчаных ізвращчэньняў, памылак і недахопаў у пытаньнях правядзеньня нацыянальнай палітыкі, як палітыкі прызванай служыць для выхаваньня шырокіх мас працоўных у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Няхай жыве Савецкі саюз—добраахвотны саюз працоўных усіх нацыянальнасьцяй!

Няхай жыве ЦК УсеКП(б) на чале з тав. Сталіным—правадыром УсеКП(б) і сусьветнага пралетарыяту!

*В. Г. Рудніцкі*

*Ф. М. Казакоў*

# Вынікі першай пяцігодкі нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР

Савецкая Беларусь уступіла ў выкананьне 2-й пяцігодкі з вялікімі перамогамі на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва, вялізарнейшымі тэмпамі ліквідуючы сваю эканамічную і культурную адсталасьць.

Гэтыя вялізарнейшыя дасягненьні ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, атрыманы дзякуючы цьвёрдаму і няўхільнаму кіраўніцтву Камуністычнай партыі, на чале з т. **Сталіным,** на аснове правільнага правядзеньня Ленінскай нацыянальнай палітыкі і пры актыўнай дапамозе пралетарыяту братэрскіх саюзных рэспублік.

Беларусь зараз індустрыяльна-калгасная рэспубліка суцэльнай пісьменнасьці. Бурнымі тэмпамі расьце ў ёй сетка навучальных, навукова-дасьледчых і палітыка-асьветных устаноў. Будуецца культура сацыялістычная па зьмесьце і нацыянальная па форме.

БССР зьяўляецца адным з лепшых прыкладаў таго, як Савецкі Саюз, саюз працоўных звыш 160 нацыянальнасьцей, што вызвалены Кастрычнікам, вывеў гэтыя нацыянальнасьці на сацыялістычны шлях.

У барацьбу за культурную рэвалюцыю ў БССР уцягнуты самыя шырокія пласты насельніцтва.

БССР—рэспубліка гістарычнага паходу шырачайшых мас за навуку, за пісьменнасьць, за веды, за бальшавіцкае мастацтва, за сацыялістычную культуру. Армія людзей, якія змагаюцца пад кіраўніцтвам КП(б)Б за культурную рэвалюцыю, налічвае ў

сябе 165.000 сяброў т-ва «Прэч непісьменнасьць», 15.000 «юных прыхільнікаў» гэтага т-ва, да 150.000 сяброў т-ва «Прыхільнік дзяцей», некалькі тысяч сяброў т-ва «Тэхніка масам», 31.000 культармейцаў, звыш 30.000 асьветнікаў—настаўнікаў, звыш 2.000 навуковых працаўнікоў.

Калі ў 1914-15 г.г. ахоп школаю дзяцей школьнага ўзросту складаў 43,9 проц., то зараз усе дзеці Савецкай Беларусі, ва ўзросьце ад 8 да 12 гадоў, ахоплены школай. Вырасла сетка нацыянальных школ: 230 яўрэйскіх, 273 польскіх, 24 латыскіх, 13 літоўскіх, 22 украінскіх, 10 нямецкіх і 88 расійскіх.

Асабліва паказальны рост разьвіцьця школьнай сеткі за 1-ю пяцігодку: у 1928/29 вучэбным годзе першы канцэнтр школы меў 10.389 груп з 474.760 вучнямі, зараз налічваецца 15.803 групы з 695.890 вучнямі. У пачатку пяцігодкі праэктавалася, што ў 1932/33 вуч. годзе груп будзе 14.298 з 597.120 вучнямі. Колькасьць груп II-га канцэнтру за 1-ю пяцігодку вырасла, амаль, у два разы: было ў пачатку пяцігодкі 2.217 груп, а ў канцы 4.058 груп. Колькасьць вучняў з 70.944 вырасла да 185.500, у той час, калі па пляне культурнай пяцігодкі ў 1932/33 вуч. годзе намячалася 2.538 груп і 81.214 вучняў.

У параўнаньні з плянавымі меркаваньнямі, мы прышлі да 2-й пяцігодкі з выкананьнем пляну разьвіцьця сеткі масавай палітэхнічнай школы па I-му канцэнтру: па групах на 105,86 %, па колькасьці вучняў 116,54%, па II канцэнтру: па групах на 159,89% і па колькасьці вучняў 233,45%.

1929-30 вуч. год быў годам увядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня для дзяцей школьнага ўзросту. Савецкая Беларусь ня толькі першая з савецкіх рэспублік увяла, але першая і ажыцьцявіла ўсеагульнае абавязковае навучаньне,—у 1932 г. мы пераможна завяршылі ўсенавуч дзяцей ад 8 да 12 год. Мы ажыцьцявілі усенавуч за сямігодку ва ўсіх гарадох і некаторых раёнах, дзе процант ахопленых школай дзяцей ва ўзросьце ад 12 да 15 год дасягае 97. У гэтым годзе навучаньне ў 5-х групах зьяўляецца абавязковым для дзяцей, скончыўшых чатыры групы. З 1932 году БССР прыступіла да разгортваньня дзесяцігадовай палітэхнічнай школы. Спачатку 1932-33 вуч. году адчынена ўжо 40 восьмых груп у прамысловых цэнтрах і гарадох БССР.

На працягу апошняга году праведзена вялікая работа па выкананьні дырэктыў, дадзеных ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б у іх гістарычных пастановах аб школе.

Гэта дало вялізарныя вынікі ў галіне барацьбы з «карэнным недахопам» школьнай работы—недастатковасьцю агульна-адукацыйных ведаў вучняў. Зьдзейсьнена прадметнае выкладаньне, школа пераведзена на новыя праграмы, ускрыты права-апартуністычныя і «лявацкія» скажэньні ў тэорыі і практыцы школь-

нага жыцьця. Умацоўваецца працоўная дысцыпліна ў школе, настаўнік становіцца цэнтральнай фігурай пэдпрацэсу. Дзіцячае самакіраваньне пераключаецца на барацьбу за якасьць школьнай работы.

Разам з гэтым трэба падкрэсьліць, што абвостраная клясавая барацьба мае свой адбітак і ў школах. Клясавы вораг імкнецца скарыстаць усе слабыя зьвеньні ў нашай рабоце з тым, каб падарваць будаўніцтва савецкай палітэхнічнай школы, якое з посьпехам разгорнута. Маецца шэраг клясава-варожых контр-рэвалюцыйных выступленьняў з боку вучняў паасобных школ, з мэтай дэзарганізацыі работы школы, зрыву барацьбы за ліквідацыю «карэннага недахопу» школы, раскрадваньне школьнай і калгаснай маёмасьці. Мы маем факты недысцыплінаванасьці, хуліганства, антысэмітызму, вялікадзяржаўнага шовінізму і контр-рэвалюцыйнага нацдэмакратызму, зьбіваньне вучняў-ударнікаў (Горкі, Петрыкаў, Гомель, Мазыр, Сіроцін і г. д.).

Усё гэта гаворыць аб тым, што выхаваўчая работа ў паасобных школах пастаўлена зусім слаба, што з боку паасобных работнікаў АНА, РК саюзу Працасьветы (Гомель, Горкі і інш.) ня было праяўлена дастатковай бальшавіцкай пільнасьці і своечасова ня былі прыняты захады да ачышчэньня настаўніцкіх радоў ад клясава-варожых, чуждых элемэнтаў.

Мы маем выпадкі антысавецкіх, контр-рэвалюцыйных выступленьняў з боку паасобных настаўнікаў, як-та—актыўнае садзейнічаньне ў арганізацыі кулацкага сабатажу нарыхтовак: хаваньне кулацкага збожжа, лёну і інш. у сябе на кватэрах, абарона кулакоў на судзе (Горкі, настаўн. Кірылаў і Лаўроў); адмаўленьне ад удзелу ў правядзеньні нарыхтовак, распаўсюджваньне ідэй аб пазаклясавасьці навукі (Горацкі раён, настаўнік Шчарбакоў).

Усім гэтым агідным вылазкам клясавага ворагу на культурным фронце незаўсёды даваўся рашучы адпор.

Перад намі стаіць задача мабілізацыі ўсёй грамадзкасьці на ўзмацненьне інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня ў школах, правядзеньне масавай палітыка-выхаваўчай работы сярод настаўніцтва і рашучай барацьбы са ўсялякімі клясава-варожымі, контр-рэвалюцыйнымі праявамі і выступленьнямі на ідэалёгічным фронце, задача—завастрэньня бальшавіцкай пільнасьці з боку кожнага працаўніка на даручаным яму вучастку працы.

Да 15 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, БССР абвешчана рэспублікай суцэльнай пісьменнасьці, ў той час, як да рэвалюцыі па Беларусі было 70% няпісьменнага насельніцтва. Барацьба з няпісьменнасьцю пачалася ў БССР з першых дзён устанаўленьня савецкай улады.

Зараз мы маем 97-98% пісьменнага насельніцтва ва ўзросьце ад 16 да 45 гадоў у вёсцы і да 50 год у горадзе. Вядзецца ак-

тыўная праца па ліквідацыі рэштак няпісьменнасьці. Усе няпісьменныя ахоплены лікпунктамі і ў бліжэйшыя месяц-два заканчваюць іх.

З 1-га кастрычніка 1932 г., з мэтай ліквідацыі малапісьменнасьці, па БССР уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне за чатырохгадовую палітэхнічную школу для ўсіх рабочых, членаў прафсаюзаў ва ўзросьце ад 16 да 45 год., для працоўных 23 раёнаў і сельсаветаў суцэльнай калектывізацыі ва ўзросьце ад 16 да 40 гадоў, для ўсіх працоўных астатніх раёнаў ад 16 да 30 гадоў.

Такім чынам, пераможна заканчваючы барацьбу з няпісьменнасьцю, БССР рашуча змагаецца і з малапісьменнасьцю.

Гэтымі перамогамі мы абавязаны тэй асабліва вялікай увазе, якую аддаваў справе ліквідацыі няпісьменнасьці Цэнтральны Камітэт Камуністычнай Партыі Беларусі. Да гэтых перамог мы прышлі, дзякуючы самаадданай працы шэрагу арганізацый, у першую чаргу т-ва «Прэч няпісьменнасьць», дзесяткаў тысяч культармейцаў і чырвонасьцяжнага настаўніцтва.

Да рэвалюцыі БССР ня мела ніводнага ВНУ. Вышэйшая школа на Беларусі стварылася пры дыктатуры пралетарыяту. У першую гадавіну вызваленьня БССР ад белапалякаў,—была адчынена першая вышэйшая навучальная ўстанова—Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. У першую пяцігодку вырастае 32 вышэйшых школы, у якіх навучаецца 15.132 студэнты. Прапарцыянальна колькасьці насельніцтва лік студэнтаў па БССР значна вышэй, чым у перадавых капіталістычных краінах. У Германіі на 10.000 насельніцтва прыходзіцца 18 студэнтаў ВНУ, у Англіі—14, у Францыі—7—8, мы-ж па БССР у канцы 1-й пяцігодкі маем 30 студэнтаў вышэйшай школы на кожныя 10.000 насельніцтва.

Поруч з ВНУ, разгарнулася сетка тэхнікумаў і рабфакаў. Калі першыя наміткі пяцігодкі плянавалі да канца 1932 г. па БССР 37 тэхнікумаў з 9.850 студэнтамі і 20 рабфакамі з 5.183 студ., то зараз мы маем 130 тэхнікумаў з 32.182 студ., і 61 рабфак з 17.760 студэнтамі. Сярод тэхнікумаў: 35 індустрыяльных, 32 пэдагагічных, 30 сельска-гаспадарчых, 5 палітасьветных, 11 сацыяльна-эканамічных і інш.

Побач з колькаснымі дасягненьнямі ў галіне разьвіцьця вышэйшай і сярэдняй школы, мы маем і буйныя якасныя зрухі. Праца нашай вышэйшай і сярэдняй школы цесна увязана з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і культуры, яна зьяўляецца «кузьняй стварэньня ўласнай вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі рабочай клясы». Я прывяду некаторыя дадзеныя аб сацыяльным складзе студэнтаў БССР да пачатку 1933 г.: рабочых 49,2%, сялян 23,4%; служачых—25,3%; інш. 2,1%.

Партыйцаў і камсамольцаў студэнтаў—53,4%.
Нацыянальны склад студэнцтва:

| | |
|---|---|
| Беларусы . . . . . | 76,6% |
| Яўрэі . . . . . . | 15,9% |
| Расійцы . . . . . | 3,4% |
| Палякі . . . . . . | 1,8% |
| Інш. нацыян. . . . . | 2,3% |

Выкладаньне ў нашых ВНУ, тэхнікумах і рабфаках вядзецца на 85% на беларускай мове. Нашы тэхнікумы, рабфакі, ВНУ і ВТНУ маюць спэцыяльна-нацыянальныя аддзяленьні: польскія і яўрэйскія. Ёсьць нацыянальныя тэхнікумы. У гэтым годзе адчыняюцца польскі і яўрэйскі пэдагагічныя інстытуты. Тыя недахопы ў працы вышэйшай і сярэдняй школы, якія канстатавалі ЦВК і СНК СССР і сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б у іх пастановах, маюць месца і ў нашых вышэйшых і сярэдніх школах па БССР.

Побач з вышэйпаказанымі дасягненьнямі ў будаўніцтве нашай сярэдняй і вышэйшай школы патрэбна канстатаваць, што тэмпы па выкананьні дырэктыў ЦВК і СНК БССР і сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б не выстарчальны.

ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы яшчэ недастаткова забясьпечылі належнай работы катэдр і прадметных камісій. Маюць месца скажэньні марксысцка-ленінскай мэтадалёгіі ў выкладаньні паасобных дысцыплін, факты адкрытага прапагандаваньня правага апартунізму (ВПІ—Гесэн) і трацкізму (ВПІ—Рыўлін, Айзэнберг).

З боку ДВС і сэктару Кадраў НКА яшчэ не забясьпечана ў дастатковай меры сыстэматычнае апэрацыйнае кіраўніцтва работай ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў. Мы разгортваем рашучую і напружаную барацьбу за зьнішчэньне гэтых недахопаў, за чыстату марксыцка-ленінскай мэтадалёгіі ў выкладаньні, мы мабілізуемся на выкананьне задачы падняцьця якасьці працы з тым, каб сярэдняя і вышэйшая школа былі ўзьняты на тую якасную вышыню, якая патрабуецца ад нас дырэктывамі і пастановамі партыі і ўраду.

Да студзеня 1929 года ў БССР існавала толькі дзьве навукова-дасьледчых установы: Інстытут Беларускай Культуры і Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі.

1-ая пяцігодка забясьпечыла вялізарнейшы рост навуковай працы. Колькасьць навукова-дасьледчых установаў, лік навуковых працаўнікоў, шырачайшы размах навуковай работы растуць з года ў год буйнейшымі тэмпамі. У 1929 годзе Інбелкульт рэарганізуецца ў Беларускую Акадэмію Навук.

Да 15-й гадавіны Кастрычніка, пралетарыят БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, стварыў вялікую сетку навукова-дасьледчых

інстытутаў, задачай якіх зьяўляецца ажыцьцяўленьне навукова-дасьледчай работы ў пэўных галінах гаспадаркі і культуры.

Беларуская Акадэмія Навук у сваім складзе мае 14 інстытутаў: гісторыі, мовы, літаратуры і мастацтва, філёзофіі, эканомікі, савецкага будаўніцтва і права, геалёгіі, хэміі, агра-глебавы, фізыка-тэхнічны, псыханэўралёгічны, біалёгічны, а таксама і 4 нацыянальных сэктары: яўрэйскі, польскі, літоўскі і латыскі. Камісію па вывучэньні Заходняй Беларусі і сэктар масавай працы і краязнаўства.

Акрамя Акадэміі Навук, навукова-дасьледчую працу праводзіць да 35 дасьледчых інстытутаў розных спэцыяльнасьцей. Вялікую навуковую работу праводзіць Дзяржаўны Музэй, Дзяржаўны Архіў БССР, Бел. Дзярж. Бібліятэка і Бібліяграфічны Інстытут. Дзяржаўная Бібліятэка за 10 год свайго існаваньня вырасла ў буйную навуковую установу з мільённым кніжным фондам, з сярэднім гадавым прыростам у 100 тыс. томаў.

За пяцігодку моцна вырасла колькасьць навуковых працаўнікоў. Калі ў 1928 г. іх было 509, то зараз—звыш 2.000. Сярод іх 22 акадэмікі, 115 прафэсароў, 226 вучоных спэцыялістаў. Партыйная праслойка сярод навуковых працаўнікоў 29%. Па сацыяльнаму становішчу з рабочых—15%; з сялян—39%; з служачых—40% і інш. 6%. Па нацыянальнасьці: беларусаў—51%, яўрэяў—24%, расійцаў—18%, палякаў—3% і інш. (літоўцы, латышы, немцы, украінцы) 4%. Мы маем значныя дасягненьні ў справе падрыхтоўкі новых навуковых кадраў з рабочых і сялян, з працоўнага насельніцтва карэнных нацыянальнасьцей БССР. У нашых навукова-дасьледчых інстытутах мы маем да 600 асьпірантаў, з іх 30,9 рабочых, 64,8 партыйцаў, 16,5 камсамольцаў. Па нацыянальнасьці—беларусаў 58%, яўрэяў—30%, расійцаў 4%, палякаў, 5%, іншых нацыянальнасьцей—6,5%.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на чале з т. Гікало на нашым навуковым фронце праведзена і праводзіцца вялікая барацьба супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, а таксама і супроць контр-рэвалюцыйнага нацдэмакратызму, прыкрываючагася фальшыва-нацыянальным сьцягам, з яго імкненьнем падпарадкаваць сабе навуковую працу. Выкрыты розныя антысавецкія вылазкі ў літаратуры, выкладаньні і ў навуковай прадукцыі БССР, што сьведчыць аб адсутнасьці, бальшавіцкай пільнасьці і праяўленьні гнілога лібэралізма з боку кіруючых працаўнікоў НКА, ДВБ і навучальных установ. У 1932 годзе наша Дзяржаўнае Выдавецтва выпусьціла 2.738 назваў розных кніг з тыражом 18.612.000 экз. Акрамя гэтага, у нас маецца шэраг выдавецтваў пры навукова-дасьледчых інстытутах, якія па сваей прадукцыі займаюць амаль палову ўсіх выданьняў, што выходзяць у БССР. У галіне масавай палітыка-асьветнай працы 1-ая пяцігодка дала вялізарнейшыя посьпехі.

Ніжэйпаказаная таблічка паказвае наш рост за 1-ю пяцігодку:

| Было у 1-м годзе | У канцы 1 пяцігодкі | | |
|---|---|---|---|
| | Плян | Фактычна | % выка-наньня |
| I. Вячэрніх школ для дарослых (рабочых) 103 . | 121 | 472 | 390,09 |
| „ „ вучняў у іх. . . | 1273 | 14160 | 110,8 |
| „ „ (для калгасн.). III . | 396 | 1035 | 261,35 |
| „ „ вучняў у іх 4440 . | 13360 | 31050 | 223,3 |
| II. Сельскія дамы культуры і дамы калгасьніка 526 . . . . . | 915 | 1411 | 143,28 |
| III. Музэі 5 . . . . . . . . . | 5 | 8 | 160 |
| IV. Тэатры 6 . . . . . . . . | 14 | 16 | 114,29 |
| V. Бібліятэкі (стац. і перас. 804) . | 1877 | 2106 | 112,2 |
| VI. Кіно 305 . . . . . . . . | 757 | 795 | 101,5 |

Такім чынам, у галіне разьвіцьця сеткі палітыка-асьветных установ мы ня толькі выканалі, але значна перавыканалі нашыя папярэднія плянавыя наметкі першай пяцігодкі.

У галіне дашкольнага выхаваньня нашы дасягненьні асабліва паказальны:

| На 1 годзе пяцігодкі | Плян 1932 г. | Фактычна ёсьць у 1932 г. | % выканання |
|---|---|---|---|
| Дзіц. сады 337 . . . . . | 798 гр. | 1000 гр. | 125 |
| Дзяцей 6700 . . . . . | 15960 „ | 25000 „ | 157 |
| Ачагі-прым. . . . . . . | у пляне ня было | 15000 „ | — |
| Пляцоўкі 356 . . . . . | 523 гр. | 3000 „ | 573 |
| 11700 . . . . . | 15690 „ | 90000 „ | 573 |
| Нуляв. групы . . . . | у пляне ня было | 349 „ | — |
| Дзяцей . . . . . . . | — | 10470 „ | — |

Гэтыя лічбы паказваюць наколькі шырока разгарнулася сетка дашкольных установ у канцы першай пяцігодкі.

Дзякуючы правільнаму вырашэньню нацыянальнай палітыкі нашы дашкольныя установы прыстасаваны да абслугоўваньня нацменшасьцяй. У нас ёсьць установы на 5 мовах. Першы год другой пяцігодкі зьяўляецца ў БССР першым годам увядзеньня дашкольнага ўсенавуча.

Вось тыя вялізарнейшыя дасягненьні, якія мы маем ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР у першай пяцігодцы. Гэтыя дасягненьні, як у колькасных, так і ў якасных адносінах так вялізарны, што нават цяжка параўнаць сучаснае становішча Беларусі з тым, што характарызавала яго ў часы царызму.

У галіне аўладаньня вучнямі нашай савецкай палітэхнічнай школы ведамі па гісторыі разьвіцьця грамады, аўладаньня асновамі навук, зроблена столькі, што ў ніякае параўнаньне са старой схалястычнай школай нашую школу ставіць нельга.

Калі ў мінулым, школа была моцным сродкам прыгнечаньня працоўных у руках буржуазіі і паноў, то наша савецкая школа выхоўвае дысцыплінаваных, сьвядомых барацьбітоў за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю.

Будаўніцтва палітэхнічнай школы праходзіла і праходзіць ў абстаноўцы жорсткай клясавай барацьбы, як з правым апартунізмам у пытаньнях школьнага будаўніцтва, які цягне школу назад да старой схалястычнай школы і «левым» апартунізмам з яго установкай на адмаўленьне ролі настаўніка, на так званы «мэтад праэктаў» і на фактычнае «адміраньне школы».

Ва ўмовах БССР, пры наяўнасьці надта складанага нацыянальнага пераплёту, партыя і савецкая ўлада вялі і вядуць у галіне культурнага будаўніцтва жорсткую барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і з выкрытым, але да канца яшчэ не дабітым беларускім контр-рэвалюцыйным нацдэмакратызмам і шавінізмамі розных колераў і масьцей, якія, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, яшчэ і зараз імкнуцца правесьці свой уплыў на справу культуры і навукі.

Адзначаючы вялізарныя дасягненьні, якія маюцца ў БССР, трэба з усёй рашучасьцю падкрэсьліць, што на фронце культурнага будаўніцтва мы маем рад буйнейшых палітычных прарываў, на нацыянальна-культурным і ідэалёгічным фронце маюць месца факты актывізацыі антысавецкіх, контр-рэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных, эксэраўскіх і бундаўскіх элемэнтаў.

У вышэйшых навуч. установах паасобнымі выкладчыкамі адкрыта прапагандаваліся ідэі контррэвалюцыйнага трацкізму (Рыўлін, Айзэнберг), нацдэмакратызму (Сакалоўскі), правага апартунізму (Гесэн), у школах цэлага раду раёнаў з боку паасобных настаўнікаў мелі і маюць месца факты антысавецкіх, контр-рэвалюцыйных вылазак (Гомель, Горкі, Магілеў і інш.); у выніку нездавальняючага правядзеньня дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК

КП(б)Б аб школе не забясьпечана ліквідацыя карэннага недахопу школы. Процант пасьпяховасьці вучняў досыць нізкі (80—82 проц.), асабліва дрэнна пастаўлена справа з выкладаньнем грамадазнаўства ў школах.

Выхаваўчая работа ў цэлым радзе школ пастаўлена дрэнна, у выніку чаго частка вучняў падпала пад уплыў клясавага ворага. Работа па палітэхнізацыі школ у цэлым радзе выпадкаў сарвана. Увязка вытворчага навучаньня з выкладаемымі дысцыплінамі не здавальняючая, у праграмах, складзеных НКА, дапушчаны грубейшыя палітычныя памылкі.

На літаратурным фронце маюць месца факты клясава-варожых рэваншысцкіх нацыянал-дэмакратычных вылазак (артыкул Сідарэнкі—Пеначкіна, творы Нікановіча, Баранавых, выкладаньне Сакалоўскага).

Усё гэта сьведчыць аб тым, што ў работнікаў НКА была прытуплена рэвалюцыйная пільнасьць; у апараце НКА і яго органах на мясцох было налічча саноўна-барскіх адносін да работы, адсутнічала бальшавіцкая крытыка і самакрытыка ў рабоце НКА і яго органаў.

НКА і яго органы на мясцох не разгарнулі па-сапраўднаму па-бальшавіцкаму работы па рэалізацыі пастаноў партыі аб школе.

Цэнтральны Камітэт Партыі Беларусі сваячасова ўскрыў гэтыя прарывы, даў правільную палітычную ацэнку ім, адзначыўшы «дапушчэньне, як работнікамі НКА, так і яго органамі мэханічнага правядзеньня нацыянальнай палітыкі, адсутнасьць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму, а ў радзе выпадкаў простае патураньне буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям» (з пастановы бюро ЦК КБ(б)Б).

Бюро ЦК з усёй рашучасьцю падкрэсьліла, што НКА зусім нездавальняюча праводзіў дэрэктывы ЦК КП(б)Б і ЦК УсеКП(б) аб масавай, сярэдняй і вышэйшай школе, што ня гледзячы на неаднаразовыя, канкрэтныя пастановы ЦК і ЦКК, НКА не забясьпечыў карэннай перабудовы ў рабоце апарату, не забясьпечыў бальшавіцкіх тэмпаў па кіраўніцтву нацыянальна-культурным будаўніцтвам.

Бюро ЦК КП(б)Б, зрабіўшы арганізацыйныя вынікі ў адносінах да кіруючых работнікаў НКА, рашуча папярэдзіла ўсё кіраўніцтва НКА аб неабходнасьці па-бальшавіцку разгарнуць барацьбу па ачыстцы апарату НКА ад клясава-чужых, нацыяналістычных элемэнтаў і аб карэннай перабудове работы НКА і яго органаў у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, паставіўшы на чале вугла свае работы барацьбу за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, супроць буржуазна-кулацкіх нацыяналістычных тэндэнцый.

Зараз кіраўніцтва НКА зьменена, праводзіцца работа па ачышчэньню апарату НКА і яго органаў на мясцох ад клясава-чужых элемэнтаў, намечана і праводзіцца рад мерапрыемстваў

па рашучай перабудове работы НКА з тым, каб забясьпечыць выкананьне гістарычных задач другой пяцігодкі.

Некалькі слоў аб 2-й пяцігодцы.

У адпаведнасьці з асноўнымі задачамі поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей і ператварэньня ўсіх працоўных у сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва, а таксама і ў мэтах далейшага, яшчэ больш паскоранага зьнішчэньня розьніцы ў культурным узроўні паміж горадам і вёскай,—асноўнай задачай 2-й пяцігодкі ў галіне школьнага будаўніцтва зьяўляецца завяршэньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня ў аб'ёме 7-годкі і ажыцьцяўленьне дзесяцігадовага навучаньня. Пяцігодка прадугледжвае буйнае разьвіцьцё паскораных форм навучаньня для падлеткаў і перарасткаў, не прайшоўшых курс 7-годкі.

Галоўнейшай задачай ў справе палепшаньня якасьці школьнай працы зьяўляецца ажыцьцяўленьне асноўных задач палітэхнізацыі ў адпаведнасьці з рашэньнямі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

Праэктуецца значнае пашырэньне фондаў палітэхнічнага абсталяваньня школьных лябараторый, майстэрань, рабочых пакояў. Асаблівая ўвага звярачваецца на абсталяваньне узорных школ. Пяцігодкай намечана разьвіцьцё сеткі узорных школ, у сярэднім па 3-4 на раён. Прадугледжваецца вялізарнейшае будаўніцтва новых школьных будынкаў.

Задача далейшага сацыяльна-бытавога аслабаненьня жанчын, разьвіцьцё грамадзкага выхаваньня дзяцей выклікае неабходнасьць шырокага росту сеткі дашкольных установ. У выніку 2-й пяцігодкі плян прадугледжвае забесьпячэньне шырокага ахопу дзяцей дашкольнага ўзросту ўсімі відамі дашкольных установ з тым, каб да канца 2-й пяцігодкі ажыцьцявіць дашкольны ўсенавуч.

У школах БССР, ужо ў 1-ю пяцігодку шырока разгарнулася сетка першапачатковых пазашкольных ячэек—чырвоных куткоў, тэхнічных аддзяленьняў і с.-г. станцый, краязнаўчых груп і г. д., а таксама дзіцячых клюбаў у буйных прамысловых гарадох, дзіцячы кіно-тэатр.

Другая пяцігодка прадугледжвае значнае разьвіцьцё сеткі дзіцячых бібліятэчак, дзіцячых чыталень, кіно, тэатраў, тэхнічных і сельска-гаспадарчых станцый, баз для спорту, фізкультуры, экскурсій, мастацкага выхаваньня, арганізаванага вывазу ў летнія лягеры асноўнай масы школьнікаў важнейшых рабочых раёнаў.

Пры будаўніцтве клюбаў для дарослых, а таксама раённых дамоў сацкультуры прадугледжваюцца спэцыяльныя памяшканьні для патрэб дзіцячага сэктару.

Ліквідацыя няпісьменнасьці ў асноўным закончана ў першай пяцігодцы. Другая пяцігодка высоўвае задачу канчатковай ліквідацыі малапісьменнасьці дарослага насельніцтва, не прайшоўшага курсу пачатковай школы ў вёсцы і 7-годкі ў горадзе. Пашыраецца завочнае навучаньне. Прадугледжваецца шырокі рост клюбнага будаўніцтва ў калгасным сэктары з разьліку наяўнасьці да канца пяцігодкі ня менш аднаго дому культуры ў кожным раёне і нізавой клюбнай ячэйкі ў кожнай вёсцы, за кошт стварэньня новых клюбных установ і арганізацыі хат-чытальнь. Намечана будаўніцтва нацмен. клюбаў і чырвоных куткоў.

Пяцігодка вызначае значнае пашырэньне бібліятэчнай сеткі, стварэньне буйных кнігасховаў, шырокае разгортваньне сеткі краязнаўчых музэяў.

У пляне 2-й пяцігодкі, акрамя арганізацыі тэатраў у новых буйна-прамысловых гарадох, мяркуецца стварэньне тэатральнай арганізацыі ў раёне з перасоўчымі формамі працы для абслугоўваньня нізавой сцэны клюбаў, дамоў сацкультуры і г. д. Ужо зараз у Менску пачынаецца будаўніцтва вялізарнейшага будынку дзяржаўнага тэатру на 2.500 гледачоў.

Праэктуецца разгортваньне сеткі цыркавых і эстрадных прадпрыемстваў, асабліва па лініі перасоўчых форм з установкай на абслугоўваньне калгаснага сэктару, а для буйнейшых індустрыялізаваных цэнтраў, на аснове будаўніцтва стацыянарных прадпрыемстваў.

Прадугледжваюцца ў пляне пяцігодкі мерапрыемствы па масавым музычным выхаваньні, шырокім разгортваньні работы ў сетцы сымфанічных аркестраў для абслугоўваньня прамысловых гарадоў, а таксама па прасоўваньні канцэртаў у буйныя раёны, прадпрыемствы і калгасы.

2-я пяцігодка вызначае завяршэньне ў асноўным суцэльнай кінофікацыі ў БССР. Кіно-сецць будзе шырока скарыстана для арганізацыі тэхнічнай прапаганды, асваеньня тэхнікі і палітэхнічнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

У галіне радыёвяшчаньня мяркуецца рашучае падвышэньне тэмпаў масавай радыёфікацыі і радыёвяшчаньня, замацаваньне мясцовага і нізавога радыёвяшчаньня, палепшаньне якасьці ўсяе радыёсправы, замацаваньне яго палітычнага напрамку, скарыстаньне радыё ў мэтах аўладаньня тэхнікай, падрыхтоўкі кадраў, масавай культурна-асьветнай працы.

Падрыхтоўка кадраў зьяўляецца адным з асноўных зьвеньняў у працэсе ператварэньня ўсіх працоўных у актыўных і сьвядомых будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Цэнтральнае месца ў пляне кадраў на 2-ю пяцігодку, займае праблема тэхнічных кадраў, а таксама падрыхтоўка навукова-дасьледчых і навукова-пэдагагічных працаўнікоў.

Сыстэма падрыхтоўкі кадраў у другой пяцігодцы павінны разгортвацца ў наступным напрамку:

а) ажыцьцяўленьне да канца пяцігодкі ўсеагульнага тэхнічнага навучаньня на аснове ахопу ўсімі формамі тэхнічнай вучобы і тэхнічнай прапаганды ўсёй масы працоўных;

б) далейшы рост падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых з падлеткаў школ ФЗВ і школ тыпу ФЗВ, як прафэсыйнай палітэхнічнай школы, як правіла павінен здабывацца на базе 7-годкі ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі паасобных галін сацбудаўніцтва. У калгасным сэктары пашыраецца сетка школ калгасвуча па тыпу ФЗВ і саўгасвуча для падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў машыннай тэхнікі сацыялістычнага земляробства;

в) разьвіцьцё падрыхтоўкі кадраў спэцыялістаў праз значнае пашырэньне тэхнікумаў, ВНУ і ВТНУ.

Вось коратка, тыя мерапрыемствы, якія намечаны па БССР у галіне далейшага культурнага разьвіцьця другой пяцігодкі.

Мы ўпэўнены, што на аснове найвялікшага росту творчай актыўнасьці і ініцыятывы шырокіх мас працоўных, на аснове ўсё большага і большага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, далейшага разгортваньня пралетарскай крытыкі і самакрытыкі, на аснове правільнага правядзеньня Ленінскай нацыянальнай палітыкі, цьвёрдага і няўхільнага выкананьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе—рабочая кляса, калгасьнікі і ўсе працоўныя БССР ня толькі выканаюць, але і перавыканаюць заданьні другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

---

*В. Зайцаў*

*Г. Голуб*

# Ліквідаваць прарывы ў выкладаньні грамадазнаўчых дысцыплін

«У пэрыяд сацыялізму, калі пралетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы выключна важнае значэньне набывае вытрыманае камуністычнае выхаваньне ў савецкай школе і ўзмацненьне барацьбы супроць усякіх спроб прывіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі» **(з паст. ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г.).**

У сьвятле гэтага ўказаньня ЦК партыі асабліва важнае значэньне набывае выкладаньне грамадазнаўчых дысцыплін у нашай масавай школе. Вось чаму ЦК УсеКП у сваёй гістарычнай пастанове аб пачатковай і сярэдняй школе прапанаваў: **«партыйным арганізацыям узмацніць кіраўніцтва школай і ўзяць пад не-**

**пасрэдны нагляд пастаноўку выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін у школах-сямігодках, у пэдтэхнікумах і пэдвузах».**

Па БССР толькі што закончана работа па абсьледваньню выкладаньня грамадазнаўчых прадметаў у пачатковай і сярэдняй школах. Абсьледваньне праводзілася сацкультгрупай ЦКК—НК РСІ супольна з ЦП Саюзу Працасьветы, абсьледваньнем было ахоплена цэлы рад гарадзкіх і вясковых школ у 10 раёнах.

Аб чым-жа гавораць вынікі абсьледваньня?

Трэба проста сказаць, што выкладаньне грамадазнаўства і гісторыі не пастаўлена на ўзровень тых задач, што высунуты партыяй перад нашай школай у галіне гэтых дысцыплін. Далёка не ўва ўсіх агледжаных школах выкладаньню грамадазнаўства ўдзяляецца належная ўвага. Можна прывесьці цэлы рад фактаў, калі выкладаньне гэтага важнейшага прадмету даручаецца выкладчыкам іншых дысцыплін у парадку нагрузкі, такім настаўнікам, якія часта самі вельмі слаба знаёмы з гэтымі прадметамі. Гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым,—як напрыклад у Камарынскай узорнай ШКМ (Камарынскі раён) грамадазнаўства і гісторыя з-за адсутнасьці выкладчыка зусім не выкладаецца. Зачым далёка хадзіць, калі пад носам у Менскага ГАРАНА у 18-й яўрэйскай ФЗС з навучальнага пляну 6—7-й груп зусім выключана гісторыя, калі ў Мала-Сьлепянскай школе (Менскі прыгарадны раён) грамадазнаўства не палічылі патрэбным нават уключыць у расклад лекцый.

Да гэтага трэба дадаць, што ў новых праграмах з прычыны прытупленьня рэвалюцыйнай пільнасьці з боку старога кіраўніцтва НКА і ДВС, маецца цэлы рад буйных палітычных памылак, працягваньне контррэвалюцыйнай трацкісцкай кантрабанды і г. д. Да прыкладу ў праграме гісторыі клясавай барацьбы народаў СССР (для 7-й групы) зусім не паказана роля бальшавізму, як адзінага арганізатара і кіраўніка рэвалюцыйнага пралетарыяту, не паказана роля Ў. І. Леніна, як арганізатара партыі і яго барацьба з апартунізмам, абыйдзены моўчкі ІІ-гі зьезд партыі, барацьба бальшавізму з меншавізмам. Не паказана ў праграме міжнароднае значэньне бальшавізму і барацьба Леніна з апартунізмам, цэнтрызмам і люксэмбургіянствам на міжнароднай арэне. У праграме па гісторыі клясавай барацьбы на Беларусі ў разьдзеле «Фэадальна-прыгоньніцкія адносіны XVI і XVII ст.», зусім абыйдзена пытаньне аб клясавай барацьбе ў гарадох Беларусі ў гэту эпоху. Тэзіс аб культурным ўздыме, друкаваньне кніжок, адчыненьне школ, паколькі не паказаны клясавы характар гэтага ўздыму, зьяўляецца паўтарэньнем контррэволюцыйны нацдэмаўскай легенды аб так званым «залатым веку». У праграмах ёсьць яшчэ рад буйных памылак і недарэчнасьцяй.

Пасьля пераводу выкладаньня на прадметную сыстэму ўпяршыню ў школе падыйшлі да ўвядзеньня сыстэматычнага курсу гісторыі, але дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па гэтым важ-

нейшым пытаньні яшчэ не знайшлі належнага ажыцьцяўленьня. Прычына гэтага хаваецца ў тым, што Наркамасьветы і Дзяржаўны Вучоны Савет не паклапаціліся своечасова забясьпечыць школы марксысцка-ленінскімі праграмамі, падручнікамі і вучэбнай літаратурай—з аднаго боку і з другога—НКА і яго органы на мясцох, а таксама партыйныя арганізацыі раду раёнаў не арганізавалі належнага контролю за пастаноўкай выкладаньня. Да сёнешняга дню школы ня маюць падручнікаў па грамадазнаўству і гісторыі. У выніку гэтага цэлыя тэмы па старажытнай гісторыі сарваны (Вавілён, Эгіпэт, Грэцыя і рабаўласьніцкі Рым у V групе і разьдзел фэадалізму у VI). Калі-ж да ўсяго гэтага дадаць, што нашы пэдагогічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы да апошняга часу выпускалі пэдагогаў па гістарычных цыклях без дастатковай гістарычнай адукацыі, дык стане зразумелым, што пасьля выпуску новых праграм настаўнікі апынуліся ў бязвыхадным становішчы,—большая частка іх аказалася непадрыхтаванай да выкладаньня гісторыі. Адгэтуль блытаніна і бясистэмнасьць у выкладаньні. Не анэкдот, а факт, калі напрыклад, у 39 Менскай ФЗС настаўніца Карпілава ў V групе за адну лекцыю пасьпела расказаць вучням пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, ваенны камунізм, НЭП, аднаўленчы і рэканструкцыйны пэрыяд, пра крызіс капіталістычных краін, пра падзеі на захадзе і ўсходзе і ў заключэньне пасьпела яшчэ пагаварыць з дзецьмі аб сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве. У Касьцюковіцкім раёне адзін з настаўнікаў растлумачыў вучням прычыну паражэньня рэвалюцыі 1905 г.... няпісьменнасьцю сялянства, а партыя кадэтаў па яго тлумачэньню...—«гэта вучні кадэцкага корпусу».

Вось напрыклад, што піша брыгада якая абсьледвала Кахаўскую ШКМ (Рэчыцкі р-н):—Падручнікаў па гісторыі і грамадазнаўству няма. Падрыхтоўка настаўнікаў да лекцыі, асабліва па гісторыі недастатковая... Ды як і можна падрыхтавацца да лекцыі, калі настаўнікі ня маюць ня толькі падручнікаў, а нават літаратуры па гісторыі дакапіталістычнага грамадзтва, старажытнага ўсходу і рабаўласьніцкага грамадзтва. Брыгада піша, што пляны і праграмы ў V-х групах беларускай і ўкраінскай ШКМ Кахаўскага с.-с. па гісторыі і грамадазнаўству ня выконваюцца. За гэты час прапрацаваны толькі тэмы першабытнага і радавога грамадзтва. Тэма «Эгіпэт», «Мэсапатамія», і «Грэцыя», якія па пляну павінны быць ўжо прапрацаваны, фактычна з-за адсутнасьцю матар'ялаў не прапрацоўваліся. Пры праверцы ведаў вучняў 5 груп па грамадазнаўству выявілася, што яны ня ведаюць, што такое прафсаюзы і не змаглі назваць ніводнага прафсаюзу, ня ведаюць вучні гэтых груп і структуры саветаў. І гэта ў той час, калі матар'ял лічыцца прапрацаваным і нават выстаўлена пасьпяховасьць за апошнюю чвэрць—62 проц., пасьпяваючых па беларускай ШКМ і... 82 проц., па украінскай.

Пастановы студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) фармальна лічацца прапрацаванымі, а на справе...большасьць вучняў старэйшых груп гэтых школ незнаёмы нават з асноўнымі дасягненьнямі першай пяцігодкі. «Днепрабуд знаходзіцца ў Рэчыцы», «У Магнітагорску будуць здабываць нафту»,—так адказвалі вучні кахаўскіх ШКМ. Большасьць вучняў старэйшых груп гэтых двух ШКМ ня ведаюць і не маглі паказаць на карце, дзе знаходзяцца вугольныя і мэталюргічныя базы, дзе волаты прамысловасьці СССР.

А вось справа з выкладаньнем грамадазнаўства і гісторыі ў Холмецкай ШКМ (Холмецкі с.-с.). Школа дагэтуль сядзіць з праграмамі выданьня 1932 г., навучальны плян распрацаван толькі ў чарнавіках і знаходзіцца ў сшытку загадчыка, плян-жа па сутнасьці зьяўляецца пералічэньнем тэм з праграмы. Падручнікаў па грамадазнаўству зусім няма. Для VI і VII груп няма ніякіх падручнікаў па гісторыі. У V групе маецца некаторая колькасьць падручнікаў па гісторыі,—кніжка з радам буйных палітычных памылак і гістарычна-малапісьменная, якая ў свой час на старонках друку атрымала належную ацэнку, але школа ёй карыстаецца без якіх-небудзь паправак і тлумачэньняў. Мэтады работы,—яны вельмі простыя: чытаецца «лекцыя», вучні хто як можа яе запісвае, робяць палітычныя і фактычныя памылкі, якія ў сшытках ім ніхто не выпраўляе,—гэта ў VI і VII-й групах. У V-й жа групе побач з лекцыяй практыкуецца чытаньне няпісьменнага падручніка.

Ня дзіва пасьля ўсяго гэтага, што ў час гутаркі з вучнямі V групы ніхто з іх не адказаў на пытаньне—дзе і ў якой частцы сьвету жылі стражытныя рымляне. У VII групе ніхто не адказаў на пытаньні—хто такія беларускія нацдэмы, чаму пасьпяховае выкананьне 1-й пяцігодкі мае сусьветнае значэньне, якую асноўную задачу паставіў на 1933 г. студзеньскі пленум ЦК партыі перад сельскай гаспадаркай, а на пытаньне—якія рэспублікі ўваходзяць у склад Саюзу ССР, толькі адзін вучань і то ледзь-ледзь змог іх назваць і пералічыць.

У Горвальскай ШКМ (Рэчыцкі р-н) хоць праграма і ёсьць, але... няма вытворчых плянаў. У першым канцэнтры ніякіх падручнікаў няма, а ў другім—у вучняў на руках **забаронены падручнік Рудаміно.** У настаўнікаў-жа такія падручнікі гісторыі, як Віпера і яму падобныя.

У гэтай ШКМ, як і ў радзе іншых, прапрацоўка праграмнага матар'ялу праводзіцца адарвана ад апошніх пастаноў партыі і ўраду. Прыкладам такой адарванасьці можа служыць гутарка, якая была праведзена ў аднэй з груп Горвальскай ШКМ, аб пераваze калгаснай гаспадаркі на аднаасобнай. У гутарцы не дадзена было ў даступнай дзецям данага ўзросту форме аб варожай дзейнасьці кулацтва, аб шкоднасьці прагулаў і нявыхаду на работу ў калгасе. Настаўнік Гомельскай школы імя Леніна т. Фрыд-

ман на лекцыі тлумачыў вучням, што «камсамол арганізуецца таму, што члены партыі паміраюць, ну ім і патрэбна замена». На пытаньне-ж вучняў аб тым, у якой краіне ў Заходняй Эўропе вольна працуе камсамол,—гэты настаўнік адказаў,—ў Германіі,—і пры гэтым ніводнага слова не сказаў аб сёнешніх падзеях ў гэтай краіне разьюшанага фашызму.

Аб становішчы з выкладаньнем грамадазнаўчых дысцыплін у Чавускім раёне вось што піша брыгада: У раёне няма кваліфікаваных кадраў для выкладаньня грамадазнаўства, няма і падручнікаў, большасьць настаўнікаў агледжаных школ да лекцыі ня рыхтуецца, ня мае ні плянаў, ні канспэктаў. Веды вучняў слабыя, вучні запіс «лекцыі» вядуць з буйнымі палітычнымі памылкамі і ніхто іх сшыткаў не правярае.

У школах Тураўскага раёну падручнікаў па грамадазнаўству і гісторыі няма нават у настаўнікаў, апошнія рыхтуюцца да лекцый **па Віперу і яму падобных падручніках.** Вучні-ж «прапрацоўваюць» пытаньні па запісках у сшытках. Настаўнік грамадазнаўсва ўзорнай ШКМ тлумачыў вучням **калгасны гандаль, як адступленьне партыі** і гэтая «устаноўка» выдаецца за марксызм. Вось зьмест гутаркі ў аднэй з груп малодшага канцэнтру ў гадавіну Чырвонай арміі: «Раней у нас была імпэрыялістычная армія, у 1917 г., мы арганізавалі Чырвоную армію, а потым... Чырвоную гвардыю, у якую прымалі памешчыкаў і іншых».

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што партыйныя арганізацыі і РАЙАНА гэтых раёнаў не ўзялі пад свой нагляд выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін. Гэтым карыстаецца клясавы вораг і яго агенты. Можна прывесьці рад прыкладаў, калі ў выкладаньні грамадазнаўства працягваюцца варожыя пралетарыяту ідэі, клясавы вораг імкнецца скарыстаць нашу савецкую школу ў барацьбе супроць нас. За фактамі далёка не хадзіць. Прывядзем адзін з фактаў адкрытай вылазкі клясавага ворагу ў Лапачынскай двухкамплектавай школе, Аршанскага раёну.

«Ну дзеткі, сёньня па грамадазнаўству будзем гаварыць пра Леніна,—пачынае сваю лекцыю настаўніца, яна-ж загадчык школы—**Шчэрба.**

—«Ленін быў вялікі, разумны чалавек, ён вучыў, што ўсе людзі павінны жыць у згодзе, жыць мірна і дружна»...

Бачыце, як клясавы вораг (а настаўніца Шчэрба аказалася дачкой папа і жонкай мясцовага дыякана) фальсыфікуе Леніна для ўбіваньня ў дзіцячыя галовы кулацкіх ідэй.

Але паслухаем далей, як «настаўніца» Шчэрба тлумачыць вучням сацыяльны зьмест саўгасаў і калгасаў.

— «У калгасах работаюць аднаасобнікі, а ў саўгасах батракі»...

— «Хто ў аднаасобнай гаспадарцы працаваў добра, той і меў усё, а хто кепска работаў, той нічога ня меў»...—навучае далей

Шчэрба. Але гэта яшчэ ня ўсё. Гутарка на лекцыі ідзе пра калгасы і настаўніца прапаведвае:

— «У калгасах усе павінны атрымоўваць пароўну»... «У калгасах няма кулакоў, іх туды ня прымаюць»...

У школе ідзе яўная кулацкая апрацоўка дзяцей, а мясцовая партячэйка і сельком працасьветы, ведаючы паходжаньне Шчэрбы і яе сацыяльны твар, ніводнага разу не пацікавіліся работай школы, ня цікавіўся ёй і Аршанскі РАЙАНА. Клясаваму ворагу была прадастаўлена поўная свабода для яго шкодніцкай дзейнасьці.

З прычыны адсутнасьці належнага кантролю за выкладаньнем грамадзка-палітычных навук, дзякуючы слабай пастаноўцы інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, мы маем рад выпадкаў, калі клясавы вораг адкрыта, накшталт Лапачынскай школы, або ціхай сапай вядзе сваю падрыўную работу. Карыстаючыся прытупленьнем клясавай пільнасьці з боку асобных прафарганізацый працасьветы і настаўнікаў—камуністаў, клясавы вораг спрабуе браць пад свой уплыў школьную моладзь. У Касьцюковіцкім раёне былі выпадкі, калі асобныя групы вучняў некаторых школ у час хлебазагатовак папярэджвалі заможную вярхушку вёскі аб рыхтуючыхся мерапрыемствах для спагнаньня цьвёрдых заданьняў. У радзе гомельскіх школ асобныя вучні былі ахоплены антысавецкай арганізацыяй, у IV Менскай ФЗС выдавалася группкай вучняў свая «газэтка» «Зоркий глаз» і ў аднэй са школ Капыльскага раёну «газэтка» «Махорачная праўда». Можна прывесьці рад вылазак вялікадзяржаўнага шавінізму, антысэмітызму і шавінізмаў іншых колераў.

Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што ўсе гэтыя прарывы былі магчымы толькі з прычыны адсутнасьці кантролю з боку партыйных ячэек, з прычыны адсутнасьці кіраўніцтва і кантролю з боку Наркамасьветы і аддзелаў Нарасьветы. Мы ня можам прывесьці ніводнага факту ў рабоце Наркамасьветы і Дзяржаўнага Вучонага Савету, калі імі былі даны паказаньні мясцом—якімі падручнікамі або літаратурай карыстацца выкладчыкам грамадазнаўства і гісторыі, або фактаў якіх-небудзь іншых відаў дапамогі апошнім. Больш таго, у Наркамасьветы і ЦП Саюзу Працасьветы замест баявой творчай працы існавала поўнае благадушша і гніла-лібэральныя адносіны да ўсіх тых прарываў, якія мелі месца за апошнія часы ў школе. Наркамасьветы і ЦП Працасьветы не мабілізавалі сваечасова асьветніцкай масы на барацьбу з клясава-варожымі вылазкамі на школьным фронце, на барацьбу за марксыцка-ленінскую мэтадалёгію ў выкладаньні грамадазнаўства і гісторыі.

Нельга не адзначыць і таго факту, што часопіс «Камуністычнае Выхаваньне»—адзіны пэдагагічны часопіс у БССР не адводзіў месца на сваіх старонках барацьбе за партыйнасьць у выкладаньні грамадазнаўчых дысцыплін, не ўскрываў буйнейшых

палітычных памылак у праграмах, не ўскрываў клясава-варожых вылазак на фронце школьнага будаўніцтва. Замест баявой бальшавіцкай дапамогі настаўніцтву ў аўладаньні ім марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй у выкладаньні грамадазнаўства і гісторыі, рэдакцыя часопісу давала месца бяз ніякіх заўваг для працягваньня троцкісцкай кантрабанды (артыкул Гесэна), зьмяшчала артыкулы з яўна «лявацкімі» устаноўкамі.

Новае кіраўніцтва ЦП Працасьветы ўзялося за ліквідацыю прарываў, ускрываючы сутнасьць вылазак клясавага ворага на культурным фронце, яно мабілізуе шырокія масы асьветнікаў на рашучую барацьбу з клясавым ворагам, з ўсімі яго вылазкамі, яно мабілізуе асьветнікаў на барацьбу за партыйнасьць у выкладаньні і разам з Наркамасьветы прымае меры да забесьпячэньня пастаноўкі грамадзка-палітычных дысцыплін на належную вышыню.

Наркамасьветы і ЦП Саюзу Працасьветы абавязаны мабілізаваць шырокія асьветніцкія масы і вучнёўскія арганізацыі на рашучую барацьбу з клясава-варожымі вылазкамі ў школе, на барацьбу за правядзеньне прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму супроць буржуазна-кулацкіх нацыяналістычных тэндэнцый. Партыйныя арганізацыі і аддзелы нарасьветы абавязаны ўстанавіць сыстэматычны кантроль за выкладаньнем грамадазнаўчых дысцыплін. Прафарганізацыі працасьветы павінны ачышчаць свае рады ад «настаўнікаў» тыпу Шчэрбы. Школа павінна атрымаць марксысцка-вытрыманыя праграмы і стабільныя, добраякасныя падручнікі па грамадазнаўству і гісторыі. Выкладаньне грамадазнаўчых дысцыплін трэба паставіць на тую вышыню, якая прад'яўляецца да іх рашэньнямі ЦК партыі.

**Ад рэдакцыі:**

**Рэдакцыя часопісу «Камуністычнае Выхаваньне» лічыць, што факты, пададзеныя ў гэтым артыкуле, а таксама ў артыкулах, якія зьмешчаны ў газэце «Зьвязда» (Шаткіна, Джэлюка і інш.) у адносінах часопісу—зьяўляюцца зусім правільнымі.**

**Рэдакцыя дапусьціла гнілы лібэралізм, прытупленьне клясавай пільнасьці ў адносінах троцкісцкіх і антыпартыйных вылазак у паасобных артыкулах. Разгорнутая крытыка гэтых палітычных памылак часопісу будзе дадзена ў адным з чарговых нумароў.**

---

# АЎЛАДАЕМ ТЭХ *нікай* ПЭДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСУ

*Шыбко Т. Я.*

## Аб чытаньні і разьвіцьці вуснай мовы вучняў у I канцэнтры

**(з практыкі работы ў школе)**

Нам неабходна ў самы кароткі тэрмін ліквідаваць карэнны недахоп нашае школы, каб паставіць яе на шлях выкананьня непасрэдных задач, пастаўленых перад ёю пралетарыятам у другую пяцігодку.

Другая пяцігодка патрабуе высокакваліфікаваных спэцыялістаў для ўсіх галін народнае гаспадаркі, з моцнымі, сыстэматычнымі ведамі асноў навук, у тэорыі і на практыцы знаёмых з галоўнымі галінамі вытворчасьці і адпавядаючых усім запатрабаваньням сучаснага пэрыяду будаўніцтва сацыялізму. Гэтыя задачы, пастаўленыя пралетарыятам перад яго школаю, задачы падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спэцыялістаў, патрабуюць ад нас настаўнікаў высокай якасьці пэдагагічнае, вучэбна-выхаваўчае работы. Таму барацьба за высокую якасьць пэдагагічнае, вучэбна-выхаваўчае работы павінна стаць баявым лёзунгам дня савецкага настаўніка.

Для пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё гэтага лёзунгу, нам патрэбна адшукаць самы карацейшы шлях, знайсьці галоўнае зьвяно ў ланцугу, каб ухваціўшыся за яго хутка дасягнуць мэты. Гэтай мэты мы дасягнем хутчэй тады, калі скарыстаем увесь, які маецца ў нас, багаты пэдагагічны вопыт і калі ўсімі дасягненьнямі ў нашай пэдагагічнай рабоце будзем абменьвацца ў нашым друку.

Адкуль-жа нам пачаць гэту барацьбу за высокую якасьць пэдагагічнае работы? З якой ступені нашай школы і з чаго іменна пачынаць? Вось пытаньне, ад правільнага разьвіцьця якога, будзе залежыць посьпех далейшай барацьбы за высокую якасьць пэдагагічнае работы.

Карэнным недахопам, на які паказаў ЦК Партыі ў сваёй пастанове, хварэе галоўным чынам першы канцэнтр нашае школы. Таму сваю работу па павышэньню якасьці пэдагагічнае работы мы павінны пачаць зьнізу, з першага канцэнтру нашай школы.

Першы канцэнтр дае пачатковую падрыхтоўку і зьяўляецца тым фундамэнтам, на якім будуюцца ўсе вышэйшыя ступені нашай школы. Як ад якасьці і моцнасьці фундамэнту залежыць якасьць і магутнасьць ўсяго будынку, так ад якасьці і моцнасьці дадзеных вучню ў першым канцэнтры ведаў, будзе залежыць посьпех падрыхтоўкі ў вышэйшых ступенях нашай школы высокакваліфікаваных спэцыялістаў.

Калі ў першым канцэнтры мы не дадзім вучню моцных ведаў, не дадзім моцнай падрыхтоўкі, дык пасьпяхова навучацца ў другім канцэнтры ён ня зможа. Калі мы не дадзім вучню ведаў элемэнтарнага, простага, блізкага, лёгкага, знаёмага, то тым трудней нам будзе даць яму веды больш складанага, труднага, далёкага і незнаёмага. Паступовасьць ў навучаньні мае надзвычайна вялікае значэньне.

Адсутнасьць гэтай паступовасьці ў паднясеньні вучню сыстэматычных ведаў мае месца дзякуючы непадрыхтаванасьці, або адсутнасьці пэдагагічнае падрыхтоўкі і пэдагагічнага вопыту ў часткі нашага настаўніцтва, што зьяўляецца буйным недахопам у працы нашых школ.

Як недастатковая для сярэдняй школы падрыхтоўка шкодна адбіваецца на якасьці вучобы можа быць прыкладам наступны выпадак. Малады чалавек, поўны сілы, энэргіі, імкненьняў і з вялікім жаданьнем вучыцца па сканчэньні лікпункту і школы малапісьменных трапляе на трохмесячныя курсы па падрыхтоўцы ў тэхнікум. Праз тры месяцы ён ужо студэнт тэхнікуму. Ён у тэхнікуме павінен атрымаць веды за курс сярэдняй школы. Ня маючы цьвёрдых ведаў, сыстэматычных ведаў па элемэнтарнай арытмэтыцы, ён вымушан працаваць над вывучэньнем альгэбры, геамэтрыі, фізыкі, хэміі і інш. прадметаў за курс сярэдняй школы.

Пасьпяховае-ж засваеньне гэтых дысцыплін патрабуе дастатковай папярэдняй падрыхтоўкі. На лекцыях гэтых дысцыплін наш студэнт пачынае сябе адчуваць, як кажуць, не ў сваей талерцы. Навука яму пачынае здавацца цяжкай, недасяжнай.

Апрача лекцый у клясе, якія яму нічагусенькі не давалі, яму прыходзілася шмат працаваць над кніжкаю.

Але, ня ўмеючы добра чытаць і разумець прачытанае, ня ўмеючы самастойна працаваць над кнігаю, ня гледзячы на вялікае жаданьне вучыцца, на надзвычайную работу над сабою, наш студэнт ня можа аўладаць неабходнымі ведамі навук. Ён ня можа справіцца з вучобай і пачынае патроху адставаць. Жаданьне вучыцца ў яго пачынае прападаць, наступае поўнае разачараваньне навукаю. Наш студэнт залічаецца ў лік адсталых, а праз 2 гады вучобы ў тэхнікуме выключаецца з ліку студэнтаў за непасьпяховасьць.

Гэты факт красамоўна гаворыць аб тым, што добраю падрыхтоўкай вучняў у ніжэйшых ступенях нашай школы мы разьвіваем у іх ахвоту і любоў да навукі, а дрэннай падрыхтоўкай

разьвіваем у іх адваротнае—робім яго зусім ня здольным да навукі.

Калі праверыць прычыны непасьпяховасьці студэнтаў нашых сярэдніх і вышэйшых школ, то акажацца, што галоўнай прычынай непасьпяховасьці будзе зьяўляцца недастатковая падрыхтоўка іх у ніжэйшых зьвеньнях нашай школы.

Недастатковая-ж падрыхтоўка гаворыць аб адсутнасьці ў гэтых школах высокае якасьці пэдагагічнае работы, высокае якасьці вучэбна-выхаваўчае работы па падрыхтоўцы кадраў. Вельмі часта мы настаўнікі вінавацім вучня ў непасьпяховасьці ў той час, калі ня ён, але мы самі вінаваты ў яго непасьпяховасьці.

Таму кожны настаўнік, калі ён шукае прычыны непасьпяховасьці вучняў, ён перш за ўсё павінен пашукаць гэтых прычын у сябе самым, у сваіх мэтадах выкладаньня.

Такім чынам, з усяго сказанага вынікае, што цэнтрам нашае ўвагі ў справе барацьбы за высокую якасьць пэдагагічнае работы, у справе барацьбы за высокую якасьць падрыхтоўкі павінна стаць ніжэйшая ступень нашай школы. Аб гэтым красамоўна гавораць прыведзеныя вышэй факты, аб гэтым гаворыць само жыцьцё. Мы павінны паставіць якасьць вучэбнай работы на такую вышыню, якая забясьпечвала-б вучняў магчымасьцю лёгкага і беспакутнага засваеньня ведаў, каб навука была для іх ня мукаю, але адным здавальненьнем.

Як толькі мы высьветлілі пытаньне аб тым, адкуль, з якой ступені нашай школы трэба пачынаць барацьбу за якасьць пэдагагічнае работы, паўстае другое пытаньне,—а з чаго-ж пачынаць, або што ўзяць за аснову?

Яшчэ ў першым канцэнтры мы павінны даць вучням веды па роднай мове, матэматыцы, грамадазнаўству, прыродазнаўству, геаграфіі і г. д. Мы павінны навучыць вучня чытаць, пісаць, правільна выказваць свае думкі вусна і пісьмова і перадаваць свае веды. Але якія з гэтых ведаў мы павінны даць вучню ў першую чаргу, яшчэ ў першым канцэнтры, каб потым скарыстаць іх, як сродак да мэты, пры арганізацыі пэдпрацэсу?

Каб забясьпечыць вучняў магчымасьцю лёгкага засваеньня ведаў па пераходзе іх у другі канцэнтр, мы павінны яшчэ ў першым канцэнтры навучыць добра чытаць, разумець прачытанае, навучыць самастойна працаваць над кніжкаю, выхаваць ў іх любоў і інтарэс да кніжкі і навукі, разьвіць вусную мову вучня так, каб ён мог лёгка, лёгічна, вольна і красамоўна выказваць свае думкі, перадаваць свае веды другім.

Гэтага ўсяго можна дасягнуць належнаю пастаноўкаю ў школе чытаньня і разьвіцьця вуснае мовы вучняў яшчэ ў першым канцэнтры. Ад таго, як вучань чытае, як ён разумее прачытанае, наколькі ён цікавіцца і любіць кніжку залежыць посьпех пэдагагічнае работы. Загэтым галоўная наша ўвага ў першым канцэн-

тры павінна быць зьвернута на пастаноўку справы чытаньня і разьвіцьця вуснай мовы вучняў.

Нам трэба так паставіць ў школе чытаньне, каб яно само выклікала ў вучняў інтарэс да чытаньня, каб яно дапамагала і садзейнічала разьвіцьцю тэхнікі чытаньня, узбуджала інтарэс і любоў да кніжкі і навукі, прывучала да самастойнай работы над кнігаю, разам з тым давала-б матар'ял для разьвіцьця вуснай мовы дзяцей.

Вось таму чытаньне трэба разумець трошкі шырэй, чым яго разумелі да гэтага часу некаторыя настаўнікі.

У большасьці выпадкаў чытаньне ў нашых школах да гэтага часу было пастаўлена ня зусім добра, як гэта патрэбна было-б. Чытаньне праводзілася толькі для чытаньня, толькі па падручніку для чытаньня. Само яно ў большасьці выпадкаў праводзілася тэхнічна, несьвядома, асмысьленьня чытаемага ня было. Такое чытаньне было зусім ня цікавым, яно ня ўзбуджала цікавасьці да чытаньня, да кніжкі, яно ня прывучала да разуменьня чытаемага, да самастойнай работы над кніжкаю. Яно разьвівала ў вучнях якраз адваротнае—нежаданьне і апатыю да чытаньня, апатыю да самой навукі.

У выніку такой пастаноўкі чытаньня мы маем выпадкі, калі вучань скончыўшы сямігодку з цяжкасьцю чытае кнігу і кепска разумее тое, што ён чытае, а замест інтарэсу ў яго прыкмячалася, калі можна так выразіцца, ненавісьць да кнігі.

— Якая карысьць ад гэтага чытаньня, ад гэтых кніг?—адказаў адзін з такіх вучняў, калі яго запыталі чаму ён ня чытае кніжак. Хто-ж выхаваў у вучні такія адносіны да кніжкі?

Вядома, што такія адносіны вучня да кнігі прывіты яму дрэннай пастаноўкай чытаньня ў школе, якое зрабіла яго зусім нявздольным да навукі.

Таксама ў некаторых школах дрэнна пастаўлена і справа разьвіцьця вуснай мовы дзяцей і гэта пастаноўка дае сябе адчуваць пасьля пераходу вучня ў другі канцэнтр, а потым і ў III-ці. Там, дзе ў школе дрэнна пастаўлена чытаньне, ёсьць падставы думаць, што там ня ўсё гладка і з разьвіцьцём вуснай мовы дзяцей і з пастаноўкай усяго выкладаньня ў школе наогул. Чытаньне і мова дзяцей гэта найлепшы сродак для барацьбы за якасьць пэдагагічнае работы, барацьбы за якасьць падрыхтоўкі. Нам трэба заўсёды помніць, што ў той час, як добрая пастаноўка вучэбнай работы ў школе дае заўсёды добрыя вынікі, дык дрэнная пастаноўка і дрэнная якасьць яе даюць зусім адваротнае, даюць нежаданыя і нават шкодныя вынікі.

Чытаньне трэба ставіць ў школе так, каб яно не насіла прымусовага абавязковага характару, бо прымусам вучняў не навучыш, але каб яно выклікалася неабходнасьцю, дзіцячаю цікавасьцю.

Для правільнай пастаноўкі ў школе чытаньня нельга абмяжавацца толькі падручнікам для чытаньня і тым часам, які адво-

дзіцца для чытаньня ў школе. Для гэтага неабходна скарыстаць і вольны пазасеткавы час дзяцей.

Дзеля таго, каб вучні навучыліся хутка і добра чытаць, трэба каб яны шмат чыталі, а каб шмат чыталі, трэба даваць ім для чытаньня такі матар'ял, які бязумоўна зацікавіць дзяцей і тым прымусіць іх чытаць.

Каб выхаваць у вучнях любоў і інтарэс да кніжкі, трэба даваць ім для чытаньня надзвычайна цікавы і прывабны матар'ял. Такім матар'ялам зьяўляецца мастацкая, папулярная дзіцячая літаратура, мастацкія, папулярныя дзіцячыя часопісы і газэты, якія трэба максымальна скарыстаць для чытаньня, як найлепшы скарб для навучаньня чытаньню і разьвіцьцю мовы. Аднэй кніжкі для чытаньня для гэтай мэты недастаткова. Цяпер паўстае пытаньне, а дзе-ж дастаць гэту літаратуру і як арганізаваць і праводзіць ў школе гэта чытаньне?

Гэта пытаньне ў кожным паасобным выпадку можа быць вырашана па-рознаму. Замест адказу на яго, я хачу падзяліцца вопытам сваёй пэдагагічнай работы па гэтаму пытаньню. У сваей пэдагагічнай практыцы чытаньнем толькі па падручніку і чытаньнем толькі ў школе я не абмяжоўваўся. Для чытаньня я скарыстоўваў заўсёды ўсю, якая мелася, мастацкую, папулярную, дзіцячую літаратуру, мастацкія дзіцячыя часопісы і газэты. Я ставіў сваею мэтаю перш за ўсё навучыць вучняў самастойна працаваць над кнігаю. Арганізацыю гэтага чытаньня і самое чытаньне, я праводзіў так: перш за ўсё перад пачаткам навучальнага году я клапаціўся аб тым, каб забясьпечыць вучняў патрэбнай колькасьцю гэтай літаратуры. Першаю маею працаю гэта была праца па адшукваньні літаратуры. Для гэтага я скарыстоўваў усе магчымасьці. У мястэчку, апрача школьнай бібліятэкі, меліся бібліятэкі: нардому, хаты-чытальні і іншыя і ў кожнай з іх хоць па-трошку мелася патрэбная мне літаратура, якую я заўсёды ў першую чаргу і скарыстоўваў для гэтай мэты.

Таму яшчэ перад пачаткам навучальнага году я правяраю школьную бібліятэку, бібліятэку нардому, хаты-чытальні і ўсе іншыя бібліятэкі з мэтай выяўленьня колькасьці і якасьці маючайся ў іх дзіцячай літаратуры і складаю сьпісы літаратуры, якая маецца ў кожнай бібліятэцы.

Гэта я раблю для таго, каб загадзя знаць, які матар'ял для чытаньня я магу скарыстаць і якога яшчэ будзе мне не хапаць. Пасьля гэтага правяраю колькасьць і якасьць дзіцячай літаратуры, якая маецца ў кнігарнях, кіёсках і ларках і састаўляю сьпіс той літаратуры, якую лічу неабходным абавязкова набыць. За вызначаныя школаю сродкі закупляю для школьнай бібліятэкі лепшую з маючайся дзіцячай літаратуры. На астачу грошай, калі яны астаюцца, выпісваю самую патрэбную, якую лічу неабходнай мець ў школе.

У першы-ж дзень заняткаў дагаварваюся з вучнямі аб тым, каб кожны з іх прынёс у школу 1 або 2 прачытаныя кніжкі. З гэтых кніжак састаўляецца маленькая групавая бібліятэка, якая ўвесь час на працягу году папаўняецца кніжкамі, што набыты і ўжо прачытаны вучнямі. Апрача гэтых кніг, групавую бібліятэчку папаўняю яшчэ закупкаю сьвежай літаратуры за сродкі ад пастаноўкі дзіцячых спэктакляў.

У першы-ж дзень заняткаў арганізоўваю падпіску на дзіцячыя мастацкія часопісы і газэты, якія таксама пасьля прачытаньня здаюцца ў групавую бібліятэчку.

Разьбіваю ўсю маючуюся дзіцячую літаратуру, якую буду скарыстоўваць, сьпіскі якой маюцца ў мяне на руках, на аддзелы: грамадазнаўства, родная мова, прыродазнаўства, геаграфія і г. д. Потым разьбіваю яшчэ ўсю гэту літаратуру па тэмах свайго вытворчага пляну і для кожнай тэмы вытворчага пляну састаўляю сьпіс дзіцячай літаратуры, якую буду дзецям раіць.

Як толькі пачну прапрацоўку першай тэмы, вывешваю сьпіс літаратуры, якую я раю вучням, як дадатковы матар'ял па тэме. У сьпісе падрабязна ўказваецца ў якой бібліятэцы і ў каго яе можна атрымаць, да якога тэрміну яе трэба прачытаць (паказваецца час прапрацоўкі тэмы). Апрача таго ўказваецца дзень, калі будзе праводзіцца падагульненьне тэмы і прачытаных кніжак.

Перад пачаткам чытаньня праводжу гутарку, якой знаёмлю вучняў з тым, як патрэбна чытаць кніжкі. Для прыкладу прачытваецца з вучнямі некалькі маленькіх кніжак.

Дагаварваюся з вучнямі аб тым, каб кожны вучань завёў сабе сшытак для запісваньня плянаў прачытаных кніжак. Прачытваем з вучнямі ў клясе некалькі кніжак, калектыўна складаем плян і запісваем у спэцыяльныя сшыткі. Калі я ўпэўніўся, што вучні зразумелі як чытаць, кнігі, складаць і запісваць плян, тады даручаю ім рабіць гэта самастойна.

Пасьля кожнай прачытанай кніжкі правяраю запісаны плян і прывучаю іх запісваць чыста, разборчыва і граматна.

Калі вызначаных кніжак не хапае для ўсіх вучняў, жадаючых прачытаць, дык чытае адна частка вучняў і перадаюць другім.

Для тых, якія раней прачытваюць, даю магчымасьць абмяняцца кніжкамі з сваімі таварышамі.

Пасьля скančэньня прапрацоўкі тэмы і пасьля таго, як усе кніжкі прачытаны, адводжу 1 або 2 гадзіны (гледзячы па вялічыні тэмы) для падагульненьня.

У часе падагульненьня тэмы вучні сваімі расказамі аб прачытаных кніжках дапаўняюць прапрацоўваемую тэму.

Расказваньне аб прачытаных кніжках праводжу так: вучань, які сам добраахвотна пажадае, расказаць, выходзіць на клясу, становіцца тварам да вучняў, бярэ ў рукі свой плян і расказвае. Па скончэньне расказу вучань садзіцца на месца. Калі ён ня ўсё

ахапіў, яго дапаўняюць другія. За першым выходзіць другі, трэці і г. д. Для расказваньня выходзяць жадаючыя, пры гэтым так многа жадаючых, што прыходзіцца весьці сьпісак жадаючых і рэгуляваць выступленьні.

У часе расказваньня вучні стараюцца апавядаць лёгічна, вольна, зьвязна, красамоўна, наогул па мастацку.

Калі яшчэ кніжка была вельмі цікавая і зрабіла на вучня моцнае ўражаньне, то ў час расказваньня вучань апавядае з пачуцьцём, з натхненьнем, з надзвычайнай цікавасьцю.

Уся кляса з надзвычайнай увагай слухае вучня, які расказвае і ловіць яго кожнае слова. Кожны загараецца жаданьнем расказаць яшчэ лепш чым расказваў яго таварыш. Веды, атрыманыя ў часе расказваньня, лягчэй ўспрымаюцца і нават мацней замацоўваюцца чым веды, што атрымліваюцца ў час звычайных заняткаў.

Пасьля правядзеньня падагульненьня тэмы пачынаецца распрацоўка новай тэмы. Да новай тэмы выпісваецца новы сьпіс літаратуры. Чытка, запіс пляну, праверка яго, расказваньне аб прачытаным праводзіцца таксама.

Так плянава і сыстэматычна на працягу ўсяго навучальнага году я праводжу самастойную чытку вучнямі мастацкай літаратуры, скарыстоўваючы вольны пазасеткавы час.

Апрача чытаньня гэтай літаратуры, праводзілася яшчэ сыстэматычнае чытаньне мастацкіх дзіцячых часопісаў і газэт, выпісваемых самімі вучнямі. Чытаньне часопісаў і газэт праводзілася ў клясе за кошт вучэбнага часу, што адводзіўся па пляне для чытаньня ў клясе.

Гэту працу я праводзіў з вучнямі 4 групы, але лічу, што можна арганізоўваць і нават неабходна яе праводзіць таксама ў малодшых групах. (2,3).

У канцы кожнага навучальнага году падводжу вынікі атрыманьня ад пастаноўкі чытаньня і разьвіцьця мовы. Падлічваю колькасьць прачытаных кніжак кожным вучнем, падагульняю вынікі атрыманай эфэктыўнасьці.

Пасьля праверкі вынікаў у канцы кожнага навучальнага году я ўпэўняўся ў тым, што такая пастаноўка чытаньня дае надзвычайна добрыя рэзультаты.

У канцы навучальнага году я заўсёды меў наступныя вынікі:

Кожны вучань ў працягу навучальнага году прачытваў ад 20 да 50 шт. кніжак, ад 5 да 15 экз. дзіцячых мастацкіх часопісаў і рэгулярна прачытваў выпісваемыя дзіцячыя газэты. Такое чытаньне вельмі спрыяла разьвіцьцю тэхнікі і хуткасьці чытаньня. Вучань, які ў пачатку году чытаў слаба і слаба разумеў прачытанае, у канцы году чытаў лёгка і хутка і амаль даслоўна мог перадаць прачытанае.

З кожнай прачытанай кніжкі вучань браў што-небудзь новае, цікавае. Гэта новае і цікавае выклікала яшчэ большую цікавасьць да кніжкі, выклікала жаданьне чытаць.

Вучні з зайздрасьцю накідваліся на кніжкі, хутка прачытвалі вызначаныя кніжкі і калі больш чытаць ня было чаго, займаліся адшукваньнем і здабываньнем іх самі. Ні адна дзіцячая кніжка не заставалася пасьля гэтага ляжаць ня чытанай дзе-небудзь ў бібліятэцы, ні адна новая кніжка не заставалася ляжаць ў кнігарні або кіёску. Яны хутка раскупляліся вучнямі. Кожны імкнуўся набыць сабе кніжку, але ні адна не зьнішчалася вучнямі, пасьля прачытваньня вучні самі прынасілі кніжкі і здавалі ў групавую бібліятэку.

Так у працэсе чытаньня ў вучняў разьвіваўся інтарэс, і любоў да кніжак, інтарэс і любоў да самой навукі, беражныя адносіны да кніжак. Вучні навучаліся цаніць кніжку, навучаліся бачыць яе цікавай і багатай спаборніцай ведаў.

У час чытаньня вучню трэба было ня толькі прачытаць, але саставіць плян, каб пасьля расказаць. Каб напісаць плян прачытанай кніжкі, то трэба зразумець тое, што пішацца ў кнізе. Вось за гэтым вучань ўдумваўся пры чытаньні, асмыльліваў чытаемае, чытаў сьвядома. А такое чытаньне прывучала яго разумець прачытанае, прывучала да самастойнай працы над кнігаю.

Такое чытаньне давала багаты матар'ял для разьвіцьця вуснай мовы вучняў.

Чытаньне ўзбагачала розум вучняў новымі ведамі, новымі словамі і зваротамі мовы, а расказваньне прывучала вольна, зьвязна, лёгічна, па-мастацку ўладаць гэтымі новымі словамі і зваротамі, выказваць свае думкі, перадаваць веды. Расказваньне прывучала выступаць перад масамі, прывучала да высокага мастацтва слова.

У канцы навучальнага году вучням паручалася мною чытка папулярнай літаратуры і газэт сялянству ў хаце-чытальні і на агульных сходах. Паручаліся нават маленькія даклады, якія праводзіліся вучнямі вельмі ўдала.

Такое чытаньне зьвязвала школу з жыцьцём, з сучаснасьцю. Неабходна падкрэсьліць, што такое чытаньне і разьвіцьцё вуснай мовы зьяўляецца адным з наймагутнейшых сродкаў камуністычнага выхаваньня вучняў.

У дзіцячай літаратуры, выбіраемай для вучня, у мастацкай форме адбіваецца барацьба міжнароднага пролетарыяту за сваё вызваленьне, барацьба пралетарыяту СССР за пабудову сацыялізму, клясавая барацьба ў СССР, адбіваецца шкодны ўплыў рэлігіі на працоўныя масы і г. д. Такім чынам, пастаноўка чытаньня і разьвіцьця вуснай мовы, ня толькі садзейнічае высокай якасьці падрыхтоўкі вучняў, але і выхоўвае з іх барацьбітоў за ідэалы пралетарыяту, барацьбітоў за камунізм.

Бывалі выпадкі, калі дзеці прысвойвалі сабе імёны любімых герояў барацьбы пралетарыяту, герояў будаўніцтва сацыялізму. Бывалі выпадкі, калі вучні начытаўшыся кніжак, займаліся вынаходніцтвам. Канструявалі мадэлі розных машын, самалётаў, аўтамабіляў і г. д.

Бывалі выпадкі, калі дзеці начытаўшыся кніжак, самі складалі п'ескі, інсцэніроўкі, у якіх фігуравалі любімыя іх героі барацьбы пралетарыяту, героі пабудовы сацыялізму.

Вельмі прыемна бачыць, калі дзеці, пад уплывам тых самых кніжак, прыдумвалі самі новыя гульні, адбіваючыя барацьбу і будаўніцтва пралетарыяту, геройства і магутнасьць Чырвонай арміі і г. д., гэтыя гульні станавіліся іх любімымі гульнямі.

Гэтыя факты красамоўна гавораць аб тым, што чытаньне мастацкай дзіцячай літаратуры і разьвіцьцё мовы вучняў зьяўляецца надзвычайна магутным сродкам камуністычнага выхаваньня, ад якога ніводзін настаўнік у сучасны момант не павінен адмовіцца.

Разам з гэтым чытаньне і разьвіцьцё мовы зьяўляецца яшчэ таксама і магутнымі фактарамі ў барацьбе за высокую якасьць вучэбнай і выхаваўчай работы, за высокую якасьць падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спэцыялістаў.

*Е. І. Гародкіна*

# Формы і мэтады работы з дзіцячай кнігай сярод школьнікаў

Барацьба за выхаваньне «усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму», барацьба за падвышэньне якасьці школьнай работы—высоўвае неабходнасьць самага шырокага скарыстаньня ўсіх сродкаў, якія дзейнічаюць на фронце кам. выхаваньня дзяцей—неабходнасьць арганізацыі адзінага пэдагагічнага працэсу. Адным з гэтых сродкаў, поруч з школай і грамадзкім асяродзьдзем, зьяўляецца дзіцячая кніга—адно з важнейшых прыладзьдзяў, арганізаючых сьвядомасьць дзяцей. Дзіцячая кніга, насычаная тэматыкай сёньняшняга дню, дапамагае выхоўваць з нашых дзяцей сьвядомых барацьбітоў за бясклясавае грамадзтва, фармуе ў іх базу для дальнейшага разьвіцьця дыялектычна-матэрыялістычнага сьветапогляду, выхоўвае з нашых дзяцей інтэрнацыяналістаў і калектывістаў. Дзіцячая мастацкая і палітэхнічная кніга пашырае кругагляд школьніка, дапаўняе і паглыбляе веды, атрыманыя ім у школе, узбагачае яго мову.

ЦК УсеКП(б)Б у сваіх пастановах аб школе, дзіцячай літаратуры і піянэр арганізацыі, у сувязі з яе 10 годзьдзем, завастрае ўвагу на камуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня, на формы і мэтады выхаваньня, сярод якіх вялікае месца займае дзіцячая кніжка—«бальшавіцкі бадзёрая, заклікаючая на барацьбу і перамогу». Улічваючы ўсё тое значэньне, якое мае кніга і пазашкольнае чытаньне ў справе ўзмацненьня камуністычнага выхаваньня дзяцей, лепшага засваеньня «асноў навук» і падвышэньня

якасьці школьнай вучобы, ЦК партыі ўказвае шэраг канкрэтных мераприемстваў работы над кнігай і прапануе «у гэтых мэтах правесьці карэннае палепшаньне бібліятэчнае справы ў школах», паставіць выданьне дзіцячай літаратуры «на належную вышыню».

Гэта дырэктыва абавязвае нашы школьныя бібліятэкі праверыць, якое месца яны займаюць ва ўсім пэдпрацэсе школы, што імі робіцца ў справе правільнай арганізацыі пазашкольнага чытаньня і кіраўніцтва чытаньнем дзяцей.

Яшчэ да гэтага часу заўважваюцца адносіны да школьнай бібліятэкі, як да скарбніцы кніг, дзе бібліятэкар зьяўляецца мэханічным «выдатчыкам» кніжок. Школьная бібліятэка ня мае свайго твару, ня мае пэўнага месца для працы. Шафы з кнігамі часта стаяць у калідоры альбо расстаўлены па некалькіх пакоях. З прычыны адсутнасьці памяшканьня, адсутнасьці пэўных гадзін працы са школьнікамі, а часта і належнай літаратуры,—бібліятэкар ня можа правільна наладзіць работу з вучнямі.

З такім становішчам школьнай бібліятэкі, мы павінны павесьці барацьбу,—павінна быць праведзена карэнная ломка работы школьнай бібліятэкі. З адарванага прыдатку работы школы, яна павінна уключыцца ва ўсю працу школы, для рэалізацыі пастановы ЦК партыі ад 25/VIII-32 г.

Апошняя пастанова ЦК партыі зьяўляецца праграмай для далейшай працы і школьнай бібліятэкі, якая побач з усім пэдкалектывам павінна стаць адным з актыўнейшых змагароў ў справе ліквідацыі «карэннага недахопу» нашай школы.

На грунце задач, высунутых ЦК партыяй у справе лепшага аўладаньня ведамі, забесьпячэньня «основы палитехнического образования» (Ленін), павінна быць перабудавана уся работа школьнай бібліятэкі, «усямерна прывучаючы дзяцей да работы над падручнікам і кнігай».

Мэта нашага артыкулу ў кароткіх рысах указаць тыя мерапрыемствы, якія павінны правесьці школа і бібліятэка для выкананьня задач, што стаяць прад ёй у галіне кіраўніцтва чытаньнем, дапамогі вучобе.

К і р а ў н і ц т в а ч ы т а н ь н е м. К н і г а ў д а п а м о з е в у ч о б е. Асноўнай задачай кіраўніцтва чытаньнем дзяцей зьяўляецца выпрацоўка матэрыялістычнага сьветапогляду і грамадзка-палітычнае выхаваньне праз кнігу. Пэдагог-бібліятэкар павінен стаць арганізатарам і кіраніўком дзіцячага чытаньня, фармаваць патрабаваньні і інтарэсы дзяцей да літаратуры. Задача бібліятэкара—навучыць чытаць кнігу, выхаваць у дзецях патрэбнасьць у кнізе, якая-б увайшла неадрыўнай часткай іх вучобы і досуга. Неабходна правесьці вялікую пэдагагічную работу, каб школьнік дастаткова глыбока асьвядоміў ролю і значэньне чытаньня,—што чытаць і як чытаць.

Задача школьнай бібліятэкі, пачынаючы з першых груп— прывучыць дзяцей да кнігі, прыахвоціць іх да чытаньня. У пер-

шых групах школы гэта работа павінна ісьці па лініі ўнядрэньня ў асяродзьдзе дзяцей патрэбнасьці кнігі, навыку і гігіены чытаньня, паясьненьня—што такое аўтар, назва кніжкі і інш. нескладаных паняцьцяў аб кнізе. У другім канцэнтры—работа з чытачамі пашыраецца ў сэнсе выпрацоўкі ў іх сьвядомых крытычных адносін да чытаемага, выпрацоўкі ў дзяцей патрэбнасьці ў сыстэматычным чытаньні і г. д.

Задача пэдагога-бібліятэкара—навучыць дзяцей карыстацца мастацкай і навукова-папулярнай кніжкай для вучэбных мэт і ўменьня скарыстоўваць матар'ял—шляхам канспэктаваньня, уменьня рабіць выпіскі з прачытанага, уменьня скарыстоўваць цытаты з кнігі для дакладу. Трэба навучыць дзяцей карыстацца кнігай, дзе, дзіцёнак, мог-бы знайсьці адказы на ўзьнікаючыя ў яго пытаньні, натыкаўся-б на рад новых пытаньняў і атрымоўваў новыя веды.

Дзіцёнак часта сам ня можа ўявіць, што ён хацеў-бы чытаць (з прычыны недастатковых ведаў аб кнігах). Бібліятэкар павінен яму ў гэтым пайсьці насустрач, дапамагчы ў выбары кнігі. Для таго, каб падабраць падыходзячую кнігу чытачу, бібліятэкару трэба пазнаёміцца з агульнымі інтарэсамі школьніка, яго агульным разьвіцьцём, што ён чытаў і г. д.

Асабліва асьцярожна трэба падыходзіць да дзяцей, якія толькі пачынаюць чытаць; тут асабліва патрэбен пэдагагічны падыход да падбору кніжкі, каб заахвоціць яго да далейшага чытаньня. Часта няўмелым падборам кнігі мы адбіваем жаданьне чытаць у дзіцяці, і такія часова выбываюць з ліку чытачоў.

Значнае месца ў кіраўніцтве чытаньнем школьніка займае сыстэматызацыя яго чытаньня. Пэдагог-бібліятэкар павінен увесь час кіраваць чытаньнем, сыстэматызаваць і пераключыць яго інтарэсы з літаратуры непадыходзячай, на літаратуру пэдагагічна жадаемую. Пры кіраваньні чытаньнем неабходна мець такт, каб не атрымоўвалася навязваньне той ці іншай кніжкі. Бібліятэкару трэба паступова пераключаць дзяцей ад больш лёгкай да больш складанай кнігі, ад кніжкі бэлетрыстычнай да кніжкі навукова-папулярнай.

У справе фармаваньня літаратурных запатрабаваньняў у дзяцей, значна ўплывае хатняе асяродзьдзе, таварышы. У большасьці гэта ўплывы антыпэдагагічныя. Часта дзеці (пад уплывам таварышоў), захапляюцца дэтэктыўнай літаратурай; сярод некаторай часткі дзяцей заўважаецца тэндэнцыя да чытаньня старой сантымэнтальнай, сюсюкаючай кнігі з зусім варожай нам ідэалёгіяй. З гэтымі ўплывамі мы павінны весьці рашучую барацьбу; неабходна энэргічна змагацца ўсімі мерамі пэдагагічнага ўзьдзейнічаньня, каб пераключыць чытаньне нежадаемай літаратуры на кнігу, адпавядаючую задачам марксыцка-ленінскай пэдагогікі і нашай сучаснасьці.

У справе правільнай накіраванасьці чытаньня значную ролю адыгрывае веданьне літаратуры самім бібліятэкарам,—ні ў якім разе ня можа быць правільна пастаўлена кіраўніцтва чытаньнем у выпадку толькі мэханічнай выдачы кнігі, без знаёмства з тым, што выдаецца.

Вялікую увагу павінна ўдзяляць бібліятэка справе выпрацоўкі ў дзяцей старэйшага ўзросту—крытычных адносін да чытаемага, выпрацоўкі не мэханічнага, а прадуманага ўважлівага чытаньня і работы над кнігай,—з тым, каб навучыць вучняў змагацца «против всяких попыток протаскивания в детскую среду чуждой пролетарияту идеологии» (ЦК УсеКП(б), уменьня ацаніць кнігу, заначыць на тыя хібы, якія яна мае, умела скарыстаць прачытанае, скласьці анатацыю, напісаць водзыў аб кнізе—гэта ўсё павінна залажыць школьная бібліятэка; у гэтай рабоце бібліятэкару павінен усямерна дапамагаць настаўнік-літаратар.

Перад пэдагогам стаіць задача навучыць дзяцей чытаць і карыстацца кнігай для самастойнай работы, выпрацаваць у дзяцей мастацкі густ да літаратуры, каб яны маглі адрозьніваць халтурны твор ад мастацкага. Усім настаўнікам трэба ўключыць работу над кнігай у свой плян работы для выкананьня пастановы ЦК. Кожны настаўнік сумесна з бібліятэкарам павінен скласьці сьпісы кніжок, якія раюцца чытаць дзецям пры праходжаньні пэўных тэм і пры выкананьні заданьняў, для больш глыбокага засваеньня матар'ялу прыпаднесенага пэдагогам. Настаўніку патрэбна ўкараніць у асяродзьдзе дзетвары— сьвядомасьць аб неабходнасьці кнігі ў яго рабоце, поруч з слуханьнем лекцыі і работай над падручнікам.

Бібліятэкар у сваю чаргу павінен своечасова інфармаваць настаўніка аб усіх маючыхся ў яго кнігах ці артыкулах у часопісах, якія можна скарыстаць у клясе, як ілюстрыцыйны матар'ял, што паглыбляе і ў той-жа час уносіць пэўную разнастайнасьць, ажыўляе пэдпрацэс і тым самым дапамагае лепшаму яго засваеньню.

Зьвяном ва ўсім ланцугу камуністычнага выхаваньня зьяўляецца выхоўваньне з нашых дзяцей інтэрнацыяналістаў. Кожны пэдагог павінен падбіраць літаратуру, якая-б адпавядала гэтым запатрабаваньням і належным літаратурным паказам выклікала ў дзяцей жаданьне быць такімі героямі, аб якіх яны чытаюць. Задача бібліятэкара так паставіць работу з кнігай, каб апошняя заняла належнае месца, як у школьнай рабоце, так і ў пазашкольным досузе дзяцей.

Камплектаваньне.—Барацьба за якасьць школьнага і пазашкольнага чытаньня, барацьба за ўнядрэньне пэўнай сыстэмы ў чытаньні школьнікаў—у значнай ступені залежыць ад правільнасьці ўкамплектаваньня бібліятэкі. Трэба ўлічваць тое, што ад кніжнага складу бібліятэкі значна залежыць спрос дзяцей, якасьць і правільнасьць іх чытаньня. Калі, напрыклад,—школьнік

увесь час будзе прасіць некалькі назваў, якія яго цікавяць, (кнігі, што мы лічым адпавядаючымі яго ўзросту і разьвіцьцю), а бібліятэка ня можа задаволіць яго спрос,—мы тым самым часткова адштурхоўваем яго ад бібліятэкі. Нярэдка ў такіх выпадках,—школьнік незадаволены бібліятэкай, шукае гэтыя кнігі, па-за сьценамі бібліятэкі: ў сваіх таварышоў, знаёмых, і часамі бывае так, што замест «Перамогі», Якімовіча ці Безбародава «Большевики открыли Сибирь»—знаходзіць: «Нат-Пінкэртона» або «Тарзан», і ў даным выпадку вельмі цяжка змагацца, каб ізноў правільна накіраваць яго чытаньне.

Ці другі прыклад. Мы паставілі мэту,—школьніку даваць сыстэматычна чытаць кнігі на пэўную тэму; напрыклад,—кнігі, што знаёмяць з электрычнасьцю.

Для гэтага трэба скласьці прыблізны сьпіс, што мы лічым падыходзячым для яго, якія пытаньні сюды павінны ўваходзіць; зразумела, што сюды ўвойдуць кнігі, апавядаючыя аб усіх відах энэргіі, кнігі апісваючыя волаты-электрастанцыі, кнігі, даючыя матар'ял, як можна скарыстаць электрычнасьць у хатнім, школьным быце.

Але бывае і так, што бібліятэкар выдаў школьніку адну кніжку па гэтым пытаньню, напрыклад: Жоўкоў «Сьвятло без агню», ці Сташэўскі «Асінстан», а далей ён ня мае магчымасьці даць адпаведную літаратуру (з прычыны яе адсутнасьці) і прымушан даць зусім другое, не зьвязанае з папярэдняй кнігай; зусім зразумела, што сыстэмы ў такім чытаньні ня будзе.

Усе гэтыя выпадкі будуць тады, калі камплектаваньне бібліятэкі зьяўляецца выпадковым, не сыстэматычным.

Для зьнішчэньня ўсіх недахопаў камплектаваньня, а таксама наладжваньня правільнага кіраўніцтва чытаньнем дзяцей, неабходна, каб бібліятэка плянава, сыстэматычна набывала літаратуру. Кожная школьная бібліятэка павінна набыць лепшую дзіцячую літаратуру, лепшыя творы з агульнай літаратуры (падыходзячыя для школьнага ўзросту) і пэрыядыку. Чым менш адпушчана сродак на камплектаваньне, тым больш увагі трэба аддаваць, каб сапраўды лепшыя кнігі пападалі ў школу. Пры складаньні пляну камплектаваньня, неабходна ўлічваць школьныя праграмы, пазашкольныя запатрабаваньні дзяцей, гаспадарча-палітычныя кампаніі і рэвалюцыйныя сьвяты.

Улічваючы вольны спрос дзяцей, ні ў якім разе не патрэбна і нельга здавальняць нездаровы спрос дзяцей, г. зн.—спрос на кнігі, не адпавядаючыя нашым пэд. запатрабаваньням (гэтых кніг ня трэба набываць).

Лепшыя кнігі трэба набываць у большай колькасьці экзэмпляраў, каб можна было-б задаволіць большасьць чытачоў.

У справе правільнага камплектаваньня дапамогу могуць аказаць сьпісы дасылаемыя НКА, бібліяграфія, што зьмяшчаецца ў часопісах, сьпісы Белар. Біб. Інстытута імя Леніна. Пры камплек-

таваньні расійскай літаратурай, трэба карыстацца бюлетэнямі Біб. Інстытуту РСФСР.

У нацыянальных школах мы павінны ў першую чаргу забясьпечыць бібліятэкі літаратурай на роднай мове, але ўлічваючы, што дзеці пачынаючы з III-й групы—вывучаюць беларускую і расійскую мовы, і ў мэтах азнаямленьня дзяцей з літаратурай брацкіх народаў,—трэба набыць літаратуру на гэтых мовах.

Формы і мэтады работы з кнігай.—Уся работа школьнай бібліятэкі, ставіць перад сабой задачу камуністычнага выхаваньня дзяцей. Для лепшага выкананьня пастаўленых перад ёю задач, бібліятэка павінна выкарыстаць усе маючыяся ў яе магчымасьці і павесьці масавую работу з чытачом. Усе масавыя формы работы вымагаюць аднаго і ставяць перад сабой адну мэту —палепшаньне якаснага і колькаснага чытаньня дзецьмі.

Формы работы з кнігай разнастайны. Кожная бібліятэка выбірае тое, што больш падыходзіць ў яе умовах, прычым кожны пэдагог-бібліятэкар павінен старацца не застанаўлівацца на тых формах і мэтадах, якія ён увёў, а стараецца уносіць рознастайнасьць, каб зацікавіць дзяцей і прыахвоціць іх да кнігі, кіруючы іх чытаньнем.

Добра арганізаваная выстаўка, прыгожа напісаны рэкамэндацыйны сьпіс кніжок,—выклікае спрос з боку дзяцей, менавіта тэй кнігі, якую мы жадаем прасунуць у дзіцячае асяродзьдзе. Масавая работа з кнігай стымулюе дзяцей ня толькі павялічыць колькасьць чытаньня, але павышае якасьць чытаньня. Масавыя формы работы з кнігай, як та: гутаркі аб кнізе, літаратурныя вечары, віктарыны—стымулююць дзяцей на глыбокае, удумчывае чытаньне, каб яны маглі сумесна з іншымі ўдзельнічаць у правадзімых тых ці іншых мерапрыемствах школьнай бібліятэкі.

З масавых форм работы з кнігай, можна раіць наступныя:

1. Выстаўка кніг. 2. Рэкамэндацыя кніжок праз плякат (тэматычны, прысьвечаны аднаму якому-небудзь аўтару). 3. Гутарка аб кнізе. 4. Інфармацыя аб кнігах. 5. Віктарына. 6. Літаратурны мантаж. 7. Літаратурны гурток. 8. Чыткі з эпідыяскопам. 9. Куток бібліяграфіі ў насьценгазэтах. 10. Конкурс на лепшага чытача. 11. «Нязвычайнае падарожжа», юныя дасьледчыкі і шэраг іншых мерапрыемств.

Усе вышэйвызначаныя формы работы і кожная з іх паасобку бязумоўна даступна для выкананьня ў школьнай бібліатэцы пры належнай арганізацыі работы і дапамогі настаўнікаў.

Калі праводзіцца літмантаж, дапамагчы павінен літаратар; калі «нязвычайнае падарожжа»—географ, грамадавед.

Кожную з гэтых форм работы можна скарыстаць для лепшага замацаваньня набытых ведаў дзецьмі па кожнаму прадмету.

## Формы работы з кнігай

Выстаўка кніг.—Кожная школа павінна мець у бібліятэцы вітрыну для сыстэматычнай выстаўкі кніг. Прычым выстаўка можа насіць розны характар.

Выстаўка тэматычная, калі мы выстаўляем літаратуру аб'яднаную аднэй тэмай, напр.—выстаўка кніг па авіямадэлізму, антырэлігійная, прысьвечаная рэвалюц. сьвяту, выстаўка ў дапамогу вучобе.

Выстаўка літаратуры, прысьвечаная аднаму аўтару. Гэта выстаўка адрозьніваецца ад вышэйвызначаных выставак тым, што на такой вітрыне мы выстаўляем ня толькі самыя творы пісьменьніка для папулярызацыі ягонай творчасьці, але і матар'ялы, якія даюць ацэнку гэтай творчасьці. Тут можна скарыстаць вырэзкі з газэт, артыкулы з часопісаў.

Пры падборы кніг да тэматычнай выстаўкі ня трэба абмяжоўвацца толькі выстаўкай кніжок непасрэдна па гэтай тэме, але і такіх кніг, якія дапамагаюць у лепшым засваеньні данага пытаньня. Напрыклад, пры арганізацыі антырэлігійнай выстаўкі—трэба карыстацца ня толькі антырэлігійнымі кніжкамі, але і прыродазнаўчай кніжкай, якая разьбівае рэлігійныя забабоны; неабходна скарыстаць і кніжку аб нашым культурным і гаспадарчым будаўніцтве, як доказ таго, што нам канкрэтна дапамагае ў ліквідацыі рэлігіі, як спадчыны капіталістычнага сьвету.

Акрамя тэматычных і аўтарскіх выставак, можна раіць рабіць выстаўкі навінак, каб прыцягнуць увагу дзяцей да новай кнігі і каб дзеці ведалі, што маецца ў іх школьнай бібліятэцы. Нажаль, не ва ўсіх школах ёсьць магчымасьць адвесьці месца для вітрын; у такім выпадку можна іх замяніць скрынкамі-вырабу, якія робяцца з фанэры, фарбуюцца і ставяцца на стол. Літаратура ў скрынках таксама складаецца па таму-ж прынцыпу, як і на вітрынах.

У некаторай ступені, выстаўку кніг можна замяніць плякатам. На плякаце зьмяшчаецца: аўтар, назва кнігі і анатацыя (кароткі зьмест). Трэба адзначыць, што ў плякаце вялікае месца займае афармленьне; для аздабленьня плякатаў можна скарыстаць вокладку кніжкі, ці можна даручыць школьнікам намаляваць малюнкі, якія павінны характарызаваць зьмест кнігі.

Гутарка аб кнізе.—Гутаркі могуць быць розныя:

а) гутарка аб прачытанай кнізе;

б) гутарка, мэтай якой ставіцца пераключэньне дзіцячых інтарэсаў з аднаго віду літаратуры на другі.

Гутарка аб прачытанай кнізе праводзіцца з мэтай уяўленьня, наколькі школьнік засвоіў прачытаную ім кнігу і наколькі крытычна ён успрыняў гэты твор. Роля кіраўніка ў тым, каб умелымі пытаньнямі ў часе гутаркі накіраваць выказваньні дзяцей, сумі-

раваць выказанае імі і даць заключную ацэнку; у час правядзеньня гутаркі для пераключэньня інтарэсаў дзяцей роля кіраўніка значна адказнейшая.

Для таго, каб дзеці зразумелі неабходнасьць чытаць тэхнічную літаратуру або прыродазнаўчую кнігу, трэба ім давесьці гэта не навязваньнем, а належнай пастаноўкай работы, кабі яны самі прыходзілі да такога заключэньня.

Інфармацыя аб кнігах.—Яна заключаецца ў наступным. Для папулярызацыі некаторых кніжок, якія бібліятэкар або настаўнік лічыць неабходным прасунуць у дзіцячае асяродзьдзе робіцца аб іх інфармацыя. Інфармацыя не павінна працягвацца больш 20 хвілін, на працягу якіх кіраўнік расказвае сюжэт гэтых кніжок, адзначае іх дадатныя бакі і чаму іх трэба чытаць. Пры правядзеньні інфармацыі, кнігі (аб якіх гаворыцца) павінны быць выстаўлены. Для такіх інфармацый можна падрыхтоўваць вучняў старэйшых груп, якія-б праводзілі гэта сярод малодшых.

Віктарына, як і кожная форма масавай работы, ставіць перад сабой пэўныя выхаваўчыя задачы інтэрнацыянальнага, антырэлігійнага выхаваньня. Віктарына стымулюе школьнікаў да чытаньня кнігі і падвышае якасьць іх чытаньня. Віктарына, якая праводзіцца з мэтай узмацненьня ведаў, атрыманых дзецьмі пры праходжаньні таго ці іншага прадмету, патрабуе адпаведна тэме падбору літаратурнага матар'ялу і выпрацоўкі пытаньняў.

Перш за ўсё заўчасна абвяшчаецца плякатам, што адбудзецца віктарына антырэлігійная, тэхнічная, або іншая. (Прычым, пажадана віктарыну праводзіць на адну якую-небудзь тэму, каб дзеці прапрацавалі адно пытаньне больш паглыблена). На вывешаным плякаце указваецца літаратура, якую неабходна чытаць для ўдзелу ў віктарыне; для большага стымуляваньня можна абвясьціць, што той хто лепш адкажа будзе прэміяваны. Прэміі могуць быць розныя, але пажадана, каб былі кнігі.

Віктарыны праводзяцца двая̈ка:

1. Калі на плякаце з назвамі кніжок вывешваюцца і пытаньні да гэтых кніг (не ўказваючы, зразумела, якое пытаньне, да якой кнігі). На вывешаныя пытаньні, адказы даюцца ў пісьмовай форме.

Спэцыяльная абраная камісія пасьля праверкі пытаньняў вырашае, каго можна прэміяваць.

2. Калі вывешваюцца толькі назвы кніжок, а пытаньні задаюцца на вечары, спэцыяльна прысьвечаным віктарыне, на якой дзеці даюць адказы. Пераможцам лічыцца той, хто адкажа на большую колькасьць пытаньняў.

Літмантаж.—Літаратурны мантаж зьяўляецца аднэй з даступных форм для разьвіцьця мастацкага густу і ўзмацненьня мастацкага выхаваньня нашых дзяцей на лепшых узорах літаратуры. Літмантаж ставіць перад сабой мэту раскрыць зьмест якой-небудзь тэмы адпаведным падборам літаратуры (пажадана,

каб ў падборы літаратурных твораў і іх апрацоўцы для літмантажа бібліятэкару дапамагаў настаўнік па літаратуры). Кіраўнік манціруе (падбірае) літматар'ял карыстаючыся ўрыўкамі з лепшых мастацкіх твораў, вершамі, урыўкамі з дакладаў і артыкулаў газэт. Перад тым, як дзеці возьмуцца за прапрацоўку і чытку гэтага матар'ялу, кіраўніку неабходна правесьці растлумачальную работу з дзецьмі аб сутнасьці гэтай работы. Неабходна растлумачыць дзецям, як трэба чытаць гэтыя творы; нават патрэбна, каб з кожным удзельнікам паасобку пэдагог прапрацаваў літматар'ял, раскрыў зьмест яго і навучыў іх выразнаму чытаньню. Літмантаж можна скарыстаць пры арганізацыі літ. вечароў, прысьвечаных аднаму якому-небудзь пісьменьніку.

Літгурток.—Праграма па літаратуры, зусім зразумела, ня можа ахапіць усе лепшыя ўзоры літаратурных твораў, таму задачай літгуртку зьяўляецца пашырэньне ведаў дзяцей па літаратуры. Літгуртком абавязкова кіруе настаўнік па літаратуры. Бібліятэкар павінен дапамагаць настаўніку сваячасовым падборам літаратуры, ён дапамагае ў арганізацыйнай рабоце гуртку. У літгуртку вучні знаёмяцца з тымі літаратурнымі творамі пісьменьнікаў, якія яны не праходзяць у школе, але якія пашыраюць іх агульна-адукацыйны кругавід. У літгуртку дзеці павінны знаёміцца і з клясыкамі як беларускай, рускай, так і сусьветнай літаратуры. Удзельнікі літгуртка павінны ўмець аналізаваць літаратурны твор і крытычна падыходзіць да твору; літгурток павінен навучыць дзяцей чытаць і крытычны артыкул. У літгуртку вучні павінны навучыцца мастацкаму выразнаму чытаньню.

Вучні-літгурткоўцы не павінны замыкацца толькі ў гуртку; сіламі літгурткоўцаў трэба арганізоўваць літвечары ставіць даклады аб творчасьці асобных пісьменьнікаў. Літвечары можна арганізоўваць ня толькі для вучняў, але і для бацькоў.

Чыткі з эпідыяскопам.—У пастанове ЦК ад 21/IV—1932 году да 10-ці годзьдзя піанэрарганізацыі указваецца на тое, што партыйныя, камсамольскія, прафэсійныя і грамадзкія арганізацыі павінны павесьці работу па разгортваньні культмасавай работы сярод дзяцей, якая-б адпавядала задачам камвыхаваньня і ўзьняцьця ўсёй выхаваўчай работы для узмацненьня ідэйна-палітычнага ўзроўня дзяцей «в духе интернационализма и непримиримой борьбы с национальной розьню, с проявлением великодержавного шовинизма и местного национализма среди детей и взрослых». Для выкананьня гэтай задачы ЦК партыі раіць праводзіць расказваньне, чыткі, інш. формы работы. Чытка ці расказваньне, якія ставяць перад сабой вышэй вызн. мэты, павінны заняць належнае месца ў рабоце школы.

Пры правядзеньні чыткі неабходна забясьпечыць наступнае: Твор выбраны для чыткі не павінен быць вельмі вялікім; але гэта не значыць, што трэба скарыстоўваць толькі кароценькія апавяданьні, можна выбіраць ўрыўкі з вялікіх твораў; гэтыя

ўрыўкі павінны быць зразумелымі без астатняга тэксту і насіць характар самастойнасьці.

Што тычыцца да расказваньня, то для гэтага можна ўзяць любы твор, адпавядаючы тым задачам, якія мы ставім сабе пры правядзеньні расказваньня, апрацаваць яго і прыпаднесьці школьнікам. Расказваньне мае тыя перавагі, што для гэтага можна скарыстаць творы, якія для самастойнай чыткі дзецям зусім не падыходзяць, але расказчыку многа лягчэй уплываць на аўдыторыю, бо іх увага не расьсейваецца, як пры галоснай чытцы. Пэдагог, які праводзіць чытку або расказваньне, павінен добра прапрацаваць літаратурны матар'ял.

Ні ў якім разе нельга праводзіць чытку, не прачытаўшы да гэтага некалькі разоў прызначаны твор і добра прадумаўшы яго. У тых выпадках, калі ў прыпаднесеным для дзяцей твору маюцца незнаёмыя словы або тэрміны, трэба перад пачаткам чыткі ці расказваньня растлумачыць дзецям значэньне гэтых слоў або правесьці папярэднюю гутарку. У тым пакоі, дзе праводзіцца чытка ці расказваньне, трэба разьвесіць малюнкі, плякаты, якія-б дапамагалі дзецям больш канкрэтна ўяўляць той матар'ял, які чытае ім кіраўнік. Пры чытцы ці расказваньні геаграфічнага апавяданьня, акрамя малюнкаў, неабходна, каб ў пакоі вісела геаграфічная карта, дыяграма, з якімі дзеці знаёмяцца пасьля чыткі. У час расказваньня і чыткі, ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб дзеці прарывалі расказчыка ў часе расказваньня—гэта разбурае цэльнасьць ўражаньня твору.

Расказваньні ў школе лепш праводзіць па групах. Пры належнай падрыхтоўчай рабоце з старэйшымі вучнямі кіраўнік можа падрыхтаваць старэйшых вучняў для расказваньня і чытак для малодшых дзяцей.

Чыткі і расказваньне, акрамя непасрэднага ўзьдзейнічаньня на эмоцыі дзяцей у час чыткі, маюць яшчэ значэньне ў сэнсе падвышэньня спросу дзяцей на тую літаратуру, якую папулярызуе расказчык. Вельмі добра чытку сапраўждаць эпідыяскопам. Асабліва гэта пажадана пры чытцы твору ня зусім знаёмага нашым дзецям. (Напр., пры чытцы твору аб жыцьці Кітаю, гісторыі эпізодаў гр. вайны). Ілюстраваньне эпідыяскопам, акрамя ўнясеньня разнастойнасьці, дапамагае больш канкрэтнаму ўяўленьню чытаемага.

К о н к у р с  н а  л е п ш а г а  ч ы т а ч а.—Конкурс на лепшага чытача ставіць мэтай павялічэньне чытаемасьці пэўнага роду літаратуры. Конкурсы могуць праводзіцца на розныя тэмы літаратуры, па прыродазнаўстве, па тэхнічнай кніжцы, па кніжцы аб сацбудаўніцтве і г. д. Конкурс па тэхнічнай кніжцы можна злучыць з конкурсам на лепшага мадэліста.

Злучэньне гэта дае той плюс, што выкананьне якой-небудзь мадэлі канкрэтна паказвае, наколькі даны чытач засвоіў прачы-

таныя кнігі. Для ўдзельніка конкурсу неабходна напісаць водзыў аб кнізе, па якому камісія будзе вырашаць, хто зьяўляецца пераможцам, г. значыць—хто лепш ўявіў сабе прачытанае.

Як і кожны конкурс, ён выклікае за сабой прэміяваньне, але гэтым ня трэба злоўжываць. Можна прэміяваньне замяніць вывешваньнем прозьвішч лепшых удзельнікаў ў насьценгазэце.

Куток бібліятрафіі ў насьценгазэце.—Школьную насьценгазэту бязумоўна ўсе дзеці акуратна чытаюць, сочаць за ёй. Яе вельмі добра скарыстаць для папулярызацыі кніжок. У насьценгазэце трэба адвесьці куток, дзе рэкамэндуюцца лепшыя назвы кніжок з анатацыямі, або зьмяшчаць рэцэнзіі дзяцей аб прачытаных кнігах. Гэты куток можна назваць «куток юнага чытача» або «што мне чытаць». Назвы могуць быць розныя ў залежнасьці ад таго, які характар матар'ялу будзе там зьмяшчацца. Калі там будзе зьмяшчацца рэцэнзія дзяцей, можна назваць—«нашы думкі аб кнізе». Такі разьдзел у газэце мае тыя дадатныя бакі, што прывучае школьнікаў чытаць рэцэнзіі, стымулюе іх да ўдумчывага чытаньня і вучыць іх фіксаваць свае заўвагі і думкі аб прачытанай кнізе. Задача бібліятэкара аказваць дапамогу дзецям ў іх рабоце, каб накіроўваць іх думкі па правільнаму шляху навучыць іх фіксаваць больш яркія і характэрныя месцы разглядаемых імі твораў. У гэтай рабоце значную частку можа узяць на сябе літгурток, які павінен быць застрэльшчыкам гэтага мерапрыемства і дапамагаць астатнім чытачом, як пісаць рэцэнзіі.

Што датычыцца да клясных газэт, апошнія добра скарыстоўваць для зьмяшчэньня назваў кніг, якія раюцца чытаць у сувязі з праходжаньнем праграмнага матар'ялу, дзеля лепшага засваеньня прадметаў (геаграфіі, прыродазнаўства, грамадазнаўства, гісторыі).

Нязвычайнае падарожжа па гігантах першай пяцігодкі (па кнігах). Гэта форма работы зьяўляецца аднэй з цікавейшых, захапляючых па сваёй разнастойнасьці; яна дае магчымасьць школьнікам (актыўным чытачом кніжок) праявіць свае здольнасьці ў сэнсе ўменьня выкласьці прачытанае, ня ў форме пераказу, але скарыстаць свае творчыя здольнасьці. З другога боку, «падарожжа» можа зацікавіць і тых, якія зусім не зьяўляюцца прыхільнікамі сыстэматычнага і мэтавага чытаньня. «Падарожжа» праводзіцца наступным чынам: перш за ўсё выпрацоўваюцца маршруты «падарожжа». Маршруты могуць быць наступныя: Асінстан, Гомсельмаш, Днепрабуд, Магнітабуд і г. д. Да кожнага маршрута даецца сьпіс літаратуры, кнігі і артыкулы з часопісаў. Адначасова неабходна, каб кожны «падарожнік» сачыў за газэтай, ў якой заўсёды можна знайсьці цікавы фактычны матар'ял аб нашых новапабудовах, а таксама навучыць іх карыстацца справачнікамі і геаграфічнай картай. Акрамя сьпісу літаратуры, не-

абходна выпрацаваць пытаньні да маршрутаў, і бібліятэкар абавязкова павінен растлумачыць дзецям, як чытаць і прапрацаваць літаратуру, вызначаную ў маршруце. Да кожнага маршруту прымацоўваецца пэўная група экскурсантаў, абавязак якіх будзе прачытаць літаратуру, якая раіцца ў абраным ім маршруце, і даваць свае заўвагі аб тых мясцох, у якіх ён бывае, апавядаць аб сацыялістычных, культурных тэхнічных дасягненьнях на соц. прадпрыемствах. Тыя ўдзельнікі, якія жадаюць, могуць даваць апісаньне машын, іх схэмы і г. д. Задача бібліятэкара, арганізатара гэтага мерапрыемства,—выпрацаваць да кожнага маршруту пытаньні, каб дзеці ўявілі сабе, на што рабіць ім упор пры чытаньні і як пісаць свае артыкулы аб «падарожжы». Для зьмяншэньня гэтых артыкулаў трэба выпусьціць спэцыяльны бюлетэнь прысьвечаны «падарожжу», або зрабіць альбом, куды дзеці будуць зьмяшчаць свае матар'ялы.

Свае заўвагі школьнікі могуць здаваць пасьля прачытаньня кожнай кніжкі, альбо пасьля таго, як яны прачытаюць усе кнігі па маршруту. Форма гэтых заўваг можа быць розная, але пажадана, каб дзеці не рабілі пераказаў прачытанага, а давалі больш мастацкія апісаньні і свае ўражаньні, якія яны атрымалі пасьля прачытаньня вызначаных кніг. Пажадана, каб сваю творчасьць яны ілюстравалі самастойнымі малюнкамі або малюнкамі, выразанымі з старых часопісаў. Для кіраўніцтва і дапамогі ўсёй гэтай работы неабходна абраць бюро на першым агульным сходзе, прысьвечаным гэтаму мерапрыемству.

На такім-жа сходзе ствараецца запіс удзельнікаў і заключаюцца дагавары па сацспаборніцтву. Школьная насьценгазэта павінна увесь час актыўна рэагаваць на гэту масавую работу з кнігай, асьвятляць ход работы, зьмяшчаць прозьвішчы лепшых удзельнікаў, біць па адстаючых.

Дзеля таго, каб гэта мерапрыемства дасягнула жадаемых намі рэзультатаў, неабходна каб у гэтым прымаў удзел увесь пэдкалектыў (асабліва наст. па геаграфіі, грамадазнаўстве) прыцягваючы да гэтай работы піянэр-атрад і ДСК, якія бязумоўна могуць шмат дапамагчы бюру.

Для падвядзеньня вынікаў неабходна правесьці заключны сход, на якім зрабіць даклад аб выніках праведзенай работы. Да сходу арганізаваць выстаўку аб праробленым «падарожжы», вывесіць дыяграмы з кантрольнымі цыфрамі, колькі школьнікаў запісалася ў «падарожжа», колькі прымала удзел, лік удзельнікаў, якія закончылі экскурсію.

На сходзе, для больш канкрэтнага паказу якасьці лепшых работ падарожнікаў, трэба зачытаць некалькі лепшых матар'ялаў. Калі школа мае магчымасьць, лепшых удзельнікай можна прэміяваць. Для лепшага правядзеньня і завяршэньня «падарожжа» ў пер-

шую чаргу неабходна каб бібліятэка добра з'арганізавала гэта мерапрыемства, неабходна забясьпечыць школьную бібліятэку літаратурай і ўвесь час дапамагаць дзецям у адшуканьні ім літаратурнага матар'ялу. «Нязвычайнае падарожжа можна праводзіць з мэтай азнаямленьня з сацыялістычным будаўніцтвам аднэй якой-небудзь рэспублікі, або ўсяго СССР.

Можна «нязвычайнае падарожжа» праводзіць і ў замежныя краіны (па Эўропе, Амэрыцы і г. д.). Наогул, трэба сказаць,, што форм і мэтадаў работы з дзіцячай кнігай шмат. У сваім кароткім артыкуле мы бязумоўна не маглі ахапіць усё гэта; напрыклад, зусім не закранута пытаньне аб рабоце з дзіцячай кнігай у час гаспадарча-палітычных кампаній і рэвалюцыйных сьвят. Гэта надзвычайна важнае пытаньне павінна быць асьветлена ў спэцыяльным артыкуле. Мэта нашага артыкулу—заварстрыць ўвагу нашай пэдагагічнай грамадзкасьці навакол пытаньня работы школьнай бібліятэкі і работы з дзіцячай кнігай, ўказаць некаторыя формы і мэтады работы з ёю.

**АД РЭДАКЦЫІ. Артыкул Е. Гародкінай друкуецца ў парадку абгаварэньня. Рэдакцыя спадзяецца, што таварышы настаўнікі на старонках часопісу падзеляцца вопытам сваёй работы ў школьных бібліятэках і наогул выкажуць свае думкі па пытаньнях дзіц. літаратуры і пазашкольнага чытаньня.**

*Л. Шашкоў*

# Якім ёсьць і якім павінен быць вурок [1])

**(Аналіз стэнаграмы вуроку па грамадазнаўству)**

Аўтар гэтага артыкулу жадае падзяліцца ўражаньнем, якое атрымалася ад назіраемага і застэнаграфаванага ўроку па грамадазнаўству ў 6-й групе аднэй Менскай школы. Але раней, чым перайсьці да аналізу стэнаграмы уроку, скажам некалькі слоў аб ролі і значэньні грамадазнаўства ў школе, тых задачах, якія перад гэтай дысцыплінай стаяць. У пастанове ЦК аб школе, ад 5/X 1931 г., зусім выразна падкрэсьліваецца, што «у пэрыяд сацыялізму, калі пралетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, выключнае важнае значэньне набываюць вытрыманае камуністычнае выхаваньне ў Савецкай школе і ўзмаценьне барацьбы супроць усякіх спроб прышчапіць дзецям Савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі». (З пастановы ЦК).

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца працягам папярэдняга пад тэй жа назвай. (Гл. № 1 за 1933 г.)

З гэтае выняткі відаць, якое вялікае значэньне надаецца пастановай ЦК вытрыманаму камуністычнаму выхаваньню ў нашай школе і той барацьбе, якая павінна весьціся адначасова з гэтым з ўсякага роду спробамі прышчапіць дзецям Савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі. Зразумелая рэч, што вытрыманае камуністычнае выхаваньне павінна быць забясьпечана ўсімі выкладаемымі дысцыплінамі ў школе і ў першую чаргу грамадзка-палітычнымі дысцыплінамі, выкладаемымі ў сямігадовай школе. Гэтыя дысцыпліны, і ў прыватнасьці грамадазнаўства, у справе камуністычнага выхаваньня, у справе прышчапленьня пралетарскай ідэалёгіі нашаму маладому пакаленьню, павінны заняць вядучую і кіруючую ролю. А таму гэтым дысцыплінам павінен быць аддадзены максімум ўвагі, як у справе мэтодык выкладаньня, так і ўсправе падбору ідэалёгічна-вытрыманых выкладчыкаў. Трэба лічыць зусім невыпадковым той факт, што у пастанове ЦК прапануецца РК КП(б) «узяць пад непасрэднае назіраньне пастаноўку выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін у школах-сямігодках». Вось, што сказана ў першай пастанове ЦК у адносінах грамадзка-палітычных дысцыплін, у тым ліку і ў адносінах грамадазнаўства.

У другой пастанове ЦК ад 25/VIII адзначаецца толькі некаторае палепшаньне—праграмы і стану выкладаньня грамадазнаўства і разам з гэтым канстатуецца «ўсё яшчэ нездавальняючы стан праграмы і выкладаньня роднай мовы і грамадазнаўства». (З пастановы ЦК).

Нездавальняючы стан выкладаньня грамадазнаўства ў школе, мы жадаем паказаць на прыкладзе аднаго назіраемага і застэнаграфаванага ўроку па грамадазнаўству ў аднэй Менскай школе. Назіраемы намі ўрок па грамадазнаўству складаўся з двох частак: у першай частцы настаўнік на працягу 10—15 хвілін растлумачваў дзецям, у другой частцы, ў сувязі з прысутнасьцю «гасьцей», рабіў апрос вучняў з тым, каб паказаць гасьцям як дзецьмі засвоен пройдзены матар'ял.

Урок пачаўся без паўтарэньня (каротка, бегла) пройдзенага, і гэта ня гледзячы на тое, што назіраемы намі ўрок, у яго першай частцы, зьяўляўся фактычна працягам папярэдняга.

Урок (1 частка) пачынаецца з раздачы вучням кніжак. Раздаўшы кніжкі 2-х назваў, настаўнік не называючы ні аўтароў, ні назвы гэтых кніжак растлумачваў дзецям, што «ў зялёнай кніжцы, на стар. 78 і 85, вы знойдзеце адказ на ўсе пытаньні, якія ў вас ёсьць, часткова вы знойдзеце адказ на гэтыя пытаньні ў белай кніжцы на расійскай мове, на стар. 85 і 87, далей—171 і 172, а таксама прачытайце на стар. 93 і 100, але там у форме расказа, як дапаможны матар'ял» (з стэнаграмы). Гэты ўрывак стэнаграмы паказвае нам, што выкладчык чамусьці баіццаназваць назвы кніжак і іх аўтароў, а замест гэтага ўжывае тэрміны

«белая» і «зялёная». Называючы кніжку выкладчык гэтым самым займаўся-б папулярызацыяй яе сярод вучняў.

Указаўшы дзецям, на якіх старонках яны знойдуць адказы на запытаньні, выкладчык грамадазнаўства прыступае да тлумачэньняў, малюючы у працэсе гэтага на дошцы дыяграму.

Тлумачэньні пачынаюцца наступнымі словамі «значыцца становішча нашай народнай гаспадаркі ў 1920 г. складала толькі 13,7 проц. даваеннага, у 1932 году ужо складае 301,7 проц. (з стэнаграмы). І далей робіцца пераход да другога пытаньня.

Аб чым выкладчык хацеў сказаць, якую хацеў думку выказаць—сказаць вельмі цяжка. Можна толькі нам дарослым дагадвацца. Дзеці-ж з гэтых тлумачэньняў, можна з ўпэўненасьцю сказаць, нічога не зразумелі. Выкладчык грамадазнаўства, відаць, хацеў сказаць, што не «становішча нашае народнае гаспадаркі ў 1920 г. складала 13,7 проц., а ўзровень нашае народнае гаспадаркі раўняўся усяго 13,7 проц., ад даваеннага ўзроўню, калі лічыць яго за 100 проц.. Нарэшце, нам думаецца, што нельга было-б так абстрактна і агульна растлумачваць дзецям 6 групы. Трэба было ўзровень нашае народнае гаспадаркі паказаць на канкрэтных паасобных галінах прамысловасьці (здабыча вугаля, жалеза, сталі, ды інш.) і сельскае гаспадаркі, пасьля чаго стаў бы зразумелы дзецям і наогул узровень народнае гаспадаркі ў 1920 і нарэшце, у 1932 г. ў параўнаньні з даваенным узроўнем. «Растлумачыўшы» стан народнай гаспадаркі настаўнік робіць пераход да другой краіны.

«Наступная краіна, Злучаныя штаты, растуць да 1929 г., з 1929 г. ідзе рэзкае зьніжэньне» (з стэнаграмы). Відаць, выкладчык грамадазнаўства хацеў сказаць, аб росьце і зьніжэньні ўзроўню народнае гаспадаркі, а не Злучаных штатаў. І калі так, то лепей за ўсё было-б паказаць гэта на росьце і зьніжэньні паасобных галін народнае гаспадаркі, а не наогул народнае гаспадаркі. Зьяўляецца абсурдам гаварыць дзецям аб росьце і зьніжэньні «Злучаных штатаў», не паказаўшы гэты рост і зьніжэньне ў процантных адносінах па лініі паасобных галін вытворчасьці.

Такія сугуба абстрактныя, схалястычныя размовы вядуцца і навакол стану і ўзроўню народнае гаспадаркі Ангельшчыны, Германіі ды інш.

У заключэньне настаўнік падводзіць вынікі сваёй гутаркі, ўцягваючы ў гутарку некаторую частку вучняў. У заключнай гутарцы настаўнік закранае стан і ўзровень разьвіцьця народнае гаспадаркі Польшчы. Вучань бясстэнсоўна падсказвае настаўніку аб зьніжэньні ўзроўню гаспадаркі на 50 проц., выкладчык сьледам паўтарае «так, яшчэ большае зьніжэньне», і на гэтым гутарка аб народнай гаспадарцы Польшчы абрываецца. Пытаньне так і застаецца нявысьветленым, што узровень народнае гаспадаркі зьніжаецца на 50 проц. або ніжэй? Таксама засталося нявысьветленым пытаньне, якога году датычыцца зьніжэньне. Зра-

зумела, што ад такога тлумачэньня ў галовах дзяцей, апрача блытаніны, нічога другога не засталося. Ні аб якіх такіх больш-менш сур'ёзных ведах, атрыманых вучнямі, ня можа быць і гутаркі пры гэткай арганізацыі ўрокаў, пры такім ходзё ўроку.

У адносінах мэтадаў выкладаньня, трэба сказаць, што выкладчыкам скарыстана досыць вялікая колькасьць мэтадаў. Так напрыклад, быў скарыстан мэтад жывога слова, гутарка, ілюстрацыйна-назіральны мэтад. Але-ж трэба сказаць, што гэтыя мэтады скарыстаны вельмі няўдала, не кажучы ўжо аб тым, што колькасьць мэтадаў магла быць значна павялічана. Можна было прыцягнуць яшчэ дасьледчы мэтад, які мог-бы выявіцца ў самастойнай прапрацоўцы вучнямі літаратурнага матар'ялу па падручніку. Апрача гэтага магчыма было прыцягнуць звычайную геаграфічную карту, на якой неабходна было паказаць геаграфічнае палажэньне паасобных капіталістычных краін, аб якіх ішла гутарка ў часе ўроку. Калі мы слухалі тлумачэньне настаўніка, дык у нас складалася такое ўражаньне, што сам настаўнік у цэлым шэрагу момантаў блытаўся. Выказваў сваю няўпэўненасьць (% зьніжэньня гаспадаркі Польшчы ды інш.).

Давала сябе адчуваць непадрыхтаванасьць настаўніка, непрадуманасьць ім праграмнага матар'ялу і мэтадаў выкладаньня.

На тэтым канчаецца першая частка ўроку. Выкладчык робіць пераход да другой часткі з вельмі няўдалай, зусім непатрэбнай агаворкі. Сутнасьць гэтае агаворкі зводзіцца да наступнага:

«Цяпер у сувязі з тым, што ў нас госьці, давайце паглядзім, як вы засвоілі і ведаеце тое, што мы распрацавалі да гэтага часу па грамадазнаўству» (з стэнаграмы). Такім чынам, з прычыны наяўнасьці «гасьцей» на ўроку, выкладчык распачаў з вучнямі паўтараць пройдзены матар'ял. А мы мяркуем, што прычыну гэтаму трэба шукаць у іншым.

Нам думаецца, што прычына захоўваецца ў тым, што у паважанага выкладчыка-грамадаведа ня было цьвёрдага, сур'ёзна-прадуманага пляну ўроку, сыстэматызаванага і сур'ёзна прадуманага матар'ялу. Нам думаецца, што калі-б у выкладчыка быў прадуман ход і зьмест уроку, то такія адхіленьні ад гэтага пляну ён бы не рабіў з прычыны прыходу «гасьцей». «Госьці» якраз прышлі не для таго, каб, у сувязі з іх прыходам, настаўнік ламаў свае-б цьвёрдыя (калі такія маюцца), грунтоўна прадуманыя пляны. А «госьці» прышлі для таго, каб паслухаць і паглядзець як настаўнік вядучай і адказьнейшай дысцыпліны, якой зьяўляецца грамадазнаўства, працуе па цьвёрдых, раней прадуманых плянах; прышлі паглядзець, у якой ступені ў гэтага настаўніка мэтадычна прадуман кожны крок яго у часе ўроку. На вялікі жаль мы нічога гэтага ня бачылі.

Зрабіўшы нікаму непатрэбную агаворку, выкладчык ставіць перад вучнямі наступнае запытаньне: «Што такое індустрыялі-

зацыя і чаму цяжкая індустрыя зьяўляецца асновай народнай гаспадаркі?»

Нам, думаецца, што кожны, які крышку разьбіраецца ў пытаньнях пэдагогікі, скажа, што такая пастаноўка пытаньня не вытрымлівае аніякай крытыкі, што такая пастаноўка пытаньня зьяўляецца грамадзкай пастаноўкай, што гэтае пытаньне заключае па сутнасьці два сур'ёзных пытаньні: што такое індустрыялізацыя—першае; чаму цяжкая індустрыя зьяўляецца асновай народнае гаспадаркі—другое.

Выкладчык-жа грамадазнаўства зваліў гэтыя пытаньні ў адну кучу. І таму трэба лічыць невыпадковай тую блытаніну, якую нам прышлося чуць у адказах дзяцей.

Выкладчык грамадазнаўства паставіўшы перад вучнямі такое двухпавярховае пытаньне вобмацкам нашчупвае тых вучняў, якія павінны адказаць, суправаджая гэтае сваё нашчупваньне такімі словамі «Няхай адкажа той, які ў мінулы раз не адказаў. Хто у мінулы раз не адказаў, мне з д а е ц ц а Людзько. (Зьвяртаецца да Людзько). Як ты гэта разумееш?» (з стэнаграмы).

Гэтае нашчупваньне вобмацкам вучняў, якія павінны былі адказаць, таксама аб нечым гаворыць. А менавіта, гэта гаворыць аб тым, што справа вывучэньня кожнага вучня, як гэта патрабуецца пастановай ЦК у працэсе вучэбна-выхаваўчай работы, пастаўлена вельмі і вельмі дрэнна. Гэта гаворыць, нарэшце, і аб тым, што выкладчык, у парадку падрыхтоўкі да ўроку, не прагледзеў сьпіс сваіх вучняў і не прадумаў пытаньня выкліку паасобных вучняў у часе ўроку.

Зараз паглядзімо, якія-ж вучнямі даюцца адказы на двухпавярховае «мудрае» запытаньне настаўніка.

Першы вучань (Людзько) зусім нічога не адказаў, настаўнік яго павеў і пасадзіў. Другі вучань даў такі адказ: «індустрыялізацыя гэта ёсьць разьвіцьцё цяжкай прамысловасьці, у якой маюцца машыны, фабрыкі, заводы» (з стэнаграмы).

Атрымаўшы такі адказ ад вучня (у першай частцы няправільны, а ў другой частцы блытаны), настаўнік зьвяртаецца да ўсіх вучняў з такімі словамі «А хто мабыць паправіць, альбо дадасьць? Падымеце рукі. Адклікаецца шэраг вучняў. Настаўнік дае першаму з іх слова.

Мы павінны сказаць, што такі зварот да вучняў, атрымаўшы ад вучня яўна няправільны адказ, зьяўляецца законамерным толькі ў першай сваёй частцы, дзе гаворыць—«а хто мабыць паправіць», у другой-жа сваёй частцы, дзе гаворыцца—«альба дадасьць» зьяўляецца зусім незаконамерным. Бо настаўнік, як гэта мы бачылі атрымаў няправільны адказ—і ставіць у адносінах няправільнага адказу вучня запытаньне перад ўсёй клясай—хто можа паправіць адказ,—зьяўляецца зусім законамерным, зусім правільным. Рабіць-жа такі зварот да вучняў, атрымаўшы яўна няправільны адказ, хто яшчэ што можа дабавіць,—ні ў якім вы-

падку нельга. Бо дабаўляць тое або іншае можна толькі да адказу ў асноўным правільнага. Зусім было-б правільным і заканамерным у дадзеным выпадку, калі-б настаўнік, атрымаўшы яўна няправільны адказ, зьвярнуўся да вучняў з шэрагам такіх запытаньняў, якія-б далі магчымасьць у пачатку устанавіць, у асноўным правільны адказ, а потым ужо ставіць запытаньне перад вучнямі аб дапаўненьні гэтых адказаў.

На пастаноўку двухсэнсоўнага новага запытаньня вучань Ліўшыц, хвалюючыся, адказвае: «Перабудова ўсёй народнай гаспадаркі на аснове мэханізацыі». Сьледам за гэтым, выкладчык выклікае яшчэ аднаго, які заблытаўся і ня ведае нават аб чым ідзе гутарка і просіць выкладчыка паўтарыць пытаньне.

Настаўнік, хвалюючыся, кажа: «Я запытваюся, што такое цяжкая індустрыя». Як бачыце ня толькі вучні заблыталіся, але і сам настаўнік заблытаўся. Паўторанае ўжо запытаньне не саўпадае з запытаньнем, пастаўленым ім перад вучнямі ўпачатку.

У першым выпадку сутнасьць запытаньня зводзілася да таго «што такое індустрыялізацыя і чаму цяжкая індустрыя зьяўляецца асновай народнай гаспадаркі».

У другім выпадку запытаньне ўжо звужана і заключае ў сябе толькі адзін момант з другой часткі двухпавярховага запытаньня, пастаўленага ў пачатку. Выслухаўшы «паўтарэньне», а па-сутнасьці новае запытаньне, вучань адказвае, што «індустрыялізацыя, гэта буйнае машынабудаўніцтва, каб пабудаваць фабрыкі і заводы, каб мы ня мелі ніякіх адносін з замежамі». З гэтага адказу відаць, што ня гледзячы на толькі што «паўторанае» пытаньне настаўнікам, фактычна ў новай пастаноўцы, вучань імкнецца даць адказ па сутнасьці першага запытаньня.

Далей пачынаецца гутарка паміж настаўнікам і вучнямі. Прыводзім цалкам адрэзак гэтае гутаркі.

Выкладчык—Прама ўзялі абмежаваліся больш нічога...

Вучань—Каб не купляць...

Другі вучань—Каб ня быць залежнымі.

Выкладчык—Хто яшчэ скажа?

Вучань—«Перабудова ўсёй нашай народнай гаспадаркі на аснове мэханізацыі, пабудова фабрык і заводаў, магутных фабрык і заводаў, каб мы маглі самі выраблядь у сябе ўсе машыны» (з стэнаграмы).

На гэтым спыняецца гутарка навакол першай часткі пытаньня. Выкладчык, відаць, лічыць, што першая частка пытаньня вычарпана.

Пасьля ўсяго гэтага выкладчык імкнецца сканцэнтраваць увагу дзяцей навакол другой часткі пытаньня—«Чаму індустрыя зьяўляецца асновай гаспадаркі»? Але-ж гэта выкладчыку ня ўдалося і не ўдаецца. У сапраўднасьці адказы—блытаныя, скажоныя, толькі часткова правільныя даваліся вучнямі па ўсіх момантах, з якіх складаецца самае першае пытаньне настаўніка.

Але згодзімся на хвіліну, што настаўнік у працэсе гутаркі парашыў зрабіць зьмест і ход гутаркі такім, каб у пачатку высьвятліць і дабіцца ўяўленьня дзецьмі сутнасьці першай часткі запытаньня. Дапусьцім на адну хвіліну, што гэта так: у сапраўднасьці-ж гэта далёка ня так. Увесь ход і зьмест гутаркі паказвае, што яна ішла без руля і вятрыл.

Што трэба было высьвятліць у першай частцы пытаньня? Якую суму ведаў павінны былі набыць вучні? Настаўнік павінен быў забясьпечыць такі ход гутаркі, каб дзеці добра ўразумелі—што такое наогул індустрыя, а потым ужо, што такое індустрыялізацыя. Якія ў нас пабудаваны і будуюцца фабрыкі і заводы, электрычныя станцыі, якія старыя заводы рэканструяваны па апошняму слову тэхнікі, якія арганізаваны ў СССР новыя галіны прамысловасьці. Апрача таго, дзеці павінны былі атрымаць уяўленьне аб сутнасьці і зьмесьце рэканструкцыі транспарту. І нарэшце, дзеці павінны былі ведаць у чым заключаецца сутнасьць рэканструкцыі с/гаспадаркі.

Вось сугуба арыентыровачны аб'ём ведаў, якія павінны былі быць прышчэплены дзецям і імі засвоены. У сапраўднасьці-ж, як гэта відаць з аналізованых адказаў, вучні гэтых ведаў не атрымалі і зразумела, не засвоілі. Замест той сумы ведаў, якую мы вышэй акрэсьлілі, у галовах дзяцей атрымалася блытаніна.

Больш таго, ня выявіў гэтых ведаў і сам настаўнік. І зразумела, што настаўніку, не прадумаўшаму гэтае сумы ведаў, якая павінна была быць прышчэплена вучням, немагчыма было забясьпечыць засваеньня іх вучнямі, немагчыма было накіраваць гутарку з дзецьмі ў правільнае рэчышча і гэтым самым папярэдзіць тую блытаніну ў ведах, што нам прышлося назіраць і застэнаграфаваць.

Пасьля ўсёй гэтай блытаніны навакол першай часткі запытаньня, што пастаўлена настаўнікам ў пачатку гутаркі, настаўнік робіць патугі перайсьці да другой часткі запытаньня.

Трэба сказаць, што выкладчык грамадазнаўства аказаўся непасьлядоўным. Непасьлядоўнасьць гэта выявілася ў тым, што, калі ў пачатку другая частка пытаньня была сфармулявана, такім чынам,—«чаму цяжолая індустрыя зьяўляецца асновай народнай гаспадаркі», дык пры пераходзе да гэтага пытаньня ў працэсе гутаркі, выпала слова «цяжолая» і «народная» і зараз ужо ставіцца перад вучнямі гэта другая частка запытаньня ў такой формулёўцы «Чаму індустрыя (гэта значыць прамысловасьць наогул—Л. Ш.) зьяўляецца асновай гаспадаркі». Мы-ж добра ведаем, што «Цяжолая індустрыя» і індустрыя наогул—гэта не адно і тое. Пад «цяжолай» індустрыяй мы разўмеем: мэталюргію (чорную і каляровую), машынабудаўнічую, вуглездабываючую, нафтаздабываючую і г. д., а пад індустрыяй наогул мы разумеем цяжкую, пералічаную намі і не пералічаную, і лёг-

жую індустрыю. Як бачыце, сам настаўнік заблытаў пытаньне, заблытаў зразумела і дзяцей. І таму нічога дзіўнага няма, што і далейшыя адказы вучняў на другую частку запытаньня блытана-зьбіўчатыя, у асноўным паўтараючыяся. Вось першы адказ вучня на пытаньне настаўніка—чаму індустрыя зьяўляецца асновай гаспадаркі? «Цяжкая індустрыя разумеецца тое, што цяжкая індустрыя...» «Як бачыце даецца вучням якісьці бяссэнсоўны адказ. І цікава, што гэтым сваім бяссэнсоўным адказам вучань зьбівае самога настаўніка. Апошні, атрымаўшы бяссэнсоўны адказ і не па-сутнасьці свайго запытаньня, (замест таго, каб шэрагам наводзячых пытаньняў да адказваючага вучня і клясы цалкам дабіцца правільнага адказу на сваё запытаньне, калі яно было законамерна ў сваёй пастаноўцы, а калі не законамерна, дык яго ня трэба было зусім ставіць), зьбіваецца і не атрымаўшы адказу па-сутнасьці пастаўленага пытаньня, ставіць вучню, даўшаму бессэнсоўны адказ і не па-сутнасьці, новае запытаньне, сэнс якога зводзіць вось да чаго: «Што трэба разумець пад цяжкай індустрыяй? Настаўнік відаць «забыўся», што ён яшчэ не атрымаў правільнага адказу на свае першае запытаньне—«Чаму індустрыя зьяўляецца асновай гаспадаркі»,—і ня прыкметна для сябе перайшоў да другога.

На пастаўленае запытаньне,—што трэба разумець пад цяжкай індустрыяй?—даецца з боку вучняў шэраг вельмі няўдалых адказаў, адказаў у значнай частцы, якія паўтараюцца. Прывядзём для ілюстрацыі некалькі такіх характэрных адказаў: «Пад цяжкай індустрыяй трэба разумець буйнае машынабудаўніцтва, фабрыкі і заводы». Як бачыце разуменьне цяжкай індустрыі зводзіцца да аднаго толькі машынабудаўніцтва—гэта з аднаго боку; да фабрык і заводаў—з другога боку. А вось другі адказ: «Пад цяжкай індустрыяй мы разумеем такія машыны, якія будуць выраблять машыны».

Як бачыце, адказы даюцца па-сутнасьці такія самыя, якія ўжо даваліся і раней ў сувязі з разважаньнямі наваколл першай часткі пытаньня.

У гэтых і на іх падобных адказах разуменьне цяжкай індустрыі зводзіцца да буйнага машынабудаўніцтва, альбо разуменьне цяжкай індустрыі зводзіцца да такіх машын, якія потым самі будуць выраблять машыны, як гэта падкрэсьліваецца ў другім вышэй намі прыведзеным адказе вучня. А гэты адказ зьяўляецца тыпавым для групы адказаў, падобных да гэтаг· Зразумелая рэч, што да гэтага зводзіць разуменьне сутнасьці цяжкай індустрыі, як гэта мы ўжо вышэй адзначалі, ні ў якім разе нельга. Буйная машынабудаўнічая прамысловасьць уваходзіць у склад цяжкай прамысловасьці, але далёка не вычэрпвае сабою ўсю цяжкую прамысловасьць. Настаўнік, атрымаўшы гэтыя і на іх падобныя адказы на запытаньне—што трэба разу-

мецъ пад цяжкай індустрыяй, падкрэсьлівае частковую правільнасьць гэтых адказаў і фармулюе сам, у асноўным правільны, адказ на пастаўленае запытаньне. Вучні, як бачыце, і на гэты раз не змаглі на гэтае пытаньне даць правільнага, вычэрпваючага адказу. Скончыўшы няўдалую гутарку пра цяжкую індустрыю, настаўнік ізноў зьвяртаецца да старога пытаньня, якое ён ставіў вучням перад запытаньнем пра цяжкую індустрыю. Але падае гэтае запытаньне у некалькі іншай формулеўцы. Падае яго ў самай першай формулёўцы, а менавіта—«чаму цяжкая індустрыя зьяўляецца асновай нашай народнай гаспадаркі?»

А крыху раней ставілася запытаньне—«Чаму індустрыя (гэта значыць наогул прамысловасьць—Л. Ш.) зьяўляецца асновай гаспадаркі». Такім чынам, і ў дадзеным выпадку мы маем зусім відавочную блытаніну з боку самага настаўніка, непрадуманасьць апошнім да канца нават фармулёвак. Але, ня гледзячы на гэтую блытаніну і разнастайнасьць у фармулёўках, шэраг вучняў адказвае, праўда вельмі каратка, але ў асноўным правільна на запытаньні настаўніка ў першай формулёўцы.

Вось першы адказ: «бяз цяжкай індустрыі мы ня можам разьвіць лёгкай таму, што для таго, каб выпрацоўваць лёгкую індустрыю, патрэбны машыны» (з стэнаграмы). Другі вучань даў такі адказ: «без цяжкай індустрыі ня можа быць разьвіта лёгкая». Гэтыя адказы вучняў паказваюць, што ролю і ўдзельную вагу цяжкай індустрыі наогул разумеюць. З гэтага відаць, што вучні разумеюць і правільна разумеюць, залежнасьць лёгкай індустрыі ад цяжкай. Праўда у гэтых адказах вучняў, як бачыце, выпадае вельмі істотны момант палітычнага парадку. Гэты момант заключаецца ў тым, што не падкрэсьліваецца роля цяжкай прамысловасьці ў справе абароназдольнасьці краіны.

Такім чынам, пытаньне ў першай фармулёўцы—«чаму індустрыя зьяўляецца асновай гаспадаркі» так і засталося неразьвязаным.

На гэтым канчаецца гутарка па пытаньні—чаму цяжкая індустрыя зьяўляецца асновай нашай гаспадаркі.

Сьледам за гэтым, настаўнік-грамадавед ставіць сваёй задачай высьвятліць—як у сувязі з разьвіцьцём індустрыялізацыі СССР паступова набывае сваю незалежнасьць ад капіталістычных краін і ў чым гэта незалежнасьць фактычна заключаецца. Разьвязваньне гэтага моманту настаўнік павінен быў пачаць з высьвятленьня таго, што мы імпартавалі і імпартуем у СССР з-за мяжы, паказаўшы ўдзельную вагу ў гэтым імпарце складаных машын. Паказаўшы далей паступовае, з году ў год, зьніжэньне імпорта машын у сувязі з разьвіцьцём індустрыялізацыі, у сувязі з разьвіцьцём новых галін прамысловасьці і буйнага машынабудаўніцтва ў СССР.

У канчатковым падрахунку гутаркі па гэтаму разьдзелу, настаўнік павінен быў прысьці да вываду, што незалежнасьць, такім чынам, і заключаецца ў тым, што СССР, усё тое, што ўвозіў і зараз увозіць з гатовых фабрыкатаў, ужо выробляе і далей ўсё больш і больш будзе выробляць у сябе,—робячыся гэтым самым магутнай, неперяможнай краінай. У адпаведнасьці з вышэй акрэсьленай мэтавай установкай і павінна была разгортвацца гутарка настаўніка з дзецьмі.

У адпаведнасьці з гэтым і ў тым парадку, які прадугледжан мэтавай ўстаноўкай і павінны былі ставіцца настаўнікам адно за другім запытаньні вучням.

Настаўнік-жа, як гэта ня дзіўна, абраў чамусьці іншы дыямэтральны, працівалеглы парадак таму, які вызначан намі.

Прыступіўшы да гутаркі, па гэтаму моманту выкладчык грамадазнаўства ставіць першае запытаньне ў такой форме: «А вось скажэце ці ведаеце вы, што значыць быць незалежным?» (з стэнаграмы).

У пачатку вучні на гэтае запытаньне даюць больш-менш правільныя, адказы. А далей, у працэсе гутаркі, вучні пачынаюць нік ня змог папярэдзіць блытаніну і даць вычарпальную, правільную установку па гэтым пытаньні.

Прывядзем некалькі такіх кароткіх, прымітыўных, але у асноўным правільных адказаў, якія даваліся ў пачатку. Вось першы з іх: «Каб не купляць за межамі гэтых машын, а самім выробляць»; Другі адказ: «ня быць залежным ад капітала, самім выробляць машыны».

Гэта вось такія даюцца вучнямі ў пачатку, у асноўным правільныя, адказы. А далей, у працэсе гутаркі, вучні пачынаюць блытаць і даваць блытаныя і няправільныя адказы.

Устанавіўшы, з горам папалам, як кажуць, у чым заключаецца сутнасьць незалежнасьці, настаўнік ставіць сваёй задачай высьвятліць ролю індустрыялізацыі ў справе незалежнасьці нашае краіны ад капіталістычных краін.

Пачынаючы гутарку па аналізуемаму моманту, выкладчык-грамадавед адпраўляецца ад таго, што наша прамысловасьць мела «вельмі дрэннае абсталяваньне, амаль што ня было машын. Таму можна сказаць, што наша народная гаспадарка была якой?» На гэта вучань адказвае—«адсталай». З тым становішчам, што наша народная гаспадарка была адсталай у параўнаньні, скажам, з народнай гаспадаркай Злучаных Штатаў можна згадзіцца. Але нельга ні ў якім разе згадзіцца з тым сьцьвярджэньнем, што наша прамысловасьць да рэканструкцыйнага пэрыяду ня мела амаль машын.

Гэта якоесьці непаразуменьне, бо мы добра ведаем, што яшчэ да рэвалюцыі мелася адносна разьвітая капіталістычная прамысловасьць, якая мела зразумела і машыны. Меўся і магутны пралетарыят, які з посьпехам пад кіраўніцтвам КП(б) перамог буржуазію ў Кастрычніцкую рэвалюцыю. У такіх развbooжаньнях, што ня было машын, а значыцца і прамысловасьці, а значыцца і пралетарыяту адзін крок да разважаньняў с.-дэмакратыі, якая на дадзеным гістарычным этапе зрабілася перадавым атрадам контр-рэвалюцыйнай буржуазіі, аб тым, што ў царскай Расіі ня было яшчэ ўмоў для стварэньня пролетарскай рэвалюцыі, ня было належнай матар'яльнай базы для стварэньня пралетарскай рэвалюцыі і г. д.

Такім чынам, і ў дадзеным выпадку, выкладчык замест барацьбы з нацдэмаўскімі (у адносінах БССР) і размовамі с/дэмократыі па пытаньні матар'яльнай базы і наяўнасьці магутнага пралетарыяту ў Расіі, па пытаньні немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне, дзе сам ня чоткія, ня выразныя ўстаноўкі вучням па гэтым пытаньні.

Далей настаўнік спробуе ўстанавіць розьніцу паміж «сацыялістычнай індустрыялізацыяй і капіталістычнай». Па пытаньні розьніцы паміж нашай індустрыялізацыяй і «індустрыялізацыяй» ў капіталістычных краінах адказвала 18 вучняў. І трэба сказаць, што толькі 2-3 з іх далі больш-менш правільныя адказы. Рэштка-ж давала на гэтае пытаньне блытаныя, далёка няпоўныя і не па-сутнасьці запытаньні. У працэсе гутаркі па гэтаму пытаньню сам настаўнік урэшце дагаварваецца да яўнага абсурду. Дагаварваецца да таго, што ня крызіс зьяўляецца аднэй з прычын росту беспрацоўя ў капіталістычных краінах, а наадварот сам крызіс зьяўляецца вынікам беспрацоўя. Выкладчык грамадазнаўства прыходзіць да яўнага антымарксыцкага палажэньня і сьцьвярджэньня. І гэта яшчэ раз сьведчыць аб непадрыхтаванасьці настаўніка, сьведчыць аб тым, што настаўнік не прадумаў праграмнага матар'ялу.

У заключэньне гутаркі выкладчык спыняецца на посьпехах нашага сацыялістычнага будаўніцтва. У адказах вучняў і на гэтыя пытаньні было шмат блытаніны і недакладнасьці. Так, адны з іх гаварылі, што мы ў СССР—«Правялі амаль што суцэльную калектывізацыю вёскі і зьнішчылі ўсё кулацтва», што ўзровень калектывізацыі ў СССР дасягае па думцы адных 84 проц., а па думцы другіх 95 проц. І цікава, што калі выкладчык, нарэшце, паправіў і правільна папраўіў адказы вучняў па пытаньню узроўню калектывізацыі, дык адказ вучня, што мы «зьнішчалі ўсё кулацтва», не атрымаў свайго выпраўленьня з боку настаўніка. Мы-ж добра ведаем, што ў сучасны момант кулацтва як кляса яшчэ канчаткова ня зьнішчана. Яно разьбіта, але-ж канчаткова яшчэ не дабіта і што рэшткі кулацтва будуць яшчэ ў

прадсьмяротных сударгах пробаваць не адзін раз зрываць мерапрыемствы партыі і ўраду, пробаваць узрываць калгасы знутры.

На гэтым канчаецца ўрок.—Аналіз стэнаграмы ўроку па грамадазнаўству дае нам мажлівасьць зрабіць некаторыя агульныя вывады.

Першы вывад заключаецца ў тым, што яшчэ не зьліквідаваны асноўны, карэнны недахоп школы, адзначаны ў першай пастанове ЦК аб школе. Другі вывад,—што гэты карэнны недахоп у значнай ступені абумоўліваецца слабай яшчэ падрыхтаванасьцю самога настаўніка наогул і ў прыватнасьці слабай мэтадычнай падрыхтаванасьцю. Трэці вывад—у тым, што настаўнік, як гэта паказвае стэнаграма аналізуемага ўроку ў межах сваёй падрыхтаванасьці наогул і мэтадычнай ў прыватнасьці, не рыхтуецца да кожнага паасобку уроку, не прадумвае праграмнага матар'ялу, не прадумвае кожнага мэтадычнага прыёму ў часе ўроку ды інш. А як вынік гэтага, выкладчык часта сам блытаецца і вучняў блытае. І чацьверты вывад заключаецца ў тым, што праграмы нашы вельмі перагружаны тэарэтычным матар'ялам; пабудаваны гэтыя праграмы бяз уліку пэдалёгічных асаблівасьцяй кожнай групы паасобку.

*Г. Сагаловіч*

# Трапэцыя і ўласьцівасьці яе элемэнтаў на занятках па матэматыцы ў III канцэнтры палітэхнічнай школы

**(У дапамогу маладому настаўніку)**

У школьнай практыцы настаўніку прыходзіцца часамі рабіць паўтарэньне некаторых частак курсу. Бязумоўна, паўтарэньне мае вялікае значэньне для засваеньня прадмету, але было-б зусім ня верна не скарыстоўваць гэтага моманту ў арганізацыі работы для паглыбленьня і пашырэньня пройдзенага курсу. Неабходна дабіцца таго, каб у гадзіны паўтарэньня вывучаемае пытаньне было-б паднята на новую вышыню.

У гэтым артыкуле я хачу паказаць, што і як можна браць з вучнямі 8-9 груп школы, задаючыся мэтай—пашырыць іх веды аб трапэцыі і яе элемэнтах.

1. Вучні ўжо ведаюць, што сярэдняя лінія трапэцыі роўна паўсуме яе асноў, але варта высьветліць і тое, што большая

з асноў трапэцыі настолькі больш сярэдняй лініі, на колькі апошняя больш меньшай асновы, а менавіта:




$a - x = x - b$, дзе...
$a$... большая аснова,
$b$... меншая аснова,
$x$... сярэдняя лінія

Рыс. 1.

2. Частка сярэдняй лініі, якая заключана паміж дыяганалямі трапэцыі, роўна паўрозьніцы яе асноў, што відаць з наступнага:




$$\frac{b}{2} + x + \frac{b}{2} = $$
$$= \frac{a}{2} + \frac{b}{2}$$
$$x = \frac{a - b}{2}$$

Рыс. 2.

3. У раўнабочнай трапэцыі здабытак дыяганаляў роўны суме здабыткаў працівалеглых бакоў трапэцыі, што вынікае з таго, што навакол гэтай трапэцыі магчыма апісаць акружыню; такім чынам:




$$p^2 = ab + c^2$$

дзе:
$a$... ніжн. аснова;
$в$... верхн. аснова;
$p$... дыяганаль;
$c$... бок.

Рыс. 3.

4. У раўнабочнай трапэцыі з пэрпэндыкулярнымі дыяганалямі вышыня роўна ле сярэдняй лініі, што выцякае з наступнага:




Рыс. 4.

А таму плошча гэтай трапэцыі роўна квадрату сярэдняй лініі альбо квадрату вышыні: $S = \frac{(a + b)^2}{4}$

5. Дыяганалі разьбіваюць трапэцыю на 4 трыкутнікі, з іх два падобны і два роўнавялікі.




Рыс. 5.

Т-к *COD* падобен т-ку *AOB*;
Т-к *AOC* роўнавялік т-ку *BOD*.

6. Плошча аднаго з раўнавялікіх т-каў ёсьць сярэдня-прапарцыянальная плошчаў двух падобных:




Рыс. 6.

$$\frac{\text{пл. } S_1}{\text{пл. } S_2} = \frac{OD}{OA}; \qquad \frac{\text{пл. } S_2}{\text{пл. } S_3} = \frac{CO}{OB},$$

з таго што $\frac{OD}{OA} = \frac{CO}{OB}$ вынікае:

$$\frac{\text{пл. } S_1}{\text{пл. } S_2} = \frac{\text{пл. } S_2}{\text{пл. } S_3}$$

а таму ведаючы плошчы двух падобных т-каў трапэцыі, можна лёгка вылічыць плошчу ўсёй трапэцыі,

напрыкл. $S_1 = 49$ *кв. см*, $S_3 = 25$ *кв. см*, то

$S_2 = \sqrt{49 \cdot 25} = 7 \cdot 5 = 35$ *кв. см*, а плошча ўсёй трапэцыі роўна

$$S = 49 + 25 + 2 \cdot 35,$$

а ў агульным выглядзе:

$$S = S_1 + S_3 + 2\sqrt{S_1 S_3}$$

7. Лінія ў трапэцыі, праведзеная праз пункт перасячэньня дыяганаляў трапэцыі, ёсьць сярэдняя гармонічная паміж яго асноў.

Прапорцыя віду $\frac{a-c}{c-b} = \frac{a}{b}$,

як вядома, завецца гармонічнай, а лік $c$ сярэдня-гарманічным членам прапорцыі. Заўважым, што $c = \frac{2ab}{a+b}$. Такую назву гэтая пра-

порцыя атрымала таму, што струны, даўжыні якіх адносяцца паміж сабой, як $1 : \frac{4}{5} : \frac{2}{3}$, і даюць найбольш дасканалы акорд— do, mi, sol, а лікі $1, \frac{4}{5}, \frac{2}{3}$ і зьяўляюцца членамі гарманічнай прапорцыі:




Рыс. 7.

$$\frac{1-\frac{4}{5}}{\frac{4}{5}-\frac{2}{3}}=\frac{1}{\frac{2}{3}}$$

*AD* . . . . . . *a*;
*BC* . . . . . . *b*;
*OE* . . . . . . *p*;
*FO* . . . . . . *p*;
*ED* . . . . . . *m*;
*CE* . . . . . . *n*;
*CD* . . . . . . *c*;

З таго, што т-к *ACD* падобен т-ку *OCE*, вынікае

$$\frac{c}{a}=\frac{n}{p}$$

З таго, што т-к *BCD* падобен т-ку *OED*, вынікае:

$$\frac{c}{b}=\frac{m}{p}$$

Склаўшы атрыманыя прапорцыі, атрымоўваем:

$$\frac{c}{a}+\frac{c}{b}=\frac{m+n}{p},$$

а так як $m+n=c$, то:

$$\frac{c}{a}+\frac{c}{b}=\frac{c}{p}; \quad \frac{1}{a}+\frac{1}{b}=\frac{1}{p}$$

$$p=\frac{ab}{a+b}$$

Адсюль уся простая, якая праходзіць праз пункт $O$, раўналежна асновам трапэцыі, роўная 2 $p$, роўна:

$$2p = \frac{2ab}{a+b},$$

а гэта і ёсьць значэньне сярэдняя гарманічнай двух вялічынь $a$, $b$.

Такім чынам, ведаючы $a$, $b$, лёгка вылічыць разьмер лініі $FE$, як сярэднюю гарманічную паміж бакамі $a$, $b$,

напрыкл. $a = 36$ *см*, $b = 10$ *см*,

$$\text{дык } FE = \frac{2 \cdot 36 \cdot 10}{36 + 10};$$

8. Урэшце пакажам, што калі ў трапэцыі правядзем лінію роўную $\sqrt{ab}$ раўналежна асновам трапэцыі, дык разаб'ем трапэцыю на дзьве падобных трапэцыі




Рыс. 8.

Дзеля таго, што $\sqrt{ab} < \frac{a+b}{2}$, гэтая простая бліжэй да меншай асновы.

Трапэцыі $AEFD$, $EBCF$ падобны, таму што:

$$\frac{AD}{EF} = \frac{AE}{EB} = \frac{EF}{BC} = \frac{DF}{FC} = \frac{a}{\sqrt{ab}} = \frac{\sqrt{ab}}{b}$$

куты адпаведныя ў іх роўныя.

*М. Л. Кунда*

# Мэтадычная распрацоўка праграмы па С.-Г. на веснавы пэрыяд 1932-33 нав. году

Асноўным зьвяном у пляне школьнай працы зьяўляецца лекцыя (вурок), да якой патрэбна своечасовая падрыхтоўка настаўніка. Гэтая падрыхтоўка даецца ня толькі агульнай, палітычнай і спэцыяльнай адукацыяй настаўніка, але падрыхтоўкаю яго да тэмы, або разьдзелу праграмы, пры складаньні плянаў распрацоўкі гэтай тэмы або разьдзелу, і нарэшце—падрыхтоўкай да кожнай лекцыі (ў парадку падбору дыдактычных матар'ялаў да лекцыі, распрацоўкі правільных і дакладных формулёвак і вывадаў, намячэньня паасобных прыёмаў працы і навыку для цьвёрдага засваеньня вучнямі). Разам з гэтым вызначаецца, якія палітыкавыхаваўчыя элемэнты павінны быць зьвязаны з навучальным матар'ялам лекцыі, каб сапраўды яны прасякалі зьмест лекцыі (вурока). Высокая ступень палітычнага разьвіцьця настаўніка—з аднаго боку,—дасканалае ўладаньне тэхнікай пэдагагічнага працэсу і зьместам дысцыпліны—з другога боку—зьяўляюцца рашаючым фактарам для пасьпяховай працы настаўніка, для ўменьня спалучаць выхаваўчыя задачы з задачамі цьвёрдага засваеньня асноў ведаў.

Пры распрацоўцы тэм па сельскай гаспадарцы, як аднэй з галін палітэхнічна-вытворчага навучаньня, якое ставіць задачаю вывучэньне ў тэорыі і на практыцы асноўных галін вытворчасьці, патрэбна пераважную частку часу адвесьці на вытворчую працу ва ўмовах, адпавядаючых узросту вучняў. Гэтая праца павінна быць дадзена сыстэматычна на аснове элемэнтарных навукова-тэхнічных ведаў і камуністычнай тэорыі перабудовы сельскай гаспадаркі. Засваеньне дзецьмі на працягу ўсяго вытворчага навучаньня гэтых асноў тэорыі надае фізычнай працы дзяцей і набыцьцю імі працоўных навыкаў пэўную мэтавую імкнёнасьць да сацыялістычнай перабудовы вытворчасьці, а таксама ўсьведамляецца дзецьмі сувязь тэорыі (як сыстэма ведаў) з практыкаю.

Прыступаючы да выкладаньня асноў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, настаўнік павінен быць знаёмы ня толькі з асновамі агранаміі, але грунтоўна вывучыць тыя пастановы цэнтральных партыйных і савецкіх органаў, на аснове якіх разгортваецца будаўніцтва сацыялістычнай сельскай гаспадаркі на даным этапе. і ведаць вопыт будаўніцтва і ўмацаваньня калгасаў, саўгасаў, якія асьвятляюцца ў друку. І нарэшце—вопыт работы свайго калгасу, саўгасу. Толькі гэтае знаёмства з сучасным будаўніцтвам калгаса, саўгаса, МТС, дасьць настаўніку той палітыка-выхаваўчы матар'ял, які павінен прасякаць праз увесь працэс навучаньня асновам агранаміі ў палітэхнічнай школе.

На аснове стабілізаваных, сыстэматычных праграм неабходна надаць кожнай лекцыі правільную палітыка-выхаваўчую установку. «Ва ўсякай школе самае важнае—ідэёва-палітычны напрамак лекцыі» (Ленін), а таксама лёкалізацыя на мясцовым матар'яле сацыялістычнага будаўніцтва сельскай гаспадаркі. Дадзеная распрацоўка праграмы па сельскай гаспадарцы на веснавы пэрыяд, зьяўляецца прыкладным плянам, схэмаю, ня можа вычарпаць той палітыка-выхаваўчы і лёкальны (мясцовы) матар'ял сац. будаўніцтва, які павінен быць скарыстаны ў парадку дэталізацыі лекцый у кожнай школе. Аднак мэтадычная распрацоўка праграмы па пэўнай дысцыпліне, плянаваньне яе павінна даць канкрэтную дапамогу масаваму настаўніку ў справе аўладаньня тэхнікаю пэдпрацэсу. Неабходна толькі карыстацца распрацоўкаю, як прыкладнай, прыстасоўваючы яе ва ўмовах данай школы, асаблівая-ж увага павінна быць зьвернута на падрыхтоўку да паасобных лекцый на падставе пляну тэмы.

Пляны веснавых тэм распрацаваны на аснове таго аб'ёму ведаў, работы, навыкаў, якія вызначаны апошняю праграмаю палітэхнічна-вытворчага навучаньня для I-IV году навучаньня палітэхнічнай школы.

### 1-ШЫ ГОД НАВУЧАНЬНЯ

Плян тэмы: **„ВЕСНАВЫЯ РАБОТЫ У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ" (15 ГАДЗІН)**

(з 10 сакавіка па 20 мая).

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальн. прылады і літаратура. Інструмэнты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі, вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | Сустрэча вясны ў калгасе, саўгасе. | | Экскурсія ў калгас з мэтаю паказаць галоўныя моманты падрыхтоўкі да вясновых прац. Узяць у калгасе ўзоры насеньня для веснавой сяўбы. Па дарозе паглядзець азімае поле. | |
| 3 | | Што сеюць у калгасе (саўгасе) і калі | Насеньне калгасу (узоры) | Распазнаваньне насеньня. Зрабіць калекцыю (падрыхтаваць скрыначкі з запалкавых каробачак) | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальн. прылады і літаратура. Інструмэнты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | Каляндар сельска-гаспадарчых прац за сакавік месяц у калгасе, саўгасе. | Запісы ў сшытках і складаньне кляснага насьценнага каляндара | У гутарцы паказаць значэньне падрыхтоўкі да веснавой сяўбы насеньня, с-г машын, коняй. | |
| 5 і 6 | | Кармленьне хатняй жывёлы ў ранькую вясну: каня, каровы, сьвіней, трусоў, курэй, пчол (значэньне запасаў корму на вясну). | Калекцыя галоўных кармоў і гэрбары кармавых расьлін. | Экскурсія на фэрму. Высьветліць, што ад веснавога севу залежыць у асноўным забесьпячэньне жывёлы кормам. Паказаць маладняк, жывелу і працу брыгады на скотным двары. Высьветліць, што ад догляду за канём залежыць пасьпяховае правядзеньне веснавога севу. | |
| 7 | | Якая праца ў садзе ўвесну? | Табліца (малюнкі) па догляду саду, артыкул для чытаньня. | У гутарцы падрыхтаваць дзяцей да экскурсіі ў сад. | |
| 8 | | Работы ў садзе. | | Экскурсія ў сад. Паказаць значэньне ачысткі і абрэзкі саду. | |
| 9 | | Працы на гародзе, у калгасе, саўгасе. | | Экскурсія на гародныя работы. | |
| 10 | | Каляндар - месячнік с-гаспадарчых работ за красавік месяц. | Запіс асноўных сельска-гаспадарчых работ у выглядзе табліцы. | Падагуліць нагляданьні дзяцей за месяц. | |
| 11 | | Праца на прышкольным вучастку па прывядзеньні ў парадак клюмб і дарожак. | Дзіцячыя прылады: лапаты, граблі, скрабкі, мётлы, насілкі. | Паказаць прыёмы работы прыладамі: лапатамі, граблямі, скрабкамі, мётламі. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальн. прылады і літаратура. Інструмэнты матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхавaўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 12 | | Працяг папярэдняй працы. | | Высьветліць значэньне работы і сувязь яе з работаю іншых груп на прышкольным вучастку. | |
| 13 | | Азнаямленьне з працаю ў полі. | | Паказаць ворыва трактарам і канём, пасеў яравых машынамі на экскурсіі. | |
| 14 | | Пасадка бульбы, буракоў у полі. | | Паказаць прыёмы пасадкі бульбы пад плуг (па вытворчай экскурсіі). | |
| 15 | | Падагульненьне працы і каляндар-месячнік с-гаспадарчых работ за май месяц. Якія галоўныя работы ў сельскай гаспадарцы на працягу лета. | Каляндары с-г работ за май месяц і за папярэднія месяцы. | Паўтарыць чаргаваньне галоўных с-г работ на працягу года, параўнаць каляндары-месячнікі за папярэднія месяцы. Правесьці гутарку аб летніх с-гаспадарчых работах. | |

Асноўнай задачай праграмы 1-га году навучаньня па сельскай гаспадарцы зьяўляецца азнаямленьне вучняў з чаргаваньнем сельска-гаспадарчых работ на працягу году і прывядзеньне ў пэўны парадак разрозьненых і выпадковых уяўленьняў дзяцей аб с.-г. работах. Пры гэтым увага і цікавасьць дзяцей павінна быць накіравана да працы ў калгасе, саўгасе.

Паводле гэтага тэма «Веснавыя работы ў сельскай гаспадарцы» павінна мець такі зьмест, каб паказаць вучням, якія галоўныя работы праводзяцца ў калгасе, саўгасе ўвесну і заахвоціць дзяцей да назіраньня над працягам сельска-гаспадарчых работ улетку. Галоўным мэтадам пры распрацоўцы гэтай тэмы павінен зьявіцца экскурсыйны, але неабходна некалькі лекцый адвесьці для працы на прышкольным вучастку.

Для прыкладу ніжэй даецца кароткі плян лекцый: адной лекцыі ў клясе і двух—работы на прышкольным вучастку, а менавіта—4, 11 і 12 лекцый.

ЛЕКЦЫЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ. Зьместам лекцыі зьяўляецца падагульненьне ведаў і працы вучняў за сакавік месяц і складаньне каляндара-месячніка с.-гаспадарчых работ у калгасе, саўгасе, у мэтах фіксаваньня і замацаваньня ведаў і назіраньняў.

Мэтадычка лекцыя арганізуецца ў выглядзе гутаркі з фіксаваньнем вывадаў у форме каляндара ў сшытках вучняў і з даручэньнем 1-2 вучням (пад кіраўніцтвам настаўніка) зрабіць агульны насьценны каляндар, які вывешваецца ў клясе. У гутарцы высьвятляецца, што сакавік месяц зьяўляецца рашаючым у падрыхтоўцы да веснавога севу, успамінаюцца і фіксуюцца асноўныя работы па падрыхтоўцы да веснавога севу: падрыхтоўка насеньня, с.-гаспадарчых машын, коняй, агульная гатоўнасьць калгасу, саўгасу да веснавой сяўбы і значэньне гэтага для забесьпячэньня ўраджаю.

Форма каляндара (прасьцейшая):

**Што рабілі ў калгасе „Новы шлях“ за сакавік месяц 1933 году**

| Палявая гаспадарка | Гарод | Сад | Скотны двор | Машынны сарай кузьня |
|---|---|---|---|---|
| Ачышчалі насеньне: лёну, аўсу, пшаніцы, ячменю. Перабіралі бульбу на насеньне. | Рабілі парнікі для расады капусты, бручкі, памідораў. | Ачышчалі і бялілі дрэвы. | Прыбыло ад ацёлу 10 цялят. Апарасілася 3 сьвіньні. | Рамонт калёс, плугоў, барон, агляд сеялак і інш. машын. |

Для большай нагляднасьці каляндар упрыгожваецца малюнкамі.

ЛЕКЦЫЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ. Зьместам яе зьяўляецца праца дзяцей на прышкольным вучастку. Задача—навучыцца прыёмам работы ручнымі прыладамі на працы па прывядзеньні ў парадак дарожак, клюмб прышкольнага вучастку (аб'ём работы разьлічыць на дзьве лекцыі). Прылады для працы: шнуры і калочкі, лапаты, скрабкі, граблі, мётлы, насілкі—ўсе прылады, прыстасаваныя да ўзросту вучняў.

Плян лекцыі: а) вызначыць агульную колькасьць работы на лекцыю і растлумачыць, што і якімі прыладамі рабіць, а таксама чаргаваньне работ (кароткая гутарка); б) падзяліць вучняў на зьвеньні паводле характару заданьня кожнаму зьвяну; в) разьмеркаваць прылады і адвесьці зьвеньням вучасткі (пункты), работы; г) паказаць правільныя прыёмы карыстаньня прыладамі паасобным вучням у працэсе працы.

ЛЕКЦЫЯ ДВАНАЦЦАТАЯ. Працяг работы на вызначаных зьвеньням вучастках і падвядзеньне вынікаў.

Кожнае зьвяно, маючы камплект прылад, прыводзіць у парадак вызначаную частку школьнага кветніка: лапатамі, скрабкамі праводзіцца ачыстка ад пустазельля і выраўноўваньне дарожак па шнуру ці па мінулагодніх адзнаках меж граблямі і мётламі робіцца акуратнае зграбаньне ў кучкі сьмецьця, якое на насілачках адносіцца на кампостную кучу. Дарожкі пасыпаюцца пяском, клюмбы агарожваюцца палачкамі, каменьчыкамі.

Пры гэтым дзеці павінны азнаёміцца з працаю, якая праводзіцца на клюмбах вучнямі 2-га году навучаньня, і ў гутарцы высьвятляецца сувязь паміж работаю абедзьвёх груп з мэтаю паказаць агульныя задачы працы, выклікаць пачуцьці калектыўнай адказнасьці за працу на школьным вучастку.

У канцы лекцыі праводзіцца кароткі агляд і ацэнка праробленай працы і яе вынікаў і здача рабочых прылад.

## II-гі ГОД НАВУЧАНЬНЯ

Плян тэмы: **„ЯК РОБІЦЦА ПАСЕЎ І ПАСАДКА РАСЬЛІН НА ГАРОДЗЕ“ (15 ГАДЗІН)**

(з 10-га сакавіка па 20 мая).

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады прапрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | Уступная гутарка аб веснавой рабоце дзяцей на прышкольным вучастку. | Паказаць насенны матар'ял для пасеву на школьных дзялянках і ў колгасе, саўгасе (насеньне гародных расьлін). | **Зьвярнуць увагу дзяцей на значэньне веснавой сяўбы, высьветліць іх знаёмства з галоўнымі момантамі падрыхтоўкі да сяўбы дома, ў колгасе, саўгасе.** | |
| 2 | | Падрыхтоўка скрынак з зямлёю для пасеву гародняга і кветкавага насеньня. | Падрыхтаваць да лекцыі скрынкі, зямлю, насеньне. | Паказаць прыёмы падрыхтоўкі зямлі ў скрынках. | |
| 3 | | Пасеў насеньня ў скрынкі на вокнах і разуменьне аб доглядзе іх. | Насеньне і скрынкі з глебаю | Паказаць прыёмы пасеву ў скрынкі і паліўку. Завесьці запіс разьвіцьця ўсходаў. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады прапрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | Закладка ў грунце расаднічкаў, памерам у 1 кв. мэтр, на прышкольным вучастку. Выбар месца, ачыстка, падрыхтоўка глебы. | Падрыхтаваць прылады для работы. | Перад работаю правесьці гутарку: — для чаго і як робіцца расаднік? | |
| 5 | | Падрыхтоўка расаднічку і пасеў насеньня капусты, бручкі. | Падрыхтаваць да лекцыі раму, мату (рагожу) для ацяпленьня расаднічку. | Растлумачыць дзецям значэньне аховы расьлін ад веснавых замарозкаў. | |
| 6 | | Як вырошчваюць расаду ў парніках? | | Экскурсія на парнікі колгасу, саўгасу. Растлумачыць, як даглядаюцца пасевы ў парніках. | |
| 7 | | Як робіцца пасадка расьлін карэньнямі, клубнямі, цыбулінамі? | Падрыхтаваць карэньні бурака, бручкі, клубні бульбы, цыбуліны. | Паказаць характар прарастаньня почак на клубнях, карэньнях, прарастаньне цыбуліны. | |
| 8 | | Пікіроўка расьлін, пасеяных у скрынках | Падрыхтаваць гаршчочкі ці скрынкі з зямлёю для пікіроўкі і прылады (калочкі). | Растлумачыць, для чаго робіцца пікіроўка. | |
| 9 | | Працяг папярэдняй лекцыі. | | Зрабіць пікіроўку, паказаць значэньне разьвіцьця карэньняў. | |
| 10 | | Падрыхтаваць на прышкольным вучастку месца для дзялянак і клюмб. | Шнур, калочкі, мэтр, латы і інш. паручныя прылады. | Ачысьціць і адзначыць калочкамі месца для дзялянак і клюмб. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 11 | | Падрыхтаваць глебу клюмб і дзялянак для пасеваў і пасадак. Накласьці кампост для ўгнаеньня. | | Растлумачыць дзецям правільную перакопку глебы, разрыхленьне і перамешваньне з гноем. | |
| 12 | | Зрабіць пасевы і пасадкі на дзялянцы буракоў (насеньня і кораня), радыскі, морквы, бульбы, цыбулі. | Падрыхтаваць калочкі з таблiцамі для адзнак пасеваў і пасада і насеньне, клубні, карэньні. | Растлумачыць, для чаго робяцца пасевы і пасадкі, і завесьці запіс работ по догляду дзялянак. | |
| 13 | | Зрабіць пасадкі расады капусты, бручкі з расаднічку і пасадкі кветак на клюмбах са скрынак. | Пасадачныя калочкі. Прылады для паліўкі. | Умець адрозьніваць па выгляду расьліны, якія садзяцца. Азнаёміцца з правіламі пасадкі і паліўкі расады. | |
| 14 | | Прыняць удзел у рабоце па пасадцы гародных расьлін. Азнаёміцца з роляю гароднага вучастку ў калгасе, саўгасе. | | Вытворчая экскурсія на калгасны, саўгасны гарод. | |
| 15 | | Падагульненьне. Вызначэньне парадку догляду дзялянак і клюмб на прышкольным вучастку вучнямі на працягу лета. | | Падзяліць вучняў на зьвеньні і ўстанавіць парадак дзяжурства (па тыднях). | |

Тэма «Як робіцца пасеў і пасадка на гародзе» падзяляецца па зьмесьце работы на тры часткі: 1) азнаямленьне вучняў з прасьцейшымі прыёмамі прарошчваньня насеньня, пікіроўкі ў скрынках і перасадкі расьлін у грунт; 2) пасеў і вырошчваньне расады ў расаднічку,—з перасадкаю ў грунт; 3) пасадка непасрэдна ў грунт карэньняў, клубняў, цыбулін і насеньня расьлін.

Пры пляанаваньні працы матар'ял павінен быць распрацаваны паводле сэзонных умоў, у выніку чаго названыя тры тыпы работ ідуць больш-менш паралельна, але для кожнай з іх адво-

дзяцца асобныя лекцыі. Такім чынам, вырошчваньне расьлін у скрынках, пікіроўка і пасадка ў грунт распрацоўваецца на лекцыях—2, 3, 8, 9, 10, 11, 13, вырошчваньне расады ў расадніку і пасадка яе на лекцыях—5, 6, 10, 11, 13, пасадка непасрэдна ў грунт праводзіцца на лекцыях—7, 10, 11 і 12. Апрача гэтага, першая лекцыя зьяўляецца ўступнай, 14 і 15—заключнымі.

Для прыкладу прыводзіцца плян распрацоўкі лекцый 2, 3 і 6.

ЛЕКЦЫЯ ДРУГАЯ: Зьмест працы: падрыхтаваць ваконныя скрынкі з зямлёю для пасеву ў іх гароднага і кветкавага насеньня; каротка азнаёміць дзяцей з насеньнем, якое прызначана для пасеву і плянам працы па вырошчваньні расьлін з гэтага насеньня; у працэсе працы азнаёміць вучняў з працэсам прарошчваньня насеньня ў глебе і значэньнем глебы ў самым пачатковы пэрыяд росту.

Прылады і матар'ялы для працы павінны быць падрыхтаваны да лекцыі загадзя: скрынкі, перагнойная прасеяная глеба, пясок, шуфлікі, насеньне (для кожнай скрынкі асобнае), напрыклад: памідоры і насеньне кветак).

Плян лекцыі: а) азнаёміць дзяцей з насеньнем, якое трэба засяваць у скрынкі, чаму яго спачатку патрэбна вырошчваць у скрынках; б) высьветліць, што вырошчваньне ў скрынках, расадніках, парніках расады гародных расьлін робіцца для таго, каб падоўжыць час росту тых расьлін, якія не пасьпелі-б даць ураджай за лета і вельмі баяцца халадоў у пачатку лета, а таксама для таго, каб, пакуль расьліны маленькія, вырошчваць іх гусьцей і гэтым самым траціць значна менш працы на апрацоўку глебы і догляд іх; в) нарыхтаваць скрынкі: падсыпка на дно пяску, або жарствы, чарапкоў, прымешваньне пяску да тлустай перагноенай глебы, таўшчыня пласту глебы ў скрынцы.

ЛЕКЦЫЯ ТРЭЦЯЯ. Працяг работы другой лекцыі. Падрыхтаваныя скрынкі засяваюцца даволі густа на глыбіню $\frac{1}{4}$—$\frac{1}{2}$ см. Для гэтага паверхню глебы ў скрынцы патрэбна выраўняць і прыгладзіць дошчачкай; затым расьсеяць насеньне і прысыпаць зьверху пластком рыхлай прасеянай глебы, паліць вадою праз густое сіта і пакрыць скрынку зьверху папераю, каб добра трымалася вільготнасьць, (зямля ў скрынцы павінна быць ніжэй верхніх краёў на 2-3 см.). На скрыначках робяцца надпісы, калі і што пасеяна.

У працэсе працы неабходна растлумачыць, якія ўмовы складзены для прарастаньня пасеянага насеньня ў скрынках: вільгаць, цяпло, рыхласьць глебы, няглыбокі пасеў.

У сшытках вучняў каротка запісваюцца і замалёўваюцца галоўныя моманты работы пад агульнаю назваю: «Нашы пасевы ў скрынках». Усе далейшыя назіраньні ў працы над гэтымі пасевамі павінны таксама фіксавацца пад гэтым загалоўкам на адпаведных лекцыях. Гэтым самым вучні прывучаюцца да вядзеньня запісаў назіраньняў і работ.



ЛЕКЦЫЯ ШОСТАЯ. Як вырошчваюць расаду ў парніках?

Лекцыя праводзіцца экскурсыйна ў калгасе, саўгасе або ў парнікова-цяплічнай гаспадарцы. Задача экскурсіі — паказаць вучням, пры якіх умовах вырошчваецца ў парніках расада розных расьлін: як робіцца ацяпленьне парнікоў, забесьпячэньне сонечным сьвятлом, якая глеба ў парніках, як набіваюцца парнікі, вільготнасьць і вэнтыляцыя парнікоў. Заўважыць, якія расьліны і для чаго вырошчваюцца ў парніках, якое значэньне мае вырошчваньне расады ў парніках для гароднае гаспадаркі калгасаў, саўгасаў.

III ГОД НАВУЧАНЬНЯ

Плян тэмы: **„ДОГЛЯД САДУ І ГАРОДУ ЎВЯСНУ“.** (15 гадзін)
(з 10-га сакавіка па 20-ае мая).

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | Агульны агляд саду пры школе, або ў калгасе, саўгасе. | | Экскурсія ў сад. Навучыць распазнаваць сухое гальлё, яечкі кольчатага шаўкапраду, мох, лішаі. Высьветліць неабходнасьць догляду саду. | |
| 2 | | Як зрабіць ачыстку дрэва і значэньне ачысткі і абрэзкі дрэва. | | Гутарка і паказ на дрэве, як робіцца ачыстка, абрэзка і пабелка. | |
| 3 | | Вытворчая праца па ачыстцы ствалоў і галін дрэў. | Прылады для ачысткі і абрэзкі дрэва. | Сабраць калекцыю па ачыстцы садовых дрэў. | |
| 4 | | Працяг папярэдняй працы; зграбаньне і зьнішчэньне лісьця і гальля ў садзе. | Падрыхтаваць граблі, насілкі, лапаты. | Азнаёміць з тым, што абрэзанае гальлё і лісьця зьяўляецца рассаднікам для шкоднікаў і хвароб расьлін. | |
| 5 | | Перакопка глебы навакол дрэва. Значэньне пераворваньня глебы ў садзе і ўгнаеньня саду. | Нарыхтаваць угнаеньне для вопытнай акопкі дрэў. | Паказаць прыёмы правільнай акопкі дрэў. У гутарцы азнаёміць, як праводзіцца апрацоўка глебы ў садзе машынамі і як скарыстоўваецца глеба саду. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 6. | | Барацьба са шкоднікамі саду (яблынавы доўганосік, кольчаты шаўкапрад). | Калекцыя шкоднікаў саду. Матар'ялы, сабраныя пры ачыстцы саду. | Азнаёміць з галоўнымі способамі аховы расьлін саду: ачыстка, пабелка вапнаю, узорваньне глебы, абтрахваньне і апырскваньне дрэў. | |
| 7. | | Падрыхтоўка глебы для пасадкі дрэўцаў на прышкольным вучастку. | Прылады для разьбіўкі дзялянкі, лапаты. | Азнаёміць з правільнымі прыёмамі падрыхтоўкі ям для пасадкі. | |
| 8. | | Пасадка дрэўцаў на школьным вучастку. | Нарыхтаваць дрэўцы (4 штулі) і кольлі. | Паказаць правільныя прыёмы пасадкі і падвязкі да кольляў. | |
| 9. | | Закладка пітомнічку дрэў на школьным вучастку (падрыхтаваць дзялянку ў 2 кв мт.). | Падрыхтаваць рабочы інструмант і ўгнаеньне. | У гутарцы высьветліць, ці бачылі вучні пітомнікі дрэў, і азнаёміць, для чаго і як робяцца пітомнікі дрэў садовых і лясных. | |
| 10. | | Пасеў насеньня яблыні, жоўтай акацыі ў пітомнічку. | Падрыхтаваць насеньне. | Паказаць прыёмы пасеву і способы аховы пітомнічку ад зарастаньня пустазельлем. | |
| 11. | | Як даглядаюцца пасевы на гародзе ўвесну. Значэньне зьнішчэньня пустазельля і шкоднікаў. | Падрыхтаваць артыкул для чытаньня і табліцы, калекцыі. | Гутарка, чытаньне артыкулу, паказ на табліцах і калекцыях. | |
| 12. | | Шкоднікі гароду: земляная блошка, капусная бялянка. | | Экскурсія на пашкоджаньні гародных расьлін земляною блошкаю, капуснаю бялянкаю. Ачыстка расьлін ад яечак і вусеняў, барацьба з земляной блошкай. | |
| 13. | | Правесьці праполку, гародніны ў колгасе, саўгасе, азнаёміцца з прычынамі засьмечаньня глебы пустазельлем (карэньні, насеньне). Азнаёміцца з работаю гароднай брыгады. | | Вытворчая экскурсія на праполку ўсходаў раньняга пасеву гародніны ў калгасе, саўгасе. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады і літаратура. Інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэана-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 14. | | Працяг папярэдняй лекцыі. | | Азнаёміцца з правільнымі прыёмамі праполкі, яе своечасовасьцю і значэньнем. | |
| 15. | | Падагульненьне. Арганізацыя летняга догляду школьных дзелянак, апрацаваных дзецьмі 2 і 3 клясы. | | Вызначыць канкрэтныя заданьні летніх нагляданьняў і работ вучняў, арганізаваць тыднёвыя дзяжурствы зьвеньняў з 3-4 вучняў. Завесьці сшытак для вядзеньня запісаў дзяжурных зьвеньняў. | |

У тэму: «Догляд саду і гароду ў весну» уключаюцца наступныя работы: 1) агляд і ачыстка саду (1-5 лекцыі), 2) пасадка дрэўцаў на прышкольным вучастку і закладка дзелянкі пітомнічку (6-10 лекцыі), 3) догляд пасеваў на гародзе і на школьным вучастку (11-15 лекцый).

Для прыкладу прыводзяцца пляны распрацоўкі 1, 2 і 3 лекцыі вытворчага характару.

ПЕРШАЯ ЛЕКЦЫЯ. Агульны агляд саду. Задача лекцыі—азнаямленьне са становішчам саду раньняй вясной: якія дрэвы растуць у садзе, дрэвы моцныя, здаровыя, дрэвы вельмі старыя і мёртвыя, маладыя дрэўцы непадвязаныя, з папсаванаю карою; сухое гальлё, мох і лішаі, шкоднікі на дрэвах, паламанае гальлё, гушчыня і парадак пасадкі дрэў. Глеба ў садзе: чым занята, як апрацавана. Хто даглядае сад.

Мэтад прапрацоўкі экскурсыйны. Аб'екты для паказаў вучням у садзе загадзя павінны быць вывучаны настаўнікам, каб паказ і гутарка насілі жывы характар, а экскурсія не была блуканьнем па садзе і простаю стратаю часу. Вынік экскурсіі—усьведамленьне дзяцей у неабходнасьці догляду саду і элемэнтарнае азнаямленьне з аб'ектамі догляду.

ЛЕКЦЫЯ ДРУГАЯ. Як зрабіць ачыстку дрэва і значэньне ачысткі і абрэзкі дрэва.

Задача лекцыі—паказаць, як робіцца ачыстка дрэва і абрэзка сухога гальля, які выгляд прымае агледжанае дрэва і значэньне гэтага. Работа праводзіцца або самім настаўнікам,

або робяцца назіраньні над работаю садоўніка. Паказваюцца і растлумачваюцца паасобныя прыёмы работы і карыстаньне прыладамі (скрабком, шчоткаю, пілкаю). Высьвятляецца, якое значэньне маюць прыёмы работ, каб не папсаваць кары дрэва, не параніць моцна дрэва пры абрэзцы сука і не выклікаць гнілі дрэва. Высьвятляецца шкоднасьць ад моху, лішаёў, ад пакінутых на галінках дрэва яечак кольчатага шаўкапрада. Паказаць значэньне абмазкі, пабелкі ствалоў.

ЛЕКЦЫЯ ТРЭЦЯЯ. Вытворчая праца дзяцей па ачыстцы ствалоў і галін дрэваў.

Пры вызначэньні работ, паасобным вучням трэба ўлічваць даступнасьць іх сілам тэй ці іншай работы, дзеля гэтага можна даручыць дзецям больш лёгкую работу па ачыстцы кары дрэў скрабнікамі, жалезнымі шчоткамі, здыманьне шкоднікаў, але абрэзка гальля, пабелка ня ўсім вучням можа быць даступна. Галоўная ўвага тут павінна быць зьвернута на сьвядомыя адносіны да працы і акуратнае выкананьне ўзятае працы. У мэтах арганізаванасьці і закончанасьці працы патрэбна выдзяліць пэўны лік дрэў (па 1-му дрэву на зьвяно з 3-4 вучняў) і плошчу пад імі на ўсе лекцыі, адведзеныя на работу ў садзе.

Частка дзяцей вылучаецца для збору калекцыі па ачыстцы саду (галінкі з кольцамі яечак шоўкапрада, з мохам і лішаямі, грыбкамі, сухія галінкі, узоры пашкоджаньняў кары і драўніны) Калекцыйны матар'ял павінен паслужыць дапаможным пры наступнай лекцыі ў клясе аб шкодніках саду.

## IV ГОД НАВУЧАНЬНЯ

**Плян тэмы: „ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА КАЛГАСУ, САЎГАСУ“ (15 гадзін)**

**(з 10 сакавіка па 20 мая).**

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады, літаратура, інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | Як апрацоўваецца глеба асноўнымі машынамі (агульнае азнаямленьне з работаю плугоў, барон, прапашнікаў, акучнікаў). | Падрыхтаваць артыкулы для чытаньня, табліцы. | Высьветліць знаёмства вучняў з асноўнымі спосабамі апрацоўкі глебы, папоўніць і прывесьці іх у сыстэму. Азнаёміць з асноўнымі машынамі да апрацоўкі глебы. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады, літаратура, інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 і 3 | | Галоўныя часткі плуга і іх работа. Бароны, культыватары, акучнікі. | Падрыхтаваць для разборкі плуг і (для паказу) іншыя машыны для апрацоўкі глебы. | Экскурсія ў калгас, саўгас. Зрабіць разборку і зборку коннага плуга, засвоіць назвы галоўных частак і іх прызначэньне. Азнаёміць з прыёмамі ўстаноўкі плуга, акучніка, культыватара на глыбіню | |
| 4 і 5 | | Значэньне МТС для сельскай гаспадаркі. Розьніца паміж трактарнымі і коннымі машынамі. | Падрыхтаваць для паказу асноўныя машыны для апрацоўкі глебы трактарнаю цягаю. | Экскурсія ў МТС. Высьветліць значэньне трактарнай цягі і ўдасканаленьня машын. Паказаць значэньне МТС для перабудовы сельскае гаспадаркі. | |
| 6 | | Падрыхтоўка насеньне для пасеву. Чытата і ўсходжасьць насеньня. | Сярэднія пробы насеньня калгасу, саўгасу. Калекцыі насеньня-пустазельля. | Паставіць досьледы на ўсходжасьць яравога насеньня. Правесьці гутарку аб значэньні ўсхожасьці і чыстаты насеньня для падвышэньня ўраджайнасьці. | |
| 7 | | Азнаямленьне з сартыроўкаю і ачысткаю насеньня на ёй. | Узоры неачышчанага і адсартаванага насеньня калгасу, саўгасу. | Азнаёміць з прыёмамі работы на сартыроўцы (трыумф) на экскурсіі. | |
| 8 | | Вынікі прарошчваньня пробы насеньня: падлік проценту ўсходжасьці. Падлік проценту чыстага насеньня ў 100 гр. сярэдняй пробы. | Падрыхтаваць сярэднія пробы калгаснага, саўгаснага насеньня для дасьледваньня. | Лябараторныя работы над дасьледваньнем насеньня на засьмечанасьць і падагульненьне вынікаў досьледаў на ўсходжасьць. | |
| 9 | | Як трэба сеяць. Пасеў радковы і раскідны. Колькі трэба высяваць на 1 *га* насеньня. | Падрыхтаваць артыкул для чытаньня і табліцы спосабаў пасеву. | Высьветліць розьніцу паміж радковым і раскідным пасевам і значэньне роўнамернай глыбіні пасеву для дружных ускодаў. | |

| Лекцыя | Тэрмін па раскладу | Зьмест лекцыі | Навучальныя прылады, літаратура, інструманты, матар'ялы | Мэтады распрацоўкі і вучэбна-выхаваўчыя задачы | Увага аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|---|
| 10 | | Прышкольная шматпольная дзялянка. Плян яе і падрыхтоўка пляцоўкі. | Прылады для вымерваньня і разьбіўка дзелянкі. | У гутарцы высьветліць задачу арганізацыі шматпольнай дзялянкі і плян працы на ёй. Завесьці журнал дзялянкі. | |
| 11 | | Апрацоўка глебы шматпольнай дзелянкі. | Прылады для ручной апрацоўкі глебы і ўгнаеньне. | Паказаць правілы перакопкі глебы, унясеньня ўгнаеньня, разрыхленьня паверхні глебы. | |
| 12 і 13 | | Засеў шматпольнай дзелянкі. Арганізацыя догляду дзелянкі ўлетку. | Падрыхтаваць і развужыць у пакетыках насеньне для пасеву, прылады для пасеву. | Паказаць прыёмы раўнамернага засеву дзелянкі радковым пасевам ручным спосабам, або сеялкай „Плянэта“. Паказаць, як весьці запісы ў журнале дзелянкі, і вызначыць парадак дзяжурств вучняў улетку. | |
| 14 | | Чаму патрэбна шматпольле. Севазварот саўгасу, калгасу. | Схэмы табліцы, севазвароту. Схэматычны плян пасева ў калгасе, саўгасе. | Гутарка. Заданьне для самастойнага агляду вучнямі пасеваў у калгасе, саўгасе. На лекцыі высьветліць значэньне севазвароту і пастаянных палявых брыгад. | |
| 15 | | Падагульненьне работ. Асноўныя мерапрыемствы партыі і Сав. улады ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці і умацаваньня калгасаў, саўгасаў. | Падрыхтаваць літаратуру для самастойнага чытаньня вучнямі ўлетку | Схэма гутаркі: 1. Буйная сацыялістычная сельская гаспадарка: саўгасы і калгасы; 2. МТС і мэханізацыя сельскай гаспадаркі; 3. Барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці ў веснавую кампанію; 4. Барацьба з клясавым ворагам--кулацтвам і яго агентурай,—які імкнецца сарваць правядзеньне веснавой сяўбы; 5. Ліквідацыя кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі. | |

Азнаямленьне вучняў IV групы з палявой гаспадаркай калгасаў (саўгасаў) зьяўляецца гадавой тэмай праграмы. Плян веснавых работ павінен прадугледжваць тую частку матар'ялу, якая прыпадае на веснавы час. Аднак, прымаючы пад увагу пераход на новыя праграмы ў сярэдзіне году, неабходна ў некаторых лекцыях прапрацаваць галоўныя моманты ўсёй праграмы, напрыклад: работы на прышкольным вучастку, экскурсія на МТС, азнаямленьне з машынамі для апрацоўкі глебы. У плян распрацоўкі глебы ўваходзяць лекцыі-гутаркі ў клясе, экскурсіі і работы на прышкольным вучастку (вопытная шматпольная дзялянка). Галоўнай выхаваўчай задачай прапрацоўкі тэмы зьяўляецца высьвятленьне значэньня мерапрыемстваў партыі і ўраду для падвышэньня ўраджайнасьці калгасаў і саўгасаў.

Для прыкладу падаюцца распрацоўкі пляну лекцыі 10, 11, 12, 13 (закладка шматпольнай дзялянкі) і 14 лекцыі-гутаркі аб шматпольлі.

ЛЕКЦЫЯ ДЗЕСЯТАЯ. Прышкольная шматпольная дзялянка. Плян і яе падрыхтоўка.

Задача лекцыі: паказаць на прыкладзе малой школьнай дзялянкі, як разьмяркоўваюцца і чаргуюцца пасевы пры шматпольным севазвароце, напрыклад, пры 8-міпольлі і азнаёміць вучняў з пастаноўкаю прасьцейшых вопытаў на невялікіх дзялянках. Пры высьвятленьні задач гэтай і наступных лекцый, вучням дэманструюцца табліцы шматпольнага севазвароту.

Адведзены для шматпольнай дзялянкі вучастак наносіцца на схэматычны плян і разьбіваецца на градкі («палі») аднолькавых памераў, вылічаецца плошча іх. Ад формы адведзенага вучастку залежыць і форма градак. Калі гэта простакутнік, дык можна разьбіць, яго на аднолькавыя па форме і па памерах загончыкі з дарожкамі паміж імі, шырынёю ў ½ мэтра. Калі вучастак падыходзіць па сваёй форме, дык магчыма разьбіць яго ў выглядзе круга ці 8-мікутніка, падзеленага на сэктары (трапэцыі) аднолькавай формы і плошчы з дарожкамі паміж імі каля ½ мэтра і з пляцоўкаю ў сярэдзіне круга (8-мікутніка). Апошні спосаб разьбіўкі зьяўляецца больш дэкаратыўным. Агульная плошча дзялянкі павінна быць невялікаю (некалькі дзесяткаў квадратных мэтраў), каб дзеці лёгка справіліся з ручною апрацоўкаю. Неабходна каб градкі, дарожкі мелі акуратны выгляд і насілі вучэбна-дэманстрацыйны характар. Межы дзялянак павінны быць адразу адзначаны калочкамі каля 40 см. даўжынёю, забітымі ў зямлю па кутох дзялянак (градак), каб яны толькі крыху ўзвышаліся над зямлёю.

У адпаведнасьці з выбранай схэмаю разьбіўкі дзялянкі на «палі» складаецца плян апрацоўкі і засеву. Карыстаньне ручнымі прыладамі пры апрацоўцы дзялянкі выклікае неабходнасьць імітацыі тых спосабаў апрацоўкі, якія прыстасоўваюцца ў палявой гаспадарцы. Напрыклад, першая дзялянка—папар

апрацоўваецца першапачаткова лапатаю, здымаючы верхні, тонкі пласт зямлі і пераварочваючы яго ўніз травою, а пасьля перасыханьня травы пласт барануецца жалезнымі граблямі, затым угнойваецца і перакопваецца на большую глыбіню. Другая градка павінна была быць засеяна ўвосень азімым (жытам), але з прычыны невыкананьня гэтага яе можна заняць жытам увесну, а затым увосень скасіць яго, а дзялянку апрацаваць пад чарговыя пасевы. Трэцяя дзялянка апрацоўваецца пад абсыпныя (бульба) і засаджваецца. Чацьвертая—засяваецца ярыною (аўсом) з канюшынаю. Пятая і шостая засяваюцца канюшынай (даволі густа, каб дзялянкі мелі выгляд занятых травамі). Сёмая—засяваецца лёнам і восьмая—ярыною. Кожная дзялянка апрацоўваецца ў тым парадку, як гэта прынята ў палявой гаспадарцы, пры гэтым сёмае поле можа засявацца або лёнам, або жытам.

Высьвятліўшы, такім чынам, у гутарцы з вучнямі і пры складаньні пляну дзялянкі, далейшы працяг працы на дзялянцы, заводзіцца запіс у журнале дзялянкі.

ЛЕКЦЫЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ. Апрацоўка шматпольнай дзялянкі.

Плян працы: а) падрыхтаваць патрэбны лік прылад для апрацоўкі глебы (шнур, 8 калочкаў з таблічкамі, лапаты, граблі); б) падзяліць клясу на 9-ць зьвеньняў—8 зьвеньняў па ліку градак і 9-ае дапаможнае для ачысткі дарожак і інш. дапаможных работ; в) вызначыць кожнаму зьвяну вучастак работы, прылады і растлумачыць задачу; г) зрабіць апрацоўку дзялянак і правесьці ў парадак дарожкі; д) забіць у зямлю супроць градак калочкі з таблічкамі і нумарам «поля»; е) правесьці падагульняючую гутарку і запіс у журнале.

ЛЕКЦЫІ ДВАНАЦЦАТАЯ і ТРЫНАЦЦАТАЯ. Пасеў на шматпольнай дзялянцы.

Работа праводзіцца зьвеньнямі ў тым самым складзе, што і на папярэдняй лекцыі. Да лекцыі павінна быць падрыхтавана і разважана патрэбная колькасьць насеньня ў асобных пакецыках. Пасевы рабіць радковым спосабам, а пасадку бульбы—пры дапамозе пасадчнага калочка. У канцы працы растлумачыць, як павінны чаргавацца пасевы на другі-трэці і г. д. гады на шматпольнай дзялянцы; устанавіць парадак догляду яе пасьля пасеву і на працягу лета. Вынікі працы за лекцыю і парадак догляду запісаць у журнал дзялянкі. Паказаць, як весьці запіс у журнале догляду пасеваў улетку.

ЛЕКЦЫЯ ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ. Чаму патрэбна шматпольле?

Лекцыя праводзіцца шляхам гутаркі, на падставе праробленай працы на прышкольным вучастку, з дапамогаю табліц сева-

зваротаў калгасу, саўгасу і дробных сялянскіх гаспадарак; высьвятляецца, чаму трохпалёўка перашкаджае падвышэньню ўраджайнасьці; даецца разуменьне аб месцы збожжавых расьлін, кармовых траў, лёну, прапашных расьлін у шматпольных севазваротах і аб тым, як скарыстоўваецца папаравы клін; як чаргуюцца расьліны пры трох, шасьці, васьміпольлі (напрыклад, трохпалёўка—папар, жыта, авёс; шасьціпольле—папар, жыта, бульба, авёс з пасевам канюшыны, канюшына, жыта); якое значэньне мае пасеў у папары лубіну, або вікі.

У выхаваўчых мэтах падкрэсьліваецца ў гутарцы неабходнасьць падпарадкаваць севазварот плянавым заданьням дзяржавы і раёну і значэньне калектывізацыі сельскай гаспадаркі для хутчэйшага ўвядзеньня шматпольля. Для самастойнага азнаямленьня вучняў з палявою гаспадаркаю калгасу, саўгасу, даецца заданьне высьветліць, што сее калгас, саўгас, і які севазварот ён завёў ці мяркуе завесьці.

## Аб удзеле школы ў веснавой пасеўнай кампаніі*)

**(Матадычны ліст Рагачэўскага Райана)**

1. Вясеньняя пасеўная кампанія 1933 г. мае выключна важнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні народна-гаспадарчага пляну першага году другой пяцігодкі. Сьнежанскі Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б высунуў у якасьці цэнтральнай задачы ўсіх арганізацый і ўстаноў у правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі «барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці і якасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці шляхам укараненьня і аўладаньня агратэхнікай, ва ўмовах поўнай перамогі саўгасаў і калгасаў», якая «ёсьць працяг разгорнутага сацыялістычнага наступленьня ў вёсцы, разгортваньня на больш высокай аснове барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за сацыялістычнае выхаваньне калгасных мас, за выхаваньне ў калгаснай масе сацыялістычных адносін да грамадзкай уласнасьці, разгортваньня барацьбы з рэшткамі кулацтва і кулацкім уплывам».

2. Пасеўкампанія праходзіць ў умовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва і клясава-варожыя элемэнты будуць імкнуцца арганізаваць сабатаж пасеўкампаніі, праводзіць шкодніцка-падрыўную работу ўнутры калгасаў шляхам псаваньня, раскрадваньня насеньня, падрыву працоўнай дысцыпліны, зрыву сяўбы і г. д.

---

*) Друкуецца ў парадку абмена вопытам—*Рэд.*

Гэта абавязвае ўсе культасьветныя ўстановы, кожнага настаўніка і культармейца ўзмацняць клясавую пільнасьць, разаблачаць клясавага ворага, зламаць сапраціўленьне кулацкага сабатажу, прымаючы ўсе меры ўзьдзейнічаньня. Нарыхтоўчая кампанія паказала, што некаторая частка асьветнікаў стаяла ў баку ад правадзімай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, чым выказалі салідарнасьць з клясавым ворагам, прыкрываючыся няверным тлумачэньнем пастановы партыі аб школе. Неабходна разгарнуць рашучую барацьбу з гэтымі асьветнікамі — агентамі клясавага ворага.

3. Школа зьяўляецца адным з вучасткаў клясавай барацьбы, а таму павінна быць зьвязана з агульным фронтам барацьбы рабочае клясы за сацыялізм. Удзел школы ў гаспадарча-палітычных кампаніях мае вялізнае значэньне, у межах камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

4. Вясеньняя пасеўная кампанія зьяўляецца для школы пэрыядам, найбольш падыходзячым для вывучэньня вытворчых працэсаў, працы машын, пратручваньня насеньня, арганізацыі працы і кіраваньня гаспадаркай.

Задача кожнай школы—правільна выявіць сваё мейсца ў правадзімай бальшавіцкай вясьне, не ламаючы вучэбных плянаў і праграм, не парушаючы цьвёрдага раскладу, поўнасьцю забясьпечваючы сыстэматычнае праходжаньне курсу, падпарадкаваць усю працу школы вучэбным і выхаваўчым мэтам школы.

5. Праца па вясеньняму севу не павінна прадстаўляць групу разрозненых грамадзка-карысных работ, а наадварот, павінна мець чоткую накіраванасьць на выкананьне менавіта тых задач, якія пастаўлены партыяй і ўрадам перад вясеньняй пасеўнай кампаніяй.

6. Ад кожнага загадчыка школы і настаўніка патрабуецца абдуманны падыход да выбару, у зьвязку з пасеўнай кампаніяй, такога канкрэтнага матар'ялу для вучэбнай працы і такіх аб'ектаў грамадзка-вытворчай работы, якія-б замацавалі і пашырылі веды, што патрабуюцца праграмай.

7. Пры разьвязваньні пытаньняў вясеньняй пасеўкампаніі настаўнікі павінны ўвязаць працу з вынікамі Аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), 3-й Сэсіі ЦВК СССР і Ўсесаюзнага Зьлёту ўдарнікаў калгасьнікаў.

8. У час пасеўкампаніі школа можа правесьці наступную работу:

а) растлумачыць калгасьнікам і бедняцка-серадняцкай масе вёскі пастанову Аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), 3-й сэсіі ЦВК СССР і іншыя пастановы партыі і ўраду па пытаньні пасеўкампаніі (выпуск першы).

Работа увязваецца з грамадазнаўствам і прыродазнаўствам.

б) Праверыць усхожасьць насеньня ў калгасе і выявіць яго гаспадарчую годнасьць (увязваецца з прыродазнаўствам).

в) Вывучыць сартыроўку насеньня. Прыняць удзел у пратручваньні і сартыроўцы (увязваецца з палітэхнічна-вытворчым навучаньнем і прыродазнаўствам).

г) Зьбіраць попел (грамадзка-карысная праца ў зьвязку з прыродазнаўствам).

д) Арганізаваць парнік, зямельны вопытны вучастак (практычная праца ў зьвязку з імі).

е) Дапамагаць калгасьнікам, брыгадзірам у разьліках, у пастаноўцы вучоту, у вымерваньні зямельных вучасткаў (праца ў зьвязку з матэматыкай).

ж) Арганізаваць насьцендрук, удзельнічаць школай у ім, паставіць вечар інсцэніроўкі і інш. (праца ўвязваецца з беларускай мовай).

з) Арганізаваць культпалатку ў калгасе, распаўсюджваць праз кнігаsuccessful сельска-гаспадарчую літаратуру, праводзіць аграчыткі (праца ўвязваецца з белмовай і літаратурай).

і) Ставіць вопыты па жывёлагадоўлі (дзе магчыма); догляд, кармленьне па нормах і г. д. (увязваецца праца з прыродазнаўствам).

к) У зьвязку з распаўсюджваньнем кніжок, заключыць ўмову з калгасам на тое, каб засеяць «культ-гэктар».

9. Пры выкладаньні прыродазнаўства неабходна памятаць, што яно павінна весьціся ў непасрэднай сувязі з вытворчай і грамадзка-карыснай работай вучняў. «Без работы, без барацьбы, кніжныя веды камунізму з камуністычных брашур і твораў роўна нічога ня варты» (ЛЕНІН—задачы Саюзу моладзі). Таму задачы веснавой пасеўкампаніі ня могуць быць абыйдзены ў часе прапрацоўкі праграмнага матар'ялу па грамадазнаўству.

10. Пры выкладаньні мовы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на падбор лёзунгаў, сказаў, апавяданьняў, апісаньняў і г. д. Трэба пашырыць слоўнік дзяцей. Выдаваць насьценгазэту ў калгасе, вытворчай брыгадзе, школе.

11. Праграма па матэматыцы, апрача іншых задач, ставіць сабе мэту і навучыць вучня карыстацца лікам і мерай для вывучэньня асаблівасьцяй акаляючага жыцьця, з мэтай яго зразуменьня і для актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, таму ў задачах па матэматыцы павінны адбіцца і пытаньні, зьвязаныя з вырашэньнем веснавой пасеўкампаніі.

12. У зьвязку з выкладаньнем прыродазнаўства настаўнік павінен арганізаваць рад досьледаў над прарошчваньнем насеньняў, арганізаваць вопытныя вучасткі і ўзорна паставіць працу, парнікі, зьбіраць попел і г. д. Вучні павінны замацоўваць веды праз чытаньне агранамічнай літаратуры, распаўсюджваць набытыя веды праз гутаркі, даклады і г. д.

Неабходна ажывіць працу гурткоў па вывучэньні сельскай гаспадаркі, як у школе, так і па-за школай. Выканаць дырэктыву РайАНА і РК Саюзу Працасьветы аб арганізацыі 2-х агра-

птушатнікаў у калгасе. Разгарнуць працу па вывучэньні тэхнікі сельскай гаспадаркі. Вывучыць з вучнямі пытаньне севазвароту. Арганізаваць экскурсіі па вывучэньні сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчых машын у калгасы і саўгасы.

13. У часе веснавой пасеўкампаніі ў першай групе можна прарабіць наступную працу: па грамадазнаўству пры праходжаньні тэмы «Вёска» ёсьць мажлівасьць поўнасьцю скарыстаць матар'ял па вясеньняму севу—клясавую барацьбу, калгаснае будаўніцтва, ролю партыі ў гэтым, перавагу буйнай гаспадаркі над дробнай—усе бакі грамадзкай і вытворчай працы калгасу лепш за ўсё паказаць цяпер—у часе вясеньняй пасеўкампаніі.

Праграма па прыродазнаўству патрабуе таго, каб дзеці правялі прарошчваньне насеньня: аўсу, збожжа, гароху, фасолі. Гэта праца вызначана ў канцы праграмы, але ў зьвязку з пасеўнай кампаніяй прарошчваньне насеньня, догляд за ім—неабходна арганізаваць зараз.

Нагляданьне за прарошчваньнем насеньня павінна мець практычныя вынікі для калгасу і школы. Трэба давесьці дзецям, якое значэньне мае добраякасны насенны матар'ял.

Неабходна выканаць усе практычныя (у зьвязку з прыродазнаўствам) работы, што вызначана праграмай.

Праграма па палітэхнічна-вытворчым навучаньні вызначае наступныя работы: «падтрыманьне парадку на вучастку і ахова расьлін; ачыстка дарожак, клюмб; збор кветкавага і гароднага насеньня». Вучні павінны прарабіць наступныя экскурсіі вытворчага характару ў калгасы і саўгасы і на веснавую сяўбу, на пасеку, на веснавую рунь, на пасадку бульбы, капусты, на першую праполку град.

У часе веснавой кампаніі вучні першай групы павінны навучыцца карыстацца «скрабком, граблямі і мятлою, дзіцячаю лапаткаю».

У зьвязку з азнаямленьнем—як праведзена падрыхтоўка да веснавой сяўбы—дзеці павінны азнаёміцца з галоўнай цягавай сілай—канём, кармамі для яго, а таксама выявіць пытаньне з кармамі для трусоў, кароў, сьвіней і г. д.

Вучні першай групы праводзяць апрацоўку глебы і пасеў у гародзе, даглядаюць сад, зімовыя пасевы і назіраюць за апрацоўкай глебы і веснавым севам.

З мэтай выяўленьня перавагі машыннай працы перад індывідуальнай ручной—трэба арганізаваць 2-3 экскурсіі ў саўгас ці калгас для знаёмства з сеялкай, трактарам і іншымі машынамі.

Пры вывучэньні мовы трэба шырока ўжываць матар'ял пасеўкампаніі (лёзунгі, сказы, інсцэніроўкі і інш.).

Пры выкладаньні матэматыкі разьлікі і вылічэньні і г. д. павінны замацоўваць веды і навыкі дзяцей па ма-

тэматыцы па матар'яле пасеўкампаніі свайго калгасу, вёскі, сельсавету.

14. У часе пасеўкампаніі ў II групе ў зьвязку з праходжаньнем грамадазнаўства, шляхам практычнага ўдзелу ў пасеўкампаніі, вучні павінны замацаваць набытыя раней веды па тэме «Калгас і яго работа». Неабходна завастрыць асаблівую ўвагу на гаспадарча - арганізацыйным умацаваньні калгасаў, ролі партыі ў гэтым, клясавай барацьбе, арганізацыі працы ў калгасе, у зьвязку з апошнім можна сіламі вучняў правесьці збор рацыяналізатарскіх прапаноў.

Праграма палітэхнічна-вытворчага навучаньня патрабуе ў асноўным знаёмства з гароднінай, таму патрэбна зьвярнуць увагу на працу II групы на прышкольным зямельным вучастку.

Пры праходжаньні прыродазнаўства неабходна раней дабытыя веды па тэме «Расьліны поля, гароду, саду» ужыць на практыцы, праз удзел, на падставе пляну настаўніка, у працы на прышкольным вучастку, у фруктовым садзе, у полі.

Згодна праграмы, абавязкова арганізаваць працу дзяцей ўлетку.

Пры ўвязцы праграм па мове і матэматыцы з вясеньняй пасеўкампаніяй — неабходна карыстацца ўказаньнямі па 1-й групе.

15. III група, у часе пасеўкампаніі па грамадазнаўству будзе падагульняць тэму «Цяперашняя барацьба рабочае клясы ў нашай краіне з ворагамі працоўных».

Трэба зьвярнуць увагу на імкненьне клясавага ворага шкодзіць калгаснаму будаўніцтву, арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, вучоту калгасаў і г. д. (Скарыстаць прамову т. Сталіна «Аб рабоце на вёсцы» і даклад т. Якаўлева на III сэсіі ЦВК, а таксама прамову т. Сталіна на зьезьдзе ўдарнікаў-калгасьнікаў).

Па тэмах 7, 8 і 9 («Камсамол», «Камуністычная партыя» і «Барацьба за сацыялізм—завет Леніна»), усьвядоміць, што камуністычная партыя і камсамол змагаюцца за сацыялістычнае будаўніцтва і ліквідацыю кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі, гаспадарча-арганізацыйнае ўмацаваньне калгасаў, вядуць барацьбу за ўраджай і інш. пытаньні.

Пры распрацоўцы гэтых тэм патрэбна іх увязаць з вынікамі Аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б). Паказаць нашы дасягненьні ў дыяграмах, схэмах, малюнках і г. д. Таксама, пад кіраўніцтвам настаўніка, можна арганізаваць чытку газэт і кніг, удзельнічаць у насьценгазэце, пісаць плякаты, арганізаваць распаўсюджаньне кніжок праз кнігаНОШ.

Пры праходжаньні тэмы па прыродазнаўству «Жыцьцё расьлін», на падставе пасеўнага матар'ялу, пра-

весьці нагляданьне над расьлінамі, а таксама і садовымі дрэвамі. Побач з падагульненьнем тэмы «Глеба, яе састаў і карысныя выкапні» вывучыць глебу прышкольнага зямельнага вучастку і зямлі вучастку, абмеркаваць спосабы ўгнаеньня глебы, практычна ўдзельнічаць у гэтай працы. Арганізаваць некалькі экскурсій у саўгас і калгас. Выканаць праграмнае заданьне на лета.

Па палітэхнічна-вытворчым навучаньні наладзіць выраб для пасеву расьлін скрынак і для птушак—шпаковень. Намеціць і ажыцьцявіць практычныя мерапрыемствы па барацьбе з пустазельлем у гародзе і школьнікамі ў гародзе і садзе. Разгарнуць працу па ўборцы саду. Даць, згодна праграмы, ўсе вызначаныя навыкі (стар. 17—18).

Пры выкладаньні мовы трэба складаць апісаньне працы ўдарнікаў, заметкі аб ходзе пасеўкампаніі і г. д.

Па матэматыцы, апрача задач, зьвязаных з пасеўкампаніяй (пасеўны плян, перавага машыннай працы перад ручной, соц. спаборніцтва і ўдарніцтва і г. д.), неабходна наладзіць вымерваньне зямельных вучасткаў у калгасе (квадрат, трыкутнік).

16. IV група ў зьвязку з вывучэньнем тэмы па грамадазнаўству «Кастрычніцкая рэвалюцыя» павінна ўсьвядоміць кіруючую ролю камуністычнай партыі і савецкай улады ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыі краіны, рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і барацьбы з клясава-варожымі элемэнтамі, выявіць рост саўгасаў і калгасаў, павышэньне ўраджайнасьці і даходнасьці сельскай гаспадаркі, палепшаньне матар'яльнага становішча сялян і г. д.

Матар'ялам для паказанай працы зьявіцца даклад т. Сталіна на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), прамова т. Сталіна на Ўсесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў і даклад яго аб рабоце ў вёсцы, пастановы пленуму, а таксама народна-гаспадарчы плян на 1933 год. У зьвязку з тэмай завастрыць увагу на вызваленьні жанчыны і ўдзеле яе ў сац. будаўніцтве.

Тэму «Будаўніцтва сацыялізму і абароны краіны» цалкам увязаць з вынікамі студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК, а таксама скарыстаць як матар'ял даклад т. Варашылава аб выніках пяцігодкі на сходзе партактыву Маскоўскага гарнізону і даклад аб 15-ці годзьдзі Чырвонай Арміі.

Матар'ялы абавязкова аформіць у выглядзе схэм, дыяграм, лёзунгаў, плякатаў. Стварыць куток сацыялістычнага будаўніцтва.

На падставе вывучэньня дасягненьняў саўгаснага і калгаснага будаўніцтва праверыць—як падрыхтаваны да веснавой сяўбы: машыны, насеньне, інвэнтар, коні, пляны і інш.

Праграма па палітэхнічна-вытворчым навучаньні пабудавана такім чынам, што цалкам уключае групу ў вясеньнюю пасеўкампанію (апрацоўка глебы, знаёмства з сельска-гаспадарчымі машынамі, падрыхтоўка цягавай сілы, веданьне пабудовы раду сельска-гаспадарчых машын, значэньне шмат-

польля, кармавыя пасевы, значэньне кармоў, жывёлагадоўля, МТС і г. д.). Апрача пералічанага, на падставе праграмы, можна правесьці шэраг практычных работ на прышкольным вучастку і азнаёміць дзяцей з севазваротам, а таксама ўжываньня электрычнасьці ў сельскай гаспадарцы.

Матар'ялам для разьвязваньня задач па матэматыцы павінны быць заданьні па вылічэньні пасеўнай плошчы ў саўгасе і калгасе БССР і СССР, разгляд пляну вясеньняй пасеўкампаніі, вылічэньне колькасьці насеньня і інш. Задачы павінны па зьместу і складанасьці адпавядаць узросту дзяцей IV-й групы.

Па прыродазнаўству ў часе пасеўкампаніі праходзіцца тэма «Будова і работа чалавечага цела». Вучні павінны мабілізаваць грамадзкую думку праз насьцендрук па пытаньню грамадзкага харчаваньня ў часе севу, арганізаваць культадпачынак для калгасьнікаў (чытка газэт, пастаноўкі і г. д.).

Па мове праца будзе мець тыя-ж формы, што ў 1—3 групах, але з больш глыбокім зьместам, адпавядаючым узросту дзяцей IV групы.

17. У зьвязку з выкладаньнем грамадазнаўчых дысцыплін у II канцэнтры ёсьць магчымасьць, выходзячы з праграм, уключыцца ў пасеўкампанію, падпарадкуючы працу вучэбным і выхаваўчым мэтам школы.

Тэма па грамадазнаўству ў V групе «У нас у СССР» дае багата матар'ялу для ўключэньня ў пасеўкампанію і скарыстаньня матар'ялаў Студзеньскага пленуму і III-й сэсіі ЦК і ЦКК.

Тэмы па геаграфіі ў VI групе «Сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі» і «Сельская гаспадарка БССР» грунтоўна зьвязаць з задачамі пасеўкампаніі 1933 г.

У VII групе, у зьвязку з вывучэньнем сталыпінскай рэформы, па курсу гісторыі клясавай барацьбы паказаць шкодніцкую палітыку царскага ўраду і прышчэпаўшчыны ў галіне сельскай гаспадаркі, і мабілізаваць увагу вучняў на выкананьне дырэктыў кампартыі і ўраду па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

У II канц., як і ў першым, неабходна стала распрацаваць на палітгуртках і на лекцыях Студзеньскі пленум ЦК і ЦКК і III сэсіі ЦВК СССР УсеКП(б) і калгаснага зьезду.

18. Праграма па беларускай літаратуры дапамагае асьвяціць з мастацкага боку асобныя моманты вясеньняга севу ў V, VI і VII групах. Выкладчык павінен выпяціць гэтыя моманты.

19. Пры выкладаньні мовы апрача таго, што матар'ялам павінна зьявіцца пасеўкампанія, разьдзел «Тэхніка разьвіцьця вуснай і пісьмовай мовы: работа з кнігай і газэтай» дапамагае арганізаваць, у зьвязку з севам, рад прац.

Па курсу V групы калектыўны запіс гутарак у часе экскурсій, укладаць сьпіскі калгасьнікаў, правесьці сьпіс інвэнтару ў калгасе, складаць пісьмовы плян працы ў калгасе, майстэрні і г. д., весьці дзеньнік, як форму ўліку, пісаць пратаколы простай формы.

Па курсу VI групы можна складаць рапарты аб ходзе пасеўкампаніі, заметкі ў газэту, укладаць соц. умовы і інш.

Па курсу VII групы можна правесьці апісаньне работ у калгасе, укладаць невялікія творы з жыцьця калгасу і саўгасу ў часе севу, укладаць слоўнік у зьвязку з працамі, якія праводзяцца і г. д. Трэба таксама паглыбляць зьмест працы V і VI груп.

20. Пры выкладаньні фізыкі ў VI групе правесьці экскурсію з мэтай азнаямленьня з трактарам, а ў VII—гр. правесьці сталае вывучэньне трактару, азнаёміцца па ім з рознымі законамі, што вывучаюцца па курсу фізыкі.

21. Па матэматыцы ў V гр. наладзіць вылічэньне пасеўплошчы, патрэбнай колькасьці насеньня і ўгнаеньня. Правесьці азнаямленьне з арганізацыяй ўліку і плянаваньня працы ў калгасе. Удзельнічаць у разьбіўцы зямлі на вучасткі, арганізаваць севазварот на прышкольным гародзе, разьвязваць задачы з матар'ялам пасеўкампаніі.

У групе трэба правесьці тыя працы, што і ў V-й, але з больш глыбокім зьместам.

VII група можа стала ўдзельнічаць у разьбіўцы зямлі ў калгасе для севазвароту.

22. Праграма па палітэхнічна-выхаваўчаму навучаньню ў V групе дае мажлівасьць, побач з праходжаньнем апрацоўкі дрэва і мэталю, выраблять простыя прылады для апрацоўкі зямлі (граблі, лапаты), папраўляць нескладаныя сельска-гаспадарчыя прылады як для прышкольнага вучастку, так і для калгасу.

Пры вывучэньні разьдзелу «Сельская гаспадарка» неабходна зьвярнуць ўвагу на вызначаныя працы і навыкі праграмай. На прышкольным вопытным вучастку наладзіць севазварот, правесьці паказальную апрацоўку глебы пад гародныя расьліны ручнымі прыладамі. Побач з гэтым правесьці досьледы над глебай (праграма стар. 25) і набыць вызначаныя навыкі.

Разьдзел «Угнаеньне глебы» цалкам увязаць з задачамі пасеўкампаніі 1933 г. Правесьці досьледы над угнаеньнем глебы, прарашчваньнем і г. д.

Вучняў V гр. пасылаць на практыку ў калгасы, на адпаведныя праграме пункты вытворчага навучаньня.

VI-я група па мэталю і дрэваапрацоўцы, побач з паглыбленьнем ведаў і навыкаў V групы, павінна ўскладняць выраб прылад для школьнага зямельнага вучастку. Побач з праграмнай працай

па сельскай гаспадарцы (стар. 29—30) вучні павінны ўдзельнічаць ў ссыпцы, ачысткі і пратручваньні насеньня. Трэба правесьці сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкай часткі вёскі растлумачальную працу аб значэньні своечасовага пасеву і г. д. (намеціць працы ў калгасе згодна праграмы). Вучні павінны ўдзельнічаць у правадзімай агратэхпрапагандзе. Вызначаныя праграмай працы і навыкі вучні павінны набыць праз удзел у вясеньняй пасеўкампаніі. Неабходна арганізаваць працу дзяцей ўлетку за доглядам расьлін і г. д. VII група пры вывучэньні мэталяапрацоўкі можа ўключыцца ў рамонт больш складаных сельска-гаспадарчых машын. Вывучаючы праграмны матар'ял па разьдзелу «Сельская гаспадарка», які зьвязан з жывёлагадоўляй, апрача пералічаных прац у праграме, вучні павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку каня да веснавога севу: праверыць яго стойла, арганізаваць кармленьне па нормах (як і інш. жывёл), падлічыць кармовыя рэсурсы і г. д. Вынікам усёй працы павінна зьявіцца арганізацыя пры школе птушкаводніцтва, трусагадоўлі і жывёлагадоўлі.

23. Правядзеньне пасеўкампаніі ўвязаць з задачамі камуністычнай партыі і ураду ў галіне збожжанарыхтовак, калгаснага гандлю і закупкі збожжа дзяржавай.

24. Піанэрарганізацыя павінна ўмацаваць вучэбную работу ў школе, павінна паказаць ўзоры арганізаванасьці, дысцыплінаванасьці, добрай якасьці і актыўнасьці ў вучэбнай працы ў зьвязку з вясеньняй пасеўкампаніяй.

25. Вучнёўскае самакіраваньне павінна арганізаваць ініцыятыву вучняў на ўдзел у вясеньняй пасеўкампаніі, на выкананьне пасільнай грамадзкай працы, падпарадкуючы яе вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Цэнтральнай задачай вучнёўскага самакіраваньня зьяўляецца барацьба за якасьць вучобы, таму з боку вучкому і яго органаў павінна быць разгорнута барацьба за правільнае злучэньне навучаньня з вытворчай працай (барацьба за выкананьне поўнасьцю і ў тэрмін вучэбных праграм, за правільнае і раўнамернае разьмеркаваньне грамадзкай працы, за сыстэматычны кантроль над выкананьнем заданьняў па вучэбнай і грамадзкай рабоце ў часе пасеўкампаніі).

26. Для належнага выкананьня вызначанай працы неабходна кожнай школе мець стала распрацаваны плян удзелу ў веснавой сяўбе, абгавораны на сходах вучняў, школьным савеце, калгасьнікаў і бацькоў, для чаго трэба вывучыць калгас ці саўгас, загадзя наладзіць сувязь з мясцовымі арганізацыямі: партячэйкай, сельсаветам, хатай-чытальняй. Неабходна, як правіла, работу канцэнтраваць у адным з калгасаў, да якога прымацавана школа.

27. Гэты мэтадычны ліст тэрмінова распрацаваць на сельмэтадаб'яднаньнях і пратаколы даслаць у РайАНА.

*Лазарэнка М. М.*

# Аб мэтодыцы і арганізацыі вытворчай практыкі студэнтаў с.-г. ВНУ і Тэхнікумаў

Падрыхтоўка кадраў для сацыялістычнай народнай гаспадаркі, якая разгортваецца на аснове апошніх дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі, немагчыма без дыялектычнай сувязі тэорыі з практыкай.

Гэта сувязь і вызначае якасьць патрэбнага нам спэцыяліста, які ў сьвятле другой пяцігодкі і пабудовы бясклясавага грамадзтва, на базе высокай тэхнікі, асабліва яскрава вырысоўваецца. «Кожная тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна не зьвязваецца з рэвалюцыйнай практыкай, таксама, як і практыка становіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе шляху рэвалюцыйнай тэорыяй» (Сталін).

Канстатуючы гістарычна важныя дасягненьні вышэйшай школы і тэхнікумаў СССР, у справе пастаноўкі вытворчай практыкі студэнтаў, ЦВК—пастановай ад 19/IX-32 г. адзначае і шэраг існуючых да гэтага часу недахопаў у фактычным правядзеньні і арганізацыі гэтай практыкі, як-та: недастатковая сувязь вытворчай практыкі з спэцыяльнымі дысцыплінамі, выкарыстоўваньне студэнтаў у час практыкі на некваліфікаваных работах, часты перавод практыканта з аднаго рабочага месца (станка) на другое і г. д.

«Ажыцьцяўленьне сусьветна-гістарычных задач другой пяцігодкі, задач завяршэньня рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньня навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі,—прад'яўляюць павышэньня запатрабаваньняў да тэарытычнага ўзроўню савецкіх спэцыялістаў-інжынэраў, тэхнікаў, аграномаў, ад якіх патрабуецца» (з рэз. Пленуму ЦК КП(б)Б)

«усё больш высокая кваліфікацыя, аўладаньне глыбокімі ведамі навуковых асноў сучаснай тэхнікі, веданьне сыстэмы савецкай гаспадаркі і яе плянаваньне і практычнае азнаямленьне з пастаноўкай спэцыялізаваных вытворчасьцяй ва ўмовах перадавой тэхнікі» (з пастановы ЦВК СССР).

## Мэта, задачы і зьмест вытворчай практыкі

1. Вытворчая практыка студэнтаў ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў мае сваёй мэтай,—шляхам арганізаванага спалучэньня атрыманых студэнтамі ў навучальнай установе ў дастатковым для сваёй кваліфікацыі (інжынэр, тэхнік і г. д.) аб'ёме тэарытычных ведаў, як агульных, гэтак і вузка-спэцыяльных, з практычным іх ужываньнем у жыцьці і вытворчасьці, забясьпечваць падрыхтоўку

кадраў спэцыялістаў, адпавядаючых запатрабаваньням сацыялістычнага будаўніцтва.

2. У працэсе вытворчай практыкі на студэнта ўскладаюцца дваякага роду задачы:

а) асвоіць вытворчыя і грамадзка-палітычныя навыкі дадзенай вытворчасьці;

б) быць перадавым сябрам калектыва ў справе падняцьця вытворчага прадпрыемства на высокую навуковую базу, шляхам павышэньня кваліфікацыі рабочай масы і ўдасканаленьня ўсяго арганізуючага апарату на аснове навукі і тэхнікі. Адгэтуль зразумела, што на вытворчую практыку нельга глядзець толькі як на пэдагагічны працэс, адарваны ад сапраўднага жыцьця, нельга, з другога боку, разглядаць работу практыканта бяз уліку яго пэдагагічных, навуковых задач.

Абодвы бакі практыкі павінны зьяўляцца адзіным цэлым аднаго і таго-ж працэсу падрыхтоўкі неабходных нам кадраў спэцыялістых.

Тэорыя, лябараторыя і вытворчасьць—ёсьць асноўныя зьвеньні паняцьця вытворчых працэсаў.

Канкрэтна,—задачы і зьмест вытворчай практыкі фармулююцца наступным чынам:

а) аўладаньне асноўнымі вытворчымі навыкамі па характэрных для дадзенага тыпу спэцыяліста прыладзьдзях, як у межах яго спэцыяльнасьці, так і ў межах спэцыяльнасьцей з ёй цесна зьвязаных;

б) асваеньне канструкцыі прыладзьдзяў (орудий) вытворчасьці і іх тэхнічна-эканамічнай базы;

в) вывучэньне тэхналёгічнага працэсу і структуры дадзенай вытворчасьці (цэху) па-спэцыяльнасьці і па блізкіх да яе цэхах па тэхналёгічнаму працэсу;

г) вызначэньне арганізацыйна-кіруючай структуры прадпрыемства;

д) навукова-дасьледчая, кантрольна-бракавачная і лябараторная работа;

е) вывучэньне эканомікі прадпрыемства і месца яго ў сыстэме дадзенай галіны прамысловасьці (сельскай гаспадаркі) і народнай гаспадаркі ў цэлым;

ж) грамадзка-палітычная работа ў дадзеным прадпрыемстве, пад кіраўніцтвам мясцовых, партыйных і прафэсыйных арганізацый;

з) дапамога рабочым масам прадпрыемства ў аўладньні тэхнікай.

Вытворчая практыка—зьяўляецца абавязковай для ўсіх, бяз выключэньня, студэнтаў, у тым ліку і для студэнтаў, маючых вытворчы стаж да паступленьня ў ВНУ, тэхнікум. Аднак, на першай ступені практыкі, у частцы набыцьця элемэнтарных вытворчых

навыкаў, наяўнасьць вытворчага стажу павінна ўлічвацца з тым, каб адхіліць паўтарэньне апэрацый, дастаткова знаёмых практыканту.

## Арганізацыя вытворчай практыкі, праграмы, кіраўніцтва і вучот

Асноўнымі арганізацыйна-мэтадычнымі праблемамі вытворчай практыкі ў сучасны момант зьяўляецца:

а) пытаньне—аб падрыхтоўцы студэнтаў да работы прадпрыемства;

б) выбар працоўных месц;

в) пэрыяды тэарытычнага і вытворчага навучаньня і формы іх чаргаваньня;

г) рабочыя праграмы вытворчай практыкі і сувязь тэорыі з практыкай;

д) формы арганізацыі студэнтаў у працэсе вытворчай практыкі;

е) кіраўніцтва вытворчай практыкай;

ж) вучот працы;

з) грамадзка-палітычная работа студэнтаў у час вытворчай практыкі;

і) умовы паміж навучальнай установай і вытворчым прадпрыемствам.

1. Для таго, каб забясьпечыць студэнтам сапраўдную магчымасьць сьвядома працаваць у вытворчасьці, неабходна перш за ўсё падрыхтаваць кожнага студэнта да яго работы.

Гэтая падрыхтоўка павінна быць як тэарытычная, так і практычная. Тэарытычная падрыхтоўка дасягаецца пляніроўкай і прапрацоўкай адпаведнага тэарытычнага мінімуму.

ЦВК СССР у пастанове аб вучэбных праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах, яскрава адзначыў: «неабходна зьвязаць у адзін вучэбны працэс тэорыю і практыку з такім разьлікам, каб кожная ступень вытворчай практыкі была падпарадкавана праходжаньню адпаведнай часткі тэарытычнага курсу».

Вытворчую практыку павінна папярэджваць—першапачатковая (тэхналёгічная) практыка, якую студэнты праходзяць у лябараторыях, майстэрнях, клініках, дасьледчых палёх і г. д., з тым каб накіроўваючыся на вытворчую практыку—у вытворчае прадпрыемства, студэнты мелі належную папярэднюю падрыхтоўку. Падрыхтоўчая практыка павінна праводзіцца на першым курсе тэхнікумаў, ВНУ і ВТНУ, з трохгадовым тэрмінам навучаньня, на першым і другім курсах ВНУ і ВТНУ, з 4-х і 5-ці гадовым тэрмінам навучаньня.

Падрыхтоўчая практыка павінна прадстаўляць сабой пераход ад габінэтных, лябараторных работ студэнта да вытворчасьці,

яна павінна падмацоўваць ва ўмовах канкрэтнай вытворчасьці ўсе практычныя вывады і досьледы габінэту, лябараторыі.

У расьлінаводныя ВНУ і тэхнікумы яе магчыма прадставіць ў наступным выглядзе:

1. Практыка па батаніцы і біалёгіі.
2. „ „ глебазнаўстве і мінэралёгіі.
3. „ „ расьлінаводзтве.
4. „ „ мэтэоралёгіі.
5. „ „ сельска-гаспадарчым машыназнаўстве і г. д.

Такая практыка зараз-жа ставіць пытаньне аб тых аб'ектах, ва ўмовах якіх яна павінна ажыцьцяўляцца.

Найбольш яскрава такая практыка можа ажыцьцяўляцца ў спэцыяльна вылучаных для яе ўстановах: батанічным хавальніку, на дасьледчым полі і г. д. Налічча гэтых дапаможных устаноў пры ВНУ і тэхнікуме дужа неабходна.

2. Пры выбары вытворчых прадпрыемстваў практыкі, неабходна дабівацца, каб колькасьць іх была невялікая і каб яны знаходзіліся на блізкай адлегласьці паміж сабой. Гэтыя прадпрыемствы павінны мець высокую, вытворча-тэхнічную базу і добрую арганізацыю вытворчасьці. Толькі пры такой умове студэнт зможа набыць каштоўныя веды і навучыцца правільна арганізоўваць і праводзіць работу ў сацыялістычным прадпрыемстве.

Месца вытворчасьці павінна адпавядаць профілю спэцыяліста. Адбор рабочых месц павінен адпавядаць такім запатрабаваньням, якія даюць магчымасьць найбольш поўна прымяніць атрыманыя студэнтам у навучальнай установе тэарытычныя веды, актывізаваць яго творчую думку і самастойную працу і паставіць перад ім дасьледчыя пытаньні. Патрэбна забясьпечыць паступовае прасоўваньне студэнта па такіх працоўных мясцох, якія дазваляюць аўладаць асноўнымі працоўнымі працэсамі і якія далі-б магчымасьць асвоіць дадзеную вытворчасьць у цэлым.

Спэцыяльныя экскурсіі, у выпадку патрэбы, у час вытворчай практыкі павінны займаць ня больш 5% часу, адведзенага на практыку.

За час вытворчай практыкі, студэнт павінен прайсьці некалькі рабочых месц, пачынаючы з простых работ і канчаючы работай спэцыяліста вышэйшай кваліфікацыі. Пры выбары рабочага месца і ўстанаўленьні працяжнасьці прабываньня на ім, неабходна падыходзіць дыфэрэнцыявана да кожнага студэнта, улічваючы яго вытворчы стаж і іншыя асаблівасьці.

3. Мінімальная працяжнасьць кожнага асобнага пэрыяду вытворчай практыкі—чатыры сямідзённых тыдні, максымальная—14 тыдняў (у залежнасьці ад спэцыяльнасьці).

Павялічэньне ці зьмяншэньне пэрыяду практыкі для спэцыяльнасьцей у асобных выпадках, зьвязаных з сэзоннасьцю, могуць мець месца, але яны ў кожным выпадку павінны быць сугуба

матываваны. Пры больш доўгіх тэрмінах вытворчай практыкі, у студэнта пачынае нехапаць тэарытычных ведаў, неабходных для пастаяннага прасоўваньня ўперад; апрача гэтага—ён адрываецца ад тэарытычных заняткаў настолькі, што яму потым патрэбна даволі шмат патраціць часу на тое, каб нагнаць прапушчанае. Пры вельмі частым пераходзе з навучальнай ўстановы на прадпрыемства і назад—студэнт ня можа ўключыцца ў тое будаўніцтва, якое вядзецца рабочымі і прадпрыемствамі.

Працяжнасьць работы студэнта на прадпрыемстве павінна вызначацца ў залежнасьці ад курсу, спэцыяльнасьці, зьместу дадзенага адрэзку практыкі і г. д. Аднак, у межах адной і той-жа спэцыяльнасьці, на адным і тым-жа сэмэстры—адрэзкі вытворчай практыкі павінны быць аднолькавымі.

4. «Вытворчая практыка зьяўляецца састаўной часткай вучобы студэнта. Таму, пры пабудове вучэбных пляпаў і праграм, неабходна зьвязаць у адзіны вучэбны працэс тэорыю і практыку, з такім разьлікам, каб кожная ступень вытворчай практыкі была падпарадкавана праходжаньню адпаведнай часткі тэарытычнага курсу» (з пастановы ЦВК СССР аб вышэйшай школе і тэхнікумах). На падставе профіля спэцыялістага, вучэбна-вытворчага пляну, характару і аб'ёму дысцыплін, ВУЗ (тэхнікум) павінен скласьці праграмы па кожнай дысцыпліне і адбіць у іх аб'ёмы ведаў і навыкаў, якія студэнт павінен набыць ў час вытворчай практыкі. Кіруючыся агульнымі праграмамі, ВУЗ (тэхнікум) складае рабочыя праграмы вытворчай практыкі на кожны адрэзак часу, прыстасоўваючы да канкрэтнага аб'екту практыкі. Рабочыя праграмы, складзеныя на аснове Марксысцка-Ленінскай мэтадалёгіі, уліку і поўнай увязкі з курсам пройдзенай тэорыі, павінны ахапіць усе бакі работы прадпрыемства: пытаньні тэхнікі, арганізацыі сацыялістычнай вытворчасьці, яе далейшай рэканструкцыі, моманты дасьледчай работы, грамадзка-палітычнай работы і г. д. У рабочых праграмах абавязкова патрэбна ўказаць цэх, рабочае месца і тыя функцыі, якія ўскладаюцца на студэнта. Пры складаньні рабочых праграм вытворчай практыкі, неабходна поўнасьцю скарыстаць, для больш пасьпяховай падрыхтоўкі новага спэцыяліста, новую тэхніку прадпрыемства, новыя мэтады вытворчых працэсаў.

У праграмах вытворчай практыкі павінна быць поўнасьцю адлюстравана рацыяналізатарская работа прадпрыемства, асабліва ў часткі яго рэканструкцыі, каб усе вытворчыя ідэі рэканструкцыі і рацыяналізацыі былі скарыстаны для абучэньня студэнтаў.

Прадпрыемства абавязана:

а) растаўляць студэнтаў-практыкантаў на рабочыя месцы і даваць ім пачатковыя весткі аб рабоце на даным месцы, згодна праграмы практыкі;

в) даваць вычарпальныя паясьненьні на запытаньні практыкантаў;

г) перасоўваць практыкантаў з аднаго рабочага месца на другое, згодна пляну і праграмы навучальнай установы;

д) весьці ўлік вынікаў працы студэнтаў на рабочых мясцох і даваць свае заключэньні навучальнай установе аб працы кожнага студэнта;

е) наглядаць і весьці вучот сваечасовай яўкі студэнтаў на працу.

5. Пытаньне аб арганізацыі студэнтаў у працэсе вытворчай практыкі павінна быць разьвязана ў сэнсе ўключэньня студэнтаў у рабочыя брыгады, дапушчаючы толькі ў асобных выпадках арганізацыю спэцыяльных студэнцкіх брыгад.

6. Кіраўніцтва вытворчай практыкай падзяляецца на 2 часткі: кіраўніцтва з боку навучальнай установы і кіраўніцтва з боку вытворчых прадпрыемстваў (трэсту, заводу, саўгасу, калгасу і г. д.).

Непасрэднае кіраўніцтва вытворчай практыкай і адказнасьць за правядзеньне яе—ускладаецца на кіраўнікоў катэдр і прафэсарска-выкладчыцкі склад, тут не павінна быць абязьлічкі. Навучальная ўстанова павінна ажыцьцяўляць пастаянную жывую і пісьмовую сувязь са студэнтамі.

«За вучэбна-мэтадычную частку вытворчай практыкі—адказвае выкладчык, а за вытворча-тэхнічную частку—дырэктар прадпрыемства і вылучаны для кіраўніцтва гэтай справай адказны спэцыяліст» (з пастановы ЦВК СССР).

Навучальная ўстанова павінна ажыцьцяўляць:

а) выезд выкладчыкаў разам з групай студэнтаў-практыкантаў на месца практыкі;

б) сыстэматычнае назіраньне за выкананьнем рабочай праграмы вытворчай практыкі, з унясеньнем у праграму патрэбных паправак, што высьвятляюцца ў працэсе праходжаньня практыкі;

в) аказваньне мэтадычнай дапамогі асобам, якія вылучаны прадпрыемствам для кіраўніцтва работай практыкантаў;

г) назіраньне за пасьпяховасьцю студэнтаў;

д) правядзеньне кансультацыі і лекцый (па меры патрэбы) у час практыкі;

е) перапіску з практыкантамі і г. д.

Тэарытычныя заняткі на вытворчасьці могуць быць наступныя:

а) перанясеньне выкладаньня цэлых дысцыплін ці асобных аддзелаў дысцыпліны;

б) арганізацыя тэарытычных заняткаў, непасрэдна зьвязаных з выконваемай студэнтамі работай на вытворчасьці;

в) тлумачэньні, якія непасрэдна зьвязаны з выкананьнем студэнтамі асобных функцый, прадугледжаных праграмай.

Адказнасьць за пастаноўку вытворчай практыкі ў цэху і арганізацыю вучоту пасьпяховасьці практыкантаў ускладаецца на кіраўніка цэхам.

Адказнасьць за пастаноўку вытворчай практыкі і кіраўніцтва практыкай ўсіх студэнтаў, якія знаходзяцца на прадпрыемстве,— ускладаецца на спэцыяльна вылучаную (прадпрыемствам) кваліфікаваную асобу (інжынэр, аграном і г. д.).

Агульнае назіраньне, кіраўніцтва і адказнасьць за правядзеньне работы, за выкананьне практыкантамі правіл унутранага распарадку прадпрыемства,—ускладаецца на дырэктара прадпрыемства.

Інструктаж студэнтаў-практыкантаў на вытворчасьці зьяўляецца асабліва важнай часткай падрыхтоўкі практыкі. Для правільнага агульнага накіраваньня вытворчай практыкі,—патрэбна пэрыядычна праводзіць нарады ў складзе кіраўнікоў катэдр і выкладчыкаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў або кіраўнікоў цэхаў, інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу, заўкома, прадстаўнікоў студэнтаў і партарганізацыі.

На абгаварэньне нарад, прыкладна, ставіць наступныя пытаньні:

1. Разгляд навучальных плянаў і праграм вытворчай практыкі, прымацаваных да прадпрыемства навучальных установ.

2. Уніфікацыя рабочых праграм практыкі.

3. Распрацоўка мэтадычных інструкцый для непасрэдных кіраўнікоў практыкай у цэхах і форм уліку пасьпяховасьці студэнтаў.

4. Распрацоўка арганізацыйна-вучэбных пытаньняў, выплываючых у працэсе вытворчай практыкі.

5. Роля ВУЗ-а (тэхнікума) і прадпрыемства ў справе кіраўніцтва вытворчай практыкай.

6. Мэтады сувязі тэарытычнага і вытворчага навучаньня і г. д.

Для арганізацыі вучоту работы вытворчай практыкі, навучальная ўстанова абавязана забясьпечваць кожнага студэнта дзёньнікам і схэмай справаздачнасьці аб практыцы. Студэнт абавязан штодзенна запісваць (коратка) зьмест свае работы на вытворчасьці і колькасьць затрачанага часу на выкананьне той альбо іншай апэрацыі, рацыяналізатарскія прапановы, зробленыя студэнтам, удзел у сацспаборніцтве, вытворчых нарадах, грамадзкай рабоце, таксама тэмп і праграмны зьмест гутарак, лекцый і іншых відаў тэарытычных заняткаў на вытворчасьці.

Пасьля сканчэньня кожнага пэрыяду практыкі ў цэху, кіраўнік яго, ці асоба, непасрэдна кіруючая дадзенай групай практыкантаў, дае ацэнку іх работы за вызначаны адрэзак часу. Рабочы дзёньнік практыканта сыстэматычна правяраецца кіраўніком вытворчай практыкі ад навучальнай установы. Па звароце студэнта з практыкі ў навучальную ўстанову, дзёньнік здаецца кіраўніку адпаведнай катэдры (у тэхнікумах—выкладчыку), які абавязан шляхам аналізу яго, індывідуальнай гутаркі з практыкантам (калі

гэта знойдзе патрэбным) устанавіць ступень пасьпяховасьці студэнта ў час практыкі і зрабіць адпаведныя вывады. Зусім недапушчальна, каб кіраўнікі катэдр (выкладчыкі адпаведных дысцыплін у тэхнікумах) ня ведалі ступені засваеньня студэнтам на практыцы тэарытычных і практычных пытаньняў, якія былі перад ім пастаўлены праграмай. Бяз гэтага зусім немагчымы рух студэнта ўперад па вывучэньні тэй альбо іншай спэцыяльнасьці. Выкладчык ВУЗ-а (тэхнікума) пры гэтай праверцы павінен устанавіць:

а) ці адпавядае праробленая студэнтам на практыцы работа яго кваліфікацыі на дадзеным адрэзку часу;

б) у якой ступені гэтая работа павысіла ўзровень спэцыяльнай падрыхтоўкі студэнта, абагаціла яго новымі ведамі, пашырыла яго тэхнічны рост, дала яму практычныя навыкі, неабходныя ў яго рабоце па будучай спэцыяльнасьці і г. д.

Вынікі вучоту пасьпяховасьці студэнта па вытворчай практыцы павінны зьяўляцца матар'ялам для палепшаньня вучэбнай працы ВУЗ'а (тэхнікума).

8. Грамадзка-палітычная работа студэнта на прадпрыемстве, у час вытворчай практыкі, зьяўляецца абавязковай, яна павінна зьяўляцца арганічнай часткай студэнцкай практыкі. Грамадзка-палітычную працу студэнт праводзіць пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый. Неабходна імкнуцца да такой яе пастаноўкі, каб яна была найбольш увязана з спэцыяльнасьцю студэнта. Надзвычайна важнай часткай грамадзка-палітычнай работы павінен зьявіцца ўдзел студэнта ў барацьбе рабочых мас за аўладаньне тэхнікай сваёй вытворчасьці, зьбіраньне, аналіз і прымяненьне вынаходзтва і рацыяналізатарскіх прапаноў рабочых і г. д. На грамадзка-палітычную працу студэнта, (у час праходжаньня вытворчай практыкі) вызначаецца 6 гадзін у тыдзень.

9. Для адбыцьця вытворчай практыкі, ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы павінны мець адпаведную колькасьць вытворчых прадпрыемстваў. Прымацаваньне ВУЗ'аў і тэхнікумаў да вытворчых прадпрыемстваў праводзіцца шляхам заключэньня ўмоў паміж адміністрацыяй навучальнай установы і адміністрацыяй прадпрыемства (пра выбар прадпрыемств гл. п. 2).

Прадпрыемства (для правядзеньня вытворчай практыкі) вызначаецца навучальнай установай; прымацаваньне навучальных устаноў да прадпрыемстваў робіцца адпаведным наркаматам, якому яна непасрэдна падпарадкавана.

У мэтах найлепшага ажыцьцяўленьня ўсіх паказаных вышэй запатрабаваньняў да вытворчай практыкі, неабходна правесьці заключэньне ўмоў сацыялістычнага супрацоўніцтва паміж навучальнай установай і тым вытворчым прадпрыемствам, да якога

яна прымацавана. У гэтых сац. умовах патрэбна яскрава вызначыць узятыя на сябе абавязкі, як навучальнай установай, так і вытворчым прадпрыемствам. Апрача ўзаемных абавязкаў навучальнай установы і вытворчага прадпрыемства, зьвязаных непасрэдна з вытворчай практыкай студэнтаў, у сац. умовах павінны знайсьці месца абавязкі навучальных устаноў у адносінах навукова-дасьледчай працы, а менавіта: скарыстаньне лябараторыі, габінэтаў і ўсёй навукова-вучэбнай апаратуры навучальных устаноў і вытворчых прадпрыемстваў для выкананьня заданьняў дасьледчай працы сацыялістычнай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

---

# ІНФАРМАЦЫЯ

## Аб мерапрыемствах саюзнай арганізацыі ў сувязі з пастановаю ЦК УсеКП(б) ад 13-II 33 г. аб падручніках для пачатковай і сярэдняй школы

### Пастанова Прэзыдыуму ЦП Саюзу Працасьветы ад 20-III-33 г.

ЦК УсеКП(б) у сваіх гістарычных пастановах ад 5/IX-31 г. і 25/III-32 г. і ЦК КП(б)Б у сваіх пастановах аб пачатковай і сярэдняй школе, даючы бальшавіцкую разгорнутую праграму дзейнасьці па будаўніцтву савецкай палітэхнічнай школы Маркса-Леніна-Сталіна, падкрэсьлівалі, што «карэнным» недахопам нашай школы зьяўляецца недастатковы аб'ём агульна-адукацыйных ведаў, атрымліваемых вучнямі для далейшага навучаньня ў тэхнікумах і ВНУ. Гэты карэнны недахоп да гэтага часу яшчэ не ліквідаваны, ня гледзячы на зусім яскравыя дырэктывы партыі.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб падручніках для пачатковай і сярэдняй школы паказвае, што: абавязковай і рашаючай умовай правядзеньня ў жыцьцё абедзьвёх пастаноў ЦК як у адносінах ліквідацыі адзначанага карэннага надахопу школы, гэтак і ў адносінах пераходу ўсяго навучаньня на новыя праграмы і мэтады выкладаньня, зьяўляецца наліччa па ўсіх прадметах стабільных падручнікаў, якія прызваны ліквідаваць існуючы «мэтад» нескончаемага «праектаваньня падручнікаў» (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 12/II-33 г.).

У сьвятле тэтага рашэньня ЦК, падкрэсьліваючы надзвычайна вялікую ролю стабільнага падручніка ў справе ліквідацыі карэннага недахопу школы, Прэзыдыум ЦП лічыць, што дадзеная ЦК УсеКП(б) ацэнка лініі НКА РСФСР і АДВ як няправільнай, цалкам і поўнасьцю адпавядае для ацэнкі працы і лініі НКА БССР і ДВБ.

Гэтай ацэнкай выкрыты і разаблачаны карэньні апартуністычнай дзейнасьці ў справе будаўніцтва палітэхнічнай школы, якая вынікае з антыленінскай тэорыі «адміраньня школы».

Прэзыдыум ЦП адзначае, што ў практычнай працы ЦП мелі месца цэлы шэраг палітычна-шкодных і няправільных установак, якія накіраваны на зьніжэньне ролі стабільнага падручніка, прапагандаваньне «часопісаў-падручнікаў» (п. 5 пастановы Прэзы-

дыуму ЦП ад 29/VI-30 г. «Саюзу разам з НКА прапрацаваць пытаньне аб мэтазгоднасьці і магчымасьці выданьня часопісу ў асобных частках альбо дадатках да таго ці іншага падручніка»); настойліва праводзілася ўстаноўка на складаньне настаўніцкіх «аўтарскіх брыгад» (пастанова VIII пленуму ЦП ад 29/VIII—1/IX-31 г. па дакладу НКА п. 1—а. «Разгарнуць шырокую працу па ўцягненьню брыгад асьветнікаў у аўтарскую справу (пастанова Аб'яднанага пасяджэньня ЦП і Калегіі НКА ад 12/IX-31 г. аб рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе), што ўводзіла абязьлічку і безадказнасьць у справе складаньня і выданьня падручнікаў, дэзарыентавала саюзную арганізацыю і фактычна падтрымлівала няправільную палітыку НКА, накіраваную не на выданьне стабільнага падручніка, а на выданьне «часопісаў-падручнікаў», «рабочай кнігі» і г. д.

Прэзыдыум ЦП адзначае таксама, што адсутнасьць да гэтага часу пастановы Прэзыдыуму ЦП па практычным мерапрыемствам па рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) аб падручніках зьяўляецца буйнейшай палітычнай памылкай Прэзыдыуму ЦП, што аб'ектыўна паглыбляе віну Прэзыдыуму і меўшае месца няправільную лінію ў справе выданьня падручнікаў.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦП пастанаўляе:

1. Адмяніць адзначаныя пастановы Прэзыдыуму і Пленуму ЦП па пытаньню падручнікаў, як палітычна шкодныя і якія супярэчаць дырэктывам партыі.

2. Абавязаць усе Гаррайкомы Саюзу разгарнуць шырокую распрацоўку і папулярызацыю сярод асьветніцкіх мас пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб падручніках з шырокай крытыкай палітычных памылак у гэтым пытаньні ЦК і НКА, растлумачыць шырокім колам асьветнікаў вялікае значэньне і ролю падручнікаў у справе ажыцьцяўленьня пастаноў партыі аб школе, ліквідацыі «карэннага» недахопу яе, тым больш, што ў выніку прапаганды антыленінскіх тэорый у справе будаўніцтва палітэхнічнай школы мае месца недаацэнка падручніка некаторымі групамі настаўнікаў.

Лічыць зусім правільнай устаноўку на пераклад падручнікаў, зацьверджаных НКА РСФСР па точным навукам (фізыка, матэматыка, хэмія) без усялякіх зьмен. Пры складаньні падручнікаў у БССР уключыць у іх мясцовы матар'ял, адвёўшы значнае мейсца пытаньням пралетарскага інтэрнацыяналізму, выходзячы з асаблівасьці нац. пытаньня ў БССР, барацьбы з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай і буржуазна-кулацкімі нацыяналістычнымі тэндэнцыямі.

3. Усім аддзелам ЦП, Гаррайкомам Саюзу забясьпечыць аўтарам, якія пішуць падручнікі, неабходныя ўмовы для іх работы (аслабаненьне ад усіх нагрузак, забесьпячэньне паперай, кватэрныя ўмовы і інш.).

4. Вуч. вытворчаму аддзелу ЦП, Менскаму, Гомельскаму і Віцебскаму ГК Саюзу забясьпечыць масавае абгаварэньне рукапісаў падручнікаў у активе настаўнікаў да зацьверджаньня гэтых падручнікаў на Калегіі НКА.

5. Вуч. вытворчаму аддзелу ЦП разам са Школьнай Сэкцыяй ДВС устанавіць сыстэматычны контроль над работаю па напісаньні, рэцэнзаваньні і рэдагаваньні падручнікаў.

6. Два разы ў месяц заслухоўваць на Прэзыдыуме ЦП даклады НКА і Вуч. вытворч. Аддзелу ЦП аб ходзе працы па выданьні падручнікаў.

7. Абавязаць Гомельскі ГК і Чашніцкі РК Саюзу ўстанавіць сувязь з фабкомамі Добрускай і Чашніцкай папяровых фабрык і сыгналізацыю аб выкананьні пастаўленых перад імі задач па выпуску паперы для падручнікаў.

8. Вуч. вытворчаму аддзелу ЦП устанавіць сталую сувязь з ЦП саюзаў Папернікаў і Друкароў з мэтаю сваечасовага выданьня падручнікаў і адпаведнай якасьці іх афармленьня (фармат, вокладка, шрыфт, якасьць паперы, брашуроўка, малюнкі і інш.).

9. Прасіць НКА зацьвердзіць да 1/IV і апублікаваць сьпіс падручнікаў, якія выданы за мінулыя гады, якія могуць і павінны быць выкарыстаны ў рабоце школ у сувязі з недахопам падручнікаў і ўстанавіць парадак іх адбору на мясцох.

Вуч. вытворчаму аддзелу ЦП і ўсім мясцовым арганізацыям на падставе гэтага сьпісу прыняць удзел у адборы гэтых падручнікаў.

10. Абавязаць усе МК і СК школ, з мэтаю забесьпячэньня арганізаванага разьмеркаваньня падручнікаў і сваечасовага атрыманьня іх школамі, пракантраляваць сваечасовасьць падачы настаўнікамі і заг. школамі заявак на падручнікі, выходзячы з устаноўленых норм і фактычнай неабходнасьці у іх, улічваючы (пры падачы заявак) як неабходную ўмову, колькасьць адабраных старых падручнікаў.

Г. К., Р. К., С. К. Саюзу павінны забясьпечыць кантроль за сваечасовую дастаўку падручніка ў школу (перавозка, выкуп, разьмеркаваньне па школах і інш.).

11. Прасіць ЦСПСБ паставіць у сябе на абгаварэньне пытаньне аб падручніках і прыцягнуць да практычнага ўдзелу ў рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб падручніках вытворчыя саюзы (Саюз Папернікаў, Друкароў) і Саюз Працмастацтва па ўдзеле ў афармленьні падручніка (малюнкі і інш.).

*Прэзыдыум ЦП Белпрацасьветы*

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб пераглядзе аплаты працы настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы і інструктароў вытворчага навучаньня з улікам якасьці работы

Устаноўленыя разрады па аплаце працы настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы і інструктароў вытворчага навучаньня павінны быць перагледжаны з улікам якасьці іх работы.

У мэтах правільнага ажыцьцяўленьня дыфэрэнцыяванай заработнай платы, перагляд разрадаў праводзіцца ў мясцовых расцэначна-канфліктных камісіях (РКК).

## Тэрміны работы

Уся работа па пературыфікацыі разьбіваецца на 2 пэрыяды: 1-шы пэрыяд—падрыхтоўчая работа і другі—непасрэдная работа па пераглядзу разрадаў тарыфнай сеткі ў РКК.

Устанавіць наступныя тэрміны падрыхтоўкі і правядзеньня пературыфікацыі:

1. У пачатковай школе ў горадзе, дзе заняткі заканчваюцца 20 мая, і па 1-му канцэнтру ФЗС—з 21 мая па 1-е чэрвеня.

2. У пачатковай вясковай школе і 2-м канцэнтры гарадзкой школы, дзе заняткі заканчваюцца да 1-га чэрвеня, з 2-га да 12 чэрвеня.

3. У 2-м канцэнтры вясковай школы, дзе заняткі заканчваюцца 10 чэрвеня, з 11 па 20 чэрвеня.

## Работа падрыхтоўчага пэрыяду

У паказаны тэрмін неабходна правесьці:

1. Шырокую масавую работу па растлумачэньню сутнасьці пературыфікацыі настаўнікаў на аснове мабілізацыі іх на далейшае палепшаньне якасьці працы школы, палепшаньне матар'яльнага становішча настаўнікаў, замацаваньне настаўнікаў за школаю (агульныя сходы настаўнікаў з абгаварэньнем пытаньняў аб пературыфікацыі, гутаркі і прапрацоўка інструкцыі і пастаноў НКА БССР і ЦП Саюзу Працасьветы аб якасных паказчыках працы настаўнікаў.

2. Выяўленьне і ўстанаўленьне ГарРайАНА разам з Гаркомамі Саюзу Працасьветы фондаў па бюджэту, прадугледжаных на ператарыфікацыю.

3. Умацаваньне складу РКК, падбор лепшых працаўнікоў, добра ведаючых работу школы і ўмовы працы настаўніка, складаньне пляну работы РКК па ператарыфікацыі, інструктаж работы настаўнікаў РКК як па лініі прафарганізацыі, так і па лініі органаў Нарасьветы.

4. Складаньне адміністрацыяй сьпісаў настаўнікаў у 3-х экз. па форме: а) назва школы, б) прозьвішча, імя і па бацьку, в) адукацыйны цэнз настаўніка, г) да якога разраду быў аднесен гэты настаўнік пры першай тарыфікацыі, д) які разрад устанаўліваецца РКК пры ператарыфікацыі і чаму.

УВАГА: Графу «д» запаўняе РКК.

5. Падвядзеньне вынікаў работы настаўнікаў, характарызуючых якасьць работы па паказчыках, устаноўленых пастановаю Калегіі Наркамасьветы БССР ад 16 мая 1933 г., узгодненай з Цэнтральным Праўленьнем Саюзу Працасьветы.

## Структура і склад РКК

Расцэначна-канфліктныя камісіі (РКК) арганізуюцца:

1. Пры школах з колькасьцю працуючых ня менш 15 асоб, г. зн., дзе маецца мясцком Саюзу Працасьветы, для перагляду разрадаў настаўнікаў і інструктароў данай школы.

2. Пры сельсаветах, калі ў даным с-савеце маецца Сельком, для перагляду разрадаў настаўнікаў і інструктароў школ, якія састаяць на бюджэце гэтага с-савета.

3. Пры ГаррайАНА для перагляду разрадаў настаўнікаў і інструктароў школ, не ахопленых мясцовымі РКК і загадчыкаў школ, за выключэньнем загадчыкаў адной і двухкамплектовых школ.

4. У склад РКК па ператарыфікацыі аплаты ўваходзяць па два прадстаўнікі ад саюзнай арганізацыі і адміністрацыі, прычым прадстаўнікі саюзнай арганізацыі вылучаюцца адпаведнымі прафарганізацыямі (МК, СК, ГК, РК), а прадстаўнікі адміністрацыі вылучаюцца ў школах адміністрацыяй школы, у сельсаветах— сельсаветам.

РайАНА вылучае ў кожным сельсавеце свайго ўпаўнаважанага, які зьяўляецца адказным за правядзеньне ператарыфікацыі настаўніцтва па данаму сельсавету.

## Парадак работы РКК

1. Заг. школ прадстаўляюць у РКК вычарпальны матар'ял аб выніках работы кожнага настаўніка на працягу навучальнага году, а таксама сьпісы, складзеныя па форме, паказанай у 2-м разьдзеле гэтай інструкцыі.

2. Прафарганізацыі (МК, СК, прафупаўнаважаныя ГК, РК) і інш. арганізацыі даюць у РКК адпаведны матар'ял, які характарызуе працу настаўнікаў.

3. Расцэначна-канфліктныя камісіі пераглядаюць разрады з улікам якасьці работы, выходзячы з паказчыкаў, устаноўленых пастановаю калегіі НКА БССР ад 16 мая 33 г. і маюць права:

а) замацаваць за настаўнікамі ранейшы разрад па аплаце працы, устаноўлены пры першай тарыфікацыі;

б) настаўнікаў 1-га, 2-га і 3-га разрадаў, якія даюць добрыя паказчыкі работы ў адпаведнасьці з дырэктывамі НКА і ЦП Саюзу, павысіць на адзін разрад;

в) настаўнікаў 4-га разраду за добрую якасьць работы прэміяваць;

г) настаўнікаў 2-га, 3-га і 4-га разрадаў, якія даюць нездавальняючую якасьць работы, панізіць на адзін разрад;

д) за настаўнікамі 1-га разраду, нават і пры нявысокай якасьці работы, захаваць існуючы разрад, абавязаўшы іх у абавязковым парадку падвышаць сваю кваліфікацыю.

4. Разам з гэтым неабходна ўсебакова ўлічваць і прымаць пад ўвагу ўсе цяжкасьці ў працы настаўніка, якія ад яго не залежаць: адсутнасьць абсталяваньня, падручнікаў, дапаможнікаў, навучальных прылад, ненаведваньне вучняў па ўважлівых прычынах пры наяўнасьці актыўнай барацьбы з гэтымі зьявамі з боку самога настаўніка. Разам з гэтым улічваць асабістую ініцыятыву і прыклад, уменьне ў цяжкіх умовах дабіцца лепшых вынікаў.

5. Зацікаўлены працаўнік павінен быць своечасова паведамлен аб тэрміне паседжаньня РКК з тым, каб прыняць удзел у пераглядзе пытаньня аб яго ператарыфікацыі.

6. Для вядзеньня паседжаньня РКК вылучаецца старшыня і сакратар па згодзе бакоў.

7. У часе работы РКК абавязкова вядзецца пратакол паседжаньня.

8. Пастановы РКК прымаюцца толькі па згодзе бакоў і пасьля подпісу пратакола паседжэньня старшынёй і сакратаром робіцца адпаведны запіс у графе («) асабовых сьпісаў настаўнікаў.

9. Калі бакі прышлі да згоды, пастанова РКК зьяўляецца канчатковай і зацьверджаньню органаў АНА, фінансавых і саюзных не падлягае і можа быць адменена толькі інспэктарам працы ў парадку нагляду.

10. Калі пры вызначэньні разраду у РКК не дасягнута згода, то ў пратаколах РКК запісваюцца матывіраваныя прапановы абодвых бакоў, а у сьпісе графы «д» супроць асобы, наконт якой не дасягнута згода, робіцца паметка: «да згоды ня прышлі».

Увесь матар'ял мясцовых РКК (МК, СК) па пытаньнях, па якіх ня прышлі да згоды, накіроўваецца на вырашэньне РайГорАНА і РайГарПрацасьветы.

У выпадку недагаворанасьці паміж РайГарАНА і РайГаркомам Саюзу Працасьветы справа перадаецца на канчатковае вырашэньне ў трацейскі суд пры інспэктуры працы.

Пастанова трэцейскага суда зьяўляецца канчатковай і паведамляецца у мясцовую РКК, а таксама заносіцца ў сьпіс у гр. «д»

УВАГА. Тэрмін вырашэньня канфліктаў не павінен правышаць 3-х дзён.

11. Пасьля сканчэньня работы РКК пратаколы паседжаньняў і 1 экз. сьпісу застаюцца ў справах РКК, другі экз. сьпісу перадаецца адміністрацыі для кіраўніцтва пры выплаце зарплаты, 3-ці экз. сьпісу і копіі пратаколаў РКК неадкладна дасылаюцца у РайГарком Саюзу Працасьветы.

12. Кожны настаўнік перад уходам у адпачынак павінен быць паведамлены аб рашэньні РКК ці трэцейскага суда.

13. Выплата зарплаты па новаму разраду, устаноўленаму РКК, вытвараецца з 1-га верасьня 1933 г.

У часе адпачынку за настаўнікамі захоўваецца сярэдняя зарплата апошніх **3-х месяцаў.**

14. Пры пераводзе настаўніка з аднэй школы ў другую устаноўлены яму разрад РКК захоўваецца, на што неабходна мець копію пастановы на руках.

15. Школьныя інструктары вытворчага навучаньня, настаўнікі школ падлеткаў, дапаможных школ для разумова-адсталых дзяцей і для фізычна-дэфэктыўных (сьляпых, глуханямых), а таксама настаўнікі і выхавацелі школьных дзіцячых дамоў дыфэрэнцыруюцца ў аплаце ў залежнасьці ад установы—пачатковай ці сярэдняй.

УВАГА. Настаўнікі дапаможных школ і выхавацелі дзіцячых дамоў для цяжка-выхоўваемых, фізычна-дэфэктыўных, разумова-адсталых, аплачваюцца і дыфэрэнцыруюцца як настаўнікі 2-га канцэнтру.

Нам. Наркома Асьветы БССР **Рудніцкі**

Старшыня Саюзу Працасьветы **Нікалаеў.**

**Аб ператарыфікацыі настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы з улікам якасьці працы**

# ПАСТАНОВА

## Калегіі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

*ад 16 мая 1933 г.*

Надаючы вялікае значэньне пераглялду аплаты працы настаўнікаў з вучотам якасьці работы ў адпаведнасьці з пастановай Савету Народных Камісараў БССР ад 24-га сакавіка 1932 г. за № 4— «Пра ўстанаўленьне дыфэрэнцыяванай зарплаты для настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы і інструктароў», Калегія НКА БССР па ўзгадненьню з ЦП Саюзу Працасьветы прапануе органам Народнай Асьветы па заканчэньні і падвядзеньні вынікаў навучальнага году і гадавых праверачных іспытаў, правесьці пераглядд працы аплаты настаўнікаў з улікам якасных паказчыкаў іх работы.

Пры правядзеньні ператарыфікацыі ў аснову павінны быць пакладзены наступныя паказчыкі якасьці работы настаўніка:

1. Узровень ведаў вучня на падставе гадавога ўліку пасьпяховасьці, кантрольных работ і гадавых праверачных іспытаў. Пры гэтым павінна ўлічвацца: аўладаньне настаўнікам тэхнікай пэдагагічнага працэсу, дакладная падрыхтоўка і якасьць правядзеньня ўрока, якасьць праверкі пісьмовых работ вучняў, як школьных, так і хатніх.

2. Дысцыпліна вучняў у групе і пастаноўка ўсёй выхаваўчай работы настаўніка.

3. Грамадзкая праца настаўніка, зьвязаная са школаю (работа з дзецьмі, вучнёўскімі і піянэрскімі арганізацыямі, дапамога маладым настаўнікам, работа сярод бацькоў, грамадзкасьці і г. д.).

Рашэньне расцэначна-канфліктных камісій аб павышэньні ці зьніжэньні разраду абгрунтоўваецца дакумэнтальнымі матар'яламі, якія характарызуюць якасьць усёй гадавой работы настаўніка (работа вучняў, мэтадычныя дакуманты самога настаўніка, навучальныя пляны, сшыткі вучоту пасьпяховасьці і г. д.).

Добрае выкананьне вызначаных паказчыкаў дае права на павышэньне аплаты і 1 разрад.

У выпадках нездавальняючага выкананьня вызначаных паказчыкаў якасьці работы дапускаецца зьніжэньне аплаты на адзін разрад.

РКК прадастаўляецца права:

1. Замацаваць устаноўлены разрад за настаўнікамі, адказваючымі патрабаваньням гэтага разраду.

2. Павышаць на адзін разрад настаўнікаў трох першых разрадаў.

3. Прэміяваць настаўнікаў 4-га разраду.

4. Зьніжаць у аплаце на адзін разрад настаўнікаў другога, трэцяга і чацьвертага разраду.

УВАГА. Настаўнікі 1-га разраду за нездавальняючую якасьць работы ў разрадзе аплаты ня зьніжаюцца, а прыцягваюцца да павышэньня кваліфікацыі.

Каб судзіць аб якасьці працы настаўніка, павінны быць улічаны цяжкасьці ў яго рабоце, якія ад яго не залежаць: адсутнасьць рэгуляваньня падручнікаў, дапаможнікаў, навучальных прылад, ненаведваньне вучняў па ўважлівым прычынам, пры наяўнасьці актыўнай барацьбы з гэтымі зьявішчамі з боку самога настаўніка. Разам з гэтым улічваецца асабістая ініцыятыва і прыклад, уменьне ў цяжкіх умовах дабіцца лепшых вынікаў.

РКК праводзіць усю работу на падставе існуючага палажэньня Наркампрацы СССР ад 12/XII-28 г. і інструкцыі ЦП Саюзу Працасьветы і НКА БССР ад 16/V-33 г. Рашэньне аб павышэньні альбо паніжэньні разраду ўводзіцца з 1-га верасьня 1933 г. з фондаў зарплаты, адпушчаных па бюджэту і прадугледжаных у генэральным дагаворы ЦП Саюзу Працасьветы, з калектыўных дагавароў РВК і Гарсавету з Райкомамі і Гаркомамі Саюзу Працасьветы на 1933 г.

Дэцэнтралізаваць фонды прэміяваньня, давёўшы іх да сельсаветаў і поўнай 7-гадовай школы, скарыстоўваньне фонда прэміяваньня на пэратарыфікацыю забараняецца.

Адначасова з пераглядам аплаты працы настаўнікаў з улікам якасьці работы, РКК праводзіць пэратарыфікацыю, выходзячы з адукацыйнага цэнзу ў адносіне тых работнікаў, у якіх к часу пэратарыфікацыі маюцца зьмены ў адукацыйным цэнзе.

Уся работа па пэратарыфікацыі настаўніка з улікам якасьці работы павінна быць распачата зараз-жа пасьля заканчэньня праверачных іспытаў. Тэрмін заканчэньня пэратарыфікацыі ўстанаўліваецца не пазьней 20 чэрвеня 1933 г.

Рашэньне РКК павінна быць паведамлена настаўніку да ўхода яго ў водпуск.

У асобных раёнах дазволіць перанясеньне пэратарыфікацыі па якасьці работы на верасень месяц 1933 г. па прадстаўленьні ў НКА ГарРайАНА (па ўзгадненьні з гарРайкомамі саюзаў Працасьветы) абгрунтаваных матываў.

Нам. наркома Асьветы БССР **Рудніцкі**

**Узгоднена**

Старшыня ЦП Саюзу Працасьветы **Нікалаеў**

Адказны рэдактар **У. І. Хомо**

